# КАЛОСЬСЕ





I (18)

ВІЛЬНЯ 1939

„KAŁOŚSIE“ — KWARTALNIK LITERACKO-NAUKOWY

«КАЛОСЬСЕ»—беларускі літаратурна-навуковы і грамадзкі часапіс. Выходзіць раз у тры месяцы. Складка ў год—2 зл.
— Асобная книжка — 50 гр. Заграніцу 3 зл. 20 гр. —
*Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вул. 1—2.*
«KAŁOŚSIE» — białoruski literacko - naukowy i społeczny kwartalnik. — Wilno, Zawalna 1—2.
«KALOŚSIE» — blancruthenienne revue trimensuelle litteraire et scientifique. Wilno, Zawalna 1—2. Pologne.

## Зьмест кніжкі 1 (18) „Калосься“



(Працяг зьместу на 3 бач. вокладкі)

...iszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1

# КАЛОСЬСЕ

БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ І ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС

КНІЖКА 1 (18). СТУДЗЕНЬ—ЛЮТЫ—САКАВІК, 1939. ГОД V.



*МІХАСЬ МАШАРА*

*З цыклю —*

## Ваколіца сініх балот

*Зімовая песьня*

1

Замёрлі ваколіцы сініх балот...
Сухая сіта і асокі шумяць.
Трывожна і сумна...
Заціхлі пад лёдам
прасторы балот
і вазёрная гладзь.

Накрыліся белым абрусам імшары...
Уладаркай прышла на балоты зіма.
І воч не падняць мне пад нейкім цяжарам
і нейкая сьцюжа на сэрца лягла.

Таптаныя сьцежкі,
дарожкі і тропы
напроста вядуць да сялянскіх сяліб,
дзе ўецца дымок над саломянным стропам
і хаты глядзяцца
бяльмом нямых шыб.

Мяцель завірыцца ў шалёным разгоне,
ляцяць табуны белагрывых каней
і стогне,
і плача,
і песьнямі звоніць, —
і гора таму, хто спаткаецца з ей.








2

Зімовая песьня...
Сьнягі і марозы...
Ну як тут вясёлым і радасным быць?
Пяю белапенным у полі бярозам,
вучуся у сэрцы людзкія званіць.

Ў ваколіцах сініх балотаў ёсьць людзі
і сэрца іх б'ецца,
і вочы гарць,
ды некалі нехта душу іх запудзіў,
навучыў іх зьвярыную долю кахаць.

Праклятае ўчора...
і шэрае сяньня,
а заўтра загадкай у далях стаіць,
хтось зблытаў ім думы,
і зьмест,
і пытаньні
і кінуў па сініх балотах блудзіць.

3

Так многа на сьвеце
ваколіцаў сініх...,
бяз ліку нязнаных вазёр і балот.
Сягодня мяцель карагодзіць над імі
агнём ападаючых зораў на лёд.

Зьвярыныя тропы
занесены сьнегам.
Ваўчыца брыдзе па здабычу да хат.
Жыцьцё не застрашыць
пагрозай і сьмехам,
а голад ня пусьціць вярнуцца назад.

Так многа на сьвеце
бяздомных і босых
ў спакоі пад сьнегам заснуўшай зямлі.
Мо' лёс ім і долю украў хто з пад носу,
а мо' яны рана на сьвет наш прышлі?

Пытаньні... Пытаньні...
Ну хто тут паможа
адказу шукаць
і знайсьці на усё?
Вузлы не разьвяжаш —
разтнеш хіба ножам —
вузлы, што вязалі вякамі жыцьцё.



4

Вучуся спакою,
як сьнежнае поле,
і сэрцу гутору: —
зьмірыся, маўчы, —
каб дум ня муцілі —
ні бунты,
ні болі
на млечным узоры зімовай начы.

Хацеў-бы я выславіць песьняй Краіну,
дзе многа вазёраў, пяскоў і балот,
і сэрцам паэта
і чуласьцю сына
адчуць пад сьнягамі жывы веснаход.

І кожную радасьць,
і кожнае гора
з пад стрэх саламяных
як птушку злавіць,
жыцьцём Яе вёсак, палёў і прастораў
у сэрцы людзкія
як звонам званіць.

. . . . . . . . . . . . . . .

Зімовыя песьні
сьпяваюць мяцелі,
руччы і крыніцы пад лёдам усе,
і шэрыя будні за столам заселі,
а ў сэрцы ўсьцяж думы
аб сьветлай вясьне.

5

Брыду па прасторах балота і моху...
Марозы скавалі навокал усё...
І неяк ня шкода
нічога — ні троху,
і неяк ня страшны —
ні сьмерць, ні жыцьцё.

Я знаю, што гэта ня сьмерць над Краінай,
а толькі зіма,
як штогод над зямлёй.
Вясны дачакае, хто моцны і зьвінны,
хто сэрца напоіць з крыніцы жывой.

6

Ніхто яшчэ сініх балотаў ня мерыў,
апроч толькі ветру ціхога зімой,
а ўсёткі-ж глыбока і шчыра я веру —
яны закрасуюцца іншай красой.

Прыдуць сюды людзі з упартаю воляй,
разрэжуць балоты —
уздоўж і удаль,
на тропах зьвярыных
імпэтам вясёлым
зазвонюць машыны
і вострая сталь.

І песьні другія пачуюць прасторы,
і новую радасьць сюды прынясуць,
і выкінуць скарбы на бераг вазёры
і сонцам разквеціцца
дзікая жудзь.

. . . . . . . . . . . . . . .

Зімовая песьня
аб сініх балотах...
За вокнамі вецер махае крылом.
Плывуць мае думы
нямым карагодам
над роднай Краінай
і сонным жыцьцём.

„Ваколіца сініх балот“
Зіма, 1939 г.





* * *

Сягоньня
Ты гэтак блізка прайшла;
па лахмоцьці у мораку шэрым
бела, ціха і грозна
магільны павеяў холад.

. . . . . . . . . . . . . . .

А ёй—шаснаццаць вёснаў із вачэй глядзела!—
ад вуснаў моладасьць лунала кроўю
і сьпелі яблыкамі грудзі пруткія.

Ўсю ноч над ёю вісла Ты нячутна —
надзею ледзяніла подыхам. Я ведаў: Ты магутная —
перад Табою долу гнецца цьвет
і белае імя Тваё, як ціш.

Яе маці схілілася — і ўтуліўшы ў далоні твар
маўчала. Нема з паміж пальцаў каравых
скацілася чыстая іскра.
«Мама, чаму ты плачаш?»

Ўстрапянулася маці. Ў ірдзеньні дымнае лямпы
твар адкрыўся глыбока збарозьнены, жоўты.
«Я, дзетка, ня плачу... ня плачу».

Што-ж... Мо' паверыла. Ўзноў адчыніла вочы:
з вачэй яе шаснаццаць вёснаў глянула
і воля — жыць! — ў бязсіле скамянелая...

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ў акно сачылася зараньняе сьвятло,
на шыбах палячы іскрыстыя грамніцы.
А на званіцы
ударыў звон. Глухі. Хаўтурны.

19.IV.1938.

*СЯРГЕЙ ХМАРА*

# Контрабанда

Дванаццаць разоў вылазіла з белых апараў кажангарадзецкіх баген сонца. Дванаццаць разоў прыхадзіла на зьмену яму чорнакрылая ноч недзе з пад Пінска...

А іх ня было!

Трывожна перашэптываліся прытуліўшыяся палахліва да зямлі Марачанскія адрубы.[1])

Хіба ўзялі!...

Уздрыгвалі ад кажнага стуку ўвечары поўзаючыя быццам сонныя па хатах жанчыны.

У вачох ўспыхваў раптам радасны вогнік. Але дзьверы не адчыняліся.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Панас напружыўшы сілы схапіўся рукамі за лазовыя кусты, пацягнуў за сабою чайку разам з Сымонам. За імі хапаючы рукамі за чарот і папіхаючыся грэбкай[2]) сунуліся па пусташы[3]) Яхім з Імполям.

Ноч быццам глейкае нейкае цеста ахапіла чайкі і людзей. Ціха шапацелі пад ветрам сылягі.[4]) Вочы пільна зорылі густую цемру. Вушы лавілі падазроныя шорахі.

— Каб толькі прайсьці незаўважаным Гнілую Просьць![5])

У балотах недзе загралі начуючыя па дарозе на поўдзень вяселікі.[6]) Плюхнула пад нязручным ударам Імполевай рукі грэбка. І сьлепячы, белы прамень рэфлектара забегаў па вадзе. Грозна затукацеў рухавік матароўкі.

Яны былі адкрытыя! Засядка!

Пад ударамі грэбак сьміганулі стралою контрабандысцкія чайкі, поручы чорную тонь просьці. Узьбіваючы стаўбы шумавіны кінулася ў здагон чайкам вартаўнічая матароўка пагранічнікаў. Зарагатаў злым сьмехам раптоўна кулямёт. Бзынкнулі пчоламі недзе блізка кулі, шалесьцячы ў трасьнікох.

— Барджэй! Барджэй! Абы да пусташы!

Чайкі імкнуліся па вадзе быццам гонкія скорсы.[7]) Яшчэ сэкунда, яшчэ міць[8]) і чайкі з разгону ўбіліся ў зялёныя гушчары трасьнікоў. Панас страмгалоў бухнуўся ў багна і папоўз тонучы па пояс між чаротаў. За ім паўзла пазасталая тройка.

1) Адруб — палескі дыялект — хутар.
2) Грэбка — вясло.
3) Пусташ — заросьлі на вадзе.
4) Сыляга — вербалоз.
5) Просьць — рукаў ракі.
6) Вяселік — жораў.
7) Скорсы — нарты.
8) Міць — мамэнт.



Дарма бегаў вярхамі трасьцін прамень рэфлектара, пяялі песьцьліва кулі.

Контрабандыстыя зьгінулі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Вязнучы па пояс у вадзе, між бязьмежнага мора трасьціны зрабілі нараду.

— Будуць шукаць! Цяпер ужо паднятае ўсё пагранічча. Трэба глыбей зашыцца ў трасьнікі і чакаць. Па пару днёх супакояцца — тады праскаўзьнём да хаты.

Сінія губы ледзь парушваліся з холаду. Быццам у шухлі[1]) целам прабегала дрыготка.

Расьцьвіло.[2]) Высока над трасьнікамі і сылягавымі зарасьлямі паказаўся ў небе гайстар[3]). Плёсамі,[4]) вышарамі[5]) перабіраліся чатыры чалавекі, падобныя хутчэй на нейкія здані, чым на людзей. Правальваліся ў здрадзецкія каловы,[6]) у калугі[7]) чырвонае руды, ратуючыся выламанымі доўгімі альховымі ключкамі[8]) трыманымі ўпапярок сябе. Замест белых катанак[9]) былі нейкія чорна-жоўтыя сплываючыя вадой і балотам лахманы. З чорных траваў блішчэлі гарачкавым агнём зацятыя вочы. Нарэшце — сухшае месца астраўка заросшага хмызьняком.

Адпачынак. У Імполя засталася нейкім чынам на баку варэня.[10]) Хутка праглынулі па калянцы[11]) хлеба з грудкаю[12]) масла і ўзноў у паход. Кігікалі над галовамі спалоханыя чайкі.

А недзе на абедзе[13]) над трасьніковым морам чырчэў дапатопнаю істотаю самалёт, зорка выглядаючы ўцекачоў.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А калі трэба было варочацца ўжо назад да хаты, калі ня стала і акрушыны хлеба ў Імполевай варэні, калі Сымона схапіў прахват[14]) і ён пачаў гарачкаваць, яны зблудзілі. Панас з перапалохам сьцьвердзіў, што яны калуюць варочаючыся да таго самага месца. На небе навісла навалач[15]), закрыўшае сонца, па якому можна было-б шукаць напрамку. Балотныя смугі вады крыжаваліся, перапляталіся між сабой. А ракі ня было!

1) Шухля — трасца.
2) Расьцьвіло — разьвіднела.
3) Гайстар — чорны бусел.
4) Плёс — дрыгва.
5) Вышар — зарасьлі чароту.
6) Калова — гразкае месца.
7) Калуга — калужа.
8) Ключка — кій.
9) Катанка — сьвітка.
10) Варэня — бочная торба з лазы.
11) Калянка — луста.
12) Грудка — кусок.
13) Абед — поўдзень, паруску — юг.
14) Прахват — прастуда.
15) Навалач — засьціл хмарамі неба.

Голад і перапалох пыткаю[1])падганялі зьняможаных людзей.

І яны зноў паўзьлі цераз плёсы, грузьлі ў каловах, правальваліся праз зрадлівы зялёны кілім у халодныя крынічныя бяздоньні.

Сымон залёг зусім. Трэба было астанавіцца!

І зноў ноч перабытая ў лазовых кустах над калугамі жоўтае руды, з нязьлічанымі раямі камароў, распухшымі ад укусаў тварамі.

На раніцу — яшчэ гарэй. Пад зялёным морам вышароў — белае мора густое, лепкае імглы. Сымон няпрытомны.

Плакалі, скіглілі недзе чайкі.

Будзем нясьці хворага. Трэба-ж ісьці! Асэ ліха![2])

Хворага на плечы і па купінах уперад, падаючы што некалькі крокаў. Няма сіл! А тут багна, трэ' паўзьці, хворага цягнуць. Харчыць папярхнуўшыся вадой дрыгва, штораз страшнейшая. Трэ' варачацца. Капаюць сьлёзы з запухшых вачэй Імполя. Яхім пачынае крычаць, дзіка, страшна. Белае малако імглы палыквае крык.

— Перачакаць імглу!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

На сёмы дзень Імполь кінуў таварышоў і са зьвярыным жахам у вачох папоўз згінуўшы ў вышарах.

Сымон дагараў. Панас паіў яго носячы ў шапцы з крыніцы ваду і карміў пупшамі лазы і сэрцавінай сітоўніка, разжоўваючы іх папярэдня ў сваіх вуснах.

Самі карміліся сітоўнікам, а потым жабамі. Агня ня было.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Імполь лёг і плача. Плача ціха, балюча. Твар аблеплены сотнямі камароў. Увесь у крыві і балоце.

Панас сядзіць на купіне:

—Уставай! Мусім-жа дайсьці. Уставай! Трасе за плячо Імполя. — А сам так ахвотна паклаўся-б, каб ужо не ўставаць.

Раптам Імполь падымаецца і наслухоўвае:

— Чуеш! Сабакі брэшуць! Чуеш! Людзі! — і кідаецца стромгалоў у мора імглы. За ім бяжыць Панас. Сабак ня чутно... Але Імполь чуе. Во! Во!

А' но дабяжаць![3]) Спатыкнуўся, папоўз і раптам хлабыснуў, правраўшыся ў бяздоньне, разьдзіраючы паветра дзікім крыкам. З жахам адкінуўся назад Панас і завыў: Імполь,— Імполь!

Імполя ня было!

Над бяздоньнем курылася імгла.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

1) Пытка — бізун.
2) Асэ ліха — вось ліха.
3) А' но дабяжаць— толькі-б дабегчы.



Штораз больш пераконваўся Панас, што ён ключыць на адным месцы. Дні здаваліся гадамі... Ачхнуўшыся ад няпрытомнасьці пачынаў упарта паўзьці ўперад, нічога ўжо ня бачучы перад сабой. Рваў жменяй сітоўнік і жуў яго паўзучы. Правальваўся ў каловы. Пералазіў цераз нейкія стругі вады. Ізноў поўз. А вусны ўпарта, бяспрытомна шапацелі:

— Мушу-ж дайсьці! Мушу! Асэ ліха!

Ня помніў, колькі мінула дзён гэтае страшнае вандроўкі. Ня помніў, чаму ён трапіў між трасьнікі. У вушох пачалі раздавацца галасы жонкі, дзяцей. Здавалася часам, што ён у хаце. Сьмяяўся няпрытомным сьмехам, гаварыў. Потым усё зьнікала. І ён знову поўз.

Адчыніў вочы. Ноч. Раптам недзе з боку бліснуў прамень рэфлектара, зататахаў рухавік матароўкі. Ачуняў.

— Людзі! Ратунак!

Ускочыў напружыўшы шалёна сілы і зноў упаў. Папоўз, дзіка, зьвярына выючы:

— Гу-гу—гу-у—гу-у.

Рукі трапілі на нешта мяккае, вязкае. Апошнімі ўсілкамі сьведамасьці рвануўся, каб падняцца. Ногі лёгка паплылі недзе ўніз, грудзі аблапіла разварушаная дрыгва. Абапёрся рукамі.

— А-а-а — а-а-а! — забульбаталі на паверхні каловы бульбаткі. Недзе здалёк па вышарах бегаў прамень рэфлектара.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

А ў адрубох неспакойна спалі контрабандысцкіх жонкі. І сьніліся ім мужыкі з поўнымі торбамі пакупак за зробленыя кантрабандай грошы. Сьніўся ім хлеб — звычайны, чорны хлеб, каторы нарэшце будуць мець, — і аполец сланіны.

А дзецям сьніліся ладныя выпечаныя з цеста і размалёваныя пагранічнікі, якіх папрывозяць іхныя Таткі з Пінска.

Жаласьліва завыў на панадворку Панасаў сабака. Зашумелі аб нечым прыпяцкія трасьнікі.

---

## Мы

Нeяк рвуцца ўсьцяж словы—
верш
гамезьлівы
штось,
бо
ў гароце вясковай
атрымалі мы
хрост.
Жадных правіл!
асноваў!
Гэта —
чорт знае,
што!!
Лапцем
лезе
лазовым,
брудзіць нам —
хараство.
Мовіць пэўна
трэ‘
шчыра:
...Між нарцызаў
— асот!
Так!
Між пэрлаў
настырай
крыві краплiны...
пот.
І...
праз краты,
праз дроты
заскарузлай рукой
на Парнасе
Ілоты
узьнялі непакой.
Што-ж!
да зьвягі
— прывыклі!
Не саб'юць!!!
Сталь—ня шкло.
Мы
Сябры ны Вялікай
Маладая Ўскалось.



Хоць
і
рваныя словы,
кантаватасьці скрозь —
час,
стагодзьдзі што ломіць,
ў нашым вершы
урос.
Калі
жылы ўсе
рвуцца,
сэрцы рвуцца
ў кускі —
верш наш
ўзрывамі —
гучан —
віру бурнага
ўскіп.

## Не вярнулісь назад!

Гэта-ж не!
Не вярнулісь назад!
Хоць спаткалі нас злосныя сыкі.
Горда вуліц каменьне таптала лаза,
бо за намі —
Ён
— Волат Вялікі!

Не вярнулісь назад!
Свой рабінавы хмель
рассыпаючы між камяніцы.
І буяны наш подых сялянскіх асель
рве ляды, зледзянелай сталіцы.

Не вярнулісь назад, —
бо мы шум веснавы!
А вясну — хто-ж здалее ўстрымаці?
Чуеш!
— Небам ідуць журавы
— — — — — — — — — —
А зямлёй —
гучны марш
граюць лапці.

* * *

Жмені дзён — буйных калосьсяў
люты час ў вір кідаў сьцяўшы,
кроўю неба сплыла просінь,
кроўю па дарозе ўпаўшых.

Люты час дзён сьцятых жмені
віхроў кідаў — гончай зграі.
...Жабравалі на каленях,
ганьбы гымн сваей пяялі...

Йшлі другія, горда—стала
пад скрып перакладзін... сталі...
Грудзі ранячы аб скалы —
сонца,
сонца
здабывалі.

## Песьні Палесься

Штораз мацней прыпякае вясновае сонца. Закурыліся туманамі бязьмежныя пінскія балоты. Высыпала на вуліцу шэрай палескай вёскі дзявочая моладзь вясну спатыкаць. Юра—Ключніка сырой зямліцы славіць.

Грыміць над вёскаю радасная песьня:

Юр-юравая, Юр-юравая
дочкі кліча:
падай доню, падай доню
ключы,
замкі адамкнуці,
адамкнуці,
сыру зямліцу
выпусьціці;
выпусьціці жыто,
пшаніцу, —
жыто, пшаніцу,
ўсяку пашныцу.

«Жытко, пшаніцу, усяку пашныцу» — утораць вясковай малітве рэхам гінучыя ў сіняй далячыні балотныя разлогі.

---

Песьціць сонца змучаныя, рана пастарэлыя твары вясковых маладзіц. Горкае жыцьцё, безпрасьветнае.

І плача песьня аб долі жаночай:

Пайду я гарою, даліною,
чы не найду я вербанькі з каліною.
Ой стану я да каліну ламаці,
ой стануць мяне сьлёзанькі абліваці.
Выламлю я найвышэйшу квітку,
да занесу бацюхну пуд пувітку.
Муй бацюхно вэлікі банкіт мае,
ходзіць по дворы дай мене ўспамінае:
—дзе ты, дзіця, чы коніка не маеш,
чы дарогі не знаеш.
шо ў мяне у гостыні не буваеш.
—Я бацюхно і коніка маю і дарогу знаю,
но за ліхім мужам у гостыні не буваю.

Ліхого мужа не збуці, не продаці
да трэба з ім свуй век коротаці.



А там як-бы ў адказ палілася мужчынская скарга:

Волы маі палавыя,
чаму вы не гарэце,
годы-ж маі маладыя —
як-жа вы марненько ідзеце.

Волы маі палавыя,
як-жа вы прыгораліса,
годы-ж маі маладыя —
як-жа вы поцералыса.

---

Знае дзяўчына, знае: хутка пройдзе каханьне, застануцца шэрыя будні, з дакорамі сьвякрові, з нараканьнямі на бедную нявестку, што пасагу вялікага ня мае.

Пяе любімаму:

— Ты хлопчо, я цебе здаўнюў знаю,
ты мене любіш, я тавару не маю.
Як ты возьмеш мене у сваю хату,
то будзеш товаром даганяці.
— Не буйса дэўча, не буйса нічо',
не будзе табе дагону ні од кого;
не дажэнеш ты, то дажэне твая маці,
як будуць людзі ў поле товар гнаці

---

А моладасьць бярэ сваё. Буяніць кроў вясновае сонца. Сьмеху хочацца і радасьці. Загойкае буйная, хмельная песьня:

Ой ішоў я чэрэз тры гароды,
не зрабіў-жа я нікому шкоды.
Ізмок, як воўк, чэрэз улоньку йдучы,
ускіс, як ліс, пуд океначкам ждучы:—
— очыні, дзеўчынонька, стайню,
я свуі конікі постаўлю.
— Ішчы-ж я стайні не робіла,
каб козаку коні становіла.
— Одчыні, дзіўчынонька, сені.
бо ўжэ-ж мене комарыкі з'елі.
— Нехай цебе хоч сабакі з'едзяць
абы коло мене хорошэйшыя седзяць.
— Добра было дзеўчынонька подаруночкі браці,
а цепер не хочэш мене кохаці.
— Немнуго подаруночкоў я брала,
о'но сем пар чэрэвічок стоптала,
а осьмая лежыць у скрыні
да нехай згорыць твоя маці з імі.
Подай матко от скрыні ключы,
то я кіну козачэньку
подаруночкі ў вучы.

Звоняць. Зьвіняць бразгуны, шалястуны на заквечаных конях. Выбівае рытм вясёлы бубен.

Вясельле.

Не одчыняйце дверыны,
не выпускайце зьверыны
Тры дні коні гонілі,
покуль зьверыну зловілі —

заводзіць вясельны хор, спатыкаючы маладога.

Мы думалі сваты багаты —
ажно вуны гарбаты,
а на горбі верба, а на вербі сова —
лапамі перэбірае, свахам вочы выдзірае —

іронізуе хор у песьні з прыехаўшых.

Наша молодая — як ластоўка,
а ваш молоды — як заслонка;
наша молодая — як ясны дзень,
а ваш молоды — як горэлы пень, —

дразьніцца, насьмяхаецца з гасьцей дружына маладой.

Але не астаюцца ў даўгу і госьці:

У полі дубочок разьлегаецца,
богатыр дачкою набівэецца.
Хлопчыкі брацьця да бярыце дочку-багатырочку,
да дарую брацьця — да кубелец плацьця
і пару кашок і клочча мяшок.

Але ведаюць — не абараніцца ім ад дружыны маладой нявесткі. Лепш далікатна ў песьні зьмірыцца:

Ой будзеш нам, будзе, што мы спазьніліся,
ой мы адмовімся: убіралі мы старасту,
ды у кунныя шубы, то ў сівыя сьвіткі,
то у лісовы шапкі...

Скончыліся перараканьні дзьвёх вясельных дружын. І гукнула сумесная песьня:

Гуляй рыба-шчука па ціхаму Дунаю,
як пуйдзеш ў быстры рэкі — позабудзеш гуляці,
там воды прыбульшае — табе рыба погуршае.
Гуляй дзеўка у сваго бацька,
як пуйдзеш до чужого, прызабудзеш гуляці:
там дзела побульшае, табе дзеўка погуршае;
там земля крэменістая, там сем'я наровістая.

Звоніць п'яна вясёлы бубен. Плача надырліва скрыпка. А там і лета палючае надышло. Зашугацяць купальскаю начою на курганох агні, праваджаючыя ў далёкую дарогу нарадзіўшаеся вясною жыцьцядайнае Сонца-Дажбога:

Ой на Яна нучка невелічка,
дай не выспаласа дзівочка
— гой Купала! Купала!

Плывуць вадою варажобныя агні вяночкаў. Пакацілася з гары аблітае смалой і запаленае палаючае кола—сонечны знак. Канчаецца пара радасьці — пара сонечнай ласкі. Настаюць цяжкія дні летняй гароты. А там і восень хмурная, і лютая зіма.

Заціхае патроху расьпяваная паляшуцкая вёска.



ЯЗЭП ПУШЧА

# Лісты да сабакі*)

I

Жыву цяпер я ў шумнае сталіцы,
далёка ад цябе, мой любы дружа.
Ляжыць акраец хлеба на стальніцы,
а ў збане на акне Юнацтва ружа.

Вятры павеюць хутка золкай сьцюжай,
і ліст крывавы свой яна уроніць.
Праходзіцьме натоўп з душой няўклюжай
і ў гразь утопча, апусьціўшы скроні.

І толькі я адзін, паэт бяздомны,
над ім сьхіляюся і акраплю сьлязьмі.
Тады забросьняюць душы затоны,
калі ў грудзях мой дух зусім мне займе.

А покуль б'е жывой вады крыніца
і хваля творчая гарачым пульсам,
нашто-ж мне падхалімам быць, крывіцца
і ў хмары ўрэзвацца чырвоным буслам?

Лепш вольным птахам рэзаць шыр нябёсаў,
і супроць ветру размахнуць крылямі.
Хто хоча — кпіце над пясьнярскім лёсам,
і бэсьце, — лайце у гандлярскай краме.

Трывожнасьць рытму песьня агартае, —
нязнаны востры боль у адчуваньнях.
Мне лепей быць звычайным-бы ратаем,
чым грэх з сябе змываць ў атрутнай ваньне.

Даруй, што я пішу табе аб гэтым, —
тваё нутро гатоў яшчэ рашчуліць.
Вартуй, вартуй лепш хату да рассвету,
вуглоў каб не разнесьлі людзі вуліц.

*) Язэп Пушча—перадавы таленавіты лірык Савецкай Беларусі. Зьліквідаваны маскоўска-камуністычнымі ўладамі за „нацдэмаўшчыну" яшчэ ў пэрыядзе 1929—30 гадоў.

Перадрукоўваем характэрны для ідэовага аблічча паэта, а так-жа для савецкіх адносінаў адзін з твораў Пушчы — „Лісты да сабакі" („Узвышша" № 5, 1927 г.), — за які аўтар быў востра крытыкаваны і які, як і іншыя, прычыніўся да аканчальнай ліквідацыі паэта. Рэд.

Я ведаю — цяпер у вас там восень,
і ночы чорныя жуду калышуць.
Вятры лісты ажоўклыя разносяць
і намятаюць гурбамі ў зацішак.

І ты адзін правёў у ноч такую,
правёў мяне ў далёкую дарогу.
Гадзіну гэту кожды год сьвяткую
і слухаю, ці ў дзьверы хто ня дрогне.

Ніхто, ніхто! Зацяты ланцугамі...
Хтось руку заламаў у далях сініх.
Вартуй, мой дружа, родны ганак, —
пішу аб гэтым я табе з Расіі.

II

Успомніў восень я пятнаццатага году,
і у ваччу-ж зьмяёю ўзьбіўся чорны шлях.
Ніводзін дзень ня ведаў ласкавай пагоды, —
за навальніцай навальніца сьмерці йшла.

У гэту восень стаў народ наш сіратою, —
ўздыхнулі цяжка хвалі віленскіх вазёр.
Ў капліцы ўдзень жахлівы брат сканаў з сястрою,
у сьлёзна-золкім небе згасла радасьць зор.

Ніхто з людзей ня мог адчуць наш боль трагічны;
была страшная зяб, — рыпелі косьці дрэў,
карэньні іхніх ног былі ў крыві крынічнай.
Выгнаньня дзень, бы злодзей, краўся па дварэ.

І ты стаў бежанцам у гэты дзень закляты, —
пайшоў па шчасьце у чужацкую зямлю.
Ты выць пачаў пад хатай і пад крыжам
і вочы сьлёзныя закатываць ў імглу.

Ты позьняй восеньню ў палёх глухіх брадзяжыў, —
знайсьці прыстанішча сабе ніяк ня мог.
Імгліліся жудою хмары сыпкай сажы,
а ты пад імі выў і грыз балотны мох.

І ты, і гаспадар твой сталі жабракамі;
калі-ж вас людзі праганялі зпад вакна,
тады чало сьціскаў ты лапамі, рукамі
і цернь вырываў з пакутнага вянка.

Ішлі тады, міналі дні падзей суровых,
вяртацца сталі ўсе ў асірацелы дом.
Зьмянілі шум даўнейшы свой, лясы, дубровы,
і поле зарасло бадыльнікам кругом.



Ад мяса і крыві набухлі жылы глебы;
да іх вярнуцца ты ня змог, ня здолеў больш.
Твой гаспадар цябе зьмяніў на бохан хлеба,
па целе па тваім тады прабегла дрож.

Пайшоў ты ад сваіх, галоў на дол схіліўшы,
да бацькі да майго, дзе я й цябе сустрэў.
Падумаў ты: — у сьвеце гэтым многа лішніх,
і смагла сьлёзы піў, што падалі са стрэх.

Былі ці ня былі ў нас родныя натуры,
а толькі мы адзін другога сталі разумець.
Замоўклі рэвалюцыі вялікай штурмы,
атрэсьлі клёны ў сінь лістоў ажоўклых медзь.

І я пайшоў у горад за нязнанай славай,
а ты астаўся там-жа пад страхой старой.
Ліста мне ад цябе ні разу ня прыслалі,
хоць ты й пісаў яго вячэрняю зарой.

Туга і боль душу пабілі мне на раны,
і я пачаў успамінаць цябе часьцей,
пачаў выходзіць на шлях дарогі раньнем
і запрашаць к сабе няведамых гасьцей.

Ўспамінаў аб табе ўсё-ж нікому не рассеяць:
і знаю я, калі вярнуся ў родны дом,
адно спазнаеш ты, спазнаў як Одысэя:
прыміж ты ад мяне гарачы мой паклон.

III

Ці я ў тэатры, ў рэстаране п'яным,
дзе радасьць расьпіваюць пад джас-банд:
усюды зрок вачэй блакітных вяне,
і ўсюды бачу я жалобны бант.

Няхай сабе я сёньня страшна хворы,
ня трэба ўсё-ж рэцэптаў для душы.
Сталецьцямі гараць і сьвецяць зоры,
і іх вятрэ ня ў сілах затушыць.

Няхай, няхай гавораць так і гэтак,
а пішу табе ўжо трэйці ліст,
няхай сабе аблаюць і ў газэтах,
мо' ўспомніць часам хто калісьць.

Мой дружа, ці-ж у гэтым рытме песень
і смутак сёньняшняй красы?
Калі паэт галоў на грудзі зьвесіць,
няўжо краіне ён тады ня сын?





Мне часта зябка й холадна бывае,
і ўсё-ж ніхто ні разу не сагрэў,
не цалаваў-жа зраднымі губамі
ніколі я лістоў, апаўшых з дрэў.

Стаю вось перад зімнім тут палацам
і ўвесь, ня ведаю й чаго, дрыжу,
і сам ня ведаю, чаго так плачу...
Хто там? Прыдзі хуччэй-крыжуй!

Канец хай ўсім маім цярпеньням:
няхай лісты разьвеяцца з асін,
з чала краіны вырву ўсе-ж я церні,
каб болю іх ня ведаў болей сын.

Няўжо мне ранаў песьня не загоіць,
што гэткі трывожны б'ецца пульс?
Паэт, які ня ведае агоній,
ня здолее уславіць Беларусь!

Ой, гэта слова, слова дарагое!..
Ах, дружа мой, заўсёды рытм сабе!
Я-ж напісаць хацеў зусім другое,
хацеў у госьці запрасіць цябе.

Адно вось толькі думы непакояць:
ці ўдасца ўсё-ж даехаць да мяне?
Ну, скажам, адвязуць к чыгунцы коні,
аж бліснуць зоры ў полі спад саней.

А там білет, і ты ў вагоне спальным;
ты сьнедаць зможаш ў рэстаран пайсьці,
у ім зімою зеляняюць пальмы,
і думаеш — зімы няма ў жыцьці.

А на вакзал, на сьветлую плятформу
прыду я сам, прыду цябе сустрэць.
Адзін другога горача прыгорнем, —
даўно, даўно ня меў такіх я стрэч.

Ня ўсьпееш з дому перадаць вітаньня,
шчэ вочы будуць ў радаснай жальбе,
і тут-жа раптам горыч разьвітаньня,
ў сталіцы не дазволяць жыць табе.

Адзет ня будзеш ты ў парадны кіцель,
ня будзеш мець заслугі-медаля,
зьбягуцца і абступяць цябе гіцлі,
і будзе шмат іх: дзе ні стань, ні глянь.

Жыві, жыві, знаць дома лепей;
услухвайся ў таёмны шум і шэпт,
чужыя людзі ходзяць каля склепу,
пільнуй! Цябе цалуе твой Язэп.



## Ліст ад сабакі

Добры мой паэт, прабач,
што доўга ня было ліста.
Твой сьлёзна-горкі плач
хацеў я днямі залістаць.
Ўсё хацеў, каб як астыць
пад ветра-сьвіст з прысад.
Атрымаць лісты, лісты...
ніяк ня здолеў адрэсат.
Знаць ня знаю — жыў ён, не,
ці блудзіць з хэўрай валацуг?
Толькі крук тырчыць ў сьцяне,
чаплялі за які ланцуг.
Дом зусім, зусім раскрыт,
цяпер я ў ім вартую сінь.
Бачыш, стыль які і рытм,
заместа бацькі піша сын.
Добры мой, лісты твае
калі мне прачытаў твой брат,
гойсаць стаў я па траве
і пасабачаму стаў рад.
Выць пачаў на млечны шлях,
каб ён яшчэ сьвяціў ярчэй,
пасьля лёг каля шула
і сьлёзы хлынулі з вачэй.
— Дзе мой бацька, дзе радня?
Жыву вось тут, жыву адзін,
я штоночы і штодня
ня маю радасных гадзін.
Добры мой, пішы яшчэ,
пішы навіны мне свае.
З песьняй жыць куды лягчэй,
душа ня хоча з ёй сівець.
Часта я гляджу у даль,
ці вобраз твой ня ўбачу там?
Разьвявае лёгкі шаль
ў даліне сонечнай туман.
Не пайду я з-пад вакна, —
твой чую крок ў людзкой хацьбе.
Ўвесну, як прыедзеш к нам,
я першы абніму цябе.
Выйду, стрэчу ля варот, —
такі, такі ўжо ў нас закон.
Будзе мой сьмяяцца рот,
і цалавацца буду языком.
Знаю, знаю, ты жывы,
цябе ніхто не запражэ...
Будзь-жа, будзь здароў, жыві;
цябе цалуе моцна Жэк.

*А. Н.*

# Абдзіраловіч і Барыка

*(Літаратурная паралель)*

У той час, калі ў Расеі валіўся стары лад і пачыналася будаваньне новага жыцьця, — для людзей, што ўзрасьлі ў атмасфэры старога ладу і псыхікай сваей былі з ім крэпка зьвязаны, ня лёгка было «самавызначыцца» і знайсьці належны шлях паступаньня.

Шмат было розных прычын дзеля гэтага, перашкаджаўшых «самавызначыцца» нават тым, хто быў у сваей сьвядомасьці ворагам старога ладу. Рэвалюцыя — гэта быў «скок у няведамае», і гэтага няведамага баяліся нават шчырыя і гарачыя барацьбіты за волю, папросту ня верыўшыя ў здольнасьць зрэвалюцыянаваных масаў да працы канструктыўнай. Хто ведае, ці не адыгралі тутака ролі і тыя думкі-разважаньні, якія гэтак ярка выказаў у маленечкім, чатырохрадковым вершыку сваім Адам Міцкевіч, ды якія на пачатку сацыяльнае рэвалюцыі ў Расеі апраўдаліся гэтак трагічна прыкладам у адносінах да Шінгарева і Кокошкіна, прамотараў лютавае рэвалюцыі:

> Ręce, za lud walczące, sam lud poobcina;
> Imion, miłych ludowi, lud — pozapomina...
> Wszystko przejdzie! Po huku, po szumie, po trudzie
> Wezmą dziedzictwo **cisi, ciemni, mali** ludzie.

Бязумоўна, у гэтым хістаньні, у гэтай баязьні «скокнуць у няведамае» былі і іншыя прычыны. «A la guerre comme à la guerre!» — падчас змаганьня сілай патрэбны людзі, гатовыя на ўсё, пазбаўленыя ўсякіх «скрупулаў», далёкія ад гуманітарызму, каторы ў рашаючы мамэнт можа паўстрымаць руку ад жорсткага, але неабходнага ўдару. Ня кожны пачуваўся здольным да гэтага. Апрача гэтага падчас расейскае рэвалюцыі сярод староньнікаў перавароту бачым падзел: адны з удзельнікаў рэвалюцыі, ськінуўшы царскую ўладу, каб не дапусьціць да далейшага праліцьця крыві, хацелі захаваць у нязьменным стане ўвесь стары сацыяльны лад, хацелі адбудовываць паруханае вайной жыцьцё вялізарнае краіны так, каб і капіталіст, і абшарнік аднавілі свае «варштаты працы» на падставе даўнейшага вызыску працоўных масаў, на падставе паняволеньня сьвету працы — капіталам. Гэты стары сацыяльны лад быў такі прывычны, шляхі да змаганьня за палепшаньне быту работніка і селяніна ў рамках гэтага ладу былі гэтак добра распрацаваны, што тварцы лютавае рэвалюцыі гатовы былі ўсімі спосабамі бараніць гэты лад ад атэнтатаў на яго, робленых у імя «няведамага заўтра»... У магчымасьць будаваньня новага сацыянага ладу яны ня верылі!



Паверыла ў гэту магчымасьць толькі малая жменя фанатыкаў ідэі сацыяльнае рэвалюцыі. Але, ня гледзячы на сваю малую лічэбнасьць і беднасьць інтэлектуальнымі сіламі, здольнымі да будаваньня новага дзяржаўнага і сацыяльнага ладу, іменна гэтая малая жменя людзей з Ленінам і Троцкім на чале перамагла гэткую магутную, на пагляд, расейскую дэмакрацыю, якая не адважылася ўзыйсьці на шлях сацыяльнае рэвалюцыі. Перамагла, бо за ёй пайшлі народныя масы, ня меўшыя ніякіх «гуманітарных скрупулаў» інтэлігенцыі, не баяўшыяся «скоку ў няведамае». Сталася тое, чаго ніхто не спадзяваўся. І калі нават сягоньня — праз дваццаць адзін год пасьля таго, як у Расеі пачалося будаваньне новага сацыяльнага ладу, — калі нават і цяпер дэмакратычная інтэлігенцыя расейская верыць у магчымасьць хуткага павароту старога рэжыму, — дык можна сабе лёгка прадставіць, як тая-ж інтэлігенцыя мусіла глядзець на ход выпадкаў беспасярэдня пасьля кастрычнікавага перавароту, як ей трудна было пагадзіцца з фактам такое глыбокае, такое ўсебаковае перабудовы старога грамадзкага жыцьця.

Тое-ж, што перажывала расейская дэмакратычная інтэлігенцыя ў Расеі пасьля перамогі камуністаў, перажывалі — mutatis mutandis — прадстаўнікі сацыяльнага радыкалізму ў Польшчы, калі — дзякуючы баечнай для Палякоў міжнароднай кон'юнктуры, пры якой Польшч атрымала дзяржаўную незалежнасьць, — перад грамадзянствам узьнялося пытаньне: якую-ж Польшчу трэба будаваць? І ў Польшчы толькі малая жменя людзей лятуцела аб новай Польшчы — Польшчы сялян і работнікаў, як аб краіне сацыяльнае справядлівасьці, краіне, у якой ня будзе паняволеньня працы капіталам. Але тут на шлях адбудовы Польшчы капіталістычнае пайшлі нават у большасьці сваей нацыяналістычна і клерыкальна настроеныя сялянскія ды ў значнай меры й работніцкія масы. Чароўны зык словаў: «незалежная Польшча» засланіў сабой пытаньне аб унутраным зьмесьце адбудаванае дзяржавы, аб сацыяльным ладзе ў ёй. Нацыянальная ідэя засланіла сабой сацыяльную. А гэта вырашыла пытаньне аб будучыні Польшчы на доўгія гады... Польскі народ збудаваў для сябе свой нацыянальны дом, поўнасьцю захаваўшы капіталістычны лад і рашуча супрацівіўшыся рэвалюцыі сацыяльнай. І нават польскія сацыялісты, меўшыя ў першы мамэнт уладу ў сваіх руках (урад Морачэўскага!), не адважыліся пачаць адбудовы сваей бацькаўшчыны на новых сацыяльных падставах.

Зусім натуральна, што сярод радыкальна настроеных элемэнтаў у Польшчы мусіла адбыцца пэўная ідэолёгічная ломка, што ня кожнага аднолькава можа зачараваць адна толькі дзяржаўная незалежнасьць... Як у пасьля-кастрычнікавай Расеі большасьць дэмакратычнае інтэлігенцыі не магла пайсьці нага ў нагу з тварцамі новага — сацыялістычнага ла-

ду, так у Польшчы, адроджанае дзяржаўна, радыкальная меншасьць не магла знайсьці для сябе месца для актыўнае творчае працы ў рамках дзяржаўнага будаўніцтва на старых сацыяльных падставах. І шмат хто пэўне-ж вельмі балюча перажываў немагчымасьць датарнавацца да створаных тамака варункаў жыцьця, шмат хто ня мог «самавызначыцца», знайсьці адпавядаючы ягонай ідэолёгіі жыцьцёвы шлях.

Гэтую сытуацыю, якую — разам з расейскай і польскай радыкальнай дэмакрацыяй — перажывала й перажывае такжа дэмакрацыя беларуская, адтварылі ў мастацкіх абразох — у форме повесьці — два пісьменьнікі: беларускі Гарэцкі ў повесьці *„Дзьве душы“* і полькі Жэромскі ў повесьці *„Przedwiośnie“*. Гарэцкі пісаў сваю повесьць у Вільні ў 1919—20 г. г.; Жэромскі — недзе ў Польшчы ў 1924 годзе. Беспасярэдняга ўзаемнага ўплыву тут быць не магло. Але тэма папросту «вісела ў паветры» і, відаць, лішне балюча ўражала душы абодвых пісьменьнікаў, каб яны маглі не зарэагаваць на яе. І яны далі творы, якія шмат у чым вельмі падобны да сябе, якія разьвязваюць тую-ж праблему, хоць і ў розным асяродзьдзі, аналёгічна.

Пачнём разгляд абодвых твораў з повесьці Гарэцкага «Дзьве душы». «Двудушнасьць» галоўнага героя Гарэцкага, прапаршчыка Абдзіраловіча, гэта ёсьць той духовы разлад, які паўстаў у яго ў сувязі з сацыяльнай рэвалюцыяй у Расеі. Абдзіраловіч быў да выбуху сусьветнае вайны студэнтам і працаваў у сацыялістычных арганізацыях. Дык рэч зусім зразумелая, што «Керашчына» не магла яго здаволіць: яна-ж якраз ахоўвала стары сацыяльны лад, яна — так трагічна для сябе — імкнулася да непапулярнае далейшае вайны — «да пабеднага канца», колькі-б крыві народнае гэтая вайна ні вымагала. Незадоўга да бальшавіцкага перавароту Абдзіраловіч едзе лячыцца ад сваей раны на Каўказ і тутака пападае ў асяродзьдзе бежанцаў-Беларусаў. Абмаскоўлены беларускі магнат, гвардзейскі афіцэр, князь Гальшанскі, — відаць прадчуваючы магчымасьць сацыяльнага перавароту, — распачынае сярод гэтых бежанцаў акцыю, маючы на мэце прынамся ў Беларусі, дзе ляжаць ягоныя маёнткі, не дапусьціць да завастрэньня клясавае барацьбы. Гальшанскі склікае мітынг бежанцаў-Беларусаў і ў бліскучай прамове, спрытна жонглюючы нацыянальнымі лёзунгамі, стараецца пераканаць сваіх слухачоў, што ў Беларусаў няма сацыяльнае барацьбы, што ўсіх — і абшарнікаў, якія раптам сталіся «тоже бѣлоруссами», і сялян і работнікаў — мусіць аб'яднаць пачуцьцё прыналежнасьці да аднае беларускае нацыі. Нацыянальны салідарызм (хоць у даным выпадку ён быў ілжывы, бо Гальшанскі па духу — маскаль!) павінен перамагчы ідэю сацыяльнае барацьбы і сацыяльнае рэвалюцыі.

Ілжывасьць гэтае канцэпцыі гэткая відочная, што Абдзі-



раловіч дае вострую рэпліку князю і зусім шчыра выказываецца на карысьць сацыяльнае рэвалюцыі.

Аднак, калі камуністы пасьля гэтае прамовы зварачаюцца да Абдзіраловіча, як да свайго аднадумца, і прапануюць супрацоўніцтва з імі, Абдзіраловіч б'ецьадбой: ён кажа, што, як афіцэр, верны сваім абавязкам, ён будзе бараніць існуючы цяпер законны лад...

Калі Абдзіраловіч, пасьля сваей сэрцовай драмы, пакідае Каўказ і пападае ў Маскву, там якраз ідуць баі паміж «белымі» і «чырвонымі». Сымпатыі яго ізноў як быццам на старане чырвоных, але ён ніяк ня можа «самавызначыцца» на іх карысьць. Ён усьцяж хістаецца. Шмат што злучае яго і з «белымі». Але і да іх ён ня йдзе. Жорсткасьці адных і другіх падчас аружнага змаганьня адпіхаюць Абдзіраловіча і ад адных і ад другіх.

Абдзіраловіч едзе на правінцыю. Адведывае свайго старога прыяцеля — народнага настаўніка, беларускага адраджэнца. Спатыкаецца з сваей старой сымпатыяй, вучыцелькай Ірай Саковічанкай, гэтак сама чыннай працаўніцай на беларускай ніве. Бачыць і іншых сьведамых Беларусаў, знаёміцца з іх ідэаламі, імкненьнямі, работай. На адзін мамэнт здаецца, што вось-вось ён урэшце «самавызначыцца», як беларускі нацыяналіст. Але і да гэтага не даходзіць. Абдзіраловіч да нікога ня можа прыстаць, хоць у крытычныя мамэнты робіць услугі і «белым», і «чырвоным», і беларускім адраджэнцам. Выбіты ходам выпадкаў з прывычнае каляіны, герой Гарэцкага ня можа вярнуць сабе ўтрачанае духовае раўнавагі і пайсьці рашуча й кансэквэнтна па тым ці іншым шляху. На гэта ён — лішне слабы.

Такіх хістаючыхся, расхлябаных духова інтэлігентаў было шмат падчас перастройкі сацыяльнага ладу і ў Расеі і ў Беларусі. І зьявішча гэтае — настолькі натуральнае, настолькі аб'ектыўна зразумелае, што няма патрэбы шукаць прычыны яго ў нейкіх асаблівых, чыста індывідуальных тайніках душы Абдзіраловіча. Гарэцкі зрабіў бясспрэчна абмылку, шукаючы вытлумачэньня факту хістлявасьці свайго героя ў тым, што яшчэ ў люльцы ён, сын сялянкі-мамкі, быў заменены на панскае дзіця. Гарэцкі сугеруе думку, што «двудушнасьць» Абдзіраловіча, а мо' лепш — «трохдушнасьць» яго!— гэта вынік узгадаваньня сялянскага дзіцяці ў чужой для яго сацыяльна панскай атмасфэры. Але гэтага ён нічым не даказывае. Бо-ж і тая акалічнасьць, што Абдзіраловіч, быўшы студэнтам, разыйшоўся з сваім псэўдо-бацькам на грунце разьбежнасьці сацыяльных паглядаў (стары Абдзіраловіч — абшарнік, цалком прасякнены сьветапаглядам сваей сфэры), — нічога пе даказывае: у гісторыі рэвалюцыйнага руху ў Расеі выпадкі ўчасьця ў рэвалюцыйнай працы сыноў арыстакратычных сямей не такія ўжо рэдкія. Дык лепш бы-

ло-б, калі-б Гарэцкі ня сіліўся даказаць, што «двудушнасьць» Абдзіраловіча ёсьць вынік «прышчэпкі» мужыцкага дзічка да панскага дрэва: бачаныя Абдзіраловічам падзеі былі такога роду, што іх хапала, каб разьбіць слабую ад прыроды духовую арганізацыю Абдзіраловіча.

Жэромскі пайшоў больш натуральным шляхам і пабудаваў свой твор іменна на тым, што Гарэцкаму здавалася недастатачным: на ўплыве на маладога Барыку паражыванага мамэнту, тых страшэнных часта падзеяў, сьведкай якіх давялося яму быць.

Маладога Барыку сацыяльная рэвалюцыя захапіла на Каўказе — тым самым Каўказе, на якім бачылі мы першую спробу актывізацыі Абдзіраловіча. Рэвалюцыя робіць на маладога Бабыку вялізарнае ўражаньне. Ён гэтак захоплены ёю, гэтак горача імкнецца прылажыць і сваю руку да будаваньня новага сацыяльнага ладу, што аддае рэвалюцыйнай уладзе захаваны ў склепе Барыкай-бацькам скарб: 200 тысяч рублёў золатам. Ён прыносіць у ахвяру рэвалюцыі—ці правільней: свайму наіўнаму пагляду на рэвалюцыю—сваю родную матку, якую шчыра кахае, але ня можа зразумець. Але яго балюча б'юць па нэрвах бачаныя страшэнствы рэвалюцыйнае барацьбы. А йшчэ больш — страшная армянска-татарская разьня, у якой пагіблі на ягоных вачох тысячы ні ў чым невінаватых Армянаў. Гэта выклікае ў яго варожыя адносіны да нацыяналізму, падгатаўляючы такія-ж адносіны і да нацыяналізму польскага, з каторым малады Барыка спаткаецца пазьней у незалежнай ужо Польшчы.

Калі Барыка, пабуджаны да гэтага паміраючым бацькам і расказанай яму апошнім фантазіяй аб «шкляных дамох», едзе ў Польшчу, у яго ў душы шмат засьцярог у адносінах да адбудаванае на старых капіталістычных падставах бацькаўшчыны. «Шкляных дамоў» для работнікаў і сялян ён не знайшоў у Польшчы. Але польскія працоўныя масы гэтак заварожаны фактам дзяржаўнае незалежнасьці Польшчы, што, калі на Варшаву наступаюць бальшавікі, каб завясьці ў Польшчы новы сацыяльны лад, гэтыя масы хапаюцца за аружжа і з энтузьязмам ідуць выганяць чужынцаў-наезднікаў. Нацыянальная ідэя, ідэя нацыянальнага салідарызму аказваецца ў той мамэнт дужэйшай за ідэю сацыяльнае рэвалюцыі. Агульнаму настрою паддаецца і Барыка, які таксама йдзе ў армію і памагае перамагчы бальшавікоў. Але беспасярэдня пасьля ваеннае перамогі Барыка пападае ў багаты панскі двор, дзе ў працягу некалькіх месяцаў жыве жыцьцём абшарніцтва — у дастатках і раскошы, знаёміцца з няведамым яму дагэтуль буржуазным сьветам, пазнае яго мараль, ілжывасьць, крывадушнасьць... Назоў гэтага двара — «Навлоць» — стаецца для яго імем агульным, азначаючым нешта агіднае. І здавалася, што вось-вось Барыка пойдзе на шлях камуністычнае пра-



цы, на які яго заклікае ягоны таварыш Люлек — фанатык ідэі камунізму. Люлек вельмі добра ацэнівае Барыку, як чалавека хістлявага, псыхіку якога абцяжаюць „naleciałości burżuazyjne". Дык стараецца сыстэматычна на ўсе спосабы хаяць Польшчу і пануючы ў ёй буржуазны лад, часта нават перацягваючы струну і выклікаючы неспадзявана рэзкія рэплікі ў Барыкі. Калі-ж урэшце Люлек, пэўны ў сваей перамозе над Барыкай, вядзе яго на патайны камуністычны сход, на якім партыйныя прамоўцы пачалі востра бэсьціць адроджаную Польшчу, — падсьведамае нацыянальнае пачуцьцё гэтак збунтавалася ў Барыкі, што ён, — даўшы вострую, хоць слаба абаснаваную рэпліку камуністычным прамоўцам, — пакідае іх сход.

„Zaprzeczał jednym, zaprzeczał drugim, a swojej własnej drogi nie miał pod stopami", — кажа аб ім Жэромскі. — „Odzywa się we mnie — паўтарае за Плятонам Барыка — głos jakiś wewnętrzny, który, ilekroć się odzywa, odwodzi mię zawsze od tego, cokolwiek w danej chwili zamierzam czynić, sam jednak nie pobudza mię do niczego".

Аднак, аргумэнты, якія дае рэальнае жыцьцё Польшчы, выклікалі глыбокі фэрмэнт у душы «двудушнага» Барыкі. І вось — пасьля доўгіх хістаньняў, якіх Жэромскі ня мог ці мо' не хацеў раскрыць перад чытачамі, Барыка ўрэшце «самавызначаецца»: на апошняй бачыне повесьці Жэромскага мы бачым яго ў першым радзе з'арганізаванае камуністамі дэманстрацыі, якая йдзе пад Бэльвэдэр — насупраць наведзеных на яе салдацкіх вінтовак...

Барыка, пасьля доўгага хістаньня, — такога-ж, якое перажываў і Абдзіраловіч, — урэшце выбраў свой шлях, на якім мо' й загінуў: хаця Жэромскі накінуў заслону на тое, што мусіла стацца пад Бэльвэдэрам пры сустрэчы дэманстрантаў з войскам, лёгіка прымушае думаць, што першыя кулі польскіх жаўнераў ня мінулі Барыкі... Герой Гарэцкага да дакога канца не дайшоў: на гэта патрэбна была тая чыста стыхійная сіла, якую меў Барыка ды якое не хапала Абдзіраловічу.

Усё-ж такі між Б-ай і Аб-ам існуе глыбокая аналёгія. Яна вынікае з супольнае асноўнае ідэі повесьці Гарэцкага і повесьці Жэромскага. Але цікаўна, што і ў фактуры «Дзьвюх душ» і «Przedwiośnia» кідаецца ў вочы цэлы рад аналёгічных мамэнтаў, тым больш дзіўных, што, як сказана на пачатку, беспасярэдняга ўзаемнага ўплыву у аўтараў гэтых повесьцяў быць не магло. Затрымаемся на гэтых мамэнтах.

Перад усім, як ужо было ўспомнена, першыя крокі абодва героі ў разгляданы пэрыёд свайго жыцьця робяць на Каўказе. Чаму? Што было прычынай такое зьбежнасьці, такое коінцыдэнцыі? Здаецца, што не памылімся, калі скажам, што і Гарэцкі і Жэромскі перанесьлі акцыю на Каўказ з тэй мэ-

тай, каб апраўдаць варожасьць абодвух герояў да нацыянальнае ідэі.

Запраўды-ж: Абдзіраловіч першы раз сустракаецца з беларускай нацыянальнай праблемай на сходзе бежанцаў-Беларусаў, на якім абмаскоўлены беларускі абшарнік спэкулюе на нацыянальным пачуцьці бежанцаў дзеля выкарыстаньня яго для барацьбы з насьпяваўшым выбухам сацыяльнае рэвалюцыі. Абдзіраловіч гэта зразумеў і прыпомніў тыя балючыя для кожнага сына беларускае вёскі адносіны, якія да вайны існавалі паміж вёскай і панскім дваром. Абдзіраловіч папсаваў Гальшанскаму спэкуляцыю на нацыянальнай ідэі. Але, пазнаёміўшыся з беларускай нацыянальнай ідэяй у інтэрпрэтацыі беларускага рэнэгата і сьведамага спэкулянта на ёй, Абдзіраловіч, ясна-ж, ня мог ёю захапіцца, ня мог ані пагадзіць яе з барацьбой за сацыяльнае вызваленьне беларускіх сялянскіх масаў, ані — тым балей — ня мог паставіць гэту ідэю вышэй за ідэю сацыяльнае рэвалюцыі.

Барыка, далёкі ад жыцьця Польшчы і яе доўгалетняе барацьбы за нацыянальнасьць і дзяржаўнасьць, на тым-жа Каўказе знаёміцца з нацыянальным пытаньнем у яго найбольш жахлівай і агіднай пастаці: у пастаці дзікога шовінізму, страшнае ненавісьці людзей аднае нацыі да людзей другое, якая даводзіць да забойстваў бязьвінных ахвяраў нацыяналістычнага шалу, да ўзаемнага зьніштажэньня. Барыка перажыў армянскую разьню ў Тыфлісе, учыненую Татарамі. І Жэромскі хіба-ж сьведама малюе гэтак памастацку бачаныя Барыкай страшэнствы, каб вытлумачыць і апраўдаць варожыя адносіны свайго героя да кожнага нацыяналізму, у тым ліку і да нацыяналізму польскага.

Другая нязвычайна яркая аналёгія ў фактуры повесьцяў Гарэцкага і Жэромскага — гэта тыпы галоўных дзеючых асобаў. Побач з парай: Абдзіраловіч — Барыка, маем тут яшчэ тры пары аналёгічных тыпаў: кн. Гальшанскі — і Барвіцкі, Аля — і Ляўра, Іра Саковічанка — і Караліна Шарлатовічанка. Прыгледзімся да іх бліжэй.

І Гальшанскі і Барвіцкі — гэта тыпы «сытых буржуяў». Іх вонкавы выгляд, іх спосаб паступаньня, іх самапэўнасьць і пачуцьцё вышэйшасьці над усімі, якое дае матар'яльнае багацьце нават вельмі бедным духова адзінкам, — усё гэта падана абыдвума аўтарамі зусім аднолькава. І аднолькава — толькі дзякуючы свайму багацьцю — Гальшанскі адбівае Алю ў Абдзіраловіча, а Барвіцкі вырывае Ляўру ў Барыкі, хоць і адна і другая шчыра любіць «таго другога». Хвароба Алі пасьля разрыву з Абдзіраловічам, апошняе спатканьне Ляўры з Барыкай у Варшаве поўнасьцю гэта пацьвярджаюць.

Між Аляй і Ляўрай ёсьць розьніца ў адным: у веку і ў дасьпеласьці. Аля — гэта красачка, якая толькі расцьвітае. Ляўра — краска расцьвіўшая, якая сваей красой заваражывае Барыку таксама, як Аля заваражыла Абдзіраловіча. І адна і другая — тое найхарашэйшае, найбольш вартаснае, што вырастае ў буржуазным жыцьці: ідэя жаноцкага хараства. Але і адна і другая маюць на сваіх душах кляймо, якое фальшывая маральнасьць на іх налажыла. Гэтае кляймо і ёсьць прычынай разрыву Алі з Абдзіраловічам, Ляўры з Барыкай: і тут і там шчырая, глыбокая любоў прыносіцца ў ахвяру імкненьню да матар'яльнага дабрабыту, сытасьці, панскага жыцьця.

Трэйцяя пара аналёгічных тыпаў, мо' крыху менш да сябе падобных з увагі на жыцьцёвыя абставіны, гэта Іра і Караліна. Абедзьве — вельмі нармальныя, жыцьцярадасныя, веручыя ў магчымасьць шчасьця для іх маладыя дзяўчаты, адзначаючыяся высокім маральным роўнем і асаблівай чуткасьцяй у адносінах да свайго любага. Але варункі жыцьця вясковае настаўніцы і дачкі абшарніцкае сям'і — розныя. І ідэалы жыцьцёвыя — розныя: Іра мае ідэалы грамадзкія — нацыянальныя, дзеля якіх не захістаецца ахвяраваць і асабістае шчасьце, і сваё жыцьцё, Караліна ніякіх пазытыўных грамадзкіх ідэалаў ня мае, а яе ненавісьць да зруйнаваўшых дабрабыт яе бальшавікоў—гэта-ж ёсьць толькі нэгацыя.

Сярод жаноцкіх пэрсонажаў з маладога пакаленьня бачым у Жэромскага йшчэ трэйці, адпаведнага якому ў Гарэцкага няма. Гэта ёсьць Ванда Опочыньска, яшчэ як быццам падростак, але з перарostам перадчаснага эротызму, каторы дзіўна ўжываецца з артызмам яе, як высока ўталентаванае піяністкі. Такіх тыпаў, такога пэрвэрсыйнага вытвару сучаснае цывілізацыі Гарэцкі ў сваім грамадзянстве, пэўне-ж, ня мог бачыць. Эротызм у беларускай літаратуры наагул выяўляецца даволі слаба дый, калі выяўляецца, дык у зусім нармальных праявах — далёкі ад усякай пэрвэрсіі.

Параўнаньне гэтых твораў Гарэцкага і Жэромскага выклікае такое ўражаньне, што некаторыя літаратурныя тэмы ў пэўныя гістарычныя мамэнты запраўды-ж як быццам «вісяць у паветры». Дый яно так і мусіць быць: бо тэмы, распрацаваныя ў повесьцях «Дзьве душы» і «Przedwiośnie», гэта ёсьць найбольш істотны зьмест грамадзкага жыцьця і СССР, і БССР, і Польшчы ў часе пісаньня гэтых повесьцяў. Дык коінцыдэнцыя ў літаратурнай апрацоўцы тае самае асноўнае тэмы Гарэцкім і Жэромскім не прадстаўляе нічога дзіўнага. Яна толькі паказывае, што абодва аўтары — беларускі і польскі,—хоць талент пачынаўшага толькі тады пісаць Гарэцкага і дасьпелага ўжо зусім у 1924 г. Жэромскага трэба мерыць рознай мерай, выявілі аднолькавую чуткасьць у адносінах да перажываньняў грамадзянства і аднолькава правільна намалявалі нам абраз духовага разладу ў гэтым грамадзянстве, катораму гэтак трудна было «самавызначыцца» ў пераломны мамэнт жыцьця роднага краю.

МАКСІМ ТАНК

# Абразы

*(З паэмы: „Сілаш Істома")*

— „Салавей, салавей пташачка!"...
Песьня калыша пэронам
і вечарам пазелянеўшым ад шапак, шынэляў салдат.
Прайшлі захліпаючыся сьлязамі наўзрыд эшалоны
чырвонага крыжа, апырскалі фронту крывёй плякат —
маніфэст і людзкі муравейнік і шыны.
Ды зноў дакучлівая песьня, гармоніка піск у вушшу.
Чапляецца, росючы жалем, за хустку, павекі дым сіні.
Крануліся цяжка таварныя мелючы шум.
Падвеям у шчэлі вагону заносяцца зоры.
Здаецца ў паўсьне каласы атрасаюць зару.
І плямы ў вачох ад белых, чырвоных агнёў сэмафораў.
Чуе на шыі Раіна дотык дзіцячых рук.
— Далёка сама?.. З дзіцям у такую дарогу!
Засьні, да мяхоў прытулі галаву.
Вось бандаж патужу, пагляджу я малога.
Як завецца? Сілаш?.. Бяз білета ў Маскву? —
Із спагадай
салдат галавою ківае.
І сьмяецца Сілаш, з муштука яго ловячы дым.
І цяплей сына туліць Раіна:
— Нічога, сама я...
як ня сьпіць усю ноч, гаварыла-бы з ім.

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Манатонна калыша вагоны.
І трудна
не загледзіцца хмарна ў сінеючы шлях,
забываючы жаль, перажытыя будні, —
помніш толькі адно: як любіла зямля...
Часам блісьнуць імшараў лільёвыя плесьні
і цяклічын зялёных, крыніц матузы;
раньняй вохрай апырсканы
цяглы бярэзьнік,
прамільгнуць астравы пералесак, лазы,
ператкaныя верасам цёплым, цьвітучым...
Бор зьвініць літым золатам пнёў.
Рэха льецца па жылах смалістых, пахучых
бурштынавым хмелям.
Сівых ваблакоў
вецер пасмы калыша на змрочных папахах.
У глыбі—цені зябрай густой



аплялі да зямлі, да чырвонага вогнішча ягад
храпаватыя вывараці,
сухастой...

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Газэтчыкі хрыпла, назойліва нешта крычалі:
— Вячэрні дадатак...
— нямецкі адкінуты фронт!..
А бежанцаў новая, шэрая хваля
ўсплыла, Александраўскі змыла пэрон.
— Можа вярнуцца?—
цяжэюць Раініны думы,
быццам іх дождж налівае трывогай, тугой, —
дождж, які недзе па цёплых асецях і гумнах
малоце цапамі і пахне саломай сырой;
а можа шуміць ткучы над акопамі восень,
рвучы серабраны уток
у калючай
аснове дратоў...
На завароце галосяць, брынчаць калёсы
і звоне разьбітае шкло дажджавых пузыроў.
Вышэй парасонаў
пакрыўшых жалобай галовы,
вышэй пазалочаных грэбняў
жалезнага мора стрэх,
ўздымаючы цёмную золь, над пляцам грымяць падковы
спуджаных коняў на браме і хмараў узьветраны бег.
Глядзіць недаспаўшы Сілаш на вогнішча шумнае вуліц.
Здаецца згубіўся: ні сьцежкі, ні стрэхаў знаёмых сяла...
А дом ужо блізка?..
Нехта нясе яго, туліць,
нехта знаёмы пытае:
— Сьцюдзена можа, Сілаш?..
Голас, як вечар ліпнёвы, гаючым цяплом атуляе.
У сіце вакон камяніцаў бліШчыць толькі бруку вуза,
лісьце і гразь.
Бутырак сьцяна глухая
шэрым навісла масывам, а за
сеткай укоснай дажджу тускла цьвітуць ліхтары, ды
на крыжаваньні ветру
і шын,
і дратоў
рвуцца з трамваяў сінім агнём акварыды,
згараючы,
сыпяцца ў вочы,
цёмнымі іскрамі — сном.

## Перад ад‘ездам

Зноў шкода мне родных аселіц,
скрыпучых на полі калёс.
Туман без мяне ўжо абеліць
атаву зьвінячую, плёс.
Зара на куросаднях ціха
зьбіраецца ўжо начаваць.
А мне яшчэ хочацца крыху
на ржышчы пустым пастаяць,—
як быццам адходзячы ў горад
забыўся сказаць весялей:
каб і без мяне усе зоры
гарэлі над
вёскай маей!

21.I.39.

## Думы

Плыве хвалюючыся шум,
сьцюдзёны шум па нівах чорных
і нізка
нізка
хмары дум
лятуць асеньнім шляхам зорным.

На ўзмор‘е нельга адагнаць,—
за молём парусы бялеюць;
а да цябе, — і ты адна,
і над табой яны цямнеюць.

Палю агонь.
З усіх старон,
як цьма шалёная, сьляпая,
лятуць сны - думы на агонь —
і добра што яны згараюць.

18.I.39.

## Пад восень

Цяпер гасьцей убачыш рэдка—
і тыя змораныя сном.
А верасьнёвых зораў сетка
пяшчанае услала дно.



І пакідаць на вецер блага
такую музыку бяз слоў;
ня пырснуць серабраных ягад
пявучых у руках вяслом, —
пакуль яшчэ паэты дома,
турысты сьпяць да дзесяці,
пакуль па выцьвіўшых альбомах
не удалося разьнясьці
наднарачанскіх акварэляў.

Плывеш дзень--парусам падняць.
А ключ гусей і хмараў белых
адносе
вецер
на паўдня.

3.I.39.

* * *

Марозны, белы вецер хіба
не супакоіцца да рана.
Цьвяты крыштальныя на шыбах
цьвітуць і пальцы мае раняць.
Там, дзе калісь глядзелі ў даль мы,
ў сьнягох паўночнае Сахары
гараць сярэбраным пажарам
за шляхам смаляныя пальмы.
Усе год новы спатыкаюць...
А сьнег цямнейшы і гусьцейшы,
і усю ноч агнём палаюць
мае пурпуравыя вершы.

5.XII.38.

## Скрыпка

Калыхаў яе вецер.
Песьні сінія хвоя
каля звонкага сэрца
апляла дробнаслоем.

Таму ведае сяньня
вуснаў шопат гарачы,
вачэй кожнае зьзяньне,
ці сьмяюцца ці плачаць.

Павядзеш толькі смыкам, —
у віно, што ня выпіў,
цьвету яблыні дзікай
або сьлёзаў падсыпе.

6.I.39.

* * *

Перагледзяць, памацаюць слова
і панюхаюць можа раз пяць.
За працяжнік, за пункт каляровы
канфіскаты наложаць пячаць.
Папытаюцца, можа знаёмы
той ці іншы замоўкшы паэт,
і як даўна кантакт з Апалёнам,
з Дзіанісам, з Сатырам і Zet?..
І пайдуць да наступнай візыты...

Посьле вочы бязсонна гараць.
І ня ўбачыш, як дзень перажыты
зноў крывёю сплывае з пяра.

11.I.39.

## Вясной

Зноў загарэліся сосны над краем.
Дзе-не-дзе сьнег прытаіўся на лядах.
Звонка з вячэрняй зарою сплывае
зніваў
крыніц
серабраная радасьць.
Плоткай іграючай быстры мой човен
выплыў мінаючы зьвісшыя дрэвы.
І ў поўнаводны, успенены Нёман
разам з другімі закінуў я невад.
Нехта русалку злавіў маладую,
нехта хваліўся на вёсцы бурштынам.
Выцягнуў сетку цяжкую і чую: —
песьня зьвініць заблытаўшыся ў ціне.
Выйшаў на бераг — усе акружылі
і пра палоў мой шчасьлівы пытаюць.

Даўна відаць рыбакі не лавілі
песень вясьняных
з рэк нашага краю.

3.I.39.



## Зіма

*(З паэмы: „Сілаш Істома", ч. III)*

Дзень цэлы плавалі вятры.
Зьвінела рунь, палын па межах.
Пад вечар сьнегам завірыў
сьпазьніўшыся кудлаты сьнежань.
На пачарнеўшую салому
сыпнуў сьцюдзёным пухам лётным,
абвіў платы зьвінячым лёнам,
раскінуў белыя палотны.
На хвалі дрэмлючай ральлі
падзьмуў з-за Сіняй Гаці сівер
і ажылі і паплылі
на лес ўзьмяцеленыя нівы.

Але навалу хмар цяжкіх
ўстрымалі выгнуўшыся хвоі.
Толькі па соснах залатых
ўзьнялося полымя сівое;
у змрочных лапках зацьвіло,
з бяроз сярэбранага вецьця
на сухастой, на буралом
яго панёс калючы вецер.
Збудзіўся нетраў цёмны гул,
з лагоўяў воўчых і выкопаў
папоўз па сьвежаму сьнягу,
па выбітых руёю тропах.

Зіма...
Ад інію вішняк
перахіліўся за парканы.
І ня мінеш яго ніяк,
кранеш — і цьветам серабраным
асыпе з галавы да ног.
На дзяньнікі вароны стадам
лятуць з прасёлачных дарог.
Дзе-не-дзе лубіну, прынада,
сухое калева замёў
зьлягка пух сьвежа-зшаранелы,
і петлі заяччых сьлядоў
на полі іскрыстым і белым...

За гумны выйдзеш — цішынёй,
як хвалі сьнежныя ня звоняць, —
за небасхілу паласой
чарнеюць палявыя клёны.

На іх і воблакі часамі
змарыўшыся адпачываюць
і доўга-доўга вечарамі
зара гарыць, не адлятае.
А пасьле шчодраю рукой
сыпне ноч зоры па дарозе.
І чуеш...
недзе пад дугой
маладзіка пяюць палозьзя...

---

*ХВЕДАР ІЛЬЛЯШЭВІЧ*

## Разьвітаньне

Прашумеў вадапад авечак —
з лугоў у вёску воблакам сплыў —
і расплёскаў гармонік сум вечару
у задымленыя паплавы.
Ужо рагаты месяць над аўсянішчам
моўчкі жве мяккую цішыню —
заўтра ў раньня загар ня гляну я,
сярпоў шолахі не сажну.
Мо' затым так штось цягне напіцца
удоваль бражнай, вясковай тугі —
ля платоў, ля ўсьпененых дайніцаў
уззарыцца поглядам другім.
Я пайду — бяз скаргі, бяз усхліпаў —
ты яшчэ мне сном зашалясьціш —
і — бязшумнай расой асыпецца
на дарогу васеньняя ціш.
Дык бывай! Гэта змрок верасьнёвы
ў словы, пэўне, навеяў жаль —
не глядзі, што ўсхмарыліся бровы —
за вакном ясяны мітульжаць.
І калі на ростанях вулак
палян сонца упадзе ў душу —
як малітву пяшчотна-чулую
успомню словы твае — прашапчу.
Дык бывай! У дарогаў холад
жар рассыпаных сьлёз панясу —
знаю я нерасьцьвіўшую моладасьць
і разсьветаў лядзяны сум.
Дык бывай! Мгляцца цені соснаў —
анямеўшыя скрыпачы!
Я іду дзён пажоўклых восень
у бездарожжах далей валачыць.



*О. МІЦЮТЕ*

## Роднаму месту

Падняўшы крыжы тры высока ў блакіце,
шлеш быццам малітву прадвечную ты.
Мне кожны твой шлях будзе родным, сьвятым.
Але зрок мой будзе тут сумам імгліцца.

О, роднае места, дзе шэрыя будні,
як зоры у шумны плывуць небасхіл,
вярні ты мне долю бяз мук і тугі...
Сталь гнецца і людзі ў час бурны і трудны.

Я ведаю кожны твой рытм і твой голас,
як будзяць, як ноччу калышаць званы,
чакаю... нашу свае мары і сны.
Тут неба у хварбах жыве невясёлых.

Хоць словамі ўмела-б зьвінець, а ня плакаць,—
ці твар яны зьменяць твой сумны калі?
Чужым усё буду хадзіць па зямлі,
як дзіду сваю тут зламаўшы ваяка.

Ні шчасьця, ні радасьці я не пакіну.
Ужо дух мой зламаўся і сэрца маўчыць.
Хай вецер табе пра свабоду гучыць.
Тужыць пры сьвятых тваіх буду руінах.

*Пераклаў з літоўскага М. ТАНК*

---

*ПАЎЛЮК СІРАТА*

## Перамога

Векі заплюшчыш, напружаны сон
грудзі раскроіць, як плугам барозны.
Нешта набухне, як боль і як скон,
нешта заплача наўзрыд і бязсьлёзна.

Заўтра з заплаканых шыбінак мар
сінім разсьветам прасочыцца ранак,
зваліць з грудзей набалелы цяжар,
сьцюжнай рукою сьціскаючы раны.

Ўстань і ў сьцюдзёным жалезе пабач
новыя вартасьці слова жывога!
І зразумееш душой — Барацьба...
і зразумееш душой — Перамога.

Горадзень, 13.XI.37.

*АД. СТАНКЕВІЧ*

# З літуанізмаў у беларускай мове

### Д.

**Даба̀**—выклічнік, азначаючы пажаданьне: даба, каб ён згадзіўся! Літ. daba—характар, нораў, натура; dabon-déti—браць пад увагу, згадзіцца з чым. Хоць можа быць ад: **даўбы Бог!**

**Дзёгаць**, слова, якое ўжываецца ня толькі ў Беларусі, але й далёка за яе граніцамі. Літ. deginti — паліць, спаліваць, абпаліваць, выпаліваць. Адгэтуль — дзяга, дзягай абжарыць, упячы па скуры.

**Дзірван** — ніва, поле, пакінутае без абрабляньня, цаліна, залеж. Літ. **dirvonas**, але **dirva**—ніва, поле выробленае. **Дзірван** можа быць так-жа ад бел. **дзервянець**, цьвярдзець.

**Друскенікі**—ведамае лячэльнае месца; літ. druskas—соль.

**Дурдаць, раздурдаць** — разбудзіць; ужываецца, калі нехта крэпка сьпіць і шмат трэба захадаў, каб яго абудзіць, прывясьці да сьведамасьці пасьле сну. Літ. **susidurti** — стукнуцца з кім, спаткацца, саткнуцца; каб каго раздурдаць, разбудзіць — часта трэба штурхаць, рушыць, папіхаць яго рукой.

**Дэнка, днышка, днушка** — крышка; літ. denkti — пакрываць. Пасуду накрый дэнкам!

**Дзевер** — мужа брат; літ. dieveris — тое-ж.

**Даржнік** — загародка, пераважна пры хлеве, куды заганяюць скаціну падчас гарачыні; літ. **daržas** — гарод.

**Доржышкі** — вёска ў Ашмяншчыне, пад Соламі; ад таго-ж: **daržas**; **daržiškai dirbti lauką**: абрабляць зямлю, поле, як гарод.

**Дукса** — прозьвішча ў Барунах; літ. duksanti (duksauja, **duksavo**) — уздыхаць; **duksoti (dukso, duksojo)** — няясна, няразна віднецца здалёку (у цемнаце, у тумане).

**Дзындра, зындра** — ськіп жалеза ў кавальскім гарне, астаткі перапаленых кавалкаў жалеза ў каваля; літ. dzindros; **dzindreti** — зьвінець.

### Е.

**Ёрзацца** — неспакойна сядзець, дуроніць; літ. **erzéti** — дуроніць, **erzéjimas** — дуронства; **erzinti** — дражніць, раздражняць.

**Ёйня (Яўя)** — еўня, авін, сушня, варыўня; літ. **jauja** — гумно, лазьня (дзе сушаць лён і мнуць), варыўня; адгэтуль: **Ёўневічы**, вёска Крэўскай вол.

### З.

**Зьмяркаць, зьмяркацца** — цямнець, сутунець; літ. **(užsi) merkti (užsimerkia, užsimerkè)** — стуліць вочы, заплюшчыць, зажмурыцца; адгэтуль: змурок, зьмяркацца.



**Зрэпіцца** — счапіцца між сабой у барацьбе, схваціцца; сабакі зрэпіліся; літ. **reples** — шчыпцы, абцугі.

**Затаўка** — клустасьць, сала, што кладзецца ў страву; літ. **taukai** — клустасьць, сала; **taukuoti** — затаўкаць. **Але гэта** можа быць і ад славянск. — тук: клустасьць.

**Жыляць** — цяжкое што падымаць, робячы гэта часта і доўга; літ. žilinti — даводзіць да сівасьці, да старасьці.

**Жвір** — буйны пясок; дно нашай рэчкі жвіраватае; **літ. žviras** — тое-ж самае.

**Жычка** — чырвоны вузкі матузок; літ. **žičkai** — каляровыя (пераважна чырвоныя) ваўняныя ніткі, каторымі патыкаецца паводле пэўнага ўзору аснова ткані.

**Жуда̀** — цяжкі сум, расчараваньне ад вялікага **гора і бяды**; жуда́ яго заядае, ён гіне ад жуды; літ. **žudyti** — **зьбіваць**, нішчыць, мучыць, губіць.

**Жлокаць** — хутка і пажадліва глытаць, **лахтаць** што рэдкае: ваду, малако; літ. **žlugti** (žlunga, žlugo) — **гінуць, тануць**, мокнуць.

---

*Я. КРЫГА*

# Можа...

Можа віхураю гнаны прыдзецца
родную хату яшчэ калі кінуць,
але ніякая бура ўжо з сэрца
вырваць ня зможа любоў да Краіны.

Тут усё блізкае, матчына — міла:
неба, зямля, лес і луг, кожна горка,
могілкаў дзедаўскіх кожна магіла, —
сьвет першых радасьцяў і сьлёзаў горкіх.

Калі прыдзецца — ў далёкай чужыне,
сэрца тугой будзе поўна, ня йначай,
але і родна вярба і рабіна
пэўне ля хаты за мною заплача.

Хіба іх можа віхура паломіць
ды разам з бацькаўскай хатай зруйнуе —
вецер мой сум сьлязой ў хмары прыгоніць,
роднае неба хоць раз засумуе.

Я. СТАНКЕВІЧ

# Мова крывіцкага (беларускага) рукапісу XVI стаг. „Аль кітаб“

## Фонэтычны й морфолёгічны разбор

(Працяг, гл. № 4 (17) „Калосься“ з 1938 г.).

### А к а н ь н е

*Пераход е ў а (ʻа).* Пераход ненацісьненага *е* ў *а* прадстаўляецца ў рукапісе накш па сугуках цьвярдых *(д, т* і іншыя ў словах чужых) і ацьвярдзелых *р, ж, дж, ш, ч, ц* (з праславянскага *ц*) з аднаго боку, а накш па сугуках мяккіх, да каторых належаць усе асталыя, і j — з другога. Дык прыклады на абедзьве групы прывяду асобна. Дзеля таго што ў *а* (*ʻа*) пераходзіць ня толькі *е* спачатнае, але такжа *е* із спачатных *ѣ* і *ь*, дык прыклады на іх будуць прыведзены разам.

*Пераход ненацісьненага е ў а па цьвярдых і ацьвярдзелых сугуках.* У складох перад націскам: strała 1b17, čaho 1a10, 9a4, 20a6, 40b3, 44b9, 45a13, 138a5, 138a17, da čahu ti prišuŭ (= čaho ti prišoŭ) 62a4, 62a13, a čahu (= — o) 66b13, kričic: „čaho ležice...“ 118b2, kali čaho bajacca 121a8, uścerahu 4b10, ʻužanepereścerahaŭ 10b17, častūje 12a1, poŭ šasta funta 49b13, ʻužanuc 54b15, žanockaje 57b13, štob ne zhrašiŭ preciŭku 68b9, nečakaje 70b17, ʻabrakajecca 87a1, čamu 96b1, dastament (zam. *tastament,* распадабненьне) 105a6, čatiri 108b2, kerani 124a3, daždžavoha 47b16, ne ʻabrakajūčiśe 40a9, žana 40b11, 58a3, 58b8, 80a11 і шмат іншых, žabrakom 681, častavać 20b15, 31a14, častavaŭ 20b13, 25b1, 31b1, 31b2, ebdeś ʻu čatiruch (= — pox) rečach 74b9, pacałavaŭ 58a7.

У складох па націску: vižšahu (= — o) 5a8, inšahu (= —o) 6b11, 21b1, 89b2, 89b4, 108b8, 136b14, praśaščahu 12a2, 12a12, ʻadłūvečara 16a3, zavešan 18a12, 17b13, zavešanij būdze 18a15, ʻadłūčani 20 11, zavešani 20b1, Peršahu (= — o) 22a10, 27a12, 83a9, pripeŕšaj 22a11, milšaho 24b1, ime boža 26b8, peršamu 40b13, pricincaju 57a11, iz mužam 58b9, kručanaje 68b2, pałcam (instr.) 71b15, da kanca pałcaŭ 73b12, velik'im pałcam 73b13, najbolšamu 78a10, ʻu mora vik'idac 78b16, stvarencaŭ 88b13, spačaho 89b14, peršaje słova 91a1, ʻadpuščani 93a10, rano i ŭvečar pejce 76b4, ŭvečar 94a2, 97a5, biło žboža (= zboža, апіска пад уплывам наступнога *ž*) 100a12, lepšaho 111b3, Z dimū stvorana peršaje neba 115a5, pabolšaje 221a4, pałacaŭ 123a3, 123a8, dzerava velmi charošaje 138b4, dušajemcam (instr.) 138b12, višaŭši 133b9, najvišaje mejsca 13b6, na čistaje mejsca 84b2, sunca (= сонца, voc.) 106a6, chorаša 71b12, 115a1, mešecaŭ 22a15, 26b1, pjanicam (instr.) 64a14, tavarišaŭ 106a4, temparavaŭ (слова чужое, зь цьвярдым *п*) 114b1 і шмат іншых.

*ʻа на месцу ненацісьненага ʻе па мяккіх сугуках.* У складох перад націскам: nachaj (= няхай) 7b13, na mnej (пол. nie mniej) 12a17, ʻuśahu (= усяго) 21b13, lasuŭ (= лясоў) 27b5, na jeden 39b7, dzicana (= дзіцяня) 42b3, ʻahnanimi 53b12, ʻahnanije 53b9, što ja ʻu jaho būdu pitac 59b8, ʻu pasuk (= пясок) 69b6, 81b2, is pasku 81b2, 81b4, paskom 81b3, tlajancegu (= — о, у польскім тэксьце) 104a14, na pisali (= ня піс-) 137b14.

Так сама маем *а* ў прыслоўным прыймені *каля* з *кале*, паўсталым скасьцяненьням loc. sg. *колѣ*. Націск гэтага слова пераходзіць на слова наступное (прыр. *kala* й *kale* E. Klich, Teksty, 184): kela śebe 84a13, biŭ zabaŭnij kela taje tablici 125b4.

У словах, як ʻupovadać 67a16, ʻu vadomości 76b12, vadomośc 107b6, трэба бачыць полёнізмы, на што паказуе ненацісьненае *о* ў іх.

У складох па націску: ʻastatnamu 5b17 ʻastatnahu (= —o) 26a13, 50a9, trecaje 34b5, 34b9, z bajaz'naju 36b7, bež mužnaho (апіска зам. *bez*) 40b9, Pałūdnaŭ kolka 41b17, 42a1, kuflaŭ 56a11, prepomnaŭši 65a2, ʻūtoplana 68a17, bajaz'naju 64b5, Pred gergerejam (instr. sg. ад араб. gergerej) 71a10, śerednaju darohaju 81b14, ʻu rannam 89b12, trecam 114a4, na trecaje neba 116b9, rastoplana 128b6, iz cicok vidajana 64b13, śvetłaścaju 95b10, Trecaja neba 117a1, z radaścaj 126b2, prijecelaŭ (націск на *пры* —) 18b17, prijecelaŭ mus'ulman 117a4, majuc peśc (зам. jeśc) vuhalja 10b13, ʻadzena... pašarpana 19a7, nadzevajce rajśkaje ʻadzena 56a2, Bahamolja žanockaje 57b13, biło na jom ʻadzena 109a3, pacehnūŭ ʻadzena 109b9, inšaje ʻadzena 110a2, toje ʻadzena 110a5, chadzena maju (= majo) 120a5, ʻadzena dam 121a5, kažnaje ʻadzena 122b8.*)

Прыкладаў, прыведзеных на пераход ненац. *е* ў *а* (*ʻа*) даволі, каб сконстатаваць, што ў мове «Аль кітабу» кажнае ненацісьненае *е,* як па цьвярдых, так і мяккіх сугуках пераходзіла ў *а* (*ʻа*). Астаецца толькі выясьніць, чаму па сугуках мяккіх прыкладаў на гэты пераход ё прыраўнальна мала (колькасьць іх блізу агранічуецца вышпрыведзенымі).

*ʻе на месцу ненацісьненага этым. ʻа па мяккіх сугуках.* У «Аль кітабе» звычайна пішацца *е* такжа на месцу ненацісьненага *ʻа* этымолёгічнага (із спачатных *ja* і *ę*). У складох, што ніколі ня былі пад націскам, аўтар «Аль кітабу» піша *е* на месцу этымолёгічнага ненац. *ʻа* па мяккіх сугуках бязь ніякіх ад-

*) Аўх. Карскі, II-1, 363 ўважае, што канцавое **а** ў групе **сугук+ьj+е** па шчэзьненьню **ь** і ўпадабненьню **j** да папярэдняга сугуку паўстала пад уплывам здвоенага або ўзмоцненага сугуку **(vuhalla)**, як гэта ё ў украінскім языццэ. Але ў украінскім **а (ʻа)** ў гэтай групе ё і пад націскам, тымчасам у беларускім толькі ў палажэньню бяз націску. Дык ясна, што і ў гэтай групе словаў маем у беларускім языццэ да чыненьня з аканьням.

хінаў. Да таковых хормаў належаць дзеяслоўныя прыслоўі на — *'ачы* (у «Аль кітабе»: lubeči, čineči і пад.), 3 pl. praes. (činec, chodzec і пад.), займя *ся* (із sę) у дзеясловаў зваротных (maliŭše і пад.), таковыя словы, як kłanejecca, tišeča і пад. У прыпадках іншых, дзе склад быў напару пад націскам у іншай хорме, або ўплывала аналёгія тае-ж хормы іншых словаў з *'a* націсьненым ё такжа прыклады з правільным напісаньням із *a*, прыкл. praca taja 34a12, бо тая-ж хорма іншага займені мае пад націскам *a:* maja і пад.

Падобна як у «Аль кітабе», *e* на месцу ненацісьненага *'a* ўжывалася такжа ў беларускіх памятках абэцэдай кірыліцкай.*) Карскі, Бѣлоруссы II—1, 95 сьхінаецца да думкі, што старыя памяткі гэтай асаблівасьцяй адбіваюць жывую тагачасную вымову. Але з гэтым нельга згадзіцца. Калі гэткая вымова была ў XV—XVII стаг., чаму яе няма цяперака ані на віленска-ашмянскім прасторы, у каторага мове напісаны «Аль кітаб», ані на 9/10 з гакам беларускага языковага прастору наагул. *e* на месцу ненац. *'a* этымолёгічнага ведама часткава ў беларускіх гутарках палескіх, дзе яно зьявілася ў часе ўтрачаваньня аканьня, пайменна, імкнучыся да вымовы *e* замест *'a* зь ненац. *e*, Паляшукі сталі вымаўляць такжа *e* на месцу *'a* спачатнага, бо ў вабодвых прыпадках *'a* вымаўлялася аднолькава.

Там-жа на Палесьсю — з тае-ж прычыны паўсталі прыпадкі зь ненацісьненым *o* на месцу этым. *a* (*постух, молі́ны, руковіцы* і інш.).**)

Дык разгледжаная зьява ё асаблівасьцяй правапіснай, а не фонэтычнай. Яна паўстала як у крывіцкіх тэкстах кірылічных, так і ў тэкстах арабіцаю, пры чым, відавочна, самастойна ў вадных і другіх. Пісьменьнікі арабіцаю натолькі былі незалежныя ад кірылічнага правапісу беларускага, што выдумалі апрычоныя значкі дзеля *дз* й *ц*. Выхадным мамэнтам у пісаньню *e* на месцу этым. ненац. *'a* па мяккіх сугуках было ймкненьне да этымолёгічнага правапісу. Прызнаць гэткае ймкненьне ў ваўтара «Аль кітабу» ці — шырэй — у пісьменьнікаў арабіцаю наагул мы можам, нягледзячы на звычайны пераход на пісьме ў нашым рукапісе ненац. *o* ў *a*, бо і ў літаратуры кірылічнай лучаюць памяткі, як прыкл. беларускі зборнік XVI стаг. Чудава м-ра № 62—264,***) з такім самым

---

*) Stang Chr. S., Die westrussische Kanzleisprache des Grossfürstentums Litauen, бач. 70. паказаў, што ў стара-беларускай мове літаратурнай гэтая асаблівасьць зьяўляецца ў канцы XV стаг., калі на гэную мову мелі ўплыў паўночна-ўсходнія гутаркі беларускія.

**) Ossowski L., Przyczynki do białoruskiej dialektologji (Сборникъ Милетичъ, Софія 1933).

***) Библіографическіе матеріалы, собранные А. Н. Поповымъ..., изданные подъ редакціей М. Сперанскаго. Масква 1889.



частым і вялікім аканьням, хоць там правапіс быў этымолёгічны.

Пішучыя пакрывіцку стараліся абазначаць пры помачы *e* тое *a*, што паўстала з *e* ненац.: а дзеля таго што аднолькава вымаўлялася і *a* этым. па мяккіх сугуках, дык і замест яго сталі пісаць *e*, бо вельмі часта трудна было разабрацца, дзе якое *a* ёсьць. А з часам гэткі спосаб пісаньня стаў правапіснай нормаю.

*a* (спачатнае і з *e*) па мяккіх сугуках вымаўляецца вузей, як па ацьвярдзелых, дзеля таго толькі па мяккіх у складох ненацісьненых паўстаў спосаб абазначаць ненацісьненае *a* пераз *e*.

Цяпер ясна, чаму малую колькасьць прыкладаў маем у нашым рукапісе на пераход ненац. *e* ў *'a* па мяккіх сугуках: абазначаючы пры помачы *e* ненац. этым. *a* па мяккіх сугуках, аўтар ня мог абазначаць пераз *a* таго *a*, што паўстала зь ненац. *e* па мяккіх сугуках.

*e на месцу этымолёгічнага a* па *к, х, т* і ' (*айн*). Зь іншае прычыны пішацца ў рукапісе *e* на месцу этым. *a* па *к, х, т* і па айн ('). Туркі й Татары а такжа крывіцкія мусульмане літару *e* па *к, х, т* ды *e* з ' (айн) вымаўляюць як *a*.

Ведама, што ў даным прыпадку спосаб абазначэньня гуку *a* нашыя мусульмане пераняслі ад Туркаў і Татар. Дык і аўтар нашага рукапісу пры помачы *e* па *к, х, т* а такжа пры помачы *'e* (*e* з айн) абазначае гук *a* розньга паходжаньня (спачатнае і зь ненац. *o*), аб чым я ўжо зацеміў у № 4 (17) «Калосься» з 1938 г., бач. 245 долех, 246 ўверсе, 248 долех і 249. Колькі прыкладаў: kezan kezaŭ s prikezane (= казань казаў с прыказаньня) 13b13, patetarśku 86b17, łaske (= ласка) 28b17.

*o на месцу ненацісьненага этым. 'e* маем у гэткіх прыкладах: spaśenjom učinū 46a6, aźančejom (клічучым на малітву) biŭ 89a3, navernu (= навернё) 103b17, Priazdobic dla cebe nebosa, radujucca, što ŭvidzeŭ praroke 109b5, Pan Boh 'ušelakoju (= — jo) žadane jeho prijme 25a3, vī toju (= tojo) papełnajece 28b12, peršaje, iz k'afiremi poŭstane; drūhoju (= — jo), tvaru śvinoju 34b9, na levuju (= levojo) plečo 'uz'lij 71b2, kažnajo kriło 109a1. У прыведзеных прыкладах маем да чыненьня з гіпэрправільнасьцяй, як рэзультат імкненьня аўтара рукапісу да этымолёгічнага пісьма.

*a на месцу ненацісьненага у ў канчатку ac. sg.* складаных нясьцягненых прыметаў і пад. (*новаю, добраю* хату пры *старую* або *нову, добру, маладу* — хормы сьцягненыя й іменныя) А. Шахматаў («Русское и словенское аканіе» ў «Р.Ф.В.») такжа лучыць із аканьням. На гэтую асаблівасьць у нашым рукапісе лучыла 7 прыкладаў: 'u praŭdzivaju darohu 'upravadz 4b12, velikaju preškodu 42b12, šehośvetnaju razmovu 43a15, pasłūhu

velikaju činiŭ 62a11, muku velikaju 68a1, u čistaju z'emlu 73b 0, iz rajśkaj śvetłaśсi na cemnaść sveckaju 77b17.

Нягледзячы на тое, што аўтар рукапісу ў ac. sg. (він. адз. л.) жаноцкіх прыметаў і пад. звычайна піша — *ую*, нельга сумляваццa, што вышпрыведзеныя прыклады адбіваюць жывую тагачасную вымову. Аўтар «Аль кітабу», імкнучыся да этымолёгічнага правапісу, пісаў звычайна — *ую* ў *ac. sg.* пад уплывам прыметаў маючых націск на канчатку (*малую*).

У цяперашняй беларускай мове народнай ненац. канчатак на — *аю* ac. sg. fem. прыметаў ёсьць у віленска-ашмянскіх гутарках, на прасторы каторых напісаны «Аль кітаб», у дыялекце цэнтральным разам із северскімі гутаркамі і ў вабруселай мове крывіцкіх (беларускіх) Вяцічаў (т. зв. цяпер паўднёва-расейскім нарэччу). У крывіцкім дыялекце дысыміляцыйным *а* ў канчатку — *аю* перайшло ў-*ы*-, ё, значыцца, -*ыю* (*новыю*).

Карскі (II—1, 296 і II—2, 315) у канчатку — *аю* ac. sg. fem. бачыць уплыў nom. sg. (наз. адз. л.), хоць ac. sg. мае балей стычных пунктаў із instr. sg. (тв. адз. л.). Але калі зьвернем увагу, што адно ненац. -*у*- ў канчатку ac. sg. перайшло ў -*а*-, дык мусім згадзіцца із Шахматавам, каторы бачыць тут зьяву фонэтычную, значыцца аканьне. Роля instr. sg. была-б тут адно памочнаю.

Канчаючы аб аканьню, трэба сказаць, што ў мове «Аль кітабу», а значыцца ў віленска-ашмянскіх гутарках XVI стаг. кажнае ненацісьненае *о* й *е* пераходзіла ў *а*(*'а*),*) у некаторых прыпадках такжа ненац. *у*, а хіба і *ы*, *і* пераходзіла ў *а*. Значыцца характар віленскага аканьня XVI стаг. быў аднолькавы зь цяперашнім.

На аснове аднаго дагэтуль разгледжанага матар'ялу з нашага рукапісу можам сказаць, што аўтар ягоны імкнуўся ў вабазначэньню самагукаў да этымолёгічнага правапісу, што яму ў ваднасінах да ненац. *е* па мяккіх сугуках ды што да ненац. *у* ў канчатку ac. sg. прыметаў жан. у вялікай меры ўдавалася.

## Іншыя зьмены самагукаў а, о, е, ѣ.

### Зьмена самагуку *а*.

Пераход *а* ў *о* маем: 1. Перад нескладатворным *ў*: kloŭ 12b5, 12b7. Тутка *ў* выклікала лябіялізацу *а*, у рэзультаце чаго гэты самагук перайшоў у *о*. Гэта зьява таго самога характару, што *о* ў poŭdna, poŭstane і пад., дзе вусьнянае *ў* прычыніла, што ў *о* перайшло *а* зь ненац. *о*, або *ў* не дапусьціла пераходу ненац. *о* ў *а* — залежна ад таго, якая зьява—аканьне ці лябіялізаца *а*—старшая (гл. № 4 (17) «Калосься» бач. 250). Хормы тыпу *клёў* на прасторы віленска-ашмянскіх гутаркаў я назіраў у ваколіцы станцы Багданава Ашмянскага пав.—у сяле Рымавічы і інш. У гэтай мясцовасьці вымаўляюць *казоў, доў, узёў, дзёўчына, зоўтра* і пад. Але колькі вёрстаў ад Багданава ў сяле Войштавічы і м. Вішнева гэткай вымовы нямашака. Мярней гэтая асаблівасьць выступае ў Краўскай вол., дзе я назіраў яе ў сяле Арляняты.

2. *о* ў tros 73b17 (цксл. tręsu—tręsti) паўстала з прычыны чаргаваньня ненацісьненага *а* з націсьненым *о* (*нясу-нёс, вязу-вёз* і пад.).

3. *о* на месцу націсьненага *а* маем такжа ў лічбе *абодва*: 'abodvim 13b8, 79a13, 87b12, 'abodvich 17a8, 110b8 побач із траха аднолькавае лічбы з *а*: 'abadva 116a7 і інш. Карскі, II—1, 89 выясьняе паўстаньне гэтае зьявы так, што ў канцавым *а* першае часьці складзенага слова (*оба*) пачалі бачыць самагук суфіксу, «як у нейкім «ледоход». Але Крывіч гэтак ніколі думаць ня будзе, дзеля таго што ў складзеных словаў суфіксны самагук *о* з прычыны аканьня заўсёды гучыць як *а*, бо націск на гэтым складзе бывае адно як радкі вынятак. Тут зьдзеіў уплыў слова „*абое*“, дзе *о* спачатнае.

Два апошнія прыпадкі пераходу *а* ў *о* ведамы ўсім крывіцкім дыялектам.

Таксама агульна-крывіцкім ё замена нац. *а* на *е* ў слове „*глядзеці*“: hledzeči 112a2, 112a3 (тут націск на *гле*-) На зьмену гэтую магла дзеіць аналёгія (падобнасьць) дзеясловаў із насовым інфіксам у цяпер. часе (у крыв. *сяду-сесьці*).

Не пераход *а* ў *і*, але апіску пад уплывам папярэдняга *і* маем у skaržiliśi 113b7.

### Зьмена самагуку *о*

*Пераход ненац. о ў у* хіба трэба бачыць у прыкладзе hrŭmadami 95a6, бо спадзяваліся-б, што ненацісьненае *о* перайшло-б у *а*. Гэткая вымова хіба ё на цэлым прасторы віленска-ашмянскіх гутаркаў, запісана мною ў Арлянятах Краўское вол. Пераход *о* ў *у* тут стаўся пад уплывам наступнога вусьнянага *м*.

*Дыфтонг (двугук) на месцу о* хіба адбіваецца ў слове praruok 28a17.

*а* зам. *о* пад націскам у слове kalke 43a3 трэ выясьніці недаглядам.

У прыймені пісаным preciŭ (= *проці*) трэба бачыць псэўдоэтымолёгічнае напісаньне з *е* замест *а* зь ненац. *о* пад уплывам пол. przeciw.

*) аб двух вынятках што да **о** было сказана вышэй.

Адноўчы лучыла pricій 89a6 — апіска пад уплывам наступнога *i*.

*о прыстаўное маем* у прыслоўным прыймені *акром* з *окромъ*: 'akrom 25a13, 48b14 і інш. Прыкладаў множства, адхінаў нямашака.

*о адпалае* ё ў слове «спадар» з гаспадар з * gostьроdarь: Spadaru Bože, čistaje vada tvaje 'ačišci ceła maje hrešnaje 71b17, Bože Spadaru, jestem s pasku stvuronij (= stvo-) 81a10, Bože Spadaru, ja jestem is pasku stvuronij i znovu 'u pasuk (= пясок) pajdzu (зам. pajdu) i paskom būdu 'abernenij 82b2. Але ё такжа гэтае слова (і другатворныя) з пачатным *га-(го-)*: Jak vele pakojeй činй bez hospadara, dušu 'az'mu velik'im strachem tak 126b6, haspadarstve 12a15, й haspadarstve da trech dnej pri vas budući 12a16. Як бачым ужо з прыведзеных прыкладаў, дзьве хормы разгляданага слова розьняцца між собку і значэньням, пайменна *спадар* ужывалася ў вадносінах да Бога і (як із іншых памяткаў ведама) было ветлым зваротам да людзёў.

У слове «гарод» — 'u harodze, 'u sadu 73a14 побач із 'eharodem 78a17, 'eharodi 124a1 — *о* не адпала бо, як добра кажа Карскі, II—1, 174, тут ё апрычоны морфолёгічны твор, значыцца, слова «гарод» паўстала з «гарадзіць».

## Зьмены самагуку *е*

У крывіцкім языцэ з *е* спачатным зьлілося *е*, паўсталае 1) вакалізацай *ь*, 2) *е* ў групе *-er-* з прсл. -r- сонант. із самаг. элемэнтам, 3) *е* ў паўнагалосьсю, паўсталае з праславянскае групы *-er-*. З выняткам часьці дыялектаў з *е* зьліўся такжа двугук ѣ. Дзеля таго аднак, што *е* із спачатнага ѣ пры некаторых зьвах розьніцца ад *е* асталых, дык аб е з ѣ будзе гамонка асобна.

*Пераход е ў о*. Па зьмякчоных сугуках перад цьвярдымі націсьненае *е* пераходзіць у *о*. Прыкладаў множства. Прывяду адно некаторыя: ščodrašci 1b3, ščodrich 11a8, panižonuju 13a7, zaйčonich 13a14, nebos 1b7, šomaje 17a3, 'u z'elonam 18b15, zaйšohdi 19a14, išuй (= ішоў) 29b9, zišoй 41a4, šostaje 42a14, 45a13, imona 54b3, 54b10, mod 65a4, ves'ołahu 105a10, prinos 113a2, ucok 80a1, dnoй 27b10, vūžoй 129b8, mūžoй 129b5.

У таковых, як *мужоў, днёў* барждзэй *е* перайшло ў *о* нефонэтычна, але па аналёгіі з канчаткам *о-* асноваў.

Не фонэтычны ё пераход *е* ў *о* ў instr. sg. (тв. адз. л.) ў васноваў мяккіх: 'ajcom 22a8, dažčom 47b14, dnom 96b15, 'ehnom 128b1, kanom 111b6 і г. д., бо спачатна тут было—*мь*. Так сама ў мяккіх ja- асновах: z'emloj 126b9, dušoju 29b2 і г. д. Замена тут сталася аналёгічна пад уплывам асноваў цьвярдых (*сталом* з *сталъмь, жаною* і пад.).

Так сама аналёгічна подле *томь* паўсталі хормы займёнаў мяккіх асноваў masc., n. ў loc. sg.: na šom 2b10, 'u jom 14b4, ni й čum (= чом) 17b17, na йšom 19a16 ū dome svajom 25a17. Гэтыя хормы ў бальшыні проці хормаў з *е*: na sūdze svajem 10a9, 'u domu svajem 12b11, 12b12, 31a14 і інш.

У gen., dat., loc., instr. sg. займ. мяккіх асноваў жаноцкіх: starajceše majoj 'udzačnašci 11a5, nad matkaj majoj 11a14, vulej (=волей) svajoj 3b8, 'e (= a) majoj prihodze 19b4, łask'i majoj ne būdze 26a9, da chełapji majoj 36a4, й moci majoj 61b1, 'us'oju 8:b5, 'u majoj 84b16, joj (dat.) 100a1, u łasce majoj 81b4, svajoj (instr.) 99b16 і г. д. Тут *о* паўстала аналёгіяй dat.-loc. *той*, instr. *тою*, адгэтуль хормы з *о* прайшлі такжа да gen. sg. Але большая колькасьць прыкладаў ёсьць із *е* ў гэтых склонах: da łask'i svajej, 'u łasce svajej 12b13, svajeju 15b5, 28a10, 30b17, da majej 29a11, pa tvajej šmerci 33a16, čijej 38a16, tvajej (dat.) 52b9, majeju 70b11 і інш.

*е* не пераходзіць у *о* перад ацьвярдзелымі *ж, ч, ш, ц*: ne jdzeš 53b1, upjecce 63b2, napjecca 63a16, adzežu 70a3, 72b17, 74a4, 'abrečešše 83a12, pješ 83b7, 84a17, pluješ ib., 'adervecca 126a3, šmejecca 131a7, razdzerecca 1b6 і інш.; адхінаў нямашака.

Так сама перад ацьвярдзелым *м* няма пераходу *е* ў *о*: cemnošc (з тьмьность) 34b5, cemnašc 77b16, 78a4, cemnašci 78b10, 79a7, cemna 108a5, 108a6, толькі адзін раз стрэлася comnich 79b1; karčemnije (з кърčьмьнъ) 63a1, 63b2, dušejemca 1:5a6, dušajemcam 138b12, tajemnuju 105b2, tajemno 130a3, tajemnije 138a16.

*е* не перайшло ў *о* ў lehъk-: lechka 19a6, 79b14, lechko 35b11, lechk'im 94b8, 'ulechce meli 129b5, 'ulechce mec 1:8a9, 138a10. У цяперашняй мове кажацца «улехца» (ехаць), але «лёгкі, лёгка».

У мове «Аль кітабу» *е* не пераходзіць у *о* ў infin. (неазначаным ладзе) 1 клясы 6-ае групы: 'umerci 30a7, 39a16, 137b5, 106a10, pacerc 72b5, umerci 53a5, 68b7, cerci 48b16, cerc 43a5, ucerc 113b9. Цяпер у віленска-ашмянскіх гутарках дзеясловы 6-ае групы 1-ае клясы маюць у неазначаным ладзе толькі *о* (*цёрці, умёрці* і г. д.).

Далей ё *е* ў парціціпіех тае-ж групы дзеясловаў: 'umerłaho 18b14, raspašcerši 83b2, 83b4, 'abernenij 81a1, 81b3, 'umer 39b8, 105a5, umerła 104b9, 'aperłaše 108b7. Але стрэліся два прыклады і з *о*: rašpašcorši 73b10 і 'umor 18b11. Цяпер у віленска-ашмянскіх гутарках менаваныя хормы маюць у бальшыні *о* (*умёр, умёрлы*, хоць *зьмерз, зьмерзлы*), значыцца пазьней у гэтых гутарках пашырыўся процэс, што адно пачынаўся ў XVI стаг.

У дыялекце паўднёва-заходнім дзеясловы 6-ае групы 1-ае клясы захавалі дагэтуль *е* ў поўнай сіле ў неазначаным ладзе і ў складзе -ер- з *-r-* сон. у парціціпіех і ў іншых часьцёх мовы. Не ў парціціпіех захавалася *е* гэткага паходжаньня ў большай меры такжа ў віленска-ашмянскіх гутарках. Прыкл.: umiérłyje Ваўк. п. Feder. I, 69, žèrdočka Навагр. п. Klich, 220, бèрда Ашм. п., мой запіс, čaćviérty Ваўк. п. Feder II, 20 і інш.

У мове «Аль кітабу» апрача адхінаў перад ацьвярдзелымы сугукамі, значыцца перад *ж, ч, ш, ц* і *м* з *мь*, асталыя адхіны дваякія. Адныя, як merci могуць быць выясьнены тым, што *е* не пераходзіць у *о* перад мяккімі *складамі*. Гэткае правіла ўстанавіў у польскім языццэ *Я. Лось* („Gramatyka polska“ 1922 г., I, 34), а ў украінскім *А. Крымскі* («Украинская грамматика» 1907 г., I, 395). Няпроста выказаўся за гэта *А. Сабалеўскі* ў «Лекціи"», 1907, 66, 3 адступ. Подле гэтага ў lechk'i па шчэзьненьню *ъ* і зьмякчэньню *к* другі склад быў мяккі. Аналёгіяй lechk'i асталося *е* не зьмяніўшыся ў *о* ў lechka, як у цяперашняй мове тых-жа прастораў пад уплывам adv. *далёка* паўстала *далёкі* (*о* з *е* перад мяккім *к*). (*Далей будзе*).

---

АНАТОЛЬ ІВЭРС

* * *

Чым прыкавала ты, вёска, мяне —
доляй сваёй ці нядоляй? —
Ведаю — смутак, бяда праміне
ветрам гуляючым ў полі.

Не падкрадзецца зара, як калісь —
самі яе мы прывабім...
Будзе кружыць ападаючы ліст
ў хор заміраючы жабі.

Ды вераб'і на гумне на страсе
спрэчку аб нечым падымуць,
толькі адходзячых вырай гусей
зьнікне балюча у дыме.

І распаложыцца сьнежная бель
ўзорам бялейшых палотнаў —
тады можа песьню злажу я табе
рукой мазалістай і потнай.

## Збуджаны верш

Мы ня плакалі ўчора, як цісnуў мароз.
Сёньня мутнае неба ня хоча зьвінець.
На дарозе ў сустрэчным паходзе бяроз
мы расталіся неяк ў тваёй старане.
За імглою імгла налятала нераз —
на шляхі маладыя і вольную шыр,
дзе заўсёды займаецца жарам зара, —
яе вецер расхіне—ня можа стушыць!..
Вочы сінія вабяць цябе мо' й цяпер
і плывеш ты у думках на хвалях жытоў...
Успамінамі раньнімі збуджаны верш
з грудзей вырваўся ў даль—я ня знаю нашто.



М. ШКЯЛЁНАК

## Культурнае рабства

Маем на мэце тых Беларусаў з паходжаньня, каторыя асымілёваліся культурна, прыняўшы «вышшую» польскую або расейскую культуру. Гэткіх Беларусаў асабліва шмат можна спаткаць між нашай інтэлігенцыяй, як даваеннай гэтак і пасьляваеннай. Людзі гэтага тыпу лічаць сябе нават Беларусамі, але кажуць, што культурна яны Расейцы або Палякі. Гэтае ненатуральнае злучэньне паняцьцяў магчыма толькі пры поўнай нэгацыі самастойнасьці беларускае культуры. Апошняя ў іх разуменьні мае зьмясьціцца ў рамах польскасьці або маскоўшчыны, як нешта рэгіёнальнае, нязначнае, над чым ня варта спэцыяльна працаваць. Зразумела, што гэта культурная асыміляцыя вядзе няўхільна і да ацыміляцыі дзяржаўнай, інакш палітычнае. Гэткія Беларусы пераважна зьяўляюцца больш ці менш выдатнымі расейскімі і польскімі дзеячамі. З пільнасьцю, уласьцівай усякім нэафітам, яны шыраць у нас расейскую і польскую культуру энэргічней ад запраўдных Палякоў і Расейцаў.

Гэткага адношаньня да чужых культур ня можна інакш назваць, як *рабствам*, а засымілёваных культурна Беларусаў — рабамі. Паняцьце раба супануе заўсёды паняцьце пана. Немагчымы раб, які-б нікому ня служыў. Панам можа быць ня толькі фізычная асоба, але і адарванае паняцьце, як прыкладам чужая культура. Характэрнай азнакай узаемаадносінаў між рабам і панам ёсьць сьляпое, бязкрытычнае служэньне *чужым* панскім інтарэсам. Раб, які пачынае крытыкаваць свайго пана, або разумець, што служа *чужым* інтарэсам, ужо ня будзе рабам. Побач з гэтай сьлепатой і бязкрытыцызмам у раба наглядаецца заўсёды *пагарда* да сябе, да свайго. Дзякуючы гэтым азнакам у старажытнасьці раба лічылі проста прадметам. І гэта правільна, бо немагчыма лічыць поўнавартасным чалавекам адзінку, якая сама сябе чалавекам лічыць ня хоча, а прыраўноўвае сябе да панскае жывёлы, мэбляў і г. д. Кажуць: «рабы ненавідзяць сваіх паноў». Вось-жа гэткіх рабоў немагчыма лічыць рабамі. «Узбунтаваныя» рабы — ўжо не рабы. Гэта людзі, якія пачынаюць разумець свае інтарэсы і імкнуцца да вызваленьня. Маем на мэце толькі рабоў сьляпых, адданых бязкрытычна пану. Гэткім панам, як зацемлена вышэй, можа быць і чужая культура.

Рабоў у вапошнім разуменьні мы, Беларусы, маем поўна. Хіба ня знойдзецца сьведамага Беларуса, які-б ня стыкаўся з Беларусамі—рабамі чужых культураў. Адданасьць гэтых Беларусаў сваім панам ёсьць часта задзіўляючай.

Дзе карані гэтага духовага рабства часткі нашае інтэлігенцыі і ў чым практычна яно праяўляецца?

Мы ня будзем зьвяртацца ў мінуўшчыну, каб вытлумачыць гэтае зьявішча, хоць і тады ўжо ў нас гэтае рабства напашыралася. Досыць успомніць ведамы сказ тагачасных напалавіну засыміляваных культурна Беларусаў гаварыўшых аб сабе: «gente Ruthenus, natione Polonus», ды ведамы зварот з прамовы смаленскага кашталяна Мялешкі, сказаўшага аб гэткіх рабох, што яны хоць і свая косьць, але абрасла сабачым мясам і ваняець. Здаецца, што культурнае рабства часткі нашае інтэлігенцыі можна выясьніць іншымі дзейнікамі, а галоўна псыхолёгічнымі.

Інтэлігенцкім культурным рабом у некаторай ступені трэба нарадзіцца. Трэба ад нараджэньня мець *прэдыспозыцыі* да рабства. Рабская псыхіка ў чалавека з псыхічнымі склоннасьцямі да няволі, калі ён апынецца ў спрыяючых умовах, багата разаўецца. Нявольніцкія прэдыспозыцыі будуць пхаць абдзеленага імі інтэлігента да шуканьня *сілы-пана,* у рабства якой гэткі інтэлігент дабравольна йдзе коштам рэзыгнацыі з сваей людзкой годнасьці. Гэтае рабства дае яму духовы супакой, парадкавае яго сумленьне. Гэткі інтэлігент пачынае глядзець *на сябе самога* вачмі свайго пана, будзе згадваць яго волю і паступаць са сваімі гэтак, як паступаў-бы пан, калі-б быў на ягоным месцы. А якія-ж спрыяючыя ўмовы патрэбны дзеля разьвіцьця рабскіх прэдыспозыцыяў. Ясна, ідзе тут аб умовы створаныя дадзеным панам, трэба трапіць у сфэру ягоных уплываў.

Гэткім парадкам культурнае рабства беларускага інтэлігента з нявольніцкімі склоннасьцямі азначыцца паводле таго, у якога пана ён апынецца. Беларусы *расейскае* культуры маглі-б быць дужа добра *польскай,* і наадварот, бо іхняя культурная асыміляцыя залежыць ад таго, куды яны перш трапілі і якой атмасфэрай перш дыхалі. Гаворачы аб людзях з псыхічнай склоннасьцю да культурнае асыміляцыі, мы, зразумела, ня маем на мэце тых, якія з карысных мэтаў пакрываюць сваю прыналежнасьць да расейшчыны ці польшчыны. Маем на мэце толькі тых культурных рабоў, якія працуюць на свайго пана бязінтэрэсоўна, сумленна. Гэткія Беларусы ў кожных найнепамысьнейшых абставінах будуць працаваць на карысьць асыміляваўшае іх культуры. Годзі ўспомніць для прыкладу, колькі Беларусаў з усей адданасьцю працуе між расейскай эміграцыяй бяз усякай матарыяльнае нагароды. Ведама агульна, што ўмовы іхняе працы з кожнага гледзішча вельмі цяжкія, аднак гэта іх ня пужае. Тут якраз мо' маем клясычны прыклад культурнага рабства часткі Беларусаў з паходжаньня, прыклад сьляпой адданасьці свайму пану.

Ці апрача псыхічных склоннасьцяў да рабства ёсьць іншыя яго прычыны, — гадаць ня будзем. Лічым гэтую прычыну найважнейшай. Іншая рэч, скуль бяруцца гэтыя рабскія прэдыспозыцыі ў натуры чалавека. Магчыма тут мае сваё



значэньне пераймо ў спадчыне свайго роду «камплексу нізшасьці», як плоду паравяковага залежнага жыцьця беларускага народу. Камплекс собскае нізшасьці перадаваўся з пакаленьня ў пакаленьне, як заразная хвароба, і стварыў гэтыя нявольніцкія склоннасьці ў псыхіцы некаторых Беларусаў.

Мы сказалі, што беларускі культурны раб азначаецца пагардай да сябе і свайго і на ўсё глядзіць вачмі пана. Панжа «літуецца» над рабамі і даказвае ім, што яны не зьяўляюцца поўным нулём, але нейкай часткай яго панскай істоты. Пан дапушчае рабоў у сваю культурную грамадзкасьць, як радню, а ня купленых дзесь на міжнародных рынках чужаземных іншапляменных нявольнікаў. Падчырківаем гэты мамэнт «радні» з панам, бо ён для культурных рабоў мае колёсальнае значэньне ў сэнсе ўспакаеньня іхняга рабскага сумленьня. Ведаць, што сам пан міласьціва залічвае іх побач з іншымі чужапляменьнікамі, якіх у яго многа, да свае супольнасьці, для нявольніка важна. Тады раб ня чуе сябе ізаляваным, нейкім прыблудай, а толькі «сябрам» панскай культурнай цэласьці. Лічучы раба «сваім», пан загадвае яму прапагаваць гэтае «ганаровае радство» між сваімі аднапляменьнікамі і адначасна шырыць пагарду да тых, каторыя гэтага «радства» выракаюцца. Гэткім парадкам асыміляваныя культурна Беларусы на перабой заганяюць беларускую культуру да расейскай або польскай. Сам тэрмін «беларуская культура» выклікае ў гэтых людзей абурэньне. «Какая может быть бѣлорусская культура»?—Co to jest kultura białoruska»?—іранічна пытаюцца гэтыя асобы паходзячыя часта з аднае беларускае сям'і і ў найлепшым прыпадку пацiскаюць плячмі. Згодна з загадам сваіх паноў, яны прызнаюць беларускую культуру, як малазначную народную творчасьць у рамах вялікіх польскіх або расейскіх культурных дасягненьняў. У сьляпой адданасьці сваім панам, гэтыя асыміляваныя Беларусы ня хочуць бачыць абсурдальнасьці сваіх вывадаў, паіменна, што беларуская культура, якая-б ня была яе параўнальная вартасьць, ня можа быць адначасна польскай і расейскай. Залічаньне яе да расейскай тым самым выключае думку аб яе польскасьці і наадварот. Але гэтая супярэчнасьць, як аказваецца, зусім ня псуе адносінаў між нявольнікамі розных паноў. Ідзе аб тое, што паны гатовы лепш дапусьціць гэтую абсурдальную супярэчнасьць, над якой можна падыскутаваць, чымся пагадзіцца з існаваньнем асобнай беларускай культуры і гэтым дапусьціць у сваё асяродзьдзе небясьпечнага бунтаўніка. Нэгацыя беларускасьці, як нейкай апрычонай культурнае цэласьці, лучыць паноў і рабоў. Успомненая-ж абсурдальная супярэчнасьць выклікае толькі «навуковую» дыскусію, ведзеную галоўна беларускімі рабамі. Паўстаюць вялізарныя томы «навуковае» макулятуры, з помаччу каторай Беларусы «двух культур» у помач сваім паном стараюцца даказаць польскасьць

або расейскасьць беларускае культуры. Гэтая макулятура ёсьць паказальнай для ўсіх і, як вочы зьмяі на птушку, дзеіць на душы тых-жа Беларусаў з рабскімі склоннасьцямі.

З пачуцьця радні з «панскай» культурай плыве пагарда раба да сваей. Інтэлігенцкі беларускі раб хоча ўва ўсім быць падобным свайму пану. Пляма, аднак, «няпанскага» культурнага паходжаньня мучае раба і магчыма ад часу-да-часу ўзварушыць яго сумленьне. З тым большым разгонам кідаецца ён на нішчэньне сьлядоў собскага паходжаньня. Іменна сьлядоў паходжаньня, бо пакуль яны будуць відавочны, датуль раб спакойна жыць ня можа.

Жаролы беларускай культуры, яе багацьце і самастойнае значэньне між культурамі расейскай і польскай, найлепш паказвае наша гісторыя. Вось-жа дзеля апраўданьня культурнай асыміляцыі Беларусаў, неабходна беларускую гісторыю зьнішчыць, інакш з яе можна будзе заўсёды даведацца аб паходжаньні і ролі беларускасьці. З гэтай мэтай паны і іхнія беларускія рабы з асаблівай энэргіяй стараюцца вычыркнуць Беларусаў з гісторыі. З усёй пэўнасьцю можна казаць, што беларуская гісторыя адчула наймацней разбураючую руку рабоў-Беларусаў. У сваей разбураючай працы рабы карыстаюцца аружжам, выдуманым панамі. Гэтак рабы расейскага пана паўтараюць за ім, што ніякага беларускага народу няма і ня было, быў і ёсьць «единый русскій народ», складовай часткай якога зьяўляюцца між іншымі і Беларусы. Ніякай апрычонай гісторыі Беларусы ня мелі, была толькі гісторыя «общерускaя». З гэтай мэтай расейскі пан папросту ўкраў багатую беларускую і ўкраінскую гісторыю і далучыў яе да маскоўскай. Менш аб тое, што з гэтага мэханічнага злучэньня нічога ня выходзе і што нават да апошніх часоў расейскія гісторыкі ня могуць выпрацаваць сынтэтычных асноў гэтай «общерусской» гісторыі, інакш даказаць арганічную цэласьць яе. Рабом гэта не патрэбна. Для іх хопіць бязмыснага паўтараньня за панам, што сталіцамі Расеі былі Ноўгарад, Кіеў, Уладзімір на Клязьме, Масква, Пецярбург, што Полацак, Менск, Смаленск, Пскоў і іншыя беларускія цэнтры былі толькі «общерусскімі удзелами». Гэты мэханічны зьбіцень чужых гісторыяў імпануе Беларусам з рабскімі прэдыспозыцыямі. Хіба праўдзівыя «слёзы умиленія» выклікала ў іх заява расейскага цара на эміграцыі Уладзіміра Кірылавіча, які, запярэчыўшы магчымасьці каранаваньня яго на асобнага ўкраінскага цара, сказаў, што хто-б дапушчаў гэта, той: «совершенно не зналъ-бы исторіи императорской Россіи. Вѣдь Кіевъ — это колыбель Россіи».

Рабы польскай культуры карыстаюцца так-жа дадзеным ім у рукі аружжам. Тут гаворыцца, што Вялікае Княства Бел.-Літ. было натолькі агорнута польскай культурай, што лічылася ня больш, як польскай правінцыяй. Міцкевіч, Сыракомля,



Касьцюшка, Крашэўскі назаўсёды злучылі землі Вял. Княства з Польшчай. Толькі польскі дух быў тут творчым і рабіў гісторыю. Усё, што ў яго рамы не ўкладалася, — было ўсходам, барбарствам, нягістарычным.

З гэткім аружжам нашыя рабы чужых культур стараюцца, хоць і дарэмна, збурыць собскую гісторыю, зацёрці сьляды свайго паходжаньня... А гэта мела-б для іх колёсальнае значэньне. Тады яны з ўсей пэўнасьцю маглі-б гаварыць, што беларускі рух гэта нешта новае, сэзоновае, нягістарычнае, а ў найгоршым прыпадку выдуманы варожымі агентурамі. Сумленьне рабоў у гэткім прыпадку было-б чыстае.

Рабы працуюць для чужой культуры з поўнай адданасьцю і сэнтымэнтам. Характэрна, што для беларускай культуры яны ня маюць ня толькі ніякае спагаднасьці, але прагавіта жадаюць ейнай сьмерці. Можа іх узварушыць загуба — скажам — мэксыканскай, абісынскай культур, але ніколі беларускай. Трагедыя апошняе можа выклікаць у іх толькі ціхую радасьць. Адданасьць у працы для чужой культуры, спатыканая ў рабоў, ёсьць зразумелай з вышэйшых разважаньняў. Але скуль бярэцца тут пачуцьцё, сэнтымэнт да яе?

Рабы-інтэлігенты, з беларускага сялянства або мяшчанства, стыкаюцца з чужой панскай культурай у романтычным апрацаваньні. Романтызм, «багацьце», «шляхэтнасьць» польскае культурнае творчасьці выдаецца ім натолькі захопліваючымі і натолькі проціленжнымі да ўбогасьці собскага культурнага асяродзьдзя, што безапэляцыйна дэцыдуюць аб іхняй культурнай душы, будзяць у ёй сэнтымэнт да сябе. «Бедная» беларуская сялянска-мяшчанская культура выдаецца ім простай, грубой і гэтым самым няздольнай выклікаць і адрабіны таго пачуцьця, якое рабы маюць да чужой. Гэта некарыснае параўнаньне забірае ў іх далейшую цікавасьць да здабыткаў беларускіх культурнікаў. Змаганьне беларускіх культурнікаў з чужымі культурамі, прыняўшае апошнімі часамі шырокі размах, будзіць у іх душах нясмак да беларускасьці і яшчэ больш сэнтымэнт да чужыншчыны, з якой зрасьліся.

Мы стараліся паказаць прычыны паўстаньня і практычную дзейнасьць беларускіх рабоў. А якой мае быць ацэна гэтага зьявішча?

Тут шмат гаварыць ня прыдзецца. Культурныя рабы — гэта іменна і ёсьць той «гной», на якім мае буйна ўзрасьці на беларускай ніве чужая культура. Усе імкненьні чужынцаў да культурнае асыміляцыі Беларусаў асноўваюцца іменна на дапушчэньні існаваньня гэтага «гною» — рабства ў асымілёваным асяродзьдзі. Асымілятары аблічаюць, што гэтыя рабы знайдуцца, ідзе ім толькі аб тое, каб было іх як найбольш. Існаваньне гэтага «гною» ў значнай ступені апраўдвае нават прымусовую «культурную» асыміляцыю ў вачох ейных праваднікоў. А праз «нявінную» культурную асыміляцыю вядзец-

ца ўжо лягчэй і палітычная, што зусім зразумела. Грамадзянства, асыміляванае палітычна і культурна, ня ёсьць жывым. Да гэтага імкнуцца чужыя культурныя асымілятары, або, як іх называюць часьцей, «культуртрэгеры» ў адносінах і да Беларусаў.

Гэткім парадкам, ведаючы, што асыміляцыі паддаюцца людзі з рабскімі склоннасьцямі, што існаваньне рабства ў грамадзянстве зьяўляецца моцна небясьпечным, бо рабы — гэта першыя праваднікі чужой культуры ў сваім асяродзьдзі, а тым самым і першыя ворагі гэтага асяродзьдзя, усёроўна — сьведамыя ці нясьведамыя, — разгляданая тэма заслугоўвае на пільную ўвагу грамадзянства. Культурнае рабства — гэта хвароба ў грамадзкім арганізьме, з якой неабходна змагацца.

У канцы, — каб ня было памылак,—хочам падчыркнуць, што да культурных рабоў, само сабой разумеецца, ня можна аднесьці тых Беларусаў, якія, хоць і ўзгадоўваліся ў чужой— расейскай або польскай—культуры, але асталіся *думаючымі па-беларуску.* Гэтыя Беларусы нічога супольнага з рабамі ў разгледжаным сэнсе ня маюць, бо культурны раб паводле пададзенага тут азначэньня — гэта адзінка сьляпая, думаючая крытэрыямі свайго пана.

---

# Новыя гарманізацыі беларускіх песьняў у выкананьні хору Р. Шырмы

Учасьце хору Р. Шырмы ў апошнім (сьнежань, 1938) канцэртным выступленьні, разам з М. Забэйдай-Суміцкім, трэба адзначыць з асаблівай увагай. А гэта—ня толькі за мастацкае выкананьне беларускіх песьняў, але — і за харавую праграму канцэрту. Ня гледзячы на тое, што ў праграме фігуравалі толькі два імёны, яна адзначалася нязвычайным багацьцем і хараством музыкальнага зьместу. Ясна, што для вытлумачэньня гэтага трэба зьвярнуцца да гэтых двух імёнаў, тых двух кампазытараў, якія далі новыя гарманізацыі беларускіх песьняў.

Мы ўжо неаднойчы пісалі ў нашым часапісе аб тым, колькі прыкладае працы Р. Шырма да таго, каб зьвярнуць увагу найлепшых славянскіх мастакоў музычнага творства на скарбы песьнятворчай душы нашага народу. Мы казалі аб тым, як праз Р. Шырму горача зацікавіўся, каб не сказаць — папросту закахаўся, — у беларускай красуні-песьні такі вялікі тварэц-музыкант, як А. Ц. Грэчанінаў (Расеец), даўшы ўжо чарод цудоўных харавых апрацовак нашых песьняў, што адзначаюцца высокай мастацкай прасьцінёй і празрыстасьцяй стылю. А. Ц. Грэчанінаў усьцяж працуе над беларускай песьняй, карыстаючы зь яе багацьця і для ўласнага свабоднага мастацкага творства. Але Р. Шырма ня сьпіць. Ён шукае далей і далей. Апошнім часам яму ўдалося стварыць няменш шчасьлівае і плоднае „кангеніяльнае“ спатканьне беларускай песеннай душы з духам высокай музыкальнай культуры — у асобах двух украінскіх кампазытараў, якія жывуць у Амэрыцы. Гэта — Кошыц і Гайворонській.

У нашым артыкуле мы хочам бліжэй прыгледзіцца да таго творства абодвух мастакоў, якое было паказана на канцэрце хорам Р. Шырмы.

---

Наўперад — надзвычайна характэрна, што ў нашыя часы, калі блізу ўсе народы ня толькі малыя, але й вялікія, неяк замыкаюцца ў сваім нацыянальным сьвеце, абмяжоўваючыся ў вузкай яго сфэры, укладаючы ўсе найлепшыя сілы ў працу над уздымам і разьвіцьцём уласнага духовага жыцьця, абодва Украінцы, падобна вялікаму кампазытару Грэчанінаву, раскрылі шырака сваю творчую душу і для беларускай песьні, аддаючы на служэньне яе хараству свой час і сілы свайго выдатнага таленту.

Што перад намі тут зьявішча нейкага сьвятарнага „таінства“, шлюбу як быццам самога музыкальнага Эроса з песеннай Псыхеяй нашага народу, відаць з таго, з якім блізу рэлігійным піетызмам адносіцца, прыкладам, Кошыц да сваей працы над беларускай песьняй. У адным з сваіх лістоў да Шырмы ён піша, што адной беларускай калядкай ён „хварэў“ аж тры месяцы, носячы яе, як дзіцё, пад сэрцам, пакуль урэшце не „спарадзіў“ у сьвет да новага мастацкага жыцьця... Што-ж дзіўнага, што такі падыход да працы, такі рэлігійны настрой мастака, такое высокае ўзрушаньне яго душы ў творстве — спараджаюць, праўда, з поўнацэннага, вялізарнай красы, „сырца“ народнай песьні — творы вынятковай мастацкай сілы, хараства і цэннасьці!

З выкананай на канцэрце праграмы найбольш выдатнымі і значнымі былі дзьве песьні, апрацаваныя Кошыцам: калядка — *„Там за садам“* і валачобная — *„Лугам зяляненькім“*. Геніяльная ў сваей прасьціні і шчырасьці народная калядка ўзьведзена мастаком у „пэрлу стварэньня“, як любіў выражацца Гоголь. Песьня адразу прыкоўвае ўвагу, захоплівае красой і сьвежасьцю свайго мэлёсу. Але толькі бліжэйшы разгляд, паўторнае выкананьне дый параўнаньне з пачатным „сырцом“ даюць магчымасьць ацаніць усю мастацкую тонкасьць і цэннасьць уложанае ў яе апрацоўку творчае працы ці вярней „кангеніяльнага“ творства. Каля дзесятка вар'янтаў асноўнага матыву песьні зусім не зьяўляюцца „вольнай фантазыяй“ ці, як кажуць, „варыяцыямі“ на заданую тэму. Не, — кожны вар'янт арганічна зьвязаны з далейшым слоўным тэкстам песьні, памастацку ілюструючы

зьмест кожнай яе строфы. Слоўны тэкст і сплеценая з ім у адну жывую істоту музыка жывуць і зьмяняюцца разам. Творчая інтуіцыя мастака-кампазытара ў гэтай апрацоўцы беларускай песьні — папросту зьдзіўляючая. Асабліва-ж — канец песьні з яго вясельным матывам, такім папулярным у нашай вёсцы, які так памастацку завяршае калядку!

Такой-жа пэрлай мастацкай сынтэзы тэксту песьні і музыкі зьяўляецца і другая вялікшая з выкананых гарманізацыяў — „Лугам зеляненькім". І тутака таксама — кожны куплет не зьяўляецца простым паўтарэньнем аснаўнога матыву, але яго самастойнай перапрацоўкай — згодна з далейшым слоўным цячэньнем песьні. Кожны куплет — індывідуальнае, жывое зьвяно суцэльнага ланцуга. Выступленьне паасобных галасоў і іх спалучэньне і тут органічна зьвязана з тэкстам. Канчаецца гэтая вялікодная песьня валачобнікаў (якой нямашака ў іншых народаў сьвету) — урачыстым царкоўным харалам, замыкаючым надзвычай удачна мастацкую цэласьць песьні.

Ясна, што мы маем перад сабой нешта значна большае, як простую гарманізацыю. Гэта — запраўднае творства мастака на аснове народнага песеннага „сырцу". З аднаго боку, толькі на „аснове" гэтай вякамі вынашанай народам і спароджанай з Божага насеньня песьні можа мастак дасягнуць гэтай вышыні ў сваім творстве, а з другога боку — сама песьня можа раскрыць усё сваё багацьце, усё хараство творчае душы народу — толькі тады, калі яе „падыме" на новую вышыню новы творчы „дух" вольнага мастака, за якім стаіць веда і штука тысячалецьцяў музычнай культуры... Такую сынтэзу „народнае душы" і „мастацкага духа" — і даюць нам цудоўныя творы Кошыца.

Няменш цікавае і цэннае творства Гайворонськага. Апроч раду гарманізацыяў, якія таксама адзначаюцца мастацкай фактурай, выканана была хорам уласная кампазыцыя Гайворонськага — яго музычны абраз *„Спакойна дрэмлець Нарач"* — на словы паэта Максіма Танка. Абраз захоплівае сьвежасьцю і сілай малюнку. Але — ізноў — трэба добра ўчытацца ў тэкст, дый адначасна ўслухацца ў яго вокальную ілюстрацыю, каб цалком аценіць сынтэтычную мастацка-жывапісную яркасьць, точнасьць і гармонію ўсяго паэтыцка-музычнага абразу. Але апроч вонкавай, так сказаць, красы, абраз Нарачы мае, як і самы верш Танка, характэрны ўнутраны сымбалізм, які надзвычай выразна выяўляе і падчырківае музыка Гайворонськага.

*Ул. Чэмер*

---



# Два канцэрты хору Рыгора Шырмы

У сакавіку двойчы выступаў на канцэртнай эстрадзе ў Вільні ведамы Рыгор Шырма з сваім хорам. Першы канцэрт хору Беларускага Студэнцкага Саюзу адбыўся ў залі Сьнядэцкіх У.С.Б. 3 сакавіка, другі — пашыранага хору Катэдральнага Сабору — у залі Кансэрваторыі 9 сакавіка. Праграма першага канцэрту зьмяшчала выключна гарманізаваную беларускую народную песьню, якая зьяўляецца, як ведама, — ня толькі „жалезным рэпэртуарам", але можна сказаць — *залатою валютай* хору Шырмы. Мы нярaз пісалі аб тым, якія выдатныя сілы музыкальнага сьвету зацікавіліся беларускай красуняй-песьняй дый аддаюць на мастацкае выяўленьне і падвышэньне яе прыроднай красы сваю высокую музыкальную культуру і свае таленты. Блізу ўсе гэтыя найвыдатнейшыя творцы былі прадстаўлены ў праграме канцэрту: Галкоўскі, Гайворонській, Грэчанінаў, Евец, Кошыц, Рагоўскі, Сьвешнікаў, Уладзімірскі.

Аб працах нова-зацікавіўшыхся беларускай песьняй, праф. Кошыца і Гайворонськага, мы казалі вышэй. Тутака адзначым толькі, што блізу ўсе нумары з іхнім імем упяршыню выканаы былі хорам — з новай партыі, толькі што атрыманай Р. Шырмам ад высокіх амэрыканскіх мастакоў. Асабліва трэба адзначыць музыку Гайворонськага на сільны верш Танка — „Прайдуць гады", як адзіны вынятак з усей чыста народнай праграмы. Адзначым яшчэ працы маладога беларускага кампазытара Еўца, які падае добрыя надзеі. Адзначым яшчэ, што асаблівую ўвагу зьвяртаюць мастакі-гарманізатары на *валачобныя песьні* Беларуса, якія, як ведама, зьяўляюцца выключнай уласнасьцяй, манаполям, ці *рэгаліяй* нашага Народу. І гэта правільна, бо-ж гэтыя песьні адзначаюцца характэрным рытмічным складам, даючым, аднак, шмат вар'янтаў, што, у злучэньні з іх першароднай красой, можа зрабіць валачобную песьню, так сказаць, „авангардам" у тым паходзе на падбой сьвету, які бясспрэчна пачала ўжо беларуская музыка ў нашыя часы. Шырма даў аж тры валачобныя песьні ў сваей праграме ў апрацоўцы Кошыца і Гайворонськага і ўсе яны, гэтыя песьні, як розныя кветкі, розьняцца паміж сабою, захоўваючы нейкую лучнасьць у рытме.

Выкананьне праграмы, як заўсёды, было мастацкае, сагрэтае шчырай беларускай душой — і хору і яго дырыгента. Ці трэба казаць, што сугучча, якое стала лучыць беларускі хор Шырмы з яго аўдыторыяй, пераважна таксама беларускай па сваім складзе, і на гэты раз выклікала водгукі бурнага захапленьня з боку апошняй. Трэба адзначыць, што канцэрт хору быў прысьвечаны 15-лецьцю працы Рыгора Шырмы на ніве беларускага музычна-вокальнага мастацтва. Таму вопляскі аўдыторыі прынялі характар бурнай авацыі ў чэсьць паважанага Юбіляра. Юбіляру былі паднесены ня толькі кветкі, але й прыгожа вы-

шытыя ручнікі — ад моладзі, якая хіба-ж найбольш цэніць душой яго ахвярную мастацкую працу.

Зусім іншы характар меў другі канцэрт — пашыранага хору Шырмы — у залі віленскай Кансэрваторыі. Праграма яго складалася выключна з твораў праваслаўнай духоўнай музыкі, пераважна кампазытараў кіеўскай школы. Галоўныя імёны праграмы — Вэдэль, найстарэйшы, Кошыц, сучасны, і Стэцэнко.

Стэцэнко — кампазытар новы. Ён памёр у 1927 г., маючы 35 гадоў — у Кіеве ад тыфусу. Стэцэнко — вучань Кошыца, і Кошыц, пасылаючы яго творы, нідзе яшчэ недрукаваныя, Шырме, піша аб яго працы з найвялікшым захапленьнем. Творчасьць самога Кошыца ў галіне царкоўнай музыкі адзначаецца тэй самай яснасьцяй і празрыстасьцяй фактуры, сілай і шчырасьцю выяўленьня творчай душы, як і ў галіне музыкі сьвецкай. Вэдэль, як сказана, стары кампазытар, яшчэ з часоў Паўла I. Яго лёс быў страшэнна цяжкі, — скончыў Вэдэль жыцьцё ў вастрозе, ад чорнае мэлянхоліі, як „палітычны вязень". Блізу геніяльны музыкант, Вэдэль, выкліканы з Кіева ў Маскву, тутака — на чужыне — перажыў востры духовы крызыс, кінуў сьвет і пайшоў манахам-песьняром-прапаведнікам „у народ", паперэджаючы ў гэтым расейскіх „народнікаў". Абарванцам, „брадзягай" хадзіў ён па вёсках, пяяў свае натхнёныя духойныя творы — ня ў панскіх залях, але ў сялянскіх хатах прыгоннага хлебароба... Ясна-ж, такой культурнай работы „не маглі" знасіць абшарнікі, і ўрэшце.. Вэдэль быў абвінавачаны ў „камунізьме" дый папаў, па загаду самога цара, у турму... Мастак, якога насілі-б на руках у кожным краі, якога народ шануе і цэніць свае духовыя вартасьці, зьгінуў, але творы яго захаваліся — ў тысячах рукапісах. Кошыц сам перагледзіў гэтую цэнную спадчыну, перарэдагаваў яе, на падставе дасягненьняў сучаснай мастацкай тэхнікі, і найлепшыя рэчы прыслаў Шырме. Творы Вэдэля робяць найвялікшае ўражаньне. Гэта адчула і аўдыторыя на канцэрце Шырмы. Беларуская мастацкая духоўная музыка была прадстаўлена беларускай народнай калядкай, старанна згарманізаванай праф. Галкоўскім.

На канцэрце было найбольш беларускай моладзі, але была і расейская, а нават — і польская, каталіцкая. Бо-ж ведама, праваслаўная царкоўная музыка мае сусьветную славу. Было шмат праваслаўнага духавенства.

Хору і яго мастаку-рэгенту, Юбіляру, рабілі бязупынныя авацыі.

*Ул. Чэмер*



*З ЖАЛОБНАЕ КАРТЫ*

## Людвік Абрамовіч

*(Замест хаўтурнае прамовы)*

9 сакавіка с. г. памёр на 60-ым годзе жыцьця ведамы ў шырокіх колах беларускага грамадзянства рэдактар польскага часапісу „Przegląd Wileński", Людвік Абрамовіч.

Побач з нячысьленай групай польскіх дэмакратаў, побач з прадстаўнікамі Літвіноў, праводзілі нябожчыка на месца вечнага адпачынку на Росе прадстаўнікі ўсяго беларускага грамадзянства — бяз розьніцы груп і кірункаў. Бо-ж сьв. п. Людвік Абрамовіч пакінуў сярод Беларусаў добрую памяць аб сабе.

Абрамовіч — віленскі старажыл. Як публіцыст, ведамы ўжо ад 1906 году, калі пачаў супрацоўнічаць у польскай дэмакратычнай газэце „Gazeta Wileńska". Гарачы польскі патрыёт, ён лятуцеў аб ускрашэньні Польшчы і змагаўся, як мог, за правы польскага народу пад уладай Расеі. Але адначасна пачуваў сябе грамадзянінам і нашага краю, думаў аб ускрашэньні колішняга Вялікага Княства Літоўскага, аб'яднанага фэдэрацыйнымі сувязямі з Польшчай, і культурнай мінуўшчыне гэтага краю прысьвяціў дзьве навукова-дасьледчыя працы.*) З поўнай пашанай адносіўся да адраджэнска-вызвольных імкненьняў Беларусаў і Літвіноў, хоць і з аднымі і з другімі разыходзіўся ў палітычных ідэалах.

У тыя далёкія перадваенныя часы дэмакраты ўсіх нацыянальнасьцяў Расеі мелі шмат супольнага. Злучала іх перад усім супольная ідэолёгія і неабходнасьць змагацца з супольным ворагам — царскай уладай, каторая роўна няволіла і так званых „інародцаў" і народ расейскі. Усе імкнуліся да волі, усе бачылі ў другіх нацыянальнасьцях натуральных саюзьнікаў, усе мелі супольны язык. Лёгка тады было згаварыцца з усімі і польскім дэмакратам, а на землях беларуска-літоўскіх яны ў пэўныя мамэнты нават маглі супрацоўнічаць і з Беларусамі і з Літвінамі.

Пасьля ўскрашэньня Польшчы гэтае супрацоўніцтва спынілася, гэты супольны язык — счэз. Паміж „пануючай нацыяй", нават паміж яе дэмакратычнымі групамі з аднаго боку і нацыянальнымі „меншасьцямі" з другога стварылася непераступная прорва. І толькі рэдкія адзінкі спасярод даваеннае польскае краёвае дэмакратычнае інтэлігенцыі захавалі старыя сувязі з Беларусамі і Літвінамі, зьберагл і колішні супольны язык з імі. Да гэткіх адзінак, лічба каторых з году ў год усьцяж безпаваротна зьмяншаецца, належыў і Людвік Абрамовіч.

*) „Problem Litwy podczas wojny światowej. Zbiór dokumentów, uchwał, odezw i t. p." i „Cztery wieki drukarstwa w Wilnie (1525—1925)".

У даваенныя часы на грунце разыходжаньня ў палітычных ідэалах паміж Абрамовічам і Беларусамі ўзьнімаліся і спрэчкі, і сваркі — нават даволі вострыя. Але было гэта тады, калі ўсе споркі аставаліся йшчэ ў сфэры тэорэтычных разважаньняў, калі словы йшчэ не ператвараліся ў дзела. Збліжэньне паміж Абрамовічам і Беларусамі адбылося шмат пазьней — ужо пасьля ўскрашэньня Польшчы, калі ўчарашнія лятуценьнікі пачалі рэалізаваць свае тэорыі ў жыцьці. І як-жа далёка адыйшліся яны ад вызнаваных перад вайной ідэалаў!..

Людвік Абрамовіч захаваў поўнасьцю старыя свае ідэалы. Ня мог маўчаць аб тым, што выклікала ў яго боль і патрэбу пратэсту. Узнавіўшы выдаваны йшчэ перад вайной часапіс свой „Przegląd Wileński", ён з вялікай грамадзкай адвагай выступіў на абарону інтарэсаў беларускае й літоўскае „меншасьцяў" у Польшчы, каторыя на сваей зямлі складаюць большасьць. Ён голасна трэбаваў пашаны для нашых нацыянальных правоў, трэбаваў здаваленьня эканамічна-гаспадарчых патрэбаў нашага краю і інтарэсаў працоўных масаў гэтага краю. Блізка супрацоўнічаў ідэйна з ведамым віленскім грамадзкім дзеячом адвакатам Тадэушам Врублеўскім, каторы шчыра бараніў правы Беларусаў і Літвіноў ды называў сябе „грамадзянінам Вялікага Княства Літоўскага"; пад уплывам апошняга верыў, як і Врублеўскі, што цэнная рэч — бацькаўшчына, але яшчэ больш цэнная — *воля,* воля для ўсіх грамадзян бяз розьніцы нацыі і веры. Часапіс „Przegląd Wileński" ў працягу цэлага раду апошніх гадоў быў адзінай трыбунай, з якое самі Беларусы маглі прамаўляць да польскага грамадзянства, інфармуючы яго аб сваіх патрэбах і балячках. Праўда, ня ўсё даходзіла да тых, для каго пісалася: за апошнія два гады часапіс Абрамовіча быў сыстэматычна канфіскаваны і паасобныя нумары траплялі да рук чытачоў часта праз некалькі месяцаў пасьля свайго выхаду, калі суд здымаў канфіскату.

У 1936 годзе Абрамовіч спраўляў 30-летні юбілей сваей публіцыстычнай працы. Пасьля публічнага абходу, на каторым гаварыліся шчырыя дый няшчырыя прамовы аб заслугах Абрамовіча для нашага краю, юбіляр папрасіў да сябе на вячэру некалькі бліжэйшых ідэйна асоб — пару Беларусаў, пару Літвіноў і некалькі Палякоў. І тут былі прамовы—толькі ўжо бязспрэчна зусім шчырыя. Прамовіў і сам юбіляр. Гаворачы аб працы ўсяго свайго жыцьця, ён адзначыў, што ў даваенныя часы — часы няволі для Палякоў — ён горача бараніў правы польскага народу і тады пападаў у канфлікты з другімі народамі нашага краю. Шмат хто меў тады падставу крытыкаваць ягонае становішча. Але пасьля ўскрашэньня Польшчы ён лічыць справядлівым, каб „меншасьці" ў Польшчы карысталіся такой самай воляй, якой трэбавалі Палякі для сябе ад Расеі. У Польшчы ён мусіў выступіць на змаганьне з польскім нацыяналізмам — у імя сваіх старых дэмакратычных і гуманітарных ідэалаў.

Гэтая „споведзь жыцьця" Абрамовіча канчаткова пагадзіла яго з тымі Беларусамі, каторыя з даваенных часоў маглі захаваць у сэрцы нейкі жаль да яго — за мінулае.

Незадоўга да сьмерці сваей Людвік Абрамовіч, зламаны цяжкой хваробай і маральна прыгнечаны бязупыннымі канфіскатамі „Przegl. Wil.," зачыніў свой часапіс. А праз паўгоду — памёр і сам, як быццам сьцьвярджаючы, што ня бачыць карысьці ад сваей працы, што барацьба яго ў сучасных абставінах дарэмная...

Прадстаўнікі беларускага грамадзянства, каторыя аддавалі на Росе апошнюю паслугу нябожчыку, з глыбокім жалем і пашанай скланялі галовы над сьвежай магілай гэтага шляхотнага ідэаліста і барацьбіта за *адну* праўду і *адну* волю для ўсіх.

Хай-жа лёгкай будзе Яму наша зямелька, каторай ён — хоць на свой асаблівы спосаб — шчыра служыў!

*А. Луцкевіч*

Вільня. 11.III.39.

## Адвард Самуйлёнак

12 лютага 1939 году пасьля доўгай і цяжкой хваробы памёр ад сухотаў малады і вельмі таленавіты пісьменьнік Савецкай Беларусі Адвард Людвігавіч Самуйлёнак.

Пісьменьнік нарадзіўся ў 1907 годзе 23 ліпня ў Пецярбургзе, у сям'і чорнарабочага. Бацька яго паходзіў з сялянскай сям'і, заўсёды пражываючай у вёсцы Бандзелі, Дрысенскага раёну, які граніччыцца з Браслаўскім і Дзісенскім паветамі.

Дзіцячыя гады Адвард правёў у горадзе, але ў часе расейскай рэвалюцыі разам з бацькамі пераехаў у родную Дрысеншчыну, дзе прыходзілася цяжка зарабляць на кавалак хлеба. Па вайне і рэвалюцыі Адвард хадзіў у школу, па сканчэньні якой, выявіўшы пісьменьніцкія здольнасьці, быў запрошаны на сталую працу ў рэдакцыю часапісу „Чырвоная Полаччына" ў Полацку. Працаваў тут Адвард да 1934 г. У гэтым-жа годзе пераяжджае ў Менск, дзе поўнасьцю пасьвячаецца літаратурнай дзейнасьці аж да апошніх дзён свайго жыцьця.

Апрача дробных вершаў, паэм, навэль і апавяданьняў, друкаваных у „Чырвонай Полаччыне" і інш. часапісах, напісаў Адвард вялікшыя наступныя творы: „Насустрач будучыні" (аповесьць), „Цагліна казэмата", „Русальчыны сьцежкі", „Тэорыя Каленбрун" (аповесьць), „Пажар павуціньня" (трылёгія, асталася ў рукапісе), „Пункт апоры", „Будучыня" (раман), „Сержант Дроб", „Дачка эскадрона" (зборнік апавяданьняў) і „Пагібель ваўка" (п'еса). Гэты апошні твор закончыў пісаць пісьменьнік ужо зусім будучы хворым, у апошніх днях свайго жыцьця.

Савецкія крытыкі ставяць Самуйлёнка ў рады найлепшых пісьменьнікаў Савецкага Саюзу.

*П. М.*

# Кнігапіс

*Ad. Stankievič:* **„Biełaruski Chryścijanski Ruch“**, Вільня, 1939. Бач. 272. Фармат 8⁰. Выданьне „Chryścijanskaje Dumki“.

Скромная беларуская літаратура аб беларускім грамадзка-палітычным руху ўзбагацілася паважнай пазыцыяй — чарговай працай кс. Адама Станкевіча п. з. „Biełaruski Chryścijanski Ruch“, якая выйшла з друку ў канцы мінулага году, некалькі дзён перад высяленьнем паважанага аўтара. Кніжка дае яркі і рачовы, апёрты на фактычным гістарычным матарыяле, абраз беларускага хрысьціянскага грамадзка-палітычнага руху, так незарганізаванага, як і зарганізаванага. Выпаўняе яна дзеля гэтага вялікую нястачу ў беларускай гісторыяграфіі і публіцыстыцы, гдзе не знаходзім патрэбнага і об'ектыўнага асьвятленьня беларускіх хрысьціянскіх грамадзка-палітычных мамэнтаў і іх ролі ў беларускай гісторыі агулам, а ў адраджэньні беларускага народу ў асобнасьці.

Кніжка падзелена на адзінаццаць разьдзелаў. У першым з іх аўтар, гаворачы аб вытоках беларускага нацыянальнага адраджэньня, спачатку коратка і агульна схарактарызаваў беларускую старасьвецкую культуру, якая да XIV стагодзьдзя мела ўсходне-візантыйскі характар, а ад гэтага часу — ад часу злучэньня Беларусі з Літвой — „пачала набіраць адзнакаў хрысьціянска-заходніцкіх, каталіцкіх“ (бач. 1) і далей схарактарызаваўшы агульнае палажэньне беларускага народу ў пару яго палітычнага і культурнага заняпаду (ад канца XVII ст. да пачатку XIX), а так-жа навуковы і палітычны рух у Польшчы і яго заінтэрэсаваньні мінуўшчынай Беларусі ў пачатку XIX ст., — шырэй спыніўся на першых падсьведамых пачынальніках беларускага культурнага адраджэньньня з XIX ст. Тут аўтар падае цэлы чарод прадстаўнікоў каталіцкага духавенства — лацінскага і ўсходняга абрадаў, — беларуска-польскіх рамантыкаў, а так-жа дасьледчыкаў Беларусі з боку Расейцаў і праваслаўных абрусеўшых Беларусаў. Усе яны так ці йнакш, — ці то сваей грамадзкай працай, ці літаратурна-культурнай, ці навуковай — сталіся падсьведамымі пачынальнікамі беларускага культурнага адраджэньня. А дзеля таго, што з іх гэта былі пераважна каталікі, а зародкі беларускага культурнага адраджэньня далі вылучна каталікі, — аўтар здаецца моцна абгрунтаваў свой і іншых беларускіх дасьледчыкаў (праф. Ігнатоўскі, А. Цьвікевіч) пагляд, што беларускае адраджэньне выводзіцца ад Беларусаў каталікоў. У наступным разьдзеле аўтар затрымліваецца на пачатках сьведамага беларускага нацыянальнага руху, прадстаўляючы ў ім ролю Беларусаў каталікоў (1900—1910 г.). Пачаткі гэтага руху выводзяцца ад Фр. Багушэвіча. Творчасьць гэтага пісьменьніка, ейны ідэйны зьмест, сталася ідэолёгічнай асновай гэтага сьведамага беларускага нацыянальнага руху.

У гэтым руху бяруць актыўны ўдзел беларускія літаратары, культурна-нацыянальныя і грамадзкія дзеячы. Многія з іх — гэта Беларусы каталікі — сьвецкія і духоўнікі. У трэцім разьдзеле аўтар дае разгляд беларускага і каталіцкага арганізаванага руху. Тут падрабней разглядае дзейнасьць гуртка Беларускай Моладзі „Chatka“ ў Горадні, Беларускага Гуртка ў Віленскай Духоўнай Каталіцкай Сэмінарыі, а так-жа Гуртка ў Духоўнай Каталіцкай Акадэміі ў Пецярбурзе. У наступных двух разьдзелах цікава прадстаўлена праца Беларусаў каталікоў пад нямецкай акупацыяй, асабліва роля беларускага каталіцкага духавенства, а так-жа народная праца Беларусаў каталікоў пры канцы расейскага царызму і на пачатку рэвалюцыі.

Далейшыя разьдзелы прысьвечаны даволі абшырнаму разгляду беларускага хрысьціянскага арганізаванага руху ад 1915 да 1935 г. Гэты рух выступаў спачатку пад відам Беларускай Дэмакратычнай Злучнасьці, пазьней — пад відам Беларускай Хрысьціянскай Дэмакрацыі, якая ў 1935 г.ператварылася ў арганізацыю Беларускае Народнае Аб'еднаньне. На працягу 20-ці гадоў свайго існаваньня гэты беларускі хрысьціянскі арганізаваны рух адбыў цікавую ідэовую эвалюцыю. Пастунова ён пераходзіў з прынцыпу конфэсыйнага, каталіцкага, на грунт шырэйшы, каб злучыць на сваіх хрысьціянскіх асновах Беларусаў і каталікоў і праваслаўных. У пытаньнях грамадзка-эканамічных ідэйныя асновы руху набіралі характару радыкальнага. Палітычная праграма амаль ад самага пачатку апёрлася на моцныя беларускія незалежніцкія ідэалы. Гэты рух цікава прадстаўляецца на грунце агульных палітычных умоў грамадзка-палітычнага жыцьця у краі, а так-жа на грунце адносінаў яго да іншых беларускіх грамадзкіх кірункаў.

Сам аўтар, бяручы дзейнае і кіруючае ўчасьце ў беларускім хрысьціянскім руху ад 1910 г., і знаючы яго добра, прадставіў гэты рух у апошніх дзесятках гадоў найбольш поўна. Чытач у пяршыню даведваецца з кнігі аб многім цікавым фактычным матарыяле, які дагэтуль у беларускім друку ня быў яшчэ скарыстаны.

Заслугай аўтара ёсьць, што ён, як ужо сказана было напатку, запоўніў „пустое“ месца ў беларускай гісторыяграфіі, у гістарычным разьвіцьці беларускай грамадзкай думкі, прадставіўшы ў сваей кнізе гістарычны развой беларускай хрысьціянскай, у аспэкце каталіцкім, думкі.

Мае кніжка кс. Адама Станкевіча і тую дадатнюю асаблівасьць, што чытача ўзмацняе ў патрыётычным настроі і ў правільным беларускім палітычным накіраваньні...

Кніжка чытаецца з цікавасьцю, лёгка і жыва. Тэхнічна выдана добра. Надрукавана лацінкай.

*Я. Ш.*

# Хроніка

— У Беларускім Навуковым Т-ве. 12 лютага адбыўся штогодні агульны сход сяброў Т-ва. Пасьля абшырнае справаздачы з працы Т-ва і ягоных сэкцыяў за 1938 год, сход даў Ураду абсолюторыю і выказаў яму падзяку за працу ў нязвычайна цяжкіх абставінах.

Дзеля таго, што поўнамоцтвы старога Ураду скончыліся, сход выбраў новы склад Ураду на наступныя тры гады. Выбраны: 1. д-р Б. Грабінскі, 2. інж. А. Трэпка (скарбнік), 3. А. Луцкевіч (старшыня), 4. д-р Я. Станкевіч, 5. мгр. М. Пяцюкевіч, 6. мгр. М. Шкялёнак (сэкратар). Апрача таго ў склад ураду ўваходзіць Ул. Самойла, як бібліятэкар. Кандыдаты: П. Сяргіевіч, В. Русачанка, В. Грышкевіч. У Рэвізыйную Камісію выбраны: 1. Ф. Стэцкевіч, 2. Сяргей Паўловіч, 3. Анастасія Гаўрылічанка. Кандыдаты: Рыгор Шырма і Аляксандар Уласаў.

З фінансавае справаздачы відаць, што ад мамэнту пазбаўленьня Беларускага Музэю ім. Ів. Луцкевіча дзяржаўнае дапамогі (у траўні месяцы 1938 году) на ўтрыманьне Музэю беларускае грамадзянства зложыла 1.058 зл. 50 гр. ахвяр і сталых складак. Трэба спадзявацца, што ў 1939 годзе зьбіраньне ахвяр на Музэй пойдзе лепей. Гэтак, у апошніх днях ад аднаго грам. К. Душэўскага з Коўна паступіла ў касу Т-ва на гэту мэту 430 злот. Прыклад гр. Душэўскага павінен заахвоціць і ўсіх іншых Беларусаў, каторыя маюць магчымасьць нешта даць з сваіх заробкаў на гэту важную культурную ўстанову.

— У Беларускім Музэі. За першыя месяцы 1939 году (студзень, люты. пачатак сакавіка) у Музэй паступілі ахвяры й дэпозыты рэчамі ад 16 асобаў. Сярод прысланых экспонатаў варта адзначыць дар гр. Ул. Пігулеўскага з Рыгі: 20 узораў (пад шклом) беларускіх паясоў з Латгаліі. Шляхам замены павялічылася калекцыя старое зброі.

За мінулы 1938 год лічба дараў і дэпозытаў, атрыманых ад 52 асобаў, прадстаўляецца так: 331 манэта, 78 банкнотаў і 165 розных экспонатаў. Сярод апошніх—багатая зборка разьбы і цэнныя іконы. Узбагаціўся, таксама ў мінулым годзе, ня гледзячы на цяжкія фінансовыя варункі Бібліятэкі Нав. Т-ва, і кнігазбор апошняе. Усяго набыта Б-кай — шляхом куплі і ахвяры, збоку навукова асьветных установаў, польскіх і заграніčных, і прыватных асоб, — каля 250 выданьняў, сярод якіх ёсьць вельмі цэнныя і рэдкія.

— 13-га сакавіка адбыўся ў Вільні агульны гадавы сход сяброў Т-ва „Беларускае Каталіцкае Выдавецтва“. Сход выслухаў справаздачу ўступаючага Ураду з дзейнасьці Т-ва за мінулы год, прыняў яе да ведама і выразіў ураду абсолюторыю з падзякай. Сход выразіў асобную падзяку выселеным адміністрацыйнымі ўладамі ў канцы мінулага году з прыгранічнай паласы (з Вільні): б. старшыні Т-ва — кс. Адаму Станкевічу, і сябру Т-ва — інж. А. Клімовічу, за іх заслугі і дзейнасьць на грунце беларускага каталіцкага выдавецтва. Сход выбраў новыя ўлады Т-ва. У склад новага ўраду ўваходзяць: мгр. Я. Шутовіч — старшыня, Ст. Станкевіч — віцэ-старшыня, А. Дасюкевіч—сэкратар, Я. Баргановіч—скарбнік, В. Чарнэцкая — вольны сябра. У Рэвізыйную Камісію выбраны: Я. Пазьняк—старшыня, А. Шутовіч і Фл. Будрэвіч — сябры.

— Юбілей „Шляху Моладзі“. У сакавіку месяцы сёлета мінула дзесяць год ад выхаду першага нумару часапісу беларускай моладзі — „Шлях Моладзі“. Свой юбілей рэдакцыя і выдавецтва часапісу адзначылі спэцыяльным, багата ілюстраваным, пабольшаным нумарам (налічае бачын 20, замест, як нармальна, 8), які выйшаў 25.III.

„Шлях Моладзі“ мае вялікія заслугі ў беларускім нацыянальна-культурным жыцьці. Праз дзесяць год свайго існаваньня, ён радзіў у чытача пачуцьцё гарачага беларускага патрыётызму, шырыў здаровую нацыянальную думку і ў меру магчымасьці абслугоўваў беларускія грамадзкія і нацыянальныя патрэбы.

Гожа адзначыць, што часапіс існуе дзякуючы ахвярнай, саматужніцкай працы яго рэдактароў, выдаўцоў і супрацоўнікаў, а так-жа дзякуючы ідэёвасьці Беларускай Друкарні ім. Фр. Скарыны, якой уласьнікам зьяўляецца беларускі грамадзка-культурны дзеяч, шырока ведамы кс. Адам Станкевіч.

Шчыра вітаючы „Шлях Моладзі“ з ягоным юбілеям, зычым яму далейшага памыснага разьвіцьця.

— Беларускае студэнцкае „Т-ва Прыяцеляў Беларусаведы“ віленскага ўнівэрсытэту зарганізавала курс беларусаведы. У першым квартале сёлета чыталі лекцыі: з бел. літаратуры — дыр. А. Луцкевіч, з гісторыі Беларусі — мгр. М. Шкялёнак, з гісторыі беларускага языка — др. Я. Станкевіч, з эканомікі і геаграфіі Беларусі — др. В. Тумаш і студ. Т. Трафімучанка, з гісторыі культуры ў Беларусі (даклад аб рэвэляцыйных раскопках Замковай Гары ў Горадні, якія даказваюць існаваньне ў Горадні яшчэ ў 11—12 веку высокай беларускай культуры і існаваньне асобнага беларускага княства) — студ. Ст. Грынкевіч.

— У сакавіку месяцы студэнты Школы Палітычных Навук у Вільні зарганізавалі два вечары, прысьвечаныя беларускай літаратуры. Рэфэраты аб старой і новай беларускай літаратуры чыталі: дыр. А. Луцкевіч і мгр. Хв. Ільляшэвіч, а паэт Максім Танк дэклямаваў свае і іншых бел. паэтаў творы.

— Вінцук Адважны (кс. Я. Гэрмановіч), беларускі паэт і пісьменьнік, які ўлетку мін. году не па сваей волі пакінуў Вільню і праз некаторы час прабываў на Белянах пад Варшавай, а ад восені — ў Рыме, паводле нашых інфармацыяў, у палавіне сакавіка выехаў з Рыму — праз Марсылію — у Манджурыю, у м. Харбін, дзе працуе беларуская місія а. а. Марыянаў, на чале з Яго Эксцэленцыяй а. др. Ф. Абрантовічам.

— 9 паштовак з беларускімі ткацкімі народнымі ўзорамі ў розных колерах выдалі друкарскім спосабам беларускія жанчыны. У гэтым ліку 4 паштоўкі маюць вялікодныя пісанкі—з тыміж ткацкімі народнымі ўзорамі (паяскоў). Паштоўкі каштуюць: 20 гр. штука. Галоўны склад, Бел. Кнігарня „Пагоня“ — Вільня: Завальная 1.

— Беларускі Студэнцкі Саюз у Вільні не атрымаў ад унівэрсытэцкіх уладаў дазволу на зарганізаваньне 25.III.39 г. урачыстае акадэміі ў чэсьць 21-ых угодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

---

— Ад 29—31 студзеня ў Маскве адбыліся вечары, прысьвечаныя беларускай літаратуры. Жыхары Масквы праявілі вялікае зацікаўленьне да беларускай літаратуры і мастацтва. Творы свае прачыталі ў Маскве: Янка Купала, Якуб Колас, П. Броўка, П. Глебка, К. Крапіва, А. Куляшоў, Э. Агняцьвет, а таксама маскоўскія паэты прачыталі творы беларускіх пісьменьнікаў у перакладзе на расейскую мову.

У канцэрце выступалі: народная артыстка БССР Александроўская, артыст Балоцін і кампазытар Шчэглоў, якія выканалі беларускія народныя песьні.

Усяго ў Маскве адбылося восем вечароў беларускай літаратуры, якія прадэманстравалі перад працоўнымі Масквы дасягненьні беларускай літаратуры і мастацтва.

— У студзені гэтага году бальшавіцкія ўлады ўручылі ордэны беларускім пісьменьнікам і паэтам: Купала і Колас атрымалі „ордэн Леніна“, Зм. Бядуля, Міх. Лынькоў, Адвард Самуйлёнак „ордэн працоўнага чырвонага сьцягу, П. Броўка і П. Глебка атрымалі — „азнаку пашаны“. Гэтая ўзнагарода паэтаў і пісьменьнікаў зусім нас ня цешыць, а наадварот — смуціць...

— Спэцыяльная камісія кіраўніцтва справамі мастацтваў пры СНК БССР прыступіла да прыйма абразоў і скульптураў для мастацкай галярэі БССР. Прынята ўжо частка абразоў і скульптураў з Менску ў ліку 500 экспонатаў. У лік іх уваходзяць работы Рэпіна, Серова, Макоўскага, Верашчагіна, Каровіна, Ярашэнкі, Бродзкага, Арлова, Клевера, Пэна, Волкава, Грубэ і інш.

Заходняэўропэйскія мастакі прадстаўлены копіямі абразоў Рэмбрандта і інш. мастакоў галяндскай шко-

лы, копіямі абразоў Рафаэля, радам абразоў мастакоў італіянскай школы XVII—XVIII стагодзьдзяў. Ёсьць узоры клясычнай скульптуры: Праксіцеля, Лізыпа, Скаполя і інш. Апрача экспонатаў сабраных з БССР, галярэя мае атрымаць яшчэ шмат абразоў і скульптураў ад Усесаюзнага Камітэту, які кіруе справамі мастацтваў.

— 17 — 19 лютага ў Менску адбываўся агульны сход Акадэміі Навук БССР, прысьвечаны абмеркаваньню вынікаў працы Акадэміі за 1938 год.

Як вынікае з справаздачы прэзыдэнта Акадэміі Горава, плян працы ня быў выкананы. З 92 тэмаў распрацавана толькі 61. У галіне выдавецкай таксама плян ня выкананы, нпр. паводле пляну павінна было быць выдадзеных друкам 52 працы, а яшчэ друкуюцца толькі 35.

Агулам кепска „працавала“ Акадэмія Навук.

— 23—24 лютага ў Менску адбылася абласная нарада самадзейных мастакоў: скульптараў, рэзчыкаў на дрэве, ткачыхаў і вышывальніцаў. Усіх на нарадзе было 80 чалавек, з іх 60 з раёнаў Беларусі. З пасярод прысутных выявілася шмат здольных мастакоў—самадзейнікаў, якіх работы маюць высокую артыстычную вартасьць.

— Апошнім часам з закончаных твораў беларускіх савецкіх кампазытараў ужо вышлі ў сьвет, між іншымі: беларуская танцавальная сюіта Залатарова, сымфанічная паэма і соната для вальторны Аладава, соната для фартэпіяна Падкавырава, другая сымфонія і сюіта „Калгаснае сьвята“ Шчэглова. У танцавальную сюіту ўваходзяць беларускія народныя танцы, як: „Бульба“, „Крыжачок“, „Юрачка“, „Лявоніха“ і „Мяцеліца“.

— У сакавіку прыяжджалі з Масквы ў Менск спэцыялісты дзеля запісу на грамафонныя пліткі беларускіх музычных твораў. Запісана 60 твораў: урыўкаў з беларускіх опэраў, сымфанічнай музыкі і фальклёру.

— У Менску, як і ў іншых гарадох і мястэчках Сав. Беларусі, адбыліся ўрачыстыя акадэміі, наладжаныя ў чэсьць 125-годзьдзя ад дня нараджэньня вялікага паэта і прарока Украінскага Народу Шэўчэнкі. Мы ўжо падавалі, што група беларускіх паэтаў пераклала на беларускую мову „Кабзара“ і шэраг меншых твораў Т. Шэўчэнкі.

— На дзень 9 сакавіка (на сьвята Шэўчэнкаўскае) выяжджала ў Кіеў дэлегацыя беларускіх паэтаў і пісьменьнікаў у асобах Я. Купалы, Я. Коласа, М. Лынькова, Бядулі, Броўкі і Глебкі. Пісьменьнікі завязьлі на юбілей Т. Шэўчэнкі пераклад „Кабзара“ на беларускую мову.

— 10 сакавіка адбылося ў Менску адкрыцьцё новага будынку Дзяржаўнага Тэатру опэры і балету. У дзень адкрыцьця выстаўлялася першая беларуская сав. опэра „Міхась Падгорны“.

— Кампазытары БССР рыхтуюцца да дэкады беларускага мастацтва, якая адбудзецца ў Маскве. Рад кампазытараў працуе над беларускім песенным фальклёрам.

— У Менску ідзе падрыхтоўка да разьмяшчэньня кіностудыі „Савецкая Беларусь“, якая дасюль мясьцілася ў Ленінградзе. Перавозка інвэнтара ўжо пачалася.

---

**Супрацоўнікі «Калосься»:** *В. Багдановіч, А. Бужанскі, А. Бяроз-ка, М. Васілёк, Ст. Грынкевіч, А. Дубровіч, Хв. Ільляшэвіч, А. Іверс, С. Каліна, А. Клімовіч, Я. Крыга, М. Машара, М. Пяцюкевіч, С. Сахараў, Кс. А. Станкевіч, Я. Станкевіч, П. Сірата, П. Сергіевіч, М. Танк, С. Хмара, А. Чэмер, Ул. Чэмер, М. Шкялёнак, Р. Шырма.*

Redaktor-Wydawca Jan Szutowicz

Рэдактар-Выдавец Ян Шутовіч.







## Прысланыя кніжкі, часапісы і інш. друкі

**25 Сакавік**, № 1, Вільня.
**Lietuviškas Baras**, № № 1, 2, 3, Вільня.
**Вістник**, кн. 2, 3, 4. Львоў.
**Рідна Мова**, ч. 1, 2.
**Nasza Przyszłość**, LXVII, LXIX. Варшава.
**Sprawy Narodowościowe**, № 4-5 з 1938 г. Варшава.
**Kuźnica**, № № 1—5. Катовіцы.
**Polityka**, № № 1—6. Варшава.
**Sygnały**, № № 60—66. Львоў.
**Kamena**, (55—56). Хэлм Люблінскі.
**Prąd**, I, II. Люблін.
**Oriens**, сш. 1. Варшава.
**Fantana**, № 3. Катовіцы.
**Droga pracy**, № 1. Крамянец.
**Katolik**, ч. 1—5. Прага.
**Slavia**, сш. 2—3. Прага.
**Летопис Матице** Српска, сш. 1, 2, 3. Новы сад.
**Hrvatska Revija**, № № 1, 2, 3, 4. Загрэб.

## Ад Рэдакцыі і Адміністрацыі:

Друкарскі набор чарговага (2) нумару часапісу пачнецца ў палавіне красавіка. Просім дзеля гэтага Паважаных Супрацоўнікаў парупіцца ў пару прыслаць да друку матарыялы.

Адміністрацыя „Калосься“ прыпамінае і просіць усіх чытачоў, што ня прыслалі складак за мінулы год і не ўрэгулявалі за бягучы, зрабіць гэта якнайхутчэй. Складка ў год у краю — 2 зл., заграніцай 3.20. Нумар паштовага пераказу разрахунковага нашага часапісу 58.

# КАЛОСЬСЕ



# II

**ВІЛЬНЯ 1939**

„KAŁOŚSIE“ — KWARTALNIK LITERACKO-NAUKOWY

«КАЛОСЬСЕ»—беларускі літаратурна-навуковы і грамадзкі часапіс. Выходзіць раз у тры месяцы. Складка ў год—2 зл.
— Асобная кніжка — 50 гр. Заграніцу 3 зл. 20 гр. —

*Адрыс рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вул. 1—2.*

«KAŁOŚSIE» — białoruski literacko - naukowy i społeczny kwartalnik. — Wilno, Zawalna 1—2.

«KALOŚSIE» — blancruthenienne revue trimensuelle litteraire et scientifique. Wilno, Zawalna 1—2. Pologne.

## Зьмест кніжкі 2 (19) „Калосься“



(Працяг зьместу на 3 бач. вокладкі)

Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1



# КАЛОСЬСЕ

БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ І ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС

КНІЖКА 2 (19). КРАСАВІК—МАЙ—ЧЭРВЕНЬ, 1939. ГОД V.

СЯРГЕЙ ХМАРА

## Ч у е ш?!

Чуеш?! Ці чуеш?! Ідзе пераклічка:
Дзісна і Горадня, Бельск...
Слонім, Палесьсе. Хто іх паліча?!—
Голас вясковых асель.

Плюнулі волавам
ў вочы дзён шалых...
Стальлю расплаўленых слоў.
Часу ліхому ў грудзі—кінжалам!..
Трухлядзь паслаўшы на злом.

Чуеш, як гойкаюць?! Йдзе пераклічка.
...Звоняць ў адказ журавы...
...Сонца свабоднае нівай пшанічнай
нам сустракаць!
...А ня вы...
вёсак радзімых злыя прадажнікі,
ніў беларускіх закал,

сонца сустрэнеце, — іншае, важкае.
Вам! Скура дзе — ідэал.
З Прыпяці шэрай... балот і шувараў,
з пушчаў, пружанскіх лясоў,
з Нарачы тоняў, сланімскіх імшараў,
з Бельскіх, Браслаўскіх пяскоў.

Чуеш?! Як гойкаюць! То-ж пераклічка!—
Моцны мы! Цьвёрды! Жывы!
Цяглiцы пружацца, сэрцы крынічаць...
Мы-ж — авангард веснавы!

* * *

Ня маеце права кідаць нам у вочы,
што мы непатрэбна блудзілі гады, —
праз шэрыя будні
і чорныя ночы
пад сьцягам Пагоні —
трымалі рады.

Мы сеялі словы, і песьні, і думы,
як золата-зерне,
на роднай ральлі;
цярпеньне і мукі мы клалі на струны
і з верай упартай да сонца брылі.

З вясковых ваколіц нясьлі адгалосьсе,
дзе радасьць і гора
цьвіцелі як мак,
мы чулі, як ў полі шумела калосьсе,
як моладзь сьпявала
і плакаў жабрак.

Былі званарамі —
званілі трывогу,
ў сумленьне і душы цадзілі зару;
мы самі пралажым да сонца дарогу,—
ня зблудзім у полі,
ні ў цёмным бару.

Мы Згоду Народаў, як сонца кахаем,
як ськівы счарнелай ад поту зямлі;
стаім мы на варце
над зьмораным краем,
ідзём мы да Праўды, —
да брацкай сям'і.

---





# Вільня

*(з паэмы: „Сілаш Істома")*

Я гэты горад знаю з даўных дзён,
дзе дрэмяць замку гордыя руіны,
дзе сплёў густое вецьце ясень, клён
над сном акамянелым Гэдыміна;
а пад аркадамі сівых муроў
праходзяць цені вулкамі вузкімі:
пясьняр Літвы, ніў грэчнявых, лясоў
у падарожным плашчы пілігрыма,
і Каліноўскі, і таварышы...
І чую шопат іх у зьмроку шэрым.
А мо' Вяльля гэта ў начной цішы
высокіх сосен падмывае бераг?..

І хоць навісшых камяніцаў сінь
начэй нямала крые бязпрытульных,
а ў збуджаным напеве успамін: —
шуміць палын, крушына ды багуньнік;
і кожны дзень з-за хмараў устае,
і рэдка калі гасьне ў пазалоце,
і вецер песьні звонкія мае
тут рве на струнах—на калючым дроце.
Усё-ж люблю я гэтых вуліц гул,
напеў сырэнаў у тумане раніц
і моладасьць, абвітую ў тугу,
якой у вочы можна сьмела глянуць.

# Груган

*(з паэмы: „Сілаш Істома")*

На узгорках за Зялёным Лугам
сьпіць глуха адзьвінеўшая зямля.
Сядзе на дратох калючых груган,
загледзіўшыся на курганны шлях.
То на захад, то на ўсход мяцелі
і качавыя воблакі дымяць,
толькі сьлед пагостаў анямелых
і боль ня лёгка ветрам зараўняць.
Бліндажы, разьбітыя акопы,
пад сьнегам косьці, вочаў глыбіня —

і таму, калі віхор падхопіць,
так цяжка крыльле гругану падняць.

Недзе ные скрып і гул цяплушак.
Бліжэй зьвіняць знаёмыя шляхі.
На гармоніках басы частушак
і моладасьць і сіні небасхіл.
Пэўна вёсны з выгараў абмыюць
зялёнай верхаводкай сіні дым
і скупаюцца сярпы стальныя
і жнеяў песьні ў жыце залатым.
Але доўга будзе нехта плугам
жвір сьлёзаў з хвалямі пяску раўняць, —
таму з узгоркаў, за Зялёным Лугам,
так цяжка крыльле гругану падняць.

## Дома

*(з паэмы: „Сілаш Істома“)*

Пяюць і пяюць акрутні,
палазы на марозе.
Над Зялёным Лугом тлее прозалаць дня.
Чырвоныя сінія інію іскры маросяць.
Воўчым сьледам брыдзе па палёх цішыня.
У вулцы, на цёмных высокіх калкох-верацёнах
вецер сьнежнага кужалю туга навіў.
Дзе-не-дзе чарнее навоз па дарозе і гоне
сівер калева сена — балотнай травы...

Ліецца з вадой
ля калодзезяў говар і стыне.
— А, пашана!.. ў вясельле прыехаў дамоў?..
Сілаш плюшчыць вочы ад сонца, ад словаў Юстына
і ад яснай усьмешкі ў ашчэры зубоў.
У хаце шумяць, быццам ў подзе, сялянскія жорны.
З бэляк капае зелень хваёвая ў дым.
Эх, белы прастор!
Вераб'іны ты дзень навагодні!
Эх, аб чым, скрыпачы, пяіцё Маладым?!
За стар можа трохі дзяцюк, але знае работу.
Паўвалокі зямлі...
Мо' ня хмеліцца так
яго русы чуб маладзецка, юхтовыя боты
не адзвоняць падковай лявоніхі такт.
А Зося?..
Што шэпчацеся па куткох маладзіцы?!
Вочы караю кветкай, агнём расьцьвілі.



Ня цяжка ей будзе над бёрдам, над серпам сьхіліцца,
калі ў скоках так лёгка ей стан пахіліць!
Хай блукае смугла ня зьмятая вуснаў усьмешка,
грудзі стройныя дыхаюць пад палатном...
Няраз мо' прыйдзецца ісьці заімглёнаю сьцежкай,
не адну кукаваць над калыскаю ноч...

Чарадзеем сяньня музыкант:
быццам сонца віпіўшы сьмяецца,
на цымбалы спусьціцца рука
і заменіць струны ў белы вецер.
І шуміць той вецер каля ног
ўсё вышэй мяцелючы спадніцы,
аж пакуль падлога і парог
звонкім полымям не загарыцца.
А дыхне на плечы і вышэй: —
адзавуцца песьні ройна, густа,
васількі пасыпяцца з вачэй,
з пад узорных, паркалёвых хустак.

У прыўне цішэй.
Сказы рвуцца, як ніткі, і чутна,
як пра дальнія весткі говора Сілаш.
Ўжо сываратай пацямнеўшай змрок цэдзіцца мутна
праз ваконныя шыбы.
— Што-ж добрага ў вас?..
І хлынуў праз вусны засьмяглыя жаль перажыты,
чырвань — з ранаў, якіх не заціснеш рукой;
устала жыцьцё з ніў, зімы малачаем прыкрытых,
зашумела у жытніх славох галаўнёй.
Падпёршы шулу маладзіцы ў кутку гаварылі.
Перабралі пасажную скрыню, сватоў.
— Дыван адзін новы, — ўздыхала салдатка Марыля —
сама бачыла, ў восем ці ў дзесяць нітоў, —
і зрэб'я труба...
Пелі посьле. То зноў уздыхалі:
што на полкі танкога няма палатна,
што Зосю бяз даўных варожбаў вялі, спатыкалі
і што плакала трохі замала яна.
За печ нехта лез ў кажуху скамарохам кудлатым.
Піск дзяўчат, шум,
раскацісты сьмех за сталом;
расставіўшы полы з услону, на цэлую хату
галасіста пяяў Пераброд пятухом.

Адгарнуў чупрыну музыкант
з полымям вячэрняга загару
і лязом сярэбраным смыка

перавёў па струнах і ударыў.
А другі, як Нёман, расьцягнуў,
завірыўшы сінь басоў, баяна
і запеў пра моладасьць-вясну,
што шуміць з вятрамі над бур'янам.
І напеў працінуўся з сяней
і паплыў акрылены над Логам,
дзе ярчэй у змроку і ярчэй
расьцьвітала млечная дарога.

Агарак лучыны дыміць пахам бору—жывіцай,
быццам ноч разьвіваецца дымам з матка.
У чалесьніку тлее вугольле Мядзьведзіцай, Сіццам;
льлецца месяц з кужэльных махроў ручніка.
Паўзе па іконе прусак ці мо' іншая мошка.
Сьвяты зморшчыўся, быццам сабраўшыся чхаць,
ды страх разбудзіць тых, што дрэмяць-ня дрэмяць у ложку
і на лавах змарыўшыся покатам сьпяць.
Маўчыць чудатворац. За посьцілкай шопатам голас.
— Не храпі так, Сымон, а то нельга заснуць.
Казала, — ня пі... ды прачніся... З каленяў ты голых,
чуеш, коўдру сьцягнуў... Ціха ў цёмную муць
славы ападаюць: — Эх, бабы!.. Ну што табе трэба?..
Засыпаючы, зноў храпе глуха Сымон.
А посьле на вочы здаецца спусьцілася неба
і Сілаш не пачуў, як прыблізіўся сон.
Прысьнілася вырай: ляціць стада дзікае качак;
дзед Сьцяпан папраўляе вясеньнюю снасьць;
нясе вецер з поля журботнае водгульле, — плача
расой сьлёз незасеяная цаліна...
Збудзіўся... За посьцілкай чуюцца ціхія ўсхліпы.
Зосі плач дзіўным страхам праймае ўсяго.
Мо' выйсьці?..
Завесы дзьвярэй адклікаюцца скрыпам.
Рэдка ў шыбах замерзшы мігае агонь.
Другі канец хаты вясельлем яшчэ ўсё буяніць.
На дварышчы мінуў Сілаш коняй, вазкі.
Ляжыць у адным Пераброд, абымаючы сані
сьпіць асаднік разхрыстаны.
А з-за ракі,
сьвітаючы, сьнежныя стружкі нясе вецер полем —
і прыемна іх шолах кладзецца ля ног.
Вобраз Марты ўстае... І чаму ў гэтым сьнежным прывольлі?
Тут ня гэта заносіць мяцельная ноч!..
Далёка ўздымаецца дымам сінеючым золак, —
плыве, гораў мінае круты перакат.
Тады Сілаш бача: ля жэрдзяў гнілых частаколу
незамецены ласіцы сьлед ці шашка.



*СЯРГЕЙ ХМАРА*

# Бо такое жыцьцё

Коціцца апокаліптычны валец па зямлі, мяжджучы людзкія грудзі. Крывавы сьлед значыць ягоны шлях.

— — — — — — — — — — — — — — — —

...Між лукаватага, сярэднявечнага скляпеньня агромнае, хмурае залі, пры мглявым сьвятле дзьвёх лямпак, рвецца, дрыгае ў агоніі нейкаеаграмаднае тулава дапатопнае фантастычнае патворы...

Сіне-зялёны гмах вылазіць з закуцін. Пяцьсот голых цел са ўскінутымі ненатуральна ўверх рукамі, у глухой цішыні зьбітыя ў густую масу, тварамі да муру, вядуць макабрычныя скокі. Пяцьсот пар босых ног, падняўшыся на цыпачкі, перабіраюць на месцы ў неаканчальным шалёным бегу, шорах соцен босых ног зьліваецца ў нейкую страшлівую музыку—ў шопат, шопат сьмерці. Студзеным крылом кружыць яна над дрыгаючым, вывіваючымся ў цішыні скрутам жывых целаў. Заміраючы ў зьнямозе, рытм звар'яцелых скокаў прахватвае электрычнаю іскрай раптоўна вырваўшыйся зьнекуль крык болю — упадак голага цела на бэтон. За горла хапаюць нявідомыя капцюры, у звар'яцелым тэмпе рвуцца зьнямелыя целы ў крывавым тумане.—Шалёны вір.

Над сьветам пануе панурая, чорная ноч.

— — — — — — — — — — — — — — — —

...Адзінокая кропля недзе са стропаў звонка звоніць у куце аб бэтон падлогі. Кожная кропліна балюча ўверчываецца сьвідрам у мозаг.

Цемра. Вечная ноч. Колькі яна ўжо цягнецца?

Тыдзень? А можа месяц? А можа ўжо год?! — Калі гэта было?..

...Бразнулі замкі масыўных дзьвярэй. Дыхнула магільнаю вільгацьцю. Адазваліся рэхам пад скляпеньнямі адыходзячыя шагі...

Цемра.

Нецярпіма смокча ў грудзёх голад. Парэпалі перасохшыя вусны. Рукі сьмела шараць, мацаюць перад сабой. З усіх бакоў цагляныя, сьлізлыя з вільгаці, сьцены. Пальцы ашчупваюць выскрабаныя няведамым словы: Ба-рацьба!

Капае звонячы аб бэтон капля. Холад студзенымі лапамі, клешчамі ўшчаміў за плечы, за ногі, за рукі. — Бегаць! Бегаць! Сагрэцца!—У цемры абступілі навокал сьцены. Выцягненыя рукі няўпынна ўпіраюцца ў вільготную цэглу. Бегаць! — Што гэта? — Пухнуць рукі. — Замярзаю! Каб хоць адрабінку цяпліні! Чырвоныя колы ў вачох.—Руху! Руху! Руху! Гімнастыку!!—Не хапае паветра. А холад вяртае! Шалёны, жга-

ючы голкамі холад. — Слаба! Легчы-бы, скруціцца ў ком, ратуючыся ад холаду, — адпачыць... Мокры бэтон цераз сарочку—раскаленым жалезам. Ад сьцісканьня — каб не звалілі ў дрыготцы зубы — баляць, ныюць ськівіцы. — Руху! Цягне голаў у ніз сон. Вось прысесьці на кортачкі апёршыся аб сьценку і заснуць. — Зьмійкамі сочыцца вільгаць у хрыбет. Паволі надыходзіць забыцьцё.

Грук. Быццам валіцца цэлы мур. І вусны з прасонак самі дзіка крычаць: ёсьць! — Паволі надыходзіць сьведамасьць. Звоняць недзе адыходзячыя шагі. І зноў паўзабыцьцё, паўсон. Холад — круціцца ў галаве. Недзе капае звонячы аб бэтон капля.

— Скуль гэта такі запах?! — Гэта пахне вішнёвы цьвет. Не! — Гэта пахнуць сьпелыя вішні! Ведаеш: буйныя, чорныя вішні! Цэлыя кошыкі вішняў!

... Сьвеціць сонца. Як прыемна падставіць свой твар пад пяшчоту сонечных касаў!

...Хто гэта?! Хто гэта?! — Наташка! — Ты??! Но але, яна! Бычыш, а мне здавалася, што ты далёка, далёка...

Пачакай! Пачакай! Дай прыпомню! Ага! Гэта было начой! Прышлі ў хату... Чужыя... Варожыя. Ты плакала...

Ха-ха-ха-ха! А гэта-ж быў толькі сон! —

Чаго-ж ты маўчыш? Наташа! Наташа!!! Чуеш, як пахнуць вішні? Нарвём зараз цэлае бярэмя цьвітучага гальля. Ты-ж так любіш краскі! Хадзі да мяне! Пацалуеш. Ведаеш, гэтак патвойму — ў вочы.

Чаму гэта сонца так паліць? Не, гэта-ж ня сонца. Агонь!

А дзе-ж Наташа? Наташа!!! Хто гэта крычэў?.. Я сам?.. Ву-у-у-у, як холадна!

Цемра. Капае капля. Не! Гэта-ж ня капля! Гэта даўбуць у муры. Но, але! Даўбуць кіркамі. Во, во! — гэта яны! Прышлі разьбіць, разбурыць гэты пракляты, магільны склеп.

Думалі, — возьмеце?! А як-жа!

Што-ж гэта? Чаму мая рука такая цяжкая? А дзе-ж мае ногі?

Ноч. Праклятая, бязконцая ноч! Вірыць, вірыць, вірыць.

— — — — — — — — — — — — — — — —

... Рве кашаль грудзі раськідваючы навакол чырвоныя краплінь крыві. Апошнім высілкам схапіліся рукі за шнур. Раз-два-тры-чатыры!.. Раз-два-тры-чатыры. Дзесяцітановы валец — волат мерна коціцца па ўсыпанай жарстве дарогі. Набрыняла ад натугі, пасінела абліччa. Вачамі празірае шэры, няпрытомны жах.—Дацягнуць! Каб хаця ня ўпасьці! Адно—ня ўпасьці! Плыве з вуснаў хрып агоніі.

Раз-два-тры-чатыры... раз-два-тры-чатыры...

— — — — — — — — — — — — — — — —

...Коціцца апокаліптычны шалёны валец па зямлі, мяжджучы людзкія грудзі. Крывавіць след.

— — — — — — — — — — — — — — — —



Між калючых, драцяных засекаў прарвалася да неба зялёная, кучаравая бярозка. Прарвалася і зашумела, вітаючы вясновае сонца.

Падняў голаў. Небам к поўначы ішлі журавы. Бліснулі вочы, быццам гаварылі: — А ўсё-ж такі вярнуліся! Вытрывалі! А ўсё-ж такі ідзе вясна! Ідзе!.. Бо такое жыцьцё, такое права Зямлі!

---

## Рыбакі

Ціха гойдаецца на хвалях возера шкабара.[1]) А на беразе шумяць ціхутка аб нечым жарсьцеліны.[2])

Замёр з восьцямі ў руках у шкабары Архей.[3]) Ледзьледзь парушвае долькаю[4]) седзячая ззаду Палая.[5]) Сьвіснулі раптам восьці і забілася на сталёвых зубох серабро рыбяй лускі.

І зноў настарожыўшыся над вадой бліскаюць, шчэрацьсвае сталёвыя клыкі восьці. І зноў удар. І зноў цішыня.

Ціха гойдаецца на хвалях шкабарына.

— — — — — — — — — — — — — — — —

— Ну годзі! На сёньня хопіць! Кіруй Палая да хаты наш карабей.[6]) Смачны будзе квас[7]) увечары! — цешыцца Архей.— Во якія штукі!

— Укранікаў[8]) напяку — марыць Палайка.

Вось і бераг. Трывожна нечага шумшыраць[9]) жарсьцеліны.

— — — — — — — — — — — — — — — —

— Ну, давай сюды восьці й рыбу! — бразнула раптам начальніцкім тонам за плячыма Архея.

Як-бы пераеханы батугом[10]), рвануўся ў бок Архей. Перад вачыма яго вырас суд—вастрог — «за клюсаўніцтва».[11])— З-заду астаўся енк Палаі і даганяў яго тупат ног, пагрозьлівыя крыкі: «стой!» Лопнуў разьбітым гаршком ў азыраватым[12]) паветры выстрал. Заплакаў недзе над вухам сталёвы авадзён.

Архей бязцямна падганяны акрыкамі і стрэламі бяжаў.

---

1) Шкабара — палескі дыялект: човен з аднаго пня.
2) Жарсьцеліна — род балотнай вербы.
3) Архей — імя — Архіп.
4) Долька — вясло.
5) Палая — Палагея, Палягія.
6) Карабей — карабель.
7) Квас — тут, разумеецца, рыбная юшка.
8) Укранікі — бонды, печаныя на патэльні з ікры з мукой.
9) Шумшыраць — шумяць.
10) Батуг — бізун, пуга.
11) Клюсаўніцтва — браконьерка.
12) Азыраваты — сыры.

— Вось каб толькі даскочыць да вербалозаў, да альшняку! — тады ня поймуць.[1])

Раптам ударыла нешта цёплае ў плечы, прайшло маланкаю-агнём па целе падкошваючы паджылкі ў нагах. Закруціліся ў вачох вербалозы, неба. Забіўся аб зялёную мураву, быццам раненая рыба аб дно чайкі, Архей. Зачырванела пасокай[2]) трава. Пэрламі сьлёз зіхацелі на недалёкай пагоні[3]) альшняку краплі́ны расы. На небе йграў розлаколерны смок.[4])

Ціш. Толькі ў прыбярэжнай жарсьцеліне шапоча аб чымсь палескі вецер. — Вышчырылі восьці свае гострыя клыкі. Ледзь-ледзь калыхаецца на хвалях шкабара.

Запеніцца раптам вада пад ударам васьцей. Блісьне ў паветры серабро лускі.

І зноў цішыня...

Рыбакі робяць сваё, каб мець хлеб, каб магчы жыць...

А возера аболіць[5]) беднай, загнанай вёсцы.

---

*М. КРЫВІЧ*

## Будучыні

У мляўкае сэрца, прыскамі зораў,
новыя сілы ганю,
невадам песьняў з сіняга мора
вылаўлю вязкі агню.

Сонны калісьці, можа і кволы,
сёньня з крыльмі палячу!
Волю бунтарную, сэрцавы порах,
сыпнуць завеяй хачу...

Музыкі трэлі, звон цымбалісты,
быццам прадвесьне вясны.
Эх, развіхрыўшы сэрца, вагніста,
жару мятуць курганы.

Песьні! Пад белаю, буйнай чупрынай
Чуць: ужо годзе цяснот!
Ў дальныя глыбі, музыкай сіняй,
Маторны рыхтуйце палёт!

---

1) Поймаць — зламіць.
2) Пасока — кроў.
3) Пагоня — порасьць.
4) Смок — вясёлка.
5) Аболіць — зычыць, спагадае.



*АНАТОЛЬ ІВЕРС*

* * *

Часамі сумна быць паэтам
у нашы дні, як ў цёмным боры,
дзе сплыла кроўю на палетак
ўся моладасьць зары з задорам.

Ды не таму, што на рабіне
асыпаўся ўвесь жар караляў, —
што некаторых погляд стыне
ў задымчывых тугою далях...

Але калі павее вецер
і хмары ў далях тых затопе, —
я прынясу пахучых веціцаў
і пасаджу на чорны попел.

## С о н

Мяне на полі сон змарыў.
І гусьлі гралі — струны-межы
і з тонкім звонам камары
на пах зьляцелі крыві сьвежай.

І мне прысьніўся сон такі:
што быццам я ля Гвадарамы
пасьля змаганьня на штыкі
прапаласкаў рубцы і шрамы.

І пасьля доўгіх перамог
паплыў туды, дзе край сінее,
і скінуўшы сваё ярмо
ступіў на Новую Гвінэю...

І вось — прачнуўся на мяжы:
крычалі конікі аб нечым,
і нечакана пераўжыў
яшчэ адзін галодны вечар.

* * *

Апошнім шолахам скрываўленыя раны
хацела ліпа ўчора патушыць.
Ды пасьпяшыў з усходу сьвежы ранак,
сарваўшы нешта цяжкае з душы.

І мо таму зазелянелі нівы
на полі мяккім полымям вясны,
а па садох малочныя узрывы,
ну проста — казка, хоць прысьні!

І не чакаў я больш чароўных гукаў,
што мне прарочыў з вечара прыліў,—
мяне ізноў цягнула ў даль разлука
да той схвалёванай ральлі,

дзе змыўшы пот з сінеючай дубровы
прыдзецца часам смачна адпачыць,
дзе сонца паліць залатыя бровы,
цяжкія зьняўшы шолахі начы.

## Пад ранак

Нейк марудна ў павуціну
зьляталі згубленыя зоры,
дзе вечар наміткаю сіняй
накрыў апошнія узоры.

Ў такую ноч люблю паслухаць,
як сьцежкі ў полі заміраюць
і толькі часам звоніць глуха
над рэчкай асака густая.

## Вясёлай раніцай

Вясёлай раніцай цьвіце
расою вымытая рута.
Парву я тысячы ніцей,
што лучаць з горкаю атрутай.

Як палахлівыя да дня
згарну рукамі страхі-цені
тады з паўночы на паўдня
зьбяру я зоры-лятуценьні.

---





# Тарасава доля

*Памяці Тараса Шэўчэнкі*

*(З нагоды 125 угодкаў нарадзін песьняра)*

2

Як раджала яго маці, —
Не сьвяцілі зоры,
Зубы скаліла няволя,
Хіхатала гора.

Песень радасных, вясёлых
Над яго калыскай
Не сьпявалі маладухі
Ні здалёк, ні зблізку.

А як вырас, як падняўся,
На свае стаў ногі, —
Сьледам—паншчына, батрацтва,
Панскія парогі.

Крукам гнуўся перад панам,
Уздыхаў нясьмела,
Катавалі батогамі
Юнацкае цела.

Энгельгардты, Энгельгардты!
Ўжо вам не паўстаці, —
Адамсьціла Украіна
За дзяцей і маці.

3

А было ў тыя часіны
Цёмна, бы ў магіле,
Людзі гінулі, як мухі,
Ці, як здань, блудзілі.
Ні сьвятла таго, ні ўсьмешкі,
Хоць-бы на хвіліну.
Ночка хутала Ўкраіну,
Ці-ж толькі Ўкраіну?!
І скрыпелі, і бражджэлі
Ланцугі наўкола;
Панства людам гандлявала,
Як нямой жывёлай.
Прадавала і мяняла,
Ў карты прайгравала;
Крыві, сьлёзам канца-меры
Бядняцтва ня знала.
Гэткай катаргі і мукі
Пяром не апішаш.
Прамінула. Толькі думку
Успамін калыша.

4

Нарадзіўся на сьвет белы
І Тарас у путах,
А ня лёгка, ой, браточкі,
Змалку быць закутым!

Я таксама нарадзіўся
Ў ланцугах пад царам.
Спапяліў-бы ту часіну,
Каб я мог, пажарам!

Прайшлі годы. Тарас вырас,
Як таполя ў полі.
Выкуплялі добры людзі
Тараса з няволі.

Як браў грошы пан вяльможны
Рукою паганай,
Кроў блішчэла на дукатах,
Кроў людзей скаваных.

Кроў скаваных бацькі, маці,
Скованага сына,
Кроў блішчэла на дукатах
Скутае Ўкраіны.

5

Па гасьцінцы беларускім,
Ў Пецярбург з Варшавы
За карэтаю, за панскай
Пхнецца хлопец жвавы.

Гэта йдзе Тарас-нявольнік,
Служка ясьне-пана, —
Пан у золаце, ён — бедны,
Босы, абарваны.
Беларускія бярозы
Абапал гасьцінца
Калыхалі думкі шумам
Хлапчуку-Украінцу.
Бор шумеў яму над вухам,
Булькалі крыніцы, —
Маладому, дасьціпному
Было чым дзівіцца.
Бачыў убогія хаціны,
Крытыя саломай,
Людзей бачыў паднявольных,
Што і ў сябе дома.

6

Чаму ў сэрцы беларускім
Песьня Тарасова
Адгукнулася, запела
Зразумелым словам?
Чаму вецер з Украіны
З думкаю крылатай
Далятаў да Беларусі
І шумеў над хатай?
Бо йшла доля Беларуса
З доляй Украінца
Аднолькова ў поце, ў сьлёзах
Церневым гасьцінцам.
Бо зьгіналі аднолькова
Змалку да скананьня
Шыі ў ёрмах і чакалі
Яснага сьвітаньня.
Як жылося, як вялося,
Як марнелі сілы,
Таму сьведкай там і тутка
Курганы, магілы.

8

Хто-б падумаў, здагадаўся,
Што ў такіх аковах
Быў Тарас багаты скарбам,
Скарбам адмысловым.
Ні цары, ні іхні слугі,
Ні паны, ні каты
Не маглі забраць, украсьці
Гэты скарб багаты.
А была яго багацьцем,
Скарбам нябывалым,
Была песьня, што з-пад сэрца
На сьвет вылятала,
Не танула песьня ў моры,
У агні не гарэла,
Закаваць ня мог у путы
Сатрап азьвярэлы.
Маляваў ён і малюнкі,
Дык як сіл ні траціў,
Не ўдалося у няволі
Шчасьце змаляваці.

9

І ня сьпіцца, і ня сьніцца
Тарасу на сьвеце,
Дзе ні гляне—скрозь няволя,
Плача маці, дзеці.

Украіна пад пагамі,
Пад жандарам-царам
Сіратою стогне, гіне
У жудкіх думах, марах...

Усю крыўду, катаваньне,
Што душыла грудзі,
Выліваў ён на паперы,
Каб ведалі людзі.

Заклікаў да лепшай долі,
Долі і свабоды,
Клікаў шчасьце, клікаў сонца
Для свайго народу.

10

Пайшло слова Тарасова
Горда, непакорна, —
Знайшла водклік яго песьня
У людзей прыгонных.

Людзі вочы працілі,
Выглядалі волі.
Тарас праўду нам сьпявае, —
Сьпявай-жа, брат, болей!

А цара, яго прыдворню,
А паноў крывавых
Агарнуў страх ад такое
Бунтарскае зьявы.

Думу думалі, як лепей
Тараса караці,
Ці на полі, на кургане,
Ці ў бацькавай хаце.

І каралі яго карай,
Каб нямым зрабіўся,
Каб складаці свае песьні
Навек адвучыўся.

11

Ой, шлях катаржны ня лёгкі,
Вытаптаны горам,
Косьцьмі людзкімі усланы,
Вымыты сьлёз морам!

Павяла па ім, халодным,
Тарасова доля
Цераз пушчы, цераз нетры,
Праз пустое поле.

Адзінока. Гукнуць спробуй —
Не пачуеш рэха,
Толькі зьвер падчас завые
Ашалелым сьмехам.

Ой, загнаў цябе, Тарасе,
Подлы цар — душыцель!
У труну злажыў жывога,
Каб ня думаў жыці.

Тарасова гора, мукі
Камень толькі бача,
Ды шумлівы вецер чуе,
Як гаротны плача.

12

Крэпасьць Орская—астрогам
Ды з царскім указам —
За пяро каб і за пэндзэль
Ня браўся ні разу.

Каб ня браўся і ня думаў
Дум сваіх крамольных.
Во, якую панёс кару
Пясьняр паднявольны!

А сны сьняцца аб радзіме,
Аб стэпе мурожным, —
Маляваў-бы хоць крывёю, —
І крывёй ня можна.

Думкі лезуць, выліваў-бы
Думкі на паперы, —
І нявінную паперу
Адабралі зьверы.

Чахне, сохне, адарваны
Ад роднае нівы,
Пад салдацкай царскай палкай
Тарас нешчасьлівы.

13

Такой кары акаяннай
Не жадаў нікому!
Павяртаў Тарас з няволі
У няволю дадому.

Зьела царскае караньне
Тарасову сілу, —
Менш глядзеў ужо на неба,
Болей на магілу.

Адно песень, песень гулкіх
Не забыў складаці,
Не забыў у песьнях-думках
Украіну-маці.

Мо' пісаў-бы свае думы
Ён крывёй і далей,
Але з жылаў яго каты
Кроў павыпівалі.

Ласа высмакталі гады
Яго кроў з-пад сэрца.
Хай-жа памяць гэтай крыўды
Навек застанецца!

14

І памёр Тарас. Няволя
З горам даканалі.
Зашумелі сумна-сумна
Дняпровыя хвалі.

Паплылі Дняпровы хвалі
Ажно ў сіне мора.
Хай гавораць хвалі сьвету
Аб вялікім горы!

І заплакала Украіна, —
Плакала ня мала,
Як хавала свайго сына,
Песьняра хавала.

Насып сыпалі высокі
Панад Днепрам сінім,
Каб відаць было далёка —
Па ўсёй Украіне.

Сьпіць Тарас, адпачывае
Ў вёсны і прадвесьні.
Ня сьпіць толькі між людзямі,
Ня сьпіць яго песьня.

Менск, 27.II.39 г.

---

*АД РЭДАКЦЫІ: Твор „Тарасава доля“ Я. Купалы надрукаваны ў менскім часапісе „Літаратура і Мастацтва“ № 12, з дня 3.III.1939 г. Складаецца ён усяго з 15 частак. Зразумела, не перадрукавалі з іх тых частак, якія выражаюць актуальныя палітычныя мамэнты.*

*Бачым з перадрукаванага матарыялу, якую яркую і трапную характарыстыку долі украінскага і беларускага народу на грунце сацыяльна-палітычных адносінаў у пару жыцьця Тараса Грыгоравіча Шэўчэнкі, жыцьцёвы шлях, характарыстыку і значэньне літаратурнай дзейнасьці гэтага геніяльнага украінскага Кабзара даў нам народны паэт Янка Купала.*

---

ЯКУБ КОЛАС

## Баяну-Кабзару

У тваіх вачах
Двух глыбозных, як неба, крыніцах,
Я чытаю шлях,
Багатырскі ўзмах
У вышыні, дзе сьвецяць дзяньніцы.

Ты прайшоў яго,
Як асілак-змагар непахісны,
І агню твайго
Не заліў ніхто —
Сам упаў твой тыран ненавісны.

І расьце адзін
Пустазёл на магіле тырана,
Пра яго ўспамін —
Горкі дым, палын
І страхоцьце пустога кургана.



А ты жыў, Кабзар,
І жывуць твае песьні на сьвеце,
І табе, пясьняр,
Зносяць слова ў дар
Твае... ўнукі і дзеці...
— — — — — — — — — —

У яго вачах,
Двух глыбозных, як мора, крыніцах,
Я чытаю шлях
І арліны ўзмах
У прастор, дзе гараць зараніцы.

(„Літаратура і Мастацтва“, № 11, 27.III.39.)

---

*Я. ШУТОВІЧ*

## Вялікі украінскі паэт

*(з нагоды 125 гадаўшчыны ад дня нарадзін Т. Г. Шэўчэнкі)*

9 сакавіка (25 лютага ст. ст.) 1939 г. мінула 125 год ад нарадзін слаўнага ўкраінскага кабзара — Тараса Грыгоравіча Шэўчэнкі. Братні нам украінскі народ кожны год аддае свайму вялікаму сыну чэсьць — у друку, на асобных урачыстасьцях, акадэміях. Сёлета ўгодкі нарадзін паэта асабліва ўрачыста адзначаліся, і ня толькі самымі Украінцамі, але ўсімі народамі, якія шануюць і ўмеюць шанаваць памяць вялікіх людзей.

І беларускі народ памятуе аб вялікім сыне ўкраінскай зямлі. Па той бок рыскай мяжы, у Савецкай Беларусі, па многіх местах і сёлах, у чэсьць ягоную арганізаваліся ўрачыстыя акадэміі, вечары, беларускі савецкі друк адзначыў угодкі слаўнага Шэўчэнкі адпаведнымі артыкуламі, беларускія савецкія пісьменьнікі — Купала, Колас, Бядуля, Ушакоў, Клімковіч і інш. — к дню юбілею пераклалі на беларускую мову збор вершаваных твораў Шэўчэнкі «Кабзар», які выйшаў з друку ў колькасьці 10 тысяч экзэмпляраў у вельмі харошым выданьні Беларускага Дзяржаўнага Выдавецтва, кампазытары БССР напісалі каля 30 твораў на тэксты вялікага ўкраінскага паэта, арганізаваны выстаўкі, у асобнасьці вялікая менская выстаўка літаратурных, ілюстрацыйных і іншых матарыялаў, прысьвечаных памяці Тараса Шэўчэнкі.

Адзначым і мы гэтым артыкулам памяць геніяльнага Украінца.

* * *

Тарас Грыгоравіч Шэўчэнка нарадзіўся й жыў у тым часе, калі на Украіне й у іншых краёх, у тым ліку й у беларус-

скім, існавалі жорсткія палітычна-сацыяльныя адносіны. Палітычны царскі рэжым з аднаго боку, а лютая паншчына — з другога боку ўзваліліся ўсім сваім цяжарам на міліённыя народныя масы. У варунках такога грамадзка-палітычнага ладу жыцьцёвы шлях Шэўчэнкі быў пакутны й жорсткі.

Нарадзіўся паэт у беднай сям'і прыгоннага селяніна, якая належыла багачу-абшарніку Энгельгардту, — у сяле Марынцах, Зьвенігародзкага пав., Кіеўскай губ., дня 9 сакавіка 1814 г.

Ужо з дзяцінства будучы паэт дазнае многа гора. На 9-тым годзе жыцьця ад непасільнай работы на паншчыне памірае яго матка, а бацька жэніцца другі раз. Ад мачыхі, якая аказалася злой жанчынай, малады Тарас дазнае многа прыкрасьцяў і зьдзеку. Адзінай асалодай для яго былі дзьве сястрыцы — старшая Кацярына, якой пазьней прысьвяціў аднайменную паэму, і малодшая Ірына; яны цёплымі, сардэчнымі адносінамі абдаралі свайго брацікa. Бацька памёр, калі Тарас меў 12 год.

Прагу да навукі й малярства адчуваў з дзяцінства. Бацька разумеў гэта й Тараса аддаў на службу й на пачаткавую навуку да вандроўнага настаўніка дзячка, які аказаўся п'яніцай. Ад гэтага настаўніка, як і ад другога, нейкага Бугорскага, у якога ён прабыў 2 гады, — працярпеў Тарас шмат бяды й зьдзеку. Аб другім настаўніку ў сваім аўтобіографічным пісьме піша Тарас гэтак: «Гэта першы дэспат, на якога я наткнуўся ў маім жыцьці, усяліў у мяне на ўсё жыцьцё глыбокую агіду й пагарду да ўсякага насільля аднаго чалавека над другім»... І Тарас ня выцярпеў зьдзекаў гэтага дэспата й уцёк ад яго.

Пасьля няўдалых стараньняў знайсьці настаўніка маляваньня, Т. Шэўчэнка 15-гадовым хлапцом апынуўся ў ліку дворнай чэлядзі свайго памешчыка Энгельгардта, гдзе быў спачатку на службе ў кухні, пазьней — «казачком» у свайго пана; да абавязкаў «казачка» належалі паслугі пану, — падаваньне вады, люлькі, запалак і т. д. Незадоўга Тарас пакінуў родную Украіну й разьяжджаў із сваім панам па Польшчы, Беларусі. Быў таксама й у Вільні... Ад гэтага пана таксама перажыў Тарас шмат зьдзеку...

У 1831 г. Энгельгардт разам з Шэўчэнкам прыяжджае ў Пецярбург, гдзе ў наступным годзе, на просьбу Тараса, пан закантрактаваў яго на 4 гады цэхаваму маляру Шыраеву, які аказаўся ў адносінах да Шэўчэнкі таксама нягоднікам, як і папярэднія настаўнікі-дэспаты. Тайком, часамі, уцякаў Тарас ад свайго новага настаўніка, каб у Летнім садзе намаляваць копіі із шматлікіх статуяў.

У гэтым садзе, на шчасьце, ён спаткаўся із сваім земляком Сашэнко, студэнтам Акадэміі Мастацтваў, які яго й уцягнуў у інтэлектуальнае й паступовае асяродзьдзе паўночнае сталіцы.

Сьветлыя, паступовыя адзінкі з гэтага асяродзьдзя, першым чынам рускі пісьменьнік В. А. Жукоўскі, пазналіся на творчае душы Тараса Шэўчэнкі, на ягоным таленце, выкупілі паэта й мастака з панскае нявoлі, заплаціўшы Энгельгардту 2.500 рублёў. Гэта сталася 5 мая 1838 г., калі Тарас Шэўчэнка меў 24 гады.

Яшчэ будучы ў няволі, у Пецярбурзе Тарас Шэўчэнка дзякуючы гэнаму інтэлектуальнаму асяродзьдзю крыху вучыўся мастацкіх навук, а па вызваленьні з няволі ўступае ў гэным-жа Пецярбурзе ў Акадэмію Мастацтваў. Апроч фаховых мастацкіх навук, прадметам зацікаўленьня й вывучэньня зьяўляюцца для яго літаратура, гісторыя, а нават грамадзка-эканамічныя навукі. У 1845 г. скончыў Акадэмію й атрымаў годнасьць свабоднага мастака.

Да часу пабыту ў Акадэміі адносяцца яго першыя, дайшоўшыя да нас паэтыцкія творы: 1838 — „Причинна", „Витре буйный", „Тече вода в сине море" і інш., у 1840 г. выходзе першае выданьне яго вершаў „Кабзар", які зьмяшчае: „Думи мои", „Перебендя", „Тополя", „Тарасова ніч", „Катерина" і інш. Тагачасная расейская крытыка ў Пецярбурзе, між іншым і ведамы Белінскі, творы Шэўчэнкі спаткала з насьмешкай, а самога аўтара пагардліва назвала „мужыцкім паэтам". — Шэўчэнка, пэўнеж, не збаяўся гэтага й далей пісаў творы ў „мужыцкім духу".

У 1841 г. выходзе гістарычная паэма „Гайдамакі", накіраваная супроць абшарнікаў, у 1842 г. піша ў рускай мове драму „Никита Гайдай", паэму „Слепая", у украінскай мове — паэму „Гамалия".

Туга па Бацькаўшчыне мучыла Тараса Грыгоравіча. Ён хацеў паехаць на Бацькаўшчыну адразу па выкупе з няволі, аднак гэтае хаценьне мог зьдзейсьніць толькі ў 1843 г. — пасьля 15-ці гадовага прабываньня на чужыне. У гэтым годзе ён на кароткі час адведаў сваю родную вёску, а так-жа іншыя мясцовасьці роднай Украіны, гдзе бачыў ранейшую нядолю свайго народу ў паншчыным ярме. Па прыезьдзе ў Пецярбург піша чарод новых твораў, у тым ліку й ведамую сатыру на дзяржаўны манархічны лад „Сон" (1844), зьліжаецца з падпольнымі рэвалюцыйнымі арганізацыямі й чытае нелегальную рэвалюцыйную літаратуру.

Другім разам едзе Шэўчэнка на Украіну ў 1845 г. на даўжэйшы час. У Кіеве дастае пасаду мастака пры кіеўскай Археолёгічнай Камісіі й з даручэньня гэтай Камісіі робіць экскурсіі па Украіне для маляваньня памятак старасьвеччыны. У гэтым часе піша ён чарод знамянітых твораў — „Еретик", „Суботтов", „Кавказ", „Послание", „Заповит", „Давидові псал-

ми" і інш. і паводле ведамасьцяў сучасьнікаў беспасрэдна агітуе сялянства супроць паноў і цара.

У 1846 г. у Кіеве арганізуецца ведамае тайнае Кірыла-Мяфодаўскае таварыства, з сваімі ідэямі агульнаславянскага братэрства й народавольства. У радох сяброў т-ва знаходзяцца й ведамыя Кастамараў, Куліш, Савіч. Да т-ва прыступае й Шэўчэнка. У выніку даносу ўлады арыштоўваюць сяброў т-ва, а ў тым ліку 18 красавіка (н. ст.) 1847 г. і Шэўчэнку. Усіх, апроч Шэўчэнкі, караюць высылкай, на адносна кароткія тэрміны, у розныя куткі Расеі. Арыштаванага Шэўчэнку спачатку накіроўваюць у Пецярбург і садзяць у каземат III аддзелу, а ў чэрвені 1847 г. высылаюць на вечна ў азіяцкія Орэнбурскія стэпы, у Орскую крэпасьць у салдаты, з засьцярогай, што ня мае права там ані пісаць, ані маляваць,—такую забарону ўласнаручна падпісаў цар. Гэта была помста цара першым чынам за некаторыя творы паэта — сатыру „Сон", „Кавказ" і інш.

У новай няволі цяжка жылося паэту. Але хутка аблегчылася яго доля. Яму ўдаецца, з дазволу ваеннага начальства, пакінуць крэпасьць і выехаць разам з навуковай экспэдыцыяй на Аральскае мора. Тут, паміма таксама цяжкіх умоў жыцьця, паэт мае ўжо магчымасьць пісаць і маляваць, тут не хадзіў ён на муштры, не цярпеў зьдзекаў ад вайсковай улады. На працягу 1848—50 г.г. напісаў Шэўчэнка даволі значны лік рэвалюцыйных па размаху й сіле большых твораў: — «Княжна», «Іржавец», «Варнак», «Царі», «Маріна», «Чумак» і інш., — і многа малых; напісаў таксама некалькі аповесьцяў у рускай мове: «Музыкант», «Несчастный» і інш. Але вярнуўшыся з экспэдыцыі, у выніку даносу на Шэўчэнку ў тым, што ён, паміма забароны, малюе й піша, яго ўвосені 1850 г. накіроўваюць у самую глухую Нова-Петрапаўлаўскую крэпасьць, у якой прабыў паэт пад суровым наглядам доўгіх сем гадоў — ад 1850 да 1857 г. З гэтага часу ведамы толькі адзін верш, у якім Шэўчэнка адклікаецца на Севастопальскую вайну.

Амнэстыя для палітычных, якую даў цар Александар II у 1856 г. з нагоды свайго ўступленьня на трон, не ахапіла Шэўчэнкі. І толькі дзякуючы перадавым культурным дзеячом, на чале з віцэпрэзыдэнтам Акадэміі Ф. І. Талстым, якія хадайнічалі перад царом у справе амнэстыі для Шэўчэнкі, — Тарас Грыгоравіч атрымаў свабоду. 15.V.1857 г. ён сваімі таварышамі быў павядомлены аб гэтым, а толькі 15 жніўня, не дачакаўшыся афіцыяльнага загаду, быў звольнены. З крэпасьці накіраваўся праз Астрахань і Ніжні-Ноўгарад у Пецярбург. У Ніжнім-Ноўгарадзе паліцыя загадала яму аставацца й толькі праз шэсьць месяцаў дазволіла паехаць у сталіцу. У Пецярбурзе Шэўчэнка ўтрымлівае кантакт з рэвалюцыйным асяродзьдзем (Чэрнышэўскі, Серакоўскі), піша новыя, сільныя,



насычаныя рэвалюцыйным гневам, творы — «Неофіт», «Юродивый», «Доля», «Муза», «Слава» і інш.

У 1859 г. Шэўчэнка выяжджае — апошні раз!—на Украіну, гдзе яго арыштоўваюць за агітацыю сялянства супроць цара, паноў і высылаюць назад у Пецярбург, адкуль было яму забаронена ўжо выяжджаць на Бацькаўшчыну і гдзе аставаўся да сьмерці пад наглядам паліцыі. У Пецярбурзе піша чарод новых твораў — «Марія», «Осії гл. XIV», «Молитвы» і інш., у якіх прапаведуе патрэбу паўстаньня й выражае гнеў на ворагаў народу. У 1860 г. выдае паўнейшы зборнік паэзіі „Кабзар".

10 сакавіка 1861 г. паэт памірае ад хваробы вадзянкі. Цяжкія пакуты жыцьця, жудасныя асабістыя перажываньні, цярпеньні й бязупынная барацьба за свой улюблены народ зламалі песьняра на 47 годзе жыцьця. З гэтых 47 гадоў жыцьця Шэўчэнка — 24 г. пражыў прыгонным, 10 год — у азіяцкіх крэпасьцях, 4 гады — пад пільным наглядам паліцыі й толькі 9 год (ад 1838 да 1847) — умоўна вольным.

Сьмерць песьняра ўскалыхнула й пакрыла жалобай усё чэснае й паступовае тагочаснае грамадзянства Расеі. Паэт-дэмакрат Курачкін на правізарычным пахаваньні Шэўчэнкі ў Пецярбурзе ў прамове сваей сказаў: „Яшчэ адна магіла раскрылася перад намі. Яшчэ адна чыстая, чэсная, сьветлая асоба пакінула нас; яшчэ адзін чалавек, які належаў да высокай сям'і абраных, які выказваў за народ самыя сьветлыя вераваньні, які адгадаў запаветныя яго думы й перадаў усё гэта няўміручым словам, скончыў горкае сваё жыцьцё, поўнае барацьбы й пакут".

Згодна з воляй Шэўчэнкі, цела ягонае было перавезена на Украіну, і пахавана пад Каневам, на берагу Дняпра, на высокай Чарнечай гары, 10.V.1861 г. Ягоная магіла ад таго часу сталася месцам масавых пілігрымак, якія аддаюць чэсьць вялікаму чалавеку й геніяльнаму паэту.

* * *

Шэўчэнка быў геніяльным паэтам, але быў ён здольным і арыгінальным мастаком, — а таксама сьпеваком — надта любіў і прыгожа сьпяваў украінскія народныя песьні.

Спадчына па ім, як мастаку, даволі вялікая — пакінуў больш 1000 абразоў, рысункаў і зарысовак.

Падчас прабываньня ў Акадэміі, Шэўчэнка захапляўся творамі акадэмічнага клясыцызму, пазьней адходзе ад яго й накіроўваецца да псыхолёгізму й рэалізму. У жывапісі, так як у паэзіі, дае чарод рэалістычных абразоў, якія сваім зьместам выражаюць дакор палітычнаму рэжыму, ілюструюць сацыяльную й нацыянальную долю ўкраінскага народу.

Шэўчэнка працуе ў многіх жанрах мастацтва — дае пэйзажы, партрэты, аквафорты, разам з гэтым дае палітычныя

карыкатуры. Па ссылцы, апошнія два гады працуе над аквафортай. Захапляецца й вывучае аквафорты Рэмбрандта — геніяльнага галандзкага мастака.

Гравюры з абразоў Рэмбрандта прыносяць Шэўчэнку славу й яму ў 1860 даюць годнасьць акадэміка „за мастацтва й веду ў галіне гравюрнага мастацтва".

Цікавыя пагляды Шэўчэнкі на мастака. Мастак — паводле яго — гэта «носьбіт сьвета праўды»; быць добрым гравюрыстам — гэта знача «спрыяць пашырэньню найхарашэйшага й павучальнага — сярод грамадзянства, — знача быць карысным людзям і Богаві".

* * *

Але заслыў Шэўчэнка не як мастак, і не як сьпявак. Заслыў ён і ўпісаўся залатымі літарамі ў гісторыі ўкраінскай літаратуры й культуры, а таксама ў гісторыі культуры агульна-чалавечай, як мастак слова, як геніяльны паэт.

Шэўчэнка перадусім паэт-лірык. Ліра ягоная, настроеная на патрыётычны лад, апявала слаўную мінуўшчыну Украіны, выражала пратэст супроць несправядлівасьці, зьдзеку й паняверкі ў адносінах да ўкраінскага народу з боку ягоных ворагаў палітычных і сацыяльных, прарочыла роднаму народу славу й добрую будучыню, адначасна выражала шчыры, апёрты на глыбокіх хрысьціянскіх асновах гуманітарызм, пачуцьцё пашаны да чалавека агулам.

Творчасьць Шэўчэнкі, у сэнсе фармальным і ідэйным, наскрозь пранітавана народнымі элемэнтамі.

„Глыбокая народнасьць — сутнасьць творчасьці Шэўчэнкі" — казаў Максім Горкі. А ведамы Добралюбаў пісаў: „У Шэўчэнкі ўвесь круг яго дум і спачуваньняў знаходзіцца ў літаральнай адпаведнасьці са зьместам і ладам народнага жыцьця. Ён вышаў з народу, жыў з народам, і ня толькі думкай, але й абставінамі жыцьця быў з ім моцна зьвязаны... Ён блізкі да народнай песьні, а вядома, што ў песьні выліўся ўвесь прайшоўшы лёс, увесь сапраўдны характар Украіны; песьня й думка складаюць там народную сьвятыню, лепшы здабытак украінскага жыцьця: у іх гарыць любоў да радзімы, зьзяе слава мінуўшых подвігаў; у іх дыхае й чыстае, пяшчотнае пачуцьцё жаночай любові, асабліва любові матчынай" (зусім такі характар мае й беларуская народная песьня, беларуская народная творчасьць).

Наш удумлівы крытык і паэт-эстэт, прадчасна памёршы Максім Багдановіч з нагоды стагодзьдзя ад дня нарадзін Шэўчэнкі, якраз 25 гадоў таму назад, прысьвяціў два артыкулы ўкраінскаму генію. Артыкулы напісаны ў рускай мове. У першым з іх п. з. „Краса і сіла", аўтар, праводзячы аналёгію між паэзіяй Шэўчэнкі й украінскай народнай паэзіяй, піша: «Ёсьць зоры, якія так блізкі адна да другой і так роўна



злучаюць сваё сьвятло, што здаюцца нам адным непарыўным цэлым. „Падвойнымі зорамі" называюцца гэтыя сьвяцілы. Іх лёс стаў лёсам музы Шэўчэнкі й украінскай народнай паэзіі: падвойнай зоркай сьвецяць яны ў сьвеце мастацтва й хараства». І далей, даўшы аналіз верша Шэўчэнкі й адзначыўшы спэцыфічныя асаблівасьці ягонай рытмікі, кажа, што „у асобе Шэўчэнкі сусьветная літаратура мае паэта з вершам мэлёдыйным і зграбным, паэта, які хараство сваіх твораў будаваў не на сродках паэтычнага ўплыву, што б'юць у вочы, а, наадварот, — на сродках найбольш тонкіх: асанансах, алітэрацыях, унутраных рыфмах; паэт, які да гэтага хараства адзначаных элемэнтаў вершаў далучыў яшчэ нязвычайную сілу сваіх рыфмаў, а таксама арыгінальнасьць, жывасьць і грацыёзнасьць рознастайных мэтраў". „Якраз тут, — кажа Багдановіч, — у гэтай галіне верша й высьвятляецца, быць можа, найбольш дасканала ўсё тонкае хараство паэзіі Шэўчэнкі: звонку простая, скромная, яна поўна ўнутраным, прыхаваным, ня кожнаму зроку даступным прыгоствам". Паводле ліку ўнутраных рыфмаў, у рускай літаратуры Багдановіч не знаходзе паэта, роўнага Шэўчэнку.—У другім артыкуле, Максім Багдановіч, разважаючы аб агульналюдзкім значэньні твораў Шэўчэнкі, піша: „Пэўне-ж, тыя глыбоканацыянальныя формы, у якіх заключаны агульналюдзкі зьмест, шмат болей скажуць сэрцу Украінца, чым чалавеку іншай народнасьці. Але й гэтаму апошняму Шэўчэнка ня будзе чужым і незразумелым, і ў яго душы творы ўкраінскага паэта знойдуць сабе водгук, бо пад іх своеасабліваю чаканкаю хаваецца поўнацэнны мэтал духоўнай культуры, агульнай усім цывілізаваным народам".

Асаблівае значэньне, зразумела, творчасьць Шэўчэнкі мае для ўкраінскага народу. Мы адзначылі вышэй аб гэтым. Тут яшчэ дадамо. — Творчасьць Шэўчэнкі фармавала й фармуе нацыянальную душу ўкраінскага народу, узгадоўвала й ўзгадоўвае яе ў духу безгранічнай любові да сваей Бацькаўшчыны, у духу патрэбы працы й барацьбы за лепшую будучыню Украіны.

Творчасьць Шэўчэнкі сталася магутным фундамэнтам для ўсяго ўкраінскага нацыянальна-культурнага будаўніцтва й для ўсяго ўкраінскага адраджэнскага руху; у цяжкіх хвілінах народнага жыцьця — яна зьяўляецца й надоўга будзе зьяўляцца жаралом веры, натхненьня дзеля творчай патрыятычнай дзейнасьці Украінцаў. „Імя Шэўчэнкі — пісала «Діло» 12 сакавіка 1939 г. — ёсьць сынонімам веры, надзеі і любові"; Шэўчэнкі „ўсё жыцьцё й уся духовая спадчына — гэта адзін вялікі гімн бадзёрасьці й ідэалізму".

* * *

Сьвет адгукнуўся на творчасьць геніяльнага ўкраінскага паэта, так дзеля фармальных, як і ідэйных ейных вартасьцяў.

Украінскі Навуковы Інстытут у Варшаве ў 1938 г. выдаў том XV твораў Т. Шэўчэнкі — *„Шевченко в чужих мовах“*. У ім пададзена багатая чужая бібліёграфічная літаратура аб жыцьці й творчасьці Шэўчэнкі, а таксама пераклады твораў Шэўчэнкі на чужыя мовы.

Аб папулярнасьці ў сьвеце Шэўчэнкі сьведчаць пададзеныя ў томе пераклады некаторых твораў паэта на розныя мовы, у ліку больш 19, належачыя да групаў моў: германскай, раманскай, славяна-балтыцкай, тюрка-татарскай і жыдоўскай. Пададзеныя так-жа там і пераклады на беларускую мову. Сярод перакладчыкаў беларускіх вылічаны паэты: Ф. Чэрнышэвіч, Я. Купала, А. Гурло й М. Краўцоў. І толькі. Мы ведаем, што над перакладамі Шэўчэнкі працаваў большы лік беларускіх паэтаў. А такі Максім Багдановіч, якога цікавыя выказваньні аб творчасьці Шэўчэнкі падалі мы вышэй і які пералажыў, праўда, на рускую мову, некалькі вершаў Шэўчэнкі („Кастамараву“, „У няволі“, „У няволі цяжка“ і інш.), ня ўспомнены ў кнізе аніводным словам ані ў аддзеле беларускім, ані ў аддзеле рускім!

Родны, блізкі нам геніяльны Украінец. І песьня яго, як кажа Купала, „нашла водгалас пачэсьне ў сэрцы беларускім“.

Вялікі ўплыў зрабіў Шэўчэнка на беларускую літаратуру. Тэматыка, ідэі, мастацкія сродкі творства — вось той матарыял, які бралі з творчасьці Шэўчэнкі некаторыя нашыя паэты.

Пад уплывам музы Шэўчэнкі спасярод старэйшых беларускіх паэтаў знаходзіліся — Янка Купала, Якуб Колас, Зьмітрок Бядуля, з паваенных, маладзейшых паэтаў, — Паўлюк Трус, Пятрусь Броўка, Аркадзь Куляшоў і інш.

Сёлета, з нагоды юбілею Шэўчэнкі, слаўнаму ўкраінскаму юбіляру прысьвяцілі цёплыя, шчырыя вершы: белар. сав. паэты: Я. Купала, Я. Колас, Пятрусь Броўка і паэтка Эдзі Агняцьвет. Асаблівым-жа адзначэньнем сёлетняга юбілею было, як адзначана на пачатку, выданьне Бел. Дзярж. Выдавецтвам поўнага збору паэзіі Шэўчэнкі — „Кабзар“ у перакладзе на беларускую мову.

Жыве Т. Шэўчэнка сярод свайго Народу, жыве сярод нас Беларусаў, жыве й у шырокім сьвеце.

Яго ідэі і мастацкае слова няўмірушчыя!

---

**Літаратура:** Т. Г. Шевченка, повній збірник творів, під редакцією Д. Дорошенка. Катеринослав, 1914; Тарас Шевченка, т. XV. — Шевченка в чужих мовах. Выданьне Украінскага Навуковага Інстытуту. Варшава-Львоў, 1938; Большая Советская Энциклопедия, т. 61, Масква 1934; «Звязда» №№ 51, 53, 55, Менск, 1939; «Полымя рэвалюцыі» №№ 1, 2, 3. Менск, 1939; «Літаратура й Мастацтва» №№ 11, 12 (артыкул Якуба Коласа «Шэўчэнка й беларуская паэзія»), 13 і інш. Менск, 1939.



*Т. Г. ШЭЎЧЭНКА*

## Запавет

Як памру, дык пахавайце
Мяне на кургане,
Сярод стэпу шырокага
На Украіне слаўнай,
Каб бязкрайнія разлогі,
І Дняпро, і кручы
Было відна, было чутна,
Як грыміць грымучы.

Як ён змые з Украіны
У сіняе мора
Кроў ворагаў... Вось тады я —
І поле і горы
Усё пакіну, паляту я
Да Бога самога
Памаліцца... Да таго-ж я
Ня ведаю Бога!

Пахавайце, ды ўставайце,
Ланцугі парвіце,
І варожай злой крывёю
Волю акрапіце.
І мяне ў сям'і вялікай,
Сям'і вольнай, новай,
Памянуць вы не забуцьце
Ня злым, ціхім словам.

25-сьнежня 1845 у Пераяславе.

Пераклаў *З. Бядуля*

---

*Т. ШЭЎЧЭНКА*

*(З „Гімалаі“)*

Сном дрэме ў гарэме — ў раю Візантыя
І дрэме Скутары; і толькі шуміць
Басфор неўгамонны, то стогне то вые,
Відаць Візантыю задумаў збудзіць.
А сінее мора гавора Басфору:
«Глядзі, а то я твой ўсхвалёваны шум

І пену хваль ілам закідаю горай!
Ня ведаеш хіба, якіх я нясу
Гасьцей да султана?»

Так мора спыняла.
(Любіла адважных, чубатых славян).
Басфор схамянуўся, Турэччына спала,
Драмаў у гарэме пракляты султан.
Адно ў падзямельлі ў Скутары ня могуць
Казакі заснуць. І чаго яны ждуць?
Пасвоему моляцца скутыя Богу,
А хвалі на той бок ідуць і равуць.

Пераклаў *М. Танк*

---

Мне усёроўна, ці я буду
Жыць ў Украіне век, ці не,
Ці хто успомне ці забудзе
Мяне завеянага ў сьнег
Ў чужым краю — ўсёроўна мне.

Ў няволі вырас між чужымі,
І неаплаканы сваімі,
Ў няволі плачучы памру.
Малога сьледу не пакіну
На нашай слаўнай Украіне,
На зямлі нашай — не сваей.
І не успомне бацька з сынам,
Ня скажа: «Галаву схілі,
Маліся, сын: за Украіну
Яго замучылі калісь».

Мне усёроўна, ці сьвятыя
Славы пачуюцца, ці не...
Але не усёроўна мне,
Як Украіну людзі злыя
Прысьпяць, як акрадуць яе
І збудзяць ў ночы агнявыя...
Гэта не усёроўна мне!

Пераклаў *М. Танк*

---



*М. ТАНК*

# Да справы перакладаў мастацкае літаратуры

Усё больш і больш нам прыходзіцца спатыкацца на літаратурнай ніве з суседзямі, перадусім з тымі суседзямі, якіх жыцьцё так падобнае да нашага жыцьця — і цяжкімі абставінамі, імкненьнямі і барацьбой. Праяўляецца зацікаўленьне як з аднэй, так і з другой стараны. Працэс гэты павінен і па меры магчымасьці будзе паглыбляцца далей, ня гледзячы, якімі граніцамі й часам мы аддзелены, на якой мове складаюцца песьні. Важна, што яны зьвіняць тымі самымі струнамі, што й нашы.

Пераходзім да справы перакладаў.

У нас яшчэ можна спаткаць нейкае незразуменьне гэтага пытаньня. Адны баяцца «чужых уплываў», другія — ня лічаць патрэбным пераклады з літаратураў расейскай, польскай, украінскай..., бо й так кожны інтэлігент-Беларус зразумее творы напісаныя ў гэтых мовах. Перадусім «уплывы» самі сабой адпадаюць праз дабор перакладаных твораў, а хіба ніякай пагрозы ня можа быць для нас з боку мастацтва, калі ў гэтай галіне будзем магчы нечага навучыцца.

Праўда, недаацэнка перакладаў мае свае, хоць усё-ж неабаснаваныя прычыны. Калі Пушкіна, Міцкевіча, Шэўчэнку разумее інтэлігенцыя, дык гэта яшчэ ня ўсё. Трэба іх зрабіць даступнымі масам, якія яшчэ іх не разумеюць. Зноў-жа й да самога перакладу трэба падыходзіць больш паважна, не забываючыся, што гэта ня простае рамясло, але адна з тых галін літаратурнай працы, якая вымагае здольнасьці вычуцьця, веды, апанаваньня мовы арыгіналу й творчага падыходу.

І хоць у нас ужо даўна распачалася праца над перакладамі (Колас, Купала, а цяпер маладняк), усё-ж у самым працэсе гэтай працы над вартасьцямі таго ці іншага перакладу ў нас зусім мала цікавіліся й застанаўляліся пры ацэне. У выніку чаго, перакладаючы напр. Пушкіна ці Шэўчэнку ў нас проста перапісывалася, дзе-ня-дзе толькі зьмяняючы, як зазначыў др. Я. Станкевіч (Т. Шэўчэнка, том XV, Варшава 1938 бач. 197), фонэтыку й памагчымасьці морфолёгію, слоўнік.

Блізкасьць нашай мовы да ўкраінскай і рускай дае нам магчымасьць зблізіць пераклад да арыгіналу, захоўваючы ня толькі стыль, але й рытміку й рыфмы, што напр. немагчыма пры перакладах некаторых твораў на польскую мову з беларускай дзеля адсутнасьці (дактылічнага) націску на трэйцім

складзе й агранічанай колькасьці мускіх рыфмаў. Немагчыма напр. пераглажыць:

„І пачнеш блудзіць ты песьнямі
зноў над нівамі узорнымі"...
(„Нарач")

або паэму «Журавінавы цьвет» тэй рытмікай, якой яна напісана. Але з другога боку блізкасьць да мовы арыгіналу ставарае пагрозу, што перакладчык можа лёгка стаць перапісчыкам, які зусім мала што мае супольнага з мастацтвам. Перакладаючы Пушкіна «Анчар» мясцамі можна слова ў слова перапісаць пабеларуску: —

К нему и птица не летит
и зверь нейдёт, лишь вихор черный
на древо сьмерти налетит...

перакладаем:

Да яго птушка не ляціць
ня йдзе зьвер, толькі вецер чорны
на дрэва сьмерці наляціць...

І паміма таго, што застаўся й вобраз той самы й рыфмы (налетит—наляціць) чуецца ўся беднасьць такога перакладу. Трэба перш учуцца, памагчымасьці адтварыць вобраз. Лепш нават «забыцца» на йснуючыя рыфмы, хіба ніяк іх ня можна абмінуць, а на зьмест глядзець, як на матарыял, які ты мусіш апрануць у мастацкую вопратку:

На ім і птушка не спачне,
зьвер сьледу блізка не пакіне,
часамі вецер ахіне —
сьмяротны веіць над пустыняй.

Або:

Яд каплет сквозь его кору,
к полудню растопясь от зною
и застывает к вечеру
густой прозрачною смолою.

Перакладаем:

Як толькі сонца стане грэць
атрута капае, расіцца,
пад вечар стыне на карэ
густой празрыстаю жывіцай.

Гэтыя кароткія заўвагі перадусім трэба помніць пры перакладах твораў Т. Шэўчэнкі, якія для нас маюць вартасьць ня толькі з боку мастацкага; Шэўчэнка ёсьць, як кажа St. Tudor, „ogromnie współczesny". Лепшыя рэчы варта перакладаць некалькі асобам,—была-б большая магчымасьць параўняць, выправіць і павучыцца.

---



*ЯЗЭП ПУШЧА*

# Новыя лісты

*(Із зборніку „Песьні на руінах", бач. 111—120)*

Не пракляну сваіх радзінаў
Пад сіпласьць ядраў халастых;
Ізноў з чужыны на радзіму
Мне хочацца паслаць лісты.

Ня вымерлі усе жывыя, —
Есьць там радня мне па крыві.
Чаго ваўкі так з ветрам выюць?
Чыя пагібель на краі?

Якія ў хмарах завываньні!
Як-бы нябожчыкаў нясуць.
Сьпяваюць сіверы літаньні
Пра радасьць нашу і пра сум.

Ці-ж варта сьцюжай атуляцца?
Пад ёй сінее цела й кроў,
Ржавее дзень сыры на клямцы,
Вылазіць волас з чорных броў.

Ў людзкіх вачох асеньні сполах,
Мігрэні змучанай пары.
Я чую, як пад жоўты шолах
Ганяюць чорныя шары.

Шапоча чэрап чалавечы...
Більярдны стол... жалобны кон...
. сягонешні сьвяточны вечар
Прайду я ціха ля вакон.

Ня буду заглядаць у шыбы —
Баюся радасных грымас.
Я вылечу сваё ушыбы,
А покуль—ўсім спакойны час.

I

Мой родны, як здароўе, сілы?
Якія радасьці ў сям'і?
Ці старасьць ног не падкасіла,
Ці з рук ня выпусьціў сяўні?

Хто ў ночы блудзіць ля ваколіц,
Хто моліцца перад Хрыстом?
Мяне ўсё гэта непакоіць, —
Такі асеньні ўжо настрой.

Татуля мой, паклон ад сына,
Паклон суседзям і радні.
Хацеў-бы быць я селянінам
У нашы ўзьюджаныя дні.

Ды што-ж, калі жыцьцё судзіла
Інакшы лёс ад роду мне:
Я закідаю рук вудзілны
На шыю песеннай вясьне.

Тулюся целам няпрытомным
Да палкіх форм яе грудзей.
Яна трымае песень томы
І церні радасных надзей.

Таму й пакінуў я палетак,
З курамі сонную павець.
Ня ведаю — ці ўцямна гэта,
Ці ў моцы сына зразумець?

Татуля мой, ты няпісьменны,
Жывеш 'шчэ першабытным днём
Заўсёды вечарам асеньнім
Ідзеш у хлеў з сьвятым агнём.

Ўсё там авеяна таемным, —
Загадкай вечнай чорны цень.
Ідзеш бачком — хадою кемнай
І моўчкі тулішся да сьцен.

Я вобраз гэты сёньня бачу
І сам падобен да яго.
Мае удачы і няўдачы
Разьвейце, ветры, па лагох!

На йгрышчы гэтым я ня буду,
А ты, татуля, ўсё-ж схадзі!
Пайду я заўтра чорным грудам
У даль маўклівую адзін.

Сяброў сваіх я там ня стрэну,
Іх сьцежкі ўлукаткі пайшлі.
З свайго дастану сэрца стрэмку
І уваткну ў душу зямлі.

Няхай адчуе боль цярпеньняў,
Якія ў песьнях я нясу.
Зара мне зваліцца на цемя,
Рассыпле йскрыстую расу.

Падстаўлю ёй гадоў прыгоршчы
І чэрап памінальных дзён.
Над смуткам, гольле рас-
[пасьцёршы,
Заплача прыдарожны клён.

Лісты дарогаю гусінай
У вырай будуць адлятаць.
Татуля мой, прыдзі да сына,
Не дачакаўшыся й ліста.

Ты да магілы знойдзеш сьцежку,
Чытаць я вершы буду там;
Сваю апошнюю усьмешку
Табе з паклонам перадам.

II

Халат вякоў віхры ўзматнулі,
Ў гадох застукаў дзень крыві;
Мая цярплівая матуля,
Паклон сыноўскі мой прымі.

Якія-ж дні цябе сустрэлі
Каля расхрыстаных лагчын?
Пісалі мне, што пастарэла,
Што твар на пісягох маршчын?

Чало пакрыў бялявы смутак,
Вачэй блакіт паласкавеў.
Тваёй тугі вячэрні згустак
У чары лье асеньні зглей.

Зара над хатай пазяхае;
Ідзеш адна ты церац двор...
Вярба схілілася сухая
Каля засмучаных вазёр.

Такія вобразы і зданьні
Перад вачмі маіх трывог.
Твае сялянскія паданьні
Ў душы сваёй я не зьбярог.

Калісьці, праўда, быў аратым,
А сёньня іншае пасяг:
З сваім малодшым братам
Нясу скрываўлены твой сьцяг.

Няхай сабе растрэпле сівер,
Няхай парве і кіне ў дол.
Мая матуля, 'шчэ ня вымер
Ў душы сыноўскай сум і боль.

Хацеў-бы я, каб паміж днямі
Прабег пудлівай масьці лось...
Ня ведаю, ці ўспамінаеш
Мяне ты за вячэрай сьлёз?

Калі вялікі ўсходзіць месяц,
Гляджу заўсёды ў даль дарог:
Якія рыцары гразь месяць
І хто зьяжджаецца на торг.

Шуміць бярозавы гасьцінец,
Гальлё сланяючы ў бакі.
Мая матуля, срэбны іней
Губляе месяц ля ракі.

Лавіць яго ў зялёных марах
Дазволена глаўлітам мне.
Я вельмі рад—жыву ня марна,—
Вянок паложаць на труне.

Пісаць ня маю больш нічога,
Пяро скрабе далоні рук.
Мая пясьнярская дарога
Не давядзе мяне к дабру.

Усе, усе й мае навіны,
Ня маю ўцешыць болей чым.
Вітаньне шчырае ад сына...
Душы ніяк не залячыць.

---

III

Ня змогуць завесьціся ў словах мікробы,
Патручаны ўсе сулімою і воцтам.
Поэты Заходняй, Усходняй Эўропы,
Вам ліст пасылаю сэкрэтнаю поштай.

Вялікую страту дзяржавам учыніць:
Ня возьмуць з яго, ні цэнзурных, ні мытных.
Поэты, хто дзьверы з вас першым адчыніць?
Хто хоча пачуць беларускія рытмы?

Даўно вы поэзіі ўжо ня чыталі;
Абрыдла як вам і жыцьцё, і плянэта!
А ў нашай краіне пад гукі цымбалаў
Уцешныя песьні сьпяваюць поэты.

У пушчы шумлівай, дуброве зялёнай
Мы ловім і любім таемнае штосьці;
Там нашы эстрады, там нашы салёны,
К нам вецер увосень заходзіць у госьці.

Яго мы частуем рабінавым сокам, —
Каб ведалі толькі, якая ў нас восень!
Ліст кожны ўзьвіваецца ў неба высока
І віхры між зорамі белымі носяць.

У нашых прасторах шмат казачных шумаў...
Ці быў хто калі з вас у нашым Палесьсі?
Ці бачыў, як сінія хвалі сумуюць,
А людзі сьпяваюць спрадвечныя песьні?

У гэтым сягоньня і наша уцеха,
Ад гэтых вось песень мы й вучымся ладу.
Поэты у нас не разьбіты на цэхі,
Ніхто не складае дакучных балядаў.

Ў нас новыя творацца песьні і жанры, —
Ня любім мы толькі кляймо на іх ставіць.
Паслухайце раніцай, вечарам раньнім,
Як ветры старонкі кніг нашых лістаюць.

Мы блізкія сёньня людзям і прыродзе, —
Ў нас пульсы крывёю зьвярынаю б'юцца.
Ці чулі што-небудзь аб нашым народзе?
Ці чулі што-небудзь аб вечным бяспуцьці?

Ліст гэты пішу я да вас з Беларусі,
Дзе зоры вачэй аніколі ня плюшчаць...
Вітаньне з паклонам зрываецца з вуснаў,—
Бывайце, бывайце!.. Вітае вас.

Пушча.

*СТАНІСЛАЎ ГРЫНКЕВІЧ*

# Трагічны крызыс

Аднэй з характэрных, найбольш мо' важных свомасьцяў і праяваў жыцьця зьяўляецца *рух*. У пайме руху ляжыць імкненьне (у самым прадмеце ці дзеючай волі) да нечага новага. Рух — гэта перамена месца, пошукі новых аспэктаў, новых формаў жыцьця.

Ад пачатку арганізаванага жыцьця ў людзей наглядаецца гэнае самае зьявішча. Новыя ідэі, вандроўкі людзей паасобных і народаў, сацыяльныя, рэлігійныя, эканамічныя плыні, а ў сувязі з гэтым войны, рэвалюцыі, змаганьні аружныя і неаружныя — гэта ня што іншае, як праявы таго самага біолёгічнага закону, датарнаванага да канкрэтнае эпохі. Гэныя розныякія «рухі»—сьведамыя й нясьведамыя, прадбачаныя й непрадбачаныя, ці накінутыя незалежнымі вонкавымі ўмовамі,—зьдзейсьняюць паасобныя *культуры й цывілізацыі*. Вядомы нам сьвет у сваю гістарычную пару перажыў шмат заняпадаў і нарадзінаў новых культураў і цывілізацыяў.

Ці заняпады адных эпохаў і паяўленьне новых прыходзілі крытычна, значыцца раптоўна, неспадзеўкі, трудна сказаць. Трэба думаць, што крызыс, аднолькава з гэтым, як наглядаем у біолёгіі, мае свае прадпасылкі. Прадпасылкі, вялікае іх мноства, расьцярушываюць нашую ўвагу й дзякуючы таму сам крызыс часта здаецца нам зусім незразумелым, вырасшым неспадзеўкі, хаця ён толькі лёгічным канчаткам ранейшых фактаў

Мы сяньня прывыклі да самога тэрміну «крызыс». Ён не прадстаўляе для нас быццам нічога таёмнага. Усе прывыклі да крызысу эканамічнага, які толькі што перажылі, ці яшчэ перажываем. Крызыс сяньня—гэта нешта пэрманэнтнае. Найmаладзейшае, пасьляваеннае пакаленьне ня ведае агулам іншых умоваў жыцьця, чымся з пары «крызысу». Думаючы аб крызысе, маем на ўвеце адну толькі ягоную старану, мяноўна эканамічную. У сапраўднасьці гэта адна толькі з праяваў трагічных нашых дзён, ломкі старога, пошукаў новага, нейкае вялікае мітусьні ідэяў, лёзунгаў з павадырамі ўсякіх масьцяў. За гэнымі фрагмэнтамі, за жывымі дзеючымі асобамі, за падзеямі блізкімі нам асабіста, ня відаць сапраўднага жарала мітусьні, ня бачым, як чэзьне дасюлешняя форма праяваў душы, ня бачым, як памірае, прыйшоўшы ў тупік, сучасная нам культура й цывілізацыя.

Чаму думаючы аб сучаснай пары датарнаваў-бы да яе назоў «трагічны крызыс»? Дзеля таго, што на'т пры сьмерці вока радуецца новым жыцьцём, якое прышло на зьмену старога. У ймгле, расьцярушанасьці сяньняшняе эпохі ня вырастае нічога новага, што магло-б, хаця-б ад часьці, быць лепшым за паміраючае старое.

Ці сапраўды ніхто ня бачыць і не ўяўляе трагедыі нашых дзён? Ёсьць людзі дальназоркія, цьвярозыя, правільна ацэніваючыя становішча. Іхні голас мала толькі чутны сярод зьвягі падгалоскаў тых, каму патрэбныя чад і гоман ніжэйшых інстынктаў і почаваў чалавека.

З паміж дыягностаў, пішучых у розных мовах, у розных часьцях сьвету, хацеў-бы спыніцца над паглядамі *A. Carrela*. Кніжка, у якой гаворыць на нашую тэму аўтар, мае назоў *„L'homme, cet inconnu"* (*„Чалавек істота няведамая"*). Вельмі цікаўна, што аб чалавеку, як аб нечым няведамым, піша біолёг, адзін з найбольш выдатных і заслужаных дасьледчыкаў у сваёў адумысловасьці. Прозьвішча аўтара шырока праслаўленае ў міжнародным сьвеце, як найбольш сьмелага экспэрымэнтатара над тайніцамі жыцьця. У сваёй кніжцы на некалькісот бачынах даў ён чытачу амаль ня поўную сынтэзу ўсяго, што навука ў сваіх розныякіх галінах даведалася аб чалавеку, як аб суцэльнасьці біолёгічна-псыхічнай. І гэны вучоны называе аканчальна свой твор *„Чалавек—істота няведамая"*...

Некалькі стагодзьдзяў працяжнае працы ў лябораторыях, кніжніцах, нагляданьня за праявамі натуры паказала нам тайніцы й свомасьці матэрыі, дало ўладаньне над «небам і зямлёю», толькі ўсё гэта не дало адказу, не адчыніла нас самых перад сабою. Гэта тэза й адначасна высnаў Carrela. Кажа ён, што ўвесь поступ цывілізацыі ня вырашыў найважнейшых, найбольш аснаўных праблемаў, *чым* можам прыдбаць чалавеку больш шчасьця, ад якіх дзейнікаў шчасьце залежыць. І здаецца, што не падыходзілі мы бліжэй да вырашэньня гэнага пытаньня, хаця ўсё было быццам накіравана да гэтага. Заміна ляжала ў памылковым сьветапаглядзе, у самай атмасфэры адносінаў да жыцьця. Матэрыялізм — вось калецтва чалавека. «Вера», што матэрыя крыніца й чалавека й ягонага шчасьця, накіровывала на фальшывы шлях пошукаў у напрамку ня тым, як трэба. Боль, цярпеньні паказывалі, што неяк яно няскладна йдзе, клікалі да рэвізіі паглядаў.

Здабычы тэхнікі выклікалі колёсальныя перамены ў жыцьці штодзенным. Жывецца сяньня лепш і лягчэй, чымся калісь. І хаця аўтар мае на ўвеце Амэрыку з ейнаю цывілізацыяю, можам з ім згадзіцца без засьцярогаў. Бязумоўна, сучасны пролетары й селянін жывуць і ядуць быццам лепш, чымся вяльможа некалькі стагодзьдзяў таму назад.

Здабычы іншых эпохаў, ведамасьці тэхнічныя й агульныя, дзякуючы прэсе, дзякуючы агульнай шырокай асьвеце, узбагачываюць розум. Затое трудна казаць, каб старана маральная паказывала аднолькавы поступ і была на вялікім узроўні. Вера ў матэрыю зрабіла непатрэбную веру ў значэньні рэлігійным.

Як гэта пераломліваецца ў чалавеку? Усе меркаваньні й дзеяньні накіроўваюцца ў напрамку, які здаецца нам практычным і карысным. Тып адзінкі, якая вырастае ў такой атмасфэры, вызначаецца хітрасьцю, адсутнасьцю таго, што завём «хрыбятніцаю маральнаю». Нястача фундамэнту маральнага, калі няма нічога сьвятога, пэўнага, адклікаецца ў плошчы інтэлекту. Асьвета робіцца патрэбнай, паколькі яна мяркуе аб практычнай старане, няма імкненьня безінтэрэсоўнага паглыбіць яе.

З памылковых адносінаў да праўды жыцьця пачало яно выглядаць, як прыгожы твар адлюстраваны ў крывым люстры. Заняпад маральнасьці, нястача вялікіх ідэалаў, дэгэнэрацыя духовая й далей цялесная — вось дарожка, якая адчыняецца перад намі. А ўсё праз тое, што натуга навукі й тэхнікі мела на ўвеце не найшырэйшае дабро чалавека, а толькі выкарыстаньне ўсіх магчымасьцяў адзінкі й грамады дзеля разьвіцьця й поступу гэнае-ж тэхнікі. Ніхто ня цікавіўся чалавекам-адзінкаю, ня ведалі, ці забыліся аб сапраўдным зьмесьце чалавека. Забыліся, што самапазнаньне можа быць лекам на гэнае зраўнаньне ўсіх перад бажком — цывілізацыяю матарыяльнаю.

Чалавек — гэта крыху больш, як пэўная колькасьць фізыка-хімічных свомасьцяў. Дзеля здароўя, значыцца дзеля добрага самапачуваньня, ня толькі важна, каб усе органы цела працавалі без пахібаў. Пачуцьцё, якасьць інтэлекту, узровень маралі, агульнае разьвіцьцё духовае — ўсё гэта дзейнікі й складовыя часткі здароўя й якасьці адзінкі й ня менш важныя за старану чыста цялесную. Бяз гэных свомасьцяў вышэйшае катэгорыі безкарысным, ці на'т шкодным будзе поступ тэхнічны. Не навукі мэханічныя, фізычныя й хімічныя дадуць нам мараль, здароўе, розум, роўнавагу псыхічную й нэрвовую, пачуцьцё бясьпечнасьці. Ня толькі фізыка й фізыёлёгія хай будуць асновамі ўзгадаваньня, трэба пакінуць належнае месца дзеля характару, праблемаў эстэтыкі, рэлігіі.

Ашчаднасьць, імкненьне да найбольшае карысьці й выкарыстаньня давялі да спэцыялізацыі, звужваючы й абмяжоўваючы агульныя магчымасьці паасобнае адзінкі. Жыцьцё-ж само ня ведае такое вызначанасьці й яно прымушае адзінку непадгатаваную вырашаць у чужой ёй дзялянцы.

Дык ніколі ня можна астацца бяз *сынтэзы* й бяз людзей, якія выпрацоўваюць сынтэзы, прынамся найважнейшыя з іх.

Дасюлешнія нашыя ведамасьці аб старане цялеснай чалавека выраслі вельмі высака. Трэба аднак сказаць, што такія, вельмі простыя, хаця й аснаўныя адначасна пытаньні, як скажам: як зьдзейсьняецца паняцьце? якія шляхі лучаць мозаг з думкаю? — яны дасюль нам няведамыя й ня вырашаныя. Ахвотна раўняюць арганізм чалавека з машынаю. Калі ёсьць тутака аналёгіі, дык ня трэба забывацца, што й розьніцы вельмі вялікія. Чалавек можа нясумерна больш стрываць, чымся выходзіла-б з магчымасьцяў ягонага цела, дзе нам здаецца мы ўсё разумеем.

Незалежна ад адаронасьці прыроднае, можна павялічыць інтэлект пры дапамозе працы — прывычкі да мышленьня, спасьцярогаў, нутраное дысцыпліны. Затое пераход хуткі да новых уражаньняў, шматлікія перамены рознаякіх абразоў і перажываньняў, недахоп ці нястача паглыбленьня, няўмеласьць да напружаньня — ўсё гэта спыняе разьвіцьцё інтэлекту. Можна было-б дадаць, што зашмат спортаў, лішне багатая ежа пакідаюць ад'емныя сьляды на духовым росьце. Аднаго толькі інтэлекту мала на тое, каб стварыць веду. Навуковая праца, досьледы—залежаць ня толькі ад розуму. У вялікай часьці гэта выплад інтуіцыі, выбражэньня — іншых старон і праяваў духа. Нашаю толькі аднабокасьцю можам паясьніць крытычныя адносіны да мэтапсыхікі, тэлепатыі, шостага органу пачуцьця (*К. Рышэт*). Трэба прыйсьці да вываду, што ёсьць у нас і пачуцьцё маралі. Яно слаба разьвітае, гэта праўда, праца над ім пакінута прадстаўніком веравызнаўчых установаў (калі агулам пакінута). Гэнае пачуцьцё можна ўзгадаваць.

Незалежна ад паглядаў, трэба згадзіцца, што адзіным правілам паступаньня, у лепшым разуменьні гэтага слова, у адносінах паміж людзьмі, асталася мараль хрысьціянская. Праўда, на жаль, яна штораз больш цьвёрда адкідаецца, як нейкая непатрэбшчына. Адначасна бачым, што мараль біолёгічная й прамысловая, як крытэрыі паступаньня, даводзяць да сытуацыяў вельмі добра ведамых усім, між іншым і нам Беларусам. Бяз правілаў нутраных няма роўнавагі ў жыцьці асабістым, грамадзкім, дзяржаўным. Маралі не накіне нам дзяржава. Найбольш накіне яна нам межы, за каторымі чакае нас кара. Апошняя форма ўзгадаваньня ня будзе сапраўдным узгадаваньнем.

У хрысьціянстве наглядаем цікавае зьявішча, сяньня амаль што нам незразумелае. Сьвятыя ў хрысьціянстве не найразумнейшыя, а найбольш стойкія характарам і моцнаю воляю. І сапраўды, пачуцьцё маралі важнейшае ад розуму. Хараство маральнае можа нас хутчэй закрануць і скрануць, чымся хараство прыроды й навукі. Адначасна-ж яно павялічвае сілу інтэлекту. Яно зьяўляецца асноваю лепшае стараны нашае цывілізацыі й культуры ў большай меры, чымся навука й мастацтва.

Умовы сучаснага жыцьця забіваюць эстэтычныя патрэбы й вымогі. Арганізацыя працы нажаль накіроўваецца так, каб прыбіць эстэтычныя пачуцьці. І тутака прападае магчымасьць здабыцьця крышкі шчасьця, неабходнага, каб жыць нармальна, гармонійна. І вось гэнае гармоніі не хапае якга ў нашым сучасным жыцьці. Такі пагляд мае сваё абаснаваньн-

не ў фізыёлёгіі. Аднабокае раздражненьне даводзіць да закалоту ў дзейнасьці на'т чыста цялеснай. А пяршынства матэрыі і ўтылітарызму — гэтыя догматы промыслу — давялі да аднабокасьці ў разьвіцьці адзінкі, выкрывілі культуру інтэлекту. Імкненьне да карысьці, да багацьця робіцца ўсім і ўсё апраўдывае. Такія сытуацыі даводзяць да зьявішча, амаль што натуральнага для нас, што ў вязьніцы сядзяць людзі толькі дурныя. Іншыя, якім, скажам, трэба было-б сядзець, карыстаюцца пашанаю й славаю. Астаючыся пастаянна ў гэтых плынях, чалавек пачынае да іх прывыкаць і не ўяўляе іншае магчымае рэчаіснасьці.

Бязвыхаднаю ўжо трагедыяю будзе вывад, якога ніхто не аспорывае, што праца — гэта найвялікшае зло. Можна думаць, што ўвесь наш поступ накіровываецца да таго, каб нічога, а прынамся найменш рабіць. Другая трагедыя, што чалавецтву не пакідаецца «надзеі» іншае, як тая, што менш будзе працы й больш грошаў. Надзея — магутны дзейнік пры вучобе датарнаваньня да новых умоваў. Багацьце ня будзе замінаю ў тых ці іншых імкненьнях адзінкі. Замінаю ў багацьці будзе варожасьць да асяродзішча й консэрватызм, якія йдуць поруч з багацьцем.

Увесь склад нашага жыцьця такі, што не падтрымлівае яно індывідуальнасьці адзінкі, а заганяе яе ў тую ці іншую форму. Да ад'емных старон сучаснае школы, абмінуць якія здаецца зусім немагчыма, — што лішне рана дзіця мусіць уваходзіць у форму. Няма што казаць аб тых пэрспэктывах, якія робяцца вельмі актуальнымі, калі дзеці ад першых дзён будуць узгадовывацца ў грамадзе без атмасфэры хатняе. Калі й будзе тутака натуральны падбор, дык ня ў добрым значэньні паняцьця.

Усё гэта, можна сказаць, адзін вялікі грэх проці натуры. Помста біолёгічная рэалізуецца залежна ад умоваў і магчымасьцяў. Тутака помста праяўляецца ў тым, што ток, разгон жыцьця аслабявае. Прападае ідэя...

* * *

Вось дробная жменя думак з кніжкі Carrela. Carrel—Амэрыканец, чалавек практычны, які лёгічна думае і ўсё даводзіць да канца, ня спыняючыся на палавіне дарогі. Паставіўшы дыягнозу на асноведзі вышэй паказаных фактаў, што чалавецтва апынулася ў тупіку, шукае ён леку. Яму здаецца, што ён яго найшоў. Ці так, — казаць цяжка.

Мы, «адсталыя» людзі, інакш крыху ацэніваем сытуацыю, гледзячы на свой панадворак. Нам не пагражае яшчэ сяньня бязідэйнасьць, вузкі матэрыялізм, мы ўмеем бачыць зоры на небе, а дробныя клопаты — хмаркі хаваюць іх ад нас, аднак ад пуцяводнае зоркі не астаёмся далёка. Дык і лек паводле рэцэпты Carrela прадчасны, хаця ня можна казаць, каб быў



ён несымпатычны. «Найвышэйшая рада мудрацоў», вельмі блізкая да ідэалу манахаў, нікому не пашкодзіць, а памагчы можа шмат каму. Carrel рабіў-бы сваю «раду» паводле агульнага й вострага стажу паасобных сяброў. Мы мо' вырашылі-б больш індывідуальна, кожны па сабе на свой лад.

Ня будзем спорыць з аўтарам. Важнейшы для нас дыягноз і аналіза сытуацыі, якія праведзены вобразна й пуката. Лішне чорныя колеры мясцамі выкліканы лёкальнымі амэрыканскімі ўмовамі. У цэласьці бяручы, кніжка — гэта крык адчаю чалавека, які глянуў цяжкой праўдзе ў вочы. Выхад з сытуацыі бачыць ня ў поступе цывілізацыі й тэхнікі, а ў старых праўдах, даўно ведамых і таму недацэніваных, як трэба.

Кожны чалавек можа сам толькі навучыцца хадзіць. Усякія хітра выдуманыя прылады, палягчаючыя навуку хадзьбы, —карысныя пастолькі, што памагаюць менш разоў падаць на зямлю. Знайсьці свой шлях можа кожны паасобку. Стадныя рэцэпты жыцьцё выкідае вельмі хутка, бо яны ня могуць адрабіць работы за адзінку. Усё-ж такі практыка й досьлед чалавека шчырага, сумленнага будзе заўсёды павучальны й што найменш гэтак можам глядзець на кніжку й думкі Carrela.

---

*М. КРЫВІЧ*

## Жаданьне

Асушылі ветры росу,
недзе у ваччу...
Я ня вузкія палосы
апяваць хачу,

а бязьмежную ясноту,
тых няшчасных ніў,—
ў сэрцы зацьвіла ахвота
запаліць агні...

Не па сьцежках пнуцца ў гору,
не праз вузкі шлях! —
даляцець-бы да прастору
у бязьмежжы дня, —

на узорны шлях бязконцы,
шоўкавую сінь,
у разіскранага сонца
залатую плынь!

---

*АНАТОЛЬ БЯРОЗКА*

## Credo in duos deos

Сёньня думы свае патушу ў непакорнай у белі.
Хай запеніцца хмельна, пацячэ цераз край,
пырсьне бурнаю бельлю вясна маладая —
яблын цьветам на зялёны на май...

Чуй. Сырыя грудзі зямлі, напоены потам мужычым,
доўга кроў — гарачую чырвань цадзілі у росьцьвіту бель;
хаты, ўрослыя ў чорную гразь, закарэлыя ў болі
векавою тугою набраклі і сабраці суляць жніво—
там, дзе косьці нямыя бацькоў парахнеюць пад мохам.

Перад богам маіх бацькоў голаў схіляю долу.

А калі над вясною замучанай зашапоча яблыні цьвет,
на галіны, на май ацярушыцца бельлю,
калі ветрам у твар запахне — тады ятрацца раны,
тады будзяцца песьні пра сілу і гнеў — а рукі гатовы
заўтрашні дзень адчыніць сабе стальлю...

Я малюся за гэтакі дзень богу маіх патомкаў.

11.V.1939.

---

*М. КРЫВІЧ*

## Сумуючай

Слатлівым дажджом ня ўмывай
парванае ў сэрцы каханьне...
— Глухі галалёд і зіма
ізноў на прадвесьні растане.

Пад ночы купальнае цень,
жар сэрца—стаптаны няласкай—
пабачыш... Яшчэ зацьвіце
чырвонай гарачаю краскай!

Калосьсе хвалюючых ніў
раззвоніцца сьмехам жаночым.
— Дык раны у сэрцы пакінь
лячыць дажджом сівым і слоцьцю!

---



*А. ДУБРОВІЧ*

* * *

Пад звон дратоў сумуючы,
мой брат, ідзеш куды?
Дзе кінуў вёску, вуліцу,
дзіцячыя гады?..

Знаць, птушкай пералётнаю
ляцеў ты ў край вясны,
ды шэрай непагодаю
апалі туманы

ў прасторах; а з варожбамі
хтось шлях твой заараў,
каб з торбамі парожнымі
цябе твой край спаткаў.

Ці горш? — Ў душы з трывогаю,
за лепшы пералёт,
на сьцежках лёг з зьнямогаю
пад цяжасьцю няўзгод.

Ды не! — надзею тоючы —
той промень веснавы —
у сэрцы раны гоячы
ня схіліш галавы!..

А пад той звон сумуючы
ты з кудраў сум страхнеш,
і вёсцы, роднай вуліцы
сьпяеш ты аб вясьне!

* * *

Вясна! І тысячы сугуччаў
лавінай грудзі залілі.
Юнацтва дні і бэз цьвітучы
дзявочча вочаў!.. Эх, калі
мяне мінулі вы, як казка?!
Прайшлі гады. Але й цяпер
сваёй запозьненаю ласкай
яшчэ стучыце ў сэрца дзьвер.
І — шчасьце! — жэзлам чарадзейным
кранёна сэрца ў трыццаць год!—
і зноў на крыльлях лятуценьняў
юнацкіх дзён лаўлю акорд.
Хоць знаю я ўсю боль утраты,
як пройдзе той пахмельля чад,
але за жар вясны дваццатай
гатоў жыцьця пакінуць шмат!

*Я. СТАНКЕВІЧ*

# Мова крывіцкага (беларускага) рукапісу XVI стаг. „Аль кітаб“

## Фонэтычны й морфолёгічны разбор

(Працяг, гл. № 1 (18) „Калосься“ з 1939 г.).

### Зьмены самагуку е.

Да другое катэгорыі адхінаў належаць тыя прыклады, у каторых *е* асталося не перайшоўшы ў *о* ў старой групе зь мяккім *р* сонантычным, значыцца перад *р* ацьвярдзелым. У крывіцкім языццэ *е* перад ацьвярдзелымі сугукамі не пераходзіць у *о*, дык можна было-б падумаць, што дзеля таго не перайшло і ў вышменаваных прыпадках. Аднак тут гэта ня мае значэньня, бо крывіцкае *р* ацьвярдзелае ўжо з пары праславянскае, дзе ацьвярдзела дыялектычна (гл. ніжэй пры *р*). Прычына тут накшая, пайменна тая, што да ведамае пары група сугук+*р* сонантычнае зь пярэднепаднябенным самагуковым элемэнтам+сугук*) аставалася ў крывіцкім языццэ із спачатнай сваёй вымоваю. Калі пасьлей *р* сонантычнае было заменена часткава пераз *-ір-* (*міргаць*), часткава пераз *-ер-* (*мерзнуць*), процэс пераходу *е* ў *о* быў скончаны, дзеля таго ў гэтай групе *е* ня было абнята разгляданай зьяваю. Адзіночныя прыпадкі з *о* на месцу *е* ў гэтай групе лёгка могуць быць выясьнены аналёгіяй. Гэтак *чорны* подле *добры* і пад.

Націск у мове «Аль кітабу» зусім такі самы, як цяпер у віленска-ашмянскіх гутарках. Дзеля таго *е* ў dat. pl. ludzem (мноства прыкладаў) можна выясьніць адно хіба тым, што ў старую пару *е* перад *м* не пераходзіла ў *о*. Падобна слова «неба» сустрэлася толькі з *е*. Няма ведама чаму ё *е* ў iz'veŭ 74b15, 74b13. У nametka 49b4 можна бачыць націск на *па-*.

На месцу націсьненага *е* канцавога часткава маем *е*, часткава *о*.

*е* ё: 1. у 2 pl. ind. praes: dajece 9b9, 9b10, ne 'addaśce 15a15, ležice 118b7, 119a8, umrece 119a4 і інш. — заўсёды, адхінаў нямашака.

2. У gen. sg. займёнаў асабовых і зваротнага: mene, cebe, śebe.

3. У прыслоўю *яшчэ:* Ješče 18b17, 19b10, 43b1 і інш.

*) У друкарні няма адумысловых значкоў, дзеля таго мушу апісаваць тое, што можна было-б перадаць пры помачы прынятай у навуцы транскрыпцы.



Заўсёды ё *о*: 1. у прыслоўю *ўжо:* užo 19b14, 'užo 19b15, 54a6.

2. У nom.-ac. sg. jo — асноваў subst. neut.: pecju (= pecjo) 5a1, jejcu (= jejco) 30a13, plečo 71b2 і інш.—подле аналёгіі *акно, дабро*.

Pronomina neutra маюць *о* ў nom.-ac. sg. адно часткава: ŭšo tvajo 120a3, svajo 4a14, słova majo 96a10, uśo 45b15 і інш. *о* тут паўстала аналёгіяй *то*.

Хормы з *е* ў гэтых склонах у мяншыні: serce tvaje 58a17, vujśka (= voj-) tvaje 59a17, svaje (цела) 58b5, ceła tvaje chto rastupic (= — top-) 59b3, ceła maje rastopic ib. 5, miłośerdze svaje učinic 10a2, Džebra'ił pašuŭ (= -šoŭ) na svaje mejsca 62b12, pakajenje svaje 'uzrūšiŭ 65a3, 'uśo ceła svaje 69b4, 'aćiści ceła maje 72a1, paddanstva svaje 79b9, za ūše tuje (= тое) 78b3, svaje 80a6, švetoje ime tvaje 83a8, małaku (= —ko) svaje 129a4 і інш.

Бачым, што аналёгічны самагук *о* запанаваў адно ў канчатку назоўных імёнаў (substantiva), а ў займёнаў *о* ўжывалася побач із спачатным *е*.

У цяперашняй мове віленска-ашмянскага прастору на месцу *е* нац. на канцы 2 pl. ё заўсёды *о* (*дасьцё, глядзіцё* і інш.) Значыцца гэтае *о* з *е* паўстала пазьней із прычыны вытваранага аканьням чаргаваньня ненац. *а* з нац. *о* (*сяло, памяло — сёлы, памёлы*). З тае-ж прычыны паўстала раней *о* ў *ужо*. У паўднёва-заходнім дыялекце крывіцкім (беларускім) і цяпер менаваныя хормы маюць на канцы *е* (*ясьце, ужэ*). Там-жа ё *е* ў nom.-ac. sg. займёнаў ніякіх (*мае*), але ў віленска-ашмянскіх гутарках толькі *о* (*маё* і інш.). Значыцца, што кірунак аналёгічны (подле *то*), каторы ладне захапіў гэты канчатак у пару напісаньня рукапісу, з часам чыста перамог.

Сьведчаньням мовы «Аль кітабу» і цяперашняе крывіцкае мовы паўдзённа-заходняе (Наваградчына, Горадзеншчына, Случчына і інш.) зьбіта цьверджаньне Сабалеўскага («Лекціи»[4], 63) і Карскага (Бѣлоруссы, II—1, 197), што ў крывіцкім языццэ канцавое *е* па зьмякчэлых сугуках пераходзіць у *о*. *е* тут можна выясьніць адно тым, што яно спачатнае, тымчасам *о* выясьняецца лёгка аналёгіяй асноваў цьвярдых (*адно, дабро, то* і пад.). Дзеяньне гэтае аналёгіі захапіла такжа канцавое *-а* (*-'а*) з ę спачатнага nt — асноваў; гэтак цяперака маем: *дзіцянё, ягнё* і інш. зам. ранейшых *дзіцяня, ягня* і інш.

У языццэ польскім, украінскім і нарэччу паўночна-расейскім *е* пераходзіць у *о*, як у складох націсьненых, так і ненацісьненых. Але ў языццэ крывіцкім разам із абруселым нарэччам даўнейшых крывіцкіх Вяцічаў (т. зв. цяпер паўдзённа-расейскім нарэччам) бачым пераход *е* ў *о* адно пад націскам, бо ў складох ненацісьненых *е* пераходзіць у *а* (*'а*). Подле аналёгіі зь іншымі языкамі славянскімі, мы спадзяваліся-б, што таксама ў крывіцкім перад паўстаньням аканьня *е* ненац. пе-

раходзіла ў *о*. Але выглядае, што аканьне ў сваім пачатку ранейшае за лябіялізацу *е*, пайменна, калі апошні процэс пачаўся ненацісьненае *е* было відавочна рэдукаваўшыся, дык не магло лябіялізавацца, а, значыцца, і пераходзіць у *'о*, але з часам пераходзіла ў *а*.

*ѣ* ці *е* з *ѣ* у *о* не пераходзіць: z'vezdi 107b4, zvezdi 116a2, zvezdam 123a1, źvezdi 123a4.

**Выпаданьне** *е* маем: 1. У gen. sg. m. n. займёнаў *мой, твой, свой, чый:* majho 4a15, 84b15, majho 111a8, 125a8, svajho 13b2, 20a11, 47a7, 51b14, 52b7, 64b5, 66a11, 76a10, 85b11, 88b9, tvajho 19b3, čijho 37b17, 38a2, 38a3, 38a4. Гэтыя хормы ўжываюцца звычайна проці адзіночных з *е:* majeho 96b1, svajeho 66a6 і г. д. Яшчэ радзей сустракаюцца ў «Аль кітабе» хормы сьцягненыя — maho і г. д.

2. У dat. sg. тых-жа займёнаў: svajmū 44a7, svajmu 44a8, tvajmū 93a16, 106b7, 106b12, 114a7, majmū 106b5, 106b11, 107a2, 122a3. Адхінаў ад гэтага няма.

3. У a) vajvudaj (= vajvodaj) 19b13, vajvuda (= vajvoda) 19b14, але vujevuda (= vojevoda) 19b11, vojevoda 127b5. Цікава, што ў двух апошніх прыкладах з *е* маем у першым складзе -*о*- (значыцца ненац. *о* не перайшло ў *а*); дык два апошнія прыклады можна ўважаць за полёнізмы.

b) Адно з выпалым *е* ўжываецца пазычанае слова «майстат»: majstat 18a6, 18a5, 114b8, 123a9, 123b5, 135a7, 135a12, majstatach 56a4, majstataū 96b1.

4. У злучы ніжлі (зь ніжэлі): nižli 37a16, 75b10, 84a1, адналькава ў niž 84a2.

*Адпалае е* знаходзім спарадычна ў ненацісьненай частцы *že:* idziž 51b17, Tož 54a6, timiž pałcami 73b13, Tahož 106b4, 107a3, tajež 110a7, tajež hadziny 125a9, Janož 70a5.

## Зьмены самагуку ѣ.

*Дыфтонгі на месцу ѣ.* Можна ўважаць, што долех прыведзеныя прыклады адбіваюць вымову *ѣ* як дыфтонґу: vjedomij 5a14, 75b9 (ведамы), nevadaje 25a13, 33a6, 40b15, 57b3, 80a7 (ня ведае), narazaūši 26a8 (нарэзаўшы), zavašana 116a3 (завешана), dana vadac 138b7, čełevake 135b17, śveata 115b1.

На першы пагляд можна было-б у j у слове «vjedomij» бачыць імкненьне да абазначэньня зьмякчонага *в*. Але характэрна, што *j* ёсьць у складзе націсьненым, у каторым у паўднёва-заходнім дыялекце беларускім цяпер ·ё дыфтонґі, а былі ў XVI стаг. і ў дыялекце цэнтральным*), а, значыцца і ў віленска-ашмянскім, што ґеоґрафічна і подле сваіх асаблівасьцеў займае месца паміж іх. Ня маючы апрычонага значка дзеля абазначэньня дыфтонґу, аўтару не аставалася нічога лепшага, як абазначыць яго пры помачы *j*+*е*. Меней пэўнасьці ў вабазначэньню дыфтонгу пры помачы значка дзеля арабскага *а* даўгога. Але нельга такжа паверыць, каб магла быць 9 разоў апіска і заўсёды на месцу націсьненага *ѣ*. Думаю, што, ня маючы апрычонага значка дзеля дыфтонгу, аўтар абазначыў яго значком дзеля арабскага даўгога *а*, каторы ў яго ў даным прыпадку меў значэньне ня *а*, але самагуку даўгога, значыцца бліжшага да двугуку, чымся кароткі. У прыкладзе śveata двугук абазначаны двума значкамі.

*) Паказаў я гэта ў сваёй рэцэнзі ў „Balticoslavica" II. працы Штангавае (Stang Chr. S.) „Die westrussische Kanzleisprache..." Як паказуе Карскі, у крывіцкім дыялекце цэнтральным і цяпер ёсьць двугукі ў некаторых мясцох.



На бач. 43 быў прыведзены прыклад на двугук на месцу спачатнага *о*.

*ѣ у дзеясловаў „сядзець, помнець".* Накш як у языццэ расейскім і згодна з асталымі языкамі славянскімі ў крывіцкім захавалася *е* з *ѣ* ў дзеясловах «сядзець, помнець». Гэта так сама адбіваецца ў «Аль кітабе»: prepomnaūši 65a2, тут ненацісьненае *ѣ* перайшло ў *а*; šedzić 1b1, 14b3, 14b4, 18b15, šedzec 14a2, 33b13, šedzeū 14a16, 22b5, šedzeči 73a7, ne šedzi ib. і інш. Адхінаў нямашака.

*Адпалае ѣ* маем у прыслоўным прыймені *акром* з *окромѣ* (скасьцянелы loc. sg.): 'akrom 42b8, 'Akrom 40b14, 48b10, 53b14, 57b3 і інш.

## Замена ъ, ь.

У залежнасьці ад палажэньня *ъ, ь* або вакалізаваліся ў *о, е,* або чэзьлі. Подле *сон—сна, дзень—дня* ў расейскай мове ў ведамай групе словаў пачало ў косых склонах выпадаць *о, е* спачатнае: *ров—рва, лёд—льда, корня, камня, шти* (значыць *шасьці*) і пад. (глянь Сабалеўскі, Лекціі[4], 56). У беларускім языццэ аналёгія дзеіла ў кірунку адваротным: *о, е* не мяняла-ся, а пад уплывам прыпадкаў з *о* спачатным паўставала *о* на месцу спачатнага *ъ* там, дзе апошні, будучы ў слабым палажэньню, мусіў шчэзнуць. Дзеіў тут такжа nom.-ac. тых словаў, дзе было *о* з моцнага *ъ*. Прыр. Карскі, II—1, 175, 179, 230 й 232.

Таксама ў нашым рукапісе *е, о* спачатнае ня чэзьне: kamenem 73a1, 73a11, kerani 124a3 і пад. *о* ў рукапісе на месцу *ъ* слабога ў склонах косых: ratuū (= ratoū) 1b8, iz rota 53b7, 'u roce 123a2, 'u kažnam roce 132b7.

Нормальнае шчэзьненьне *ь* у косых склонах маем у слове «чэсьць»: pej s'elevat' o tšci praroke 133a3. Аднолькава ў прыметаў: 'us'civaje i charošaje reč rozum 136a3, 136a13. І ў назоўнага імені, утваронага, ад гэтае прыметы: 'utścivaśc 62a2,

ʻutścivuści 62a1. Таксама ў іншых старых памятках крывіцкіх (у хорме *тсти, сти, чти*) і ў бальшыні цяперашніх нарэччаў (прыр. Карскі, II—1, 231). Аб *тс, с* замест *ч* у *тсти tści* гл. ніжэй пры сугуках.

## Вакалізаца новых паўсамагукаў

Просьле аслабленьня, а далей і шчэзьненьня канцавых ераў часта паўставалі цяжкія дзеля вымовы групы сугукаў. У таковых прыпадках усе славянскія языкі палягчалі сабе вымову тым, што ў новапаўсталых групах паміж сугукаў зьяўляліся новыя еры (Сабалеўскі, Лекціи[4], 53). Вакалізаца іх згаджалася з вакалізацай ераў старых. Але магчыма, што ў таковых прыпадках *о, е* паўставалі пад уплывам аналёгіі тых прыпадкаў, дзе яны разьвіліся фонэтычна з даўнейшых *ъ, ь*. Прыклады з рукапісу: ʻahon 53b7, 53h8 і h. d,, vuhalja 10b13 (зборнае ад *вугаль*). Канцавое *а* ў vuhalja паказуе, што націск, як і ў цяперашняй мове, на *-га-*. Значыцца, маем націсьненае *а* на месцу спадзяванага *о*.

Подле А. Пацебні («Къ исторіи звуковъ русскаго азыка I, 90—103) ды Сабалеўскага («Лекціи»[4] 25—28) у ўсходне-і часткава заходне-славянскіх языкох із праславянскае групы, што складалася із складатворнага *р, л* із самагуковым элемэнтам стаячага паміж двума сугукамі, паўставалі групы tъгъt, tъlъt, tьгъt, tьlьt, а напару tьгъt, tьlъt, як рэзультат узьніку сварабактычнага самагуку між ліквідаю а наступным сугукам. Гэта завецца другім паўнагалосьсям. Калі запраўды было другое паўнагалосьсе, дык быў-бы на яго ў рукапісе адзіны прыклад у małanja 2b8, małanje 25b16; літ. *е* ў канчатку паказуе, што націск быў на складзе *-ła-*, як у цяперашняй мове. Тут, значыцца, таксама было-б *а* замест спадзяванага *о*—так-жа з прычыны пазьнейшага пераносу націску з канчатку. В. Ягіч у «Критическія замѣтки по ист. рус. языка». Пецярбург 1889, 23 дапушчае 2-ое паўнагалосьсе адно для цяперашняга паўночнарасейскага нарэчча. У цяперашнім крывіцкім языццэ прыкладаў на 2-ое паўнагалосьсе вельмі мала (прыводзіць іх Карскі ў II—1, 309) і могуць яны зусім добра быць выясьнены аналёгічным уплывам словаў із *о, е* спачатнымі, або паўсталымі з моцных *ъ, ь*. Прыклады на гэтую зьяву із старых памяткаў ня пэўныя, іхнія *ъ, ь* маглі паўстаць із прычыны ймкненьня пішучых да графічнага аддаленьня групы колькіх сугукаў. Гэткія прыклады, прыводжаныя Сабалеўскім, як старыя *отверьзу, церьковь*, цяперашнія рас. *верьх*, пол. wierzch паказуюць толькі на мякчыню *р*. Ягіч там-жа добра паказуе, што ў старых памятках прыкладаў з двума *о* або *е* блізу нямашака (адзіночныя прыклады ня розьняцца ад такіх, як *агонь* з *огнь* і пад.), а дзеля таго *ъ, ь* у *оръ, ерь* нельга прыймаць за аба-



значэньне самагуку. Для крывіцкага і іншых языкоў славянскіх трэба згадзіцца зь Ягічам, што 2-га паўнагалосься ня было, але можна сумлявацца, ці такжа ў паўночна-расейскім нарэччу ў групе з *-оро-*, *-оло-* і пад. на месцу tъrt, tъlt, tьrt, tьlt маем 2-ое паўнагалосьсе, а не аналёгічнае паўстаньне подле словаў із *о, е* спачатнымі або паўсталымі з моцных ераў. Дыкжэ дзеля таго ў крывіцкім языццэ маем такія прыклады, як *вугальля, маланьня,* што ў вакаючай мове на паўстаньне новых самагукаў паміж сугукамі ўплывалі ня толькі *о, е*, але такжа *а*.

## Заменьнікі ъ, ь у групе гъ, lъ, гь, lь.

*Заменьнікамі ъ, ь у групе гъ, lъ, rь, lь* ё такжа *о, е*, калі еры ў палажэньню моцным: kruŭ (= kroŭ) 43b6, 34b11 і іншыя. А калі еры ў гэтых групах у палажэньню слабым, дык заменьнікамі іх ё *ы, і:* jak małanje bliśnec 25b16, krivi 27a1, krivavimi 52a8, hłiboka 73b1 (дапушчаю прсл. дыял. *glъb-*), hłybokaści 133a5, trima pałcami 73b11, prehłinuła 79a5, strivaju 94b4, triścini 104a13, drižaŭ 105a15, 127b2, drižic 106a2, drižała 125a7, drižali 127b3.

Карскі, II—1, 98 выясьняе гэтую зьяву так, што слабыя паўсамагукі ў такіх групах чэзьлі, але *р, л*, апынуўшыся між сугукаў, перайшлі ў сонанты (як гэта бачым у языццэ чэскім і сэрбскім), а потым разьвілі просьле сябе самагукі *ы, і*.

У гэтых групах маем нярэдка ацьвярдзелае *л*, прыкл.: расхлыстáць, расхлысьлівы Ластоўскі, Рас.-кр. слоўнік, 606, закінуць вяроўку захлыскай ibid, 718, прыр. рас. расхлестать; клыгтаць, клыгатáць, Арол клыгоча — крыві хоча ibid., 260, прыр. рас. клегтать. Із спачатнага mьgla ё *мыгла* (мой запіс у Краўской вол. Ашм. пав.), мыглець ibid. Ацьвярдзеньне l, m у гэтых і падобных прыкладах магло стацца адно тады, калі l не стаяла перад самагукам. Дык *і, ы* ў групах *-рь-, -ръ-, -ль-, лъ-*, а такжа *-мь-, -мъ-* і *-вь-* (зьвінець) не паўсталі вакалізацай *ъ, ь*.

Выясьненьне Карскага можа быць падзьдзержана яшчэ тым, што таксама ў чэскім языццэ із сонантычных *р, л* ё дыялектычна trit, tlit: pryší, plyt' (J. Gebauer, Hist. ml. I., бач. 291) ды tirt, tilt: syrp, syrna і пад. (ibid.), бо вельмі лёгка, што із сонантаў із самагуковым элемэнтам паўстаюць *ры, рі, лы, лі*, або *ір, ыр*.

Як бачым із прыкладу *мыгла*, сонантычным рабілася такжа *м* у палажэньню перад шчэзлым слабым ерам.

Лічба 8 у «Аль кітабе» лучыла толькі ў хорме *асьмі* nom.-ac. sg. Прыклады: ebdes'u kolka preškod nehožich jest? — ʻOśmi jest 43a13, побач: Kolke što kolvek pristojnaści jest? — ***Рас*** jest 43a8, ośmi rajoŭ tabe ʻabecūju 4a1. Таксама ў словах склада-

ных: ‘aśminaccac t’is’ečej 4a6, ‘aśmidześat t’is’ečej 67a1, Ebū Chenīfeh jeho miłośc ‘u ‘aśmidześat hod... radziūs’e 69a9, Metūšelechovi ‘u sto ‘aśmidześat śem hod ‘uradziūśe Lamech 98b16, ośmisot hod 103b14 і інш.

У цяперашніх віленска-ашмянскіх гутарках хорма nom.-ac. sg. *aśmi* ўжываецца каля м. Жупраны Ашмянскага пав., аб чым мне паведаміў ст. Ант. Шукелайць.

Калі-б *-і* паўстала не па *м*, стаячым па сугуку, а па якім іншым сугуку, можна было-б думаць, што яно лучыла з косых склонаў. Але дзеля таго што *і* ё адно ў лічбе osmь (а ня *сем* ці інш.), дык прычына яго паўстаньня будзе гэткая: *м* па шчэзьненьню *ь* у *осм* у злучэньню перад сугукам словах складаных ды перад сугукам наступнога слова перайшло ў *м* складатворнае з наступным самагуковым элемэнтам, з часам пераходзячы ў *-мі*, а далей гэтае *-мі* ў лічбе 8 ўвагульнілася, значыцца стала вымаўляцца також перад самагукам наступнога слова.

Таксама трэба выясьніць хорму 1. sg. *есмі*, агульнаведамую з ранейшых крывіцкіх памяткаў кірыліцаю, а пайменна, па шчэзьненьню *ь* ў jesmь, перад сугукам наступнога слова *м*, апынуўшыся паміж сугукамі, вокалізавалася і з часам перайшло ў *-мі*, каторае далей увагульнілася. Што запраўды гэтак было, бачым із таго, што *дамь* ані *емь*, у каторых *м* не стаяла па сугуку, не перайшлі ў *дамі*, *емі*.

Трэ тут зацеміць, што няма довадаў на дагадку Сабалеўскага, што *р, л* сонантычнае было так-жа ў паўночна-расейскім нарэччу. Назоў м. Пскоў із Plьskovъ і наагул пскоўскія памяткі ня маюць тут значэньня, бо Пскоўшчыну насялялі не Расейцы, але часьць племені Крывічоў. Адзін прыклад крстихомъся, прыведзены Сабалеўскім у «Лекціях»[4], 54 з ноўгарадзкага Апостала 1391 г. можа быць апіскаю.

## Заменьнікі р, л сонантычных.

*Заменьнікамі прсл. групаў сугук + сонантычнае р, л із папярэднім самагуковым элемэнтам + сугук* ё *-ор-, -оў-, -ер-:* ‘ahornuc 29b11; horła 126a8, kormec 130a2, śmercej 106b9 і пад.

Але ё также прыклады, дзе, як у цяперашняй мове, маем у менаванай групе *-ір-:* čirvunam (= — vonam) 17a16, čirdunahu (абмыла зам. čirvonaho) 42a5, čirvonahu 109a3.

У рукапісе ў вышменаваных групаў хормы з -ił-, -il нясрэліся, але лучылі прыклады па -il на месцу спачатнага -el-: stvaricila 29a8, stvaricil 77b7. Падобныя прыклады ё также ў цяперашніх дыялектах крывіцкіх. Тутка -il мусіла паўстаць пад уплывам словаў з -il- на месцу праславянскага *л* сонантычнага зь пярэднепаднябенным самагуковым элемэнтам. Адноўчы лучыла stvaricl 80b10.

Карскі, II—1, 159 добра думае, што *-ір-, -ыр-, -іl-* паўсталі з прсл. *р. л* сонантычнага із самагуковым элемэнтам. Подле Карскага прыклады на *р, л* сонантычнае сустракаюцца ў старых крывіцкіх памятках да XVII стаг. (прыкл. *тргъ* Зборнік XV стаг. і інш.), але ўжо ад пал. XV стаг. аднолькава частыя *-ыр-, -ір-, -іл-* на месцу *р, л* сонантычных, дзеля таго прыклады пазьнейшыя трэба ў бальшыні ўважаць за напісаньні традыцыйныя.

Прыклады з *-ыр-, -ір-* на месцу *р* сонантычнага ў рукапісе абмежуюцца вышпрыведзенымі, але наагул у крывіцкім языццэ іх мноства.

Карскі (Бѣлоруссы, I, 99) выясьняў, што *-ыр-, -ір-, -іl-* у вышменаваных групах паўсталі такім спосабам, што ненацісьныя *ъ, ь* чэзьлі, *р, л* рабіліся сонантычнымі, а потым разьвівалі перад сабою *ы, і*, адначасна трацячы свой вокалічны элемэнт. Аднак таму, каб *-ы-, -і-* паўставалі адно ў складох ненацісьненых (або хіба наагул у палажэньню слабым), пярэчаць прыклады, прыводжаныя Карскім (*смрть* і пад.) і шмат прыкладаў ведамых мне з народнае мовы. Дык уважаю, што *р, л* сонантычныя аднолькава паўставалі як у складох ненацісьненых, так і націсьненых, як ля ераў слабых, так і моцных. Паўстае пытаньне, калі ў гэтых групах зьяўляліся сонантычныя *р, л*, гэта значыцца, ці дастаў іх беларускі язык із пары праславянскае, як чэскі і языкі паўдзённа-славянскія, або прсл. групы з *р, л* сонантычнымі ў беларускім языццэ, так сама як у расейскім і ўкраінскім, перайшлі ў -tъrt-, -tъlt- і г. д., г. зн. *ъ, ь* сталіся гукамі складатворнымі, а *р, л* сугукамі. Калі-б *ъ, ь* ў гэтых групах у старую пару крывіцкага языка вокалізаваліся, а *р, л* сонантычныя страцілі свой сонантычны элемэнт, сумлеўна, каб у пазьнейшую пару гэтыя *ъ, ь* ізноў чэзьлі, а *р, л* рабіліся сонантамі. А калі-б гэта сталася, дык узноў трудна дапусьціць, каб яшчэ пазьней шчэз сонантычны элемэнт у *р, л*. Гэта вельмі борздыя зьмены ў кірунку праціленжным, што выглядае непраўдападобна. Наадварот, зусім магчыма, што крывіцкі язык дастаў сонанты із самагуковым элемэнтам із пары праславянскае; гэныя сонанты пазьней на грунце крывіцкім разьвівалі перад сабою *-ы-, -і-*, адначасна трацілі свой вокалічны элемэнт, рабіліся сугукамі. *-ы-, -і-* із сонантычных *р, л* разьвіліся фонэтычна. Магло разьвіцца фонэтычна *-оў-* з l сонантычнага із самаг. элемэнтам у словах, як *воўк, маўчаці, поўны* і пад., чаго аналёгію маем у языццэ славенскім, дзе сонантычнае *р* ё дагэтуль. Гэтым-бы адначасна выясьнілася, чаму на *-уl-, -іl-* мала прыкладаў. Што сонантычныя *р, л* з прсл. сонантаў із самагуковым элемэнтам былі ў усіх словаў гэтых групаў, сьведчыла-б также тое, што перад *р, л* пісалі ў памятках *ъ, ь* яшчэ тады, калі

ў іншых мясцох замест *ъ, ь* ужо пісалі *о, е*, прыкладам у смаленскім лісьце каля 1240 г.*)

*ор, ер* на месцу *р* сонантычнага ў таковых словах, як *торг, корч, борзды, сьмерць,* якія, як у «Аль кітабе», так і ў цяперашняй мове звычайныя, маглі паўстаць пад уплывам аналёгічным словаў, дзе *о, е* спачатныя або з прсл. *ъ, ь* складатворных, прыкл. *роў, нос, сон, мерці* і пад. Гэткаму аналёгічнаму дзеяньню найбалей паддаваліся словы аднаскладовыя назоўных і прыметных імёнаў, што блізу заўсёды лучаюць із *о, е*. Што гэткае дзеяньне аналёгіі вельмі лягкое, пакузуе нам прыклад чэскага языка, дзе цяпер ё сьцяг словаў з *е* на месцу спачатнага *р* сонантычнага ў гэтай групе (čert, žert, červ, černy, čerstvy).

Адумысловае дасьледаваньне гэтае зьявы павінна канчальна яе выясьніць у крывіцкім языццэ.

---

*ВЛАДАС ДРЭМА*

# Беларускае народнае мастацтва

Найважнейшай пазыцыяй у беларускім мастацтве агулам ёсьць бязспрэчна й прадусім народнае мастацтва. У беларускім народным мастацтве знаходзім найбольш старасьвецкіх элемэнтаў, дайшоўшых да нас шляхам традыцыі; іх беларускі народ прысвоіў, культывуючы тысячагодзьдзямі. У гэтым мастацтве мог народ найсвабадней і найшчырэй выявіць свае ўпадабаньні, артыстычнае пачуцьцё.

Характэрна, што беларускае народнае мастацтва ёсьць дзіўна блізкім не да народнага мастацтва суседніх славянскіх народаў, але — да народнага мастацтва літоўскага народу. Народнае мастацтва Беларусаў і Літоўцаў вырасла на аднэй аснове мастацтва пэрыяду нэоліту й затрымала характар дэкарацыйны, з матывамі арнамэнту чыста тэхнічнага, г. зн. абумоўленага свомасьцямі матарыялу й прыладзьдзя да абрабляньня. Яго арнамэнтыка з лінейнымі й пласка-геомэтрычнымі матывамі выражае непасрэдныя й рачовыя адносіны да матарыялу, тэхнікі й мастацтва. Мастацтва гэтых народаў ухіляецца ад лішняе пустое гутаркі, літаратурнасьці й усякіх

*) А. Шахматаў: „Нѣкоторые оригинальные русскіе памятники сохраняютъ буквы **ъ ь** въ сочетаніяхъ **ър, ьр, ъл,** замѣняя вообще сильныя ъ, **ь** буквамі **о, е**; ср. напр. смоленскую грамату около 1240 года, гдѣ пишется: търгование, търговати, дългъ, дълженъ, дължбита, но рядомъ возьма, вощець, смоленск, смолняниномь, княземъ (у вапошніх двух прыкладах адно з прычыны тэхнічнае пастаўлена тут **я** замест малога юса — як у Шахматава **Я. Ст.**) „Курсъ", 69.



выдуманых прадметных ілюзіяў і прырода-расьлінных матываў. Фантазія гэтых народаў ёсьць так багатая, што патрапіць, не стараючыя зусім пазычаць у прыродзе, знайсьці непалічаную колькасьць матываў з камбінацыі найпрасьцейшых геомэтрычных формаў. Суседнія славянскія народы, як польскі, рускі, украінскі, маюць мастацтва з перавагай арнамэнту іменна расьліннага, абразковага.

Зьявішча сваяцтва беларускага й літоўскага народнага мастацтва тлумачыцца хіба супольнай праз даўжэйшы час дзяржаўнасьцю, утратай беларускім і літоўскім народам уласнай шляхты, а так-жа супольным гістарычным лёсам гэтых народаў, як народаў сялянскіх, жывучых у паншчыннай няволі, перажываючых супольную нядолю й зьдзекі з боку сацыяльных ворагаў. Малазямельнага беларускага й літоўскага селяніна змусілі жыцьцёвыя абставіны да якнайбольшай самавыстарчальнасьці, эканамічныя ўмовы накіравалі ўсю ягоную тэхніку працы ў эпоху гладжанага каменя, калі таксама быў змушаны да поўнай самавыстарчальнасьці гаспадарскай і культурнай. Ад гэнага часу — з прад тысячы гадоў — да сяньняшняга дня амаль ня выходзіў ён з рамак гэнай самавыстарчальнасьці. Яшчэ сяньня можна сьцьвердзіць на Палесьсі й на іншых тэрыторыях, заселеных Беларусамі, гэтую нэолітычную самавыстарчальнасьць беларускага селяніна.

Гэтым тлумачыцца аднальковасьць і сваяцтва арнамэнтыкі беларускага й літоўскага народнага мастацтва з мастацтвам нэоліту, і дзеля гэтага яно захавала свой чыста прымітыўны геомэтрычна-ідэографічны характар аж да сяньняшняга дня. Аднак-жа, пад уплывам этнічных розьніцаў, у мастацтве пачалі выступаць некаторыя розьніцы,—так, як у спосабе мышленьня, адчуваньняў, у тэмпэрамэнце, у псыхічнай будове Беларусаў і Літоўцаў.

Характэрным мамэнтам у народным мастацтве зьяўляецца блізкая сувязь яго з акружэньнем, з прыродай, якая (сувязь) тлумачыцца тым, што зямля ёсьць стыхіяй, карміцелькай і жаралом дабрабыту й роскашаў селяніна. Злучыўся ён з зямлёй целам і душой. І дзеля гэтага вытвары мастацтва й народнага рамясла зьяўляюцца быццам далейшым працягам і дапаўненьнем прыроды.

Усякі, ужываны ў народным мастацтве матарыял народ бярэ з зямлі й найбліжэйшай прыроды. Будзе гэта гліна, камень, льнянае валакно, воўна ад авечак уласнай гадоўлі, дрэва, салома, вікліна, мука ўласнага меліва і т. д. Ёсьць гэта аснаўныя матарыялы, якімі селянін выказваецца, абрабляючы іх спосабам прымітыўным. Дрэва, як матарыял унівэрсальны, мае найшырэйшае застасаваньне. Ужывае яго беларускі селянін, як будульцу, пры будове ўсіх прадметаў сваёй сядзібы, якіх тып, прызнаны традыцыяй, паводле думкі д-ра Альбэрта

Іппля,*) апёрты як-бы на ўзоры грэцкага тэатру й сьвятыні, а некаторыя вясковыя дваркі з ваколіцаў Рагачова прыпамінаюць агульны плян гэленістычна-рымскіх вільляў. З дрэва робяцца характэрныя гэнай-жа беларускай народнай архітэктуры выразаньні ў дошцы, нпр. украшэньні даху, ганкаў,ваконных рамаў і г. п. Дрэва ўжываецца так-жа ў уласнай самадзельнай, скромнай і ў украшэньні прымітыўнай вытворчасьці мэбляў, а таксама ў утылітарнай, із спэцыяльнай арнамэнтыкай, празначанай на рынак вытворчасьці бондараў. З дрэва вырабляецца і гаспадарскае знадоб'е, якое лёгка ня псуецца й ня нішчыцца, — бывае яно багата й цікава аздоблена, нпр. прасьніцы, полкі на ручнікі, заложнікі, ручныя ступкі, лыжкі, забаўкі, каўшы і інш. Іншым матарыялам ёсьць вікліна. Дае яна таксама вялікія магчымасьці аздабляць арнамэнтам чыста тэхнічным, з рознакалёрнай вікліны, вытворчасьць кошыкаў. Вытвары гэтыя аднак досыць рэдкія ў Беларусі. Зьбліжаным да гэтага матарыялам да пляценьня, менш цікавым дзеля магчымасьцяў камбінацыі арнамэнтаў, але вельмі разнастайным і багатым дзеля формы й выгляду вырабаў, ёсьць салома, лучаная дзёртым дзераўляным валакном або лыкам. Вырабляецца з гэтага матарыялу, часта вельмі прыгожае й вялікае, судзьдзё, якое служа дзеля перахаваньня збожа, нпр. кублы, каробкі і г. п. Выглядам і прапорцыяй прыпамінае яно грэцкія вазы або аграмадныя амфоры. Іншым зноў матарыялам ёсьць гліна — сырэц ганчарства, вельмі пашыранага ў Беларусі, асабліва ў паветах Несьвескім, Маладэчанскім (Ракаў), Ашмянскім, Дзісьненскім, Столінскім (Городно), Пружанскім і Наваградзкім, на прадмесьцях Вільні. Ганчарства ваколіцаў Вільні, працуючае для збыту на рынках Вільні й яе ваколіцаў, абымае вырабы звычайных гаршкоў, збаноў, гладышоў, дваячкоў, місак — з характэрнымі малымі хвалістымі аздобамі па бакох, з паліванкай жоўтай, карычневай, зелянкавай, а таксама колеру цёмнага, дэкарацыйна аздобленага прыпадковымі плямкамі, атрыманымі мачаньнем судзьдзя ў хлебным квасе. Іншая катэгорыя цэрамікі—гэта т. зв. сівакі, паймення гаршкі колеру цёмна-шэрага, чорнага, непаліваныя, з бліскучым арнамэнтам, на матавым фоне. Ёсьць яны надзвычайна цікавыя дзеля свайго артызму, а таксама дзеля вельмі шляхотнай формы й далікатнай камбінацыі эфэктаў бліскучага арнамэнту — на матавым, серабрана-шэрым фоне, — асягнутых матарыялам й тэхнікай выпаліваньня. Вырабляюцца пераважна ў Пружане, у Міры й іншых мясцовасьцях. Таксама вельмі разьвітая вытворчасьць цацак з гліны й цэрамічныя вырабы іншых утылітарных прадметаў, як нпр. ліхтарыкі з мядзьведзямі, баранчыкі да водкі, мініятурнае судзьдзё, сьвісьцёлкі ў форме качак, кураў, гусей, каровак, конікаў, казачкоў і т. п. Палескае ганчарства знаходзіцца пераважна ў ваколіцах Горадна й слыве сваей яснай, непаліванай цэрамікай, якая аздабляецца чырвонай натуральнай глінкай формы пояскоў, вужыкаў, плямкаў, ідучых канцэнтрычна, пераважна ў верхняй часьці судзьдзя; адзначаецца яна (цэраміка), як і сівакі, вельмі харошымі, амаль клясычнымі формамі.

*) Гл. „Zur weissruthenischen Kunst", у кнізе „Weissruthenien" — W. Jäger Verlag. Бэрлін 1919.



Хараство беларускай цэрамікі, простае, лёгічнае й зразумелае, — абаснаванае нейкімі точнаазначанымі ўтылітарнымі заданьнямі гэнай цэрамікі. Ганчароў у Горадне больш дзьвесьце, а ў воласьці Сіняўка ў Наваградчыне большасьць сялян займаецца ганчарствам.

Вацлаў Гусарскі, разглядаючы ганчарства ў Польшчы — ў сваім артыкуле *„Аб народнай цэраміцы ў Польшчы"* (у часапісе „*Wiedza i życie*" № 5, 1934) — вылучае беларускае ганчарства, дзеля таго, што яно асновамі сваімі розьніцца ад ганчарства раёнаў этнічна-польскіх; Гусарскі характарызуе яго, як наскрось традыцыйнае, архаічнае, бо трымаецца адвечных формаў і дэкарацыйных спосабаў простай і першабытнай тэхнікі.

Міма ейнай першабытнасьці, беларуская цэраміка мае вельмі вялікія артыстычныя вартасьці, бяручыя пачатак з яе прымітыўнага, але шчырага дачыненьня. Не кранула яе сваім уплывам вялікая касмапалітычная культура, перахавала яна тысячагодзьдзямі тыя самыя традыцыйныя формы, удасканаліваючы іх з пакаленьня ў пакаленьне штораз лепшым дапасаваньнем да практычнага ўжытку. Падсьведама вычутая нязвычайная гармонія і прапорцыя формаў, прыгоства выгнутай лініі профілю й роўнавага масы даецца параўняць хіба толькі з архаічнай цэрамікай грэцкай. Арнамэнтыка беларускага ганчарства формай ёсьць вельмі архаічная і прыпамінае арнамэнтыку ганчарскіх прадгістарычных вырабаў, нпр. ёлачку, галінкі, вужыкі, пояскі — матывы геомэтрычныя, ігра ліній асягнута з сапраўдным артызмам.

Хараство беларускай цэрамікі — гэта хараство дыфэрэнцыяцыі формаў, лёгка адзначаных далікатным арнамэнтам.

Асобныя, як артыстычныя, так і этнічна-нацыянальныя вартасьці беларускай цэрамікі ставяць яе далёка вышэй за цэраміку этнічна польскую і украінскую.

Іншым зноўжа матарыялам, у якім асабліва шчыра, усебакова й дасканальна ў сэнсе артыстычным выказаўся беларускі народ, — гэта валакно. Заспакайваючы свае штодзенныя патрэбы, народ беларускі прыняў пад увагу й мастацкую старану сваіх вырабаў, культывуючы вякамі артыстычныя тканіны з дэкарацыйнымі, адвечнымі, пераказыванымі традыцыйна з пакаленьня ў пакаленьне, узорамі. Найбольш пашыраны палотны льняныя, дзеля лёгкай даступнасьці сырца, а так-

сама дзеля адносна лёгкай ткацкай тэхнікі. Ткуцца палотны рознай таўсьціні, з розным ткацкім павязаньнем — залежна ад празначэньня. У асобнасьці ценкія палотны на Палесьсі ўжываюцца на наміткі, на галаву жанчын-замужак. Ёсьць яны такія ценкія й празрыстыя, як фабрычная маркізэта. З двух канцоў намітка аздоблена вузкім, узорыстым шлячком, вышытым, або найчасьцей вытканым з пары чырвоных ніток асновы.

Найпрасьцейшым дэкарацыйным узорам тканіны — палосы, выкліканыя ўвядзеньнем некалькікалёрных ніток да асновы тканіны. Паласястыя тканіны, спатыканыя ў Беларусі, маюць зусім іншы характар, чым польскія (лавіцкія). Ёсьць гэта калёрныя, грубыя льняныя тканіны. Служаць яны да накрываньня ложак і вазоў. Звычайна сшытыя з дзьвюх шырыняў тканіны. Адзначаюцца сваімі арнамэнтальнымі палосамі, украшанымі дробнымі зубкамі, выкліканымі ўвядзеньнем розных адменаў ткацкіх вузлоў. Цяжкую ткацкую тэхніку здабываюць беларускія жанчыны шляхам традыцыі, твораць аднак штораз то іншыя багацейшыя дэкарацыйныя камбінацыі, ня толькі перадаваныя спосабам традыцыйным, але й творча іх камплікуючы й знаходзячы штораз іншыя ўзоры, якія адказываюць вясковай модзе, а таксама гонару й новаму творчаму ўздыму ткачкі. Адсюль тая рознастайнасьць і жывасьць тканінаў, званых «віленскімі», — і вырабляных на тэрыторыі з насельніцтвам этнічна беларускім і літоўскім. Арнамэнты выключна геомэтрычныя. Складаюцца з прастакутнікаў і квадратаў, уложаных шахаўніцай, крыжыкамі, зоркамі й пераплятанымі кружкамі, эліпсамі ў розным узаемным разьмяшчэньні й адносінах. Калярыт тканінаў — гарманійны, станаваны. Вялікая мастацкая вартасьць гэтых тканінаў — у некаторай няроўнасьці ручным спосабам прадзенай ніткі, у жывасьці выкананьня, якое праяўляецца як-бы малым варыянтам у арнамэнце, часамі неспадзявана, а так-жа багацьцем і неабмежаваным лікам зьменных геомэтрычных арнамэнтаў. Найбольш папулярна ўжыванай камбінацыяй ёсьць г. зв. «дымка». Гэткай самай тэхнікай і паводле тых самых узораў, што й каляровыя тканіны, ёсьць вытыканыя ручнікі й абрусы, крыху далікатнейшыя. Арнамэнт іхні,—які можна пабачыць толькі гледзячы пад сьвет, — атрыманы зьменай напрамку ніток. Палескія ручнікі, вытканыя із звычайнага палатна, закончаны стройным, узорыстым, шырокім паясом, тканым г. зв. «пераборамі», і падобны эфэктам да палескага гафту. Такім спосабам вельмі багата здобленыя спадніцы, фартухі, жаночыя кашулі на наплечніках і рукавох. Калі гаворым аб палескім гафце, трэба сказаць, што мае ён зусім іншы характар ад характару звычайна спатыканага гафту. Зьвязаны ён вельмі цесна із структурай палатна й аканчальным эфэктам амаль зусім ня розьніцца ад частак, тканых спосабам «пераprobораў» або спосабам «ператыканьня». Гэтым гафтам упрыгожываюцца кашулі, ручнікі, наміткі й пераміткі, часамі фартухі. Арнамэнт цесна зьвязаны із структурай палатна й дзеля гэтага ёсьць геомэтрычны, з перавагай колеру чырвонага або чорнага. Палескі гафт карыстаецца тэхнікай працягваньня калёрнай ніткі ўздоўж ніток упрыгожванага прадмету — палатна. Гэта адна з найстарэйшых гафцярскіх тэхнікаў. Узоры арнамэнту вельмі скамплікаваныя й аснаваныя на розных варыянтах трыкутніка й ромбу. Асабліва прыгожыя йржавыя гафты фартухоў і рукавоў жаночых кашуль з ваколіцаў Берасьця. У заходняй часьці Беларусі, сумежнай з літоўскімі тэрыторыямі, у даволі шырокай паласе спатыкаем тканыя ручным спосабам вузкія паяскі або кройкі, з арнамэнтам, хоць іншым і своеасаблівым, але таксама геомэтрычным. Гэтыя паяскі др. А. Іпэль прыроўнівае да грэцкіх «тэніяў». Хараство прасьціні й сынтэзы артыстычных формаў гэных ткацкіх прадметаў дзякуючы тэхніцы найсільней выражаецца найпрасьцейшай і найлёгічнейшай формай.

З іншых галінаў народнага мастацтва трэба сказаць аб разьбе аздобнай і празначанай для рэлігійнага культу. У гэтых катэгорыях разьбы Беларус найпрасьцейшым спосабам, ясна, шчыра, упрошчанымі й экспрэсыйнымі іх формамі выражае сваю душу.

Тыя самыя прыметы мае й народнае малярства, авеенае нейкай цяплінёй і мяккасьцю душы, задумы й сэнтымэнталізму.

Надзвычайныя артыстычныя вартасьці маюць і народныя дрэварыты, якіх расцьвет прыпадае на XVIII і пачатак XIX стагодзьдзя й якіх прадукцыя знаходзілася ў нейкім кляштарным варштаце на Віленшчыне; пашыраныя па ўсёй тэрыторыі б. Вялікага Княства Літоўскага. Дрэварыты гэтыя, магутныя экспрэсіяй, маюць нязвычайна цікавае, характару плоскага, дэкарацыйна-колёрыстычнае састаўленьне.

Кожную галіну жыцьця беларускі селянін стараўся ўпрыгожыць, даць ей якнайпрыгажэйшы выгляд, і ня гледзячы на цяжкія жыцьцёвыя ўмовы, якія не пазвалялі, а то й зусім перашкаджалі пранікнуць найясьнейшаму праменю жыцьцёвай радасьці, заняў ён эстэтычнае й оптымістычнае становішча да ўсякіх зьявішчаў жыцьця. Дзеля чаго, з усім, — ці гэта будуць вырабы з дрэва, цэраміка, тканіны, ці цацкі, ці выпек цеста на вясельле, як каравaі,—ці на кірмаш, як пернікі, сэрцы, цукровыя цацкі, конікі, ці гэта будуць абрадныя вялікодныя пальмы, што адзначаюцца нязвычайнай гармоніяй колераў, ці таксама вялікоднае, чаруючае сваей калёрнасьцю, яечка, ці ўрэшце сьвяточныя ўбёры, асабліва дзявочыя й жаночыя, як спадніцы, кашулі, гарсэты, кафтаны, сьвіткі, чэпікі й хусткі і т. п., —паўтараю,—з усім, да чаго датыкалася ягоная рука, беларускі селянін абходзіўся як мастак.

Калі шукаць істотных прыметаў беларускага мастацтва й найвярнейшага выражэньня праз яго душы беларускага народу, то гэта ўсё знайдзем першым чынам у беларускім народным мастацтве.

*АД. СТАНКЕВІЧ*

# З літуанізмаў у беларускай мове

## К.

**Кляваць** (націск на «я») — сяк-так жыць, неяк трымацца: як маецца дзед ваш? Вось клявае патроху; літ. **kliautis, klaujasi,** kliovési—спадзявацца на каго, давяраць каму, дзяржацца за каго, за што.

**Клявіца** — вёска ў Ашмянск. пав.; літ. klevas — клён.

**Кавенчыцца** — мучыцца, цярпець ад цяжкой працы: ад усходу да заходу бедны кавенчыцца, сьвету Божага ня бача; літ. **kauti,** kauja, **kové** — біць, забіваць, сячы, раніць у бітцы.

**Кàліва** — паасобнае зярнё або расьліна чаго-небудзь: ані каліўка(ца) ў арудзе й жыві, калі хочаш! Каліва ад каліва вун гдзе! літ. **kalyvas** (lybas) — зьвярок з белай шыяй, які ярк адметны ад іншых, а так-жа сабака з белым знакам на шыі.

**Коўчыць** — у сабе зносіць радасьць, гора, перажываньне, не выяўляючы прад другімі: коўчыла ў сабе сваё гора, дый не дала рады, самі сьлёзы паліліся; літ. kovoti — ваяваць, змагацца, а мо': **kopti** — зграбаць, абкопваць.

**Клямка** — зашчапка, закрутка, завала; літ. **klemka.**

**Кімса,** літ. **kimsa,** — благі луг, пустая трава (медвежий мох). Ужываецца ў ваколіцах Клюшчан, Сьвянцянскага пав.

**Клышаногі** — крываногі, касалапы; літ. **klišas, klišis, klišti** — крывець, станавіцца крываногім. **Klyšnoti** — няроўна йсьці, клыпаць. Адгэтуль — Клышкі, вёска Крэўскай вол., Ашмянскага пав.

**Крэйка** — верх страхі, шчыт, грэбень, канёк, конічак; літ. kraika — месца, дзе штонебудзь сьцеляць; kraikyti—рассыпаць (салому, сена), пасьцілаць; **kreikti** — тое-ж самае.

**Кунюткі** — каткі, галіны вярбы ці лазы, калі пачынаюць цьвісьці; літ. **kunyti** — уцялесьніць, рабіць нешта цялістым, тоўстым, укормленым; **kunuotas** — укормлены, мясісты.

**Каранды** — вёска ў Крэўскай вол.; літ. rasti — знаходзіць што; randa — ён знаходзіць, **ko** randa — што ён знаходзіць?

**Кульшà** — бядро, сьцягно, ляшка; літ. **kulše**; магчыма ад гэтага: клюшня ў рака, Клюшчаны.

**Кратацца** — рабіць што, быць дзейным, жывым. Як жывеш? Вось кратаюся патроху; літ. **kratyti** — трасьці, страсаць, патрасаць, трэсьці каго (шукаць чаго).

**Клікаць** — зваць, запрашаць; літ. klykauti — крычаць, галасіць, гаманіць; **klyknoti** — пакрыкаваць. Слова гэта ёсьць і ў расейскай мове; надта магчыма, што яно ёсьць славянізмам у літоўскай мове, ці вярней — беларусізмам.

**Курманіха** — засьценак у Крэўскай вол., між Крэвам і Барунамі; літ. **kurmis** — крот, **kurmiena**—кратовае мяса, **kurminis** — кратовы.

**Клуня** — стадола, гумно; літ. **kluonas**. Адгэтуль — **клунак** — пакунак.

**Клябанія** — дом парафіяльнага ксяндза, сьвяшчэньніка; літ. **klebonas** — пробаршч, парох.

**Кена** — чыгуначная станцыя пад Нова-Вялейкай і сяло; літ. **kieno** — чый

**Кемялішкі** — сяло ў Віленска-Троцкім пав.; літ. kiemas — вёска, падворка.

**Каіценяты, Каяценяты** — вёска ў Гальшанскай вол., Ашмянскага пав.; літ. **kaitėti** (kaita) — беспакоіць, турбаваць, перашкаджаць, шкодзіць; **kaitèti** (kaiteja) — пацець.

**Курта** — сука, сучка; курта ты! літ. **kurtas**—сабака, хорт.

**Касьнік** — істужка ў косы; літ. **kasnykas; kasnis**—кусок.

**Калтуя** — цапілно, кій, да якога прычэпліваецца цэп для малацьбы; бічавіска; літ. **keltuvé** — значэньне тое-ж; **kalti** — каваць, высякаць (з каменя), выдаўбаць, убіваць.

**Кіпці** — капцюры, пазуры; літ. **kibti** — чапіцца, прычапляцца, прыставаць, прыдзірацца.

**Кніпці** — капцюры, пазуры, ногці, пазногці; літ. **gnybti**—шчыпаць, шчапіць, прышчапіць, сьціскаць шчыпцамі; прычым літ. g пераходзіць у бел. к і b у п.

**Кумпяк** — шынка, вандліна; літ. **kumpis; kumpinti**—крывіць, выкрыўляць, выгібаць.

**Кунава** — вёска між Смургонямі й Крэвам; літ. **kunas** — цела.

**Клыпаць, паклыпнуць** — спатыкацца, падаць на калені: конь на чатырох нагах і то паклыпае; літ. **klipti (klimpa, klipo), klypti (klypsta, klypo)** — крывіцца, касіцца, зрушыцца з месца; **klupti (klumpa, klupo)** — спатыкацца, падаць на калені; адгэтуль — клумпі.

**Кудра** — стаў, сажалка (Баранавіцкі пав.), кучка дрэў, што расьце дзе адзінока (Ашмянскага пав.); літ. **kudra**—стаў, сажалка.

**Кудзеля**; літ. **kuodas** — чуб, хахол; **kuodelis** — завітушка, кудзеля, прадзева.

**Крушня** — куча каменьняў; літ. **krusnis.**

**Курстаць** — рушаць (справу), падганяць (каня); літ. **kurstyti** — нагаварываць, агітаваць, падвучаць, бунтаваць, распаліваць (гнеў, любоў, вогнішча, агонь).

**Кіла** — прарыў у канцы пахвінаў жывата, парасейску — грыжа; літ. **kilti (kyla, kilo)** — устаць, уставаць, падымацца, падняцца, павысіцца, расьці, узьляцець, прыбываць (аб вадзе), рабіцца яўным.

**Крапштаць, крапштацца, крэпштаць** — калупаць (у носе), калупацца (пры рабоце); літ. **krapštyti** — калупаць.

---

*АД. РЭДАКЦЫІ: Праца нашага Паважанага Супрацоўніка, Кс. Адама Станкевіча над літуанізмамі ў беларускай мове, якой некалькі частак ужо мы надрукавалі, знайшла водгук у газэце „Беларускі Фронт". Гэтая газэта ў нумары 10-ым 15.V.39. зьмяшчае доўгі артыкул „Аб „літуанізмах" Адама Станкевіча", падпісаны літарамі „Ш—ць". Артыкул агулам кажучы рачовы й карысны, нажаль сапсуты мясцамі някультурнымі й дэмагогічнымі выпадамі, супроць чаго мы змушаны пратэставаць.*

*Падтрымліваем цалком становішча В. Паважанага Кс. Адама Станкевіча ў справе гэтага артыкулу, выражанае ў надрукаваным ніжэй ягоным пісьме.*

---

*Паважаны Грам. Рэдактар,*

*не адмоўце памясьціць у „Калосьсі" гэтых некалькі слоў:*

*Я дужа ўдзячны гр. Ш—ць („Бел. Фронт" № 10, 15.V.39) за крытычныя й фаховыя ўвагі да маеі працы „З літуанізмаў у беларускай мове"; падчыркваю — за крытычныя й фаховыя, характару языкаведнага, бо-ж, апрача гэтага, чаго там толькі няма?! Але* transeat! *Мне йдзець аб дасьледжаньне літуанізмаў у беларускай мове й з слушных (а ня ўсе там гэткія!) заўвагаў у гэтай праблеме я ахвотна скарыстаю, калі праца мая будзе выходзіць асобнай адбіткай. Тады выкажу так-жа свой пагляд і што да тых заўвагаў гр. Ш—ць, з якімі я не згаджаюся.*

*Прыміце, Гр. Рэдактар, словы маей да Вас пашаны.*

*Ад. Станкевіч*

*Слонім, 17.V.39.*

---



*З нашай картатэкі*

# Іван Саланевіч

Аб Івану Саланевічу мала хто з Беларусаў што-колечы ведае, а ён цярпеў, працаваў, змагаўся й далей няўтомна змагаецца за сваю справу. Жыве ён у Бэрліне, а ў Софіі выдае тыднёвік пад назовам «Наша Газета», у каторым вядзе напружаную барацьбу з бальшавізмам пад сьцягам вялікай і непадзельнай Расеі.

Чытачы «Калосься» падумаюць: — тут нейкая няўвязка, нехта змагаецца з бальшавізмам, вельмі добра, але што-ж супольнага мае гэты расейскі чорнасоценец з беларускім народам?

Дык вось, у сваей векапомнай працы «Россия в концлагере», у каторай ён надта маляўніча апісвае сваё прабываньне ў савецкім лагеры ў Карэліі й уцечку адтуль, гэты дзеяч коратка й ясна падчыркнуў уласную беларускасьць і свае адносіны да Беларусаў і беларускай справы.

Аб двухтамовай кнізе Саланевіча пісаць ня будзем, у кожным выпадку, хто прыпамінае перадваенныя сшыткі «Нат Пінкертон кароль сышчыкаў», той будзе мець належнае прадстаўленьне аб літаратурных прыёмах і вартасьцях аўтара.

Важна тое, што ў першым томе «Россіі в концлагере» у кароткай дэклярацыі ён заяўляе: — Я стопрацэнтовы Беларус і магу ганарыцца тым, што мяне ўзгадавалі на Пушкіну, ані на якімсьці Янку Купале; маю пагарду да патрыётызмаў у павятовым маштабе й да нацыянальнага будаўніцтва з соймам у Менску ці ў Вільні. — Апошняе, дзеля асаблівай кур'ёзнасьці й дзеля спадобы, ня вельмі вымагаючай, у сваей масе, расейскай публіцы падана поўпабеларуску. Адным словам, прыпраўлена «з душком».

Бязумоўна, гэты вырадак не прачытаў аніводнага верша Купалы й ня мае мінімальнага паняцьця аб сучасным беларускім адраджэнскім руху, — але сваю «прафэсарскую апінію» ён выражае дужа аўтарытэтна.

Наагул, вырадкаў маем нямала, стагодзьдзі нацыянальнага заняпаду даюцца ўзнакі, тым ня менш такіх тыпаў, як Саланевіч, афішуючыхся стопрацэнтавай беларускасьцю, трэба біць, прынамсі, па брудных лапах. Няхай ня думаюць, што калі яны знаходзяцца далёка ад беларускіх цэнтраў, дык маюць магчымасьць бяскарна ізрыгаць свае істінно-русскія бляўоціны на беларускі народ.

Хто чытаў «Расею ў канцлагеры», прыпамінае, напэўна, што было духовым апірышчам аўтара падчас лагернага жыцьця. Гэта ягоны сын Юры ў мамэнты дэпрэсыі бацькі напяваў яму дзеля бадзёрасьці песьні Верцінскага.

Дробязь, але вымоўна характэрызуючая духовы клімат розных Саланевічаў. Беларуская музыкалёгія ні Верцінскага ні падобных яму іншых шарманшчыкаў ня мае, таму, магчыма, для гэткае публікі тут недзе трэба шукаць жаролаў духовае няпрымірымасьці.

Пасьля ўцечкі з лагеру, «наш герой» хутка заінсталяваўся ў расейскай эміграцыі — падыйшоў пад колер. Пэўныя колы ўважаюць яго нават за нейкага аракула, іншыя йзноў называюць савецкім агентам і правакатарам. Зрэштай, гэта іх сямейная справа.

Арганізуе нацыянальны «трудавы» саюз новага пакаленьня — няхай арганізуе, палемізуе з Мілюковым — няхай палемізуе, але быламу савецкаму спэцу (праектаваў будову стадыёнаў Дынамо), а цяпер альфонсу расейскай эміграцыі радшуча забараняем паганіць беларускую справу. Можа свае жарты сьціраваць у іншы бок.

З узгляду на актуалізацыю беларускай справы, гэны цынічны рэнэгат (родам, здаецца, з Менска) можа рабіць спробы перакінуцца на беларускі грунт. Трэба, каб нашае грамадзянства добра запомніла ягонае прозьвішча.

Паўтараю: — Іван Лукіяновіч Саланевіч.

*А. Бужанскі*

---

# Кнігапіс

*Teodor Iljaszewicz* — **Drukarnia Domu Mamoniczów w Wilnie (1575—1622).** Wilno, 1938. Wyd. T-wa Pomocy Naukowej im. E. i E. Wróblewskich, бач. 155, фармат 8⁰.

Пад гэткім загалоўкам у канцы мінулага году паявілася ў сьвет кніжка маладога беларускага вучонага Хведара Ільляшэвіча. Гэта, здаецца, яго праца для атрыманьня навуковага званьня пры сканчэньні U.S.B. і дзеля гэтага выдана папольску.

Падбор тэмы дужа ўдалы, можа быць узорам беларускім студэнтам, якія часта выбіраюць тэмы, над якімі працаваць шкода часу.

Праца з боку тэхнічнага без закіду. Друкавана ў друкарні «Краёвай», якая ў друкарскай тэхніцы што да мастацтва сярод друкарняў у Вільмі займае бадай першае месца.

Нічога так-жа няможна закінуць аўтару й што да навуковай мэтодолёгіі.

Усё, што вымагаецца ад працы, каб яна была ўложана й апрацавана па навуковаму, у кніжцы Хв. Ільляшэвіча знаходзіцца. Пільным, відаць, быў студэнтам, старанным працаўніком на сэмінарыях, а пасьля вытрывалым і сумленным дасьледчыкам праблемы аб друкарні Мамонічаў, у кніжку аб якой улажыў сапраўды шмат працы й веды.



Кніжку папераджаюць удала падабраныя тэксты: украінскі, адрывак з працы праф. Іл. Сьвенціцкага аб друкарстве, і беларускі верш М. Багдановіча «Псалтыр». Тэксты гэтыя, поўныя романтычнага пачуцьця да старадаўнай друкаванай кніжкі, ярка выражаюць той любоўны настрой, з якім аўтар адтварае друкарскую працу Мамонічаў і ўсталяе плады іх працы, надрукаваныя імі кніжкі.

У прадмове слушна аўтар кажа, што «досьледы над друкарствам маюць вялікае значэньне, калі йдзе аб адтварэньне культурнага стажу грамадзянства. Кніжка ёсьць фактам культурным. Ёсьць яна вынікам культурных здабычаў і людзкіх запатрабаваньняў». З гэтай мэтай і прыступае ён да прадстаўленьня магчыма поўнага абраза друкарскай у Вільні дзейнасьці Лукі, Кузьмы і Лявона Мамонічаў у апошняй чверці XVI і ў першай XVII стагодзьдзя.

Пасьля прадмовы наступае багаты, лікам 113, сьпісак прац і крыніц, якімі аўтар пры пісаньні сваей кніжкі карыстаўся. Сярод працаў не азначана,—відаць, аўтар з ей не спатыкаўся,—кніжка Булгакава: «Кнігопечатаніе на Русі», ці нешта падобнае; кніжка гэта знаходзіцца ў маей бібліятэцы ў Вільні й тут, у Слоніме, пад рукой яе ня маю. Прыпамінаю, што аб друкарскай працы Мамонічаў нешта там знаходзіцца. Але й сам аўтар сьведамы таго, што азначаная й выкарыстаная ім літаратура ня ёсьць поўнай, аб чым ён лёяльна заяўляе. У ўвагах аб літаратуры, гаворачы аб працы І. Лаппы („К исторіи русской печати. Виленская типографія Мамоничей"), аўтар слушна вытыкае Лаппе памылковасьць залічаньня друкарства Мамонічаў да... расейскага, але й ня кажа, што, з малымі выняткамі, залічыць яго трэба да беларускага.

У ўступе аўтар падчырквае аб вынаходзе друкарства агулам, аб яго значэньні, а так-жа аб працы друкарскай Фр. Скарыны ў Празе й у Вільні й аб адносінах друкарства Скарыны да друкарства Мамонічаў.

Спатыкаем тут пару думак, з якімі цалком згадзіцца ня можна. «Ня будзем, кажа аўтар, разводзіцца над цэлым вынаходам друку, які пацьвярджае, па мойму, ведамы прынцып, што патрэбы эканамічныя выклікаюць адкрыцьці».

Пэўне-ж, але патрэбы эканамічныя гэта ўжо нешта другараднае, адкрыцьці выклікае прадусім ніколі ненасытная веды душа чалавека.

Занадта такжа, здаецца мне, аўтар паддаецца паглядам некаторых польскіх вучоных (Ловмянскі) аб дужа быццам нізкім роўні культурным Вял. Кн. Літ. у першай палавіне XVI ст.

Пасьля ўпадку Візантыі ў XV ст. Праваслаўная Цэрква, якая была апорай культуры, пачала перажываць цяжкі крызыс. Адбілася гэта, ведама, і агулам на культуры краю. Аднак так званыя вышэйшыя слаі грамадзянства, якія былі выключнымі носьбітамі культуры, за які век навязалі лучнасьць з заходам і нямала з яго карысталі. Павевы гуманізму й рэнэсансу даходзілі аж да зямель Вял. Кн. Літ. Як многа пад гэтым узглядам гавора нам хоць-бы вялікі наш Фр. Скарына і слаўныя нашы законы!

Першы разьдзел працы Хв. Ільляшэвіча пасьвячаны паўстаньню друкарні Мамонічаў і першым гадом яе існаваньня. Дакладна тут ён апісвае пачаткі друкарні Мамонічаў, сувязь яе з друкарствам Скарыны і роль у мамонічаўскай друкарні ведамага вучня Скарыны Пятра Цімафеевіча Мсьціслаўца. Друкарня Мамонічаў, як усталяе аўтар, знаходзілася ў Вільні, у нарожным доме вул. Вялікай і Шклянной, якога падае здымкі.

У выснавах да першага разьдзелу спатыкаем думку аўтара, што друкарства Скарыны паўстала прыпадкам, а Мамонічаў было выклікана культурнымі патрэбамі асьвечанага мяшчанства. Вось-жа што да Мамонічаў, дык ня можа быць сумніву, што так, але, здаецца мне, што й Скарыны праца таксама ня была прыпадковай і так-жа была выклікана культурнымі патрэбамі беларускага грамадзянства, толькі што гэныя патрэбы былі яшчэ меншымі й часта бліжэй не азначаныя. Прынамсі сам Вялікі Скарына дакладна ўяўляў сабе тыя культурныя патрэбы свайго народу, якім ішоў насустрач. А гэта ўжо ня прыпадак.

Другі разьдзел працы Хв. Ільляшэвіча дасьледжвае дзеі друкарні Мамонічаў ад году 1577, калі адыйшоў Мсьціславец, і да году 1607, калі памёр Лукаш Мамоніч, галоўная апора друкарні. У гэтым пэрыядзе друкарня, апрача кніжак кірыліцай, друкуе так-жа й кніжкі польскія лацінскай готыкай, хоць яшчэ дужа мала.

У гэтым часе адбываецца рашучы наступ лацінізму на Беларусаў і на іх Праваслаўную Цэркву. Вось-жа Мамонічы, будучы яшчэ праваслаўнымі (пасьля перайшлі ў унію, а пазьней, магчыма, і ў лацінства), сваей друкарскай дзейнасьцяй у абароне веры, а разам і беларускай народнасьці, адыгралі аграмадную роль, на што аўтар, здаецца, не зварачвае належнай увагі.

Разьдзел трэці пасьвячаны Лявону Мамонічу, які меў тытул каралеўскага друкара. Гэты Мамоніч, з праваслаўнага стаўшыся уніятам, пры помачы свайго друкарства вялікія аказаў Уніі ўслугі, а так-жа й культуры. Дзякуючы аднак таму, што Унію палітычныя дзейнікі накіроўвалі на польскія торы, Лявон Мамоніч больш ужо друкаваў польскія кніжкі, як кірыліцкія. Друкарня яго перастала існаваць у 1622 г.

Капітальнай важнасьці разьдзел чацьверты — аб ролі



друкарні Мамонічаў у жыцьці культурным Вял. Кн. Літ. і іншых славянскіх краёў. З гэтага разьдзелу даведваемся, што прасьветная праца гэтай друкарні не агранічалася толькі беларускімі землямі, дзе кніжкі, друкаваныя ў Мамонічаў, былі ўжываныя па цэрквах, школах і дома, як падручнікі для навукі чытаньня й пісаньня, але сягала так-жа да славян паўдзённых і да Маскоўцаў.

Друкарскую працу Мамонічаў аўтар за праф. Пічэтай характарызуе, як кірунак гуманістычна- консэрватыўны. Яны ня бралі пад увагу народнага языка, як гэта рабіў Скарына, а, ідучы на спатканьне шляхоцка-мяшчанскім патрэбам, кніжкі свае друкавалі выключна (ня лічачы польскіх) языком царкоўна-славянскім. Гэта праўда. Але ня трэба забывацца, што й гэтак Мамонічы служылі народнай справе й зьяўляліся яе культурнай апорай у барацьбе з польскім націскам.

З апошняга разьдзелу, пятага, аб прычынах упадку й аб лёсе друкарні Мамонічаў, даведваемся, што ўпала яна найхутчэй з прычын конкурэнцыйных, бо, як кажа Лелевэль, між 1580 і 1650 г. было ў Вільні й у іншых мясцох Вял. Кн. Літ. аж 15 друкарняў, „iż by do ludu ruskiego przemawiały".

А дзе-ж Л. Мамоніч дзеў сваю друкарню, зьліквідаваўшы друкарска-выдавецкую працу? Аўтар даходзіць да высναву, што друкарня гэта перайшла да айцоў Базыліянаў у Вільні й праўдападобна мясьцілася ў сутэрэне кляштару пры стыку двух лініяў — паўдзённай і заходняй.

Далей ідзе ў працы Хв. І. сьпіс мамонічаўскіх друкаў, які адказвае на гэткія пытаньні: 1) назова друку, 2) чысло выданьня, 3) колькасьць бачын, 4) фармат і тыя крыніцы й аўтары, у якіх аб мамонічаўскіх друках ёсьць зацемка. Усіх, напэўна мамонічаўскіх, друкаў аўтар усталіў 60, а сумніўных — 14, усіх разам — 74.

Аднак лічба гэта ня знача, што толькі гэтулькі, а больш ня было друкаў, якія выйшлі з друкарні Мамонічаў. Аўтар кажа, што ведамы яму яшчэ друкі, якія, ня маючы паказанай друкарні, няведама, у якой друкарні былі друкаваны, а якія, пры параўнаньні іх з друкамі друкарні Мамонічаў, надта магчыма, што аказаліся-б таго-ж самага паходжаньня. Аўтар аднак праступдыяваць гэтую праблему, як сам кажа, ня меў магчымасьці.

Ня трэба так-жа забывацца, што час (канец XVI і пач. XVII ст.), калі працавала друкарня Мамонічаў, гэта час заўзятай барацьбы рэлігійнай, калі кніжкі, варожыя таму ці іншаму рэлігійнаму абозу, былі нішчаны. Гэткі лёс мог спаткаць не адну кніжку з друкарні Мамонічаў.

Дзеля гэтых прычын агулам трудна ды й немагчыма гаварыць аб устанаўленьні поўнага сьпісу мамонічаўскіх друкаў. Той аднак сьпіс, які усталіў Хв. І., мае вялікае навуко-

вае значэньне—гэта грунтоўная падстава для далейшых студыяў над мамонічаўскімі друкамі.

Урэшце, на канцы кніжкі памешчаны паказчык асоб, якія ўспамінаюцца ў працы, паказчык зьместу й ілюстрацыяў, а так-жа друкарскія абмылкі, якіх сабралася, на жаль, ня так і мала.

Кніжка Хв. Ільляшэвіча — гэта значны ўклад у маладую беларускую навуку. Агульнай аднак нястачай кніжкі зьяўляецца нявыразны яе воблік беларускі. Мамонічы — гэта беларускія патрыёты й беларускія культурнікі й кніжкі іх празначаны для беларускага народу. Тымчасам гэта ў Хв. І. ня толькі што з нацыскам не адзначана, але нават як-бы саромліва прыхавана пад бліжэй неазначанымі тэрмінамі: «Русь, рускі, патрыёт, Вял. Кн. Літоўскае» і інш. Я разумею, што да гэткай «саромлівасьці» што да беларускасьці прымушалі аўтара абставіны, у якіх праца была пісана й выдавана. Затое цяпер аўтар павінен сваю цэнную працу пераалжыць на беларускі язык, паставіць «беларускія точкі» над усімі «і», раскрыць усе «дужкі», паставіць, дзе трэба, «беларускія нацыскі» і... пабеларуску выдаць. Але хто выдасьць?

Гэтая кніжка мусіць праявіць сваю беларускую «душу» й мусіць прыадзецца ў сваю беларускую «вопратку».

*Ад. Станкевіч*

Слонім, 27.IV.39.

## Новая праца з гісторыі беларускага языка

Норвэг Хр. С. Штанг (Stang), праф. унівэрсытэту ў Ослё, надрукаваў сёлета другую сваю працу з гісторыі беларускага языка: *Die altrussische Urkundesprache Der Stadt Polock von Chr. S. Stang. Skrifter utgitt av Norske Videnskaps. Akademi i Oslo. II. Hist.-Filos. Klasse. 1938. № 9. Oslo 1939, бач. 148 фармату 12×21 цм.* Першая праца ягоная аб мове вяліка-княскіх канцылярыяў Вялікага Княства Літоўскага выйшла ў 1935 г. У гэтай, другой, працы аўтар разглядае мову полацкіхурадавых памяткаў XIII—XVI стаг.

Канчальны вывад аўтараў аб старой мове полацкай — гэткі: мова полацкіх памяткаў ад самага пачатку беларуская. Яна выразна розьніцца ад мовы памяткаў пскоўскіх і блізу нічагусенькі ня розьніцца ад мовы памяткаў Смаленскіх. У XV стаг. мова полацкіх памяткаў памалу ўпадабняецца да тагачаснай беларускай мовы літаратурнай — урадовай у Вял. Княстве Літоўскім, а ў XVI стаг. зусім із ёю зьліваецца.

Праца праф. Штанга вельмі салідная й яе павінен прастудыяваць кажны беларускі языкаведнік.

*Я. Ст.*



# Хроніка

— У Беларускім Навуковым Т-ве: 14 траўня адбылася зборка літаратурна-мастацкае сэкцыі, на каторай Максім Танк прачытаў толькі-што закончаныя першыя пяць частак сваей новай паэмы „Сілаш Істома“. Пасьля адбылася ажыўленая дыскусія.

На гэтым паседжаньні адбыліся выбары старшыні літ.-маст. сэкцыі. Аднагалосна выбраны за старшыню мгр. Хведар Ільляшэвіч.

— У Беларускім Музэі ім. Івана Луцкевіча ў Вільні ў працягу „III-га Тыдня Прапаганды Музэяў“ лічба адведываючых была 2.685 асоб (у тым 52 экскурсіі).

Падчас „Тыдня“ вельмі істотную помач аказала Бел. Музэю беларуская студэнцкая моладзь, якая самаахвярна працавала восем дзён, даючы адведываючай публіцы неабходныя выясьненьні й гзедзячы за парадкам у Музэі.

— Паэт Міхась Машара прырыхтаваў свой новы зборнік паэзіі, які здаецца ўжо ў друк. Над прырыхтаваньнем у друк сваіх зборнікаў працуюць паэты Хмара, Іверс і Бярозка.

— Міністэрства Ўнутраных Спраў не зацьвердзіла статуту Беларускага Саюзу Абстынэнтаў, які меўся зарганізавацца ў Вільні.

— Нашыя супрацоўнікі кс. Адам Станкевіч і інж. Адольф Клімовіч, ваяводзкімі ўладамі выселеныя ў канцы мінулага году з Вільні, з дазволу гэтых-жа ўладаў вялікоднымі сьвятамі адведалі Вільню.

— Выйшлі з друку паштоўкі з фатаграфіямі 6-цёх твораў Беларусаў - мастакоў: Мірановіча, Сергеевіча, Драздовіча. Цана паштоўкі — 30 гр.

— Украінскі кампазытар праф. А. Кошыц (Нью-Іорк) згарманізаваў нядаўна для мяшанага хору беларускую народную песьню.

— 2 красавіка г. г. у памешканьні Т-ва беларускіх вучыцялёў (Рыга) С. П. Сахараў зрабіў даклад на тэму „А. П. Сапуноў, як беларускі гісторык“. На грунце пэрсанальных успамінаў і на грунце каштоўных навуковых прац А. П. Сапунова з гісторыі Віцебшчыны й Полаччыны, дакладчык пазнаёміў слухачоў з беларускім нестарам, як можна з поўным правам назваць А. П. Сапунова.

Да Сапунова гісторыя Беларусі была чыстым аркушам. Ён усё сваё жыцьцё прысьвяціў архіўным досьледам сваей роднай гісторыі. Яго многалічбовыя творы, пачынаючы з „Витебской старины“, зрабілі цэлую эпоху ў гісторыяграфіі Беларусі.

— Новае беларускае таварыства ў Латвіі. Цяпер у Латвіі ёсьць адзіная беларуская арганізацыя „Таварыства беларускіх вучыцялёў у Латвіі“. Таму, што гэта больш прафэсіянальная арганізацыя, то замест яе ўхвалена стварыць „Нацыянальны Хаўрус Беларусаў у Латвіі“. Ужо пададзены адпаведны статут на зацьверджаньне міністэрству грамадзкіх спраў і чакаецца яго зацьверджаньня.

— 15 красавіка г. г. у Т-ве беларускіх вучыцялёў адбыўся рэфэрат на тэму: „Задачы беларускай інтэлігенцыі“.

— Дума культурнага фонду, пад кіраўніцтвам прэзыдэнта Латвіі Карліса Ульманіса, на сваім паседжаньні 5 красавіка г. д., пастанавіла выдаць С. П. Сахараву (б. дырэктару Дзьвінскай дзяржаўнай беларускай гімназіі) 700 лат за прадстаўлены ім у культурны фонд зборнік пад назвай „Народная творчасьць Латгальскага Беларуса“.

С. П. Сахараў працаваў над гэтым зборнікам больш 5 год. У зборнік увайшло каля 1200 народных твораў, якія сабраны, як С. П. Сахаравым, так і беларускімі вучыцелямі й вучнямі за час 1922—1938 г.г.

— Беларускім вучыцельскім хаўрусам у Латвіі 6 траўня г. г. зарганізавана спэктакль-вечарына. Спэктакль быў папярэджаны адноснымі дакладамі й канцэртным нумарам, у якім выступала сьпявачка А. Латонас-Дзямідава, якая з пасьпехам выканала некалькі латыскіх і беларускіх песень На спэктакль зложылася бытавая п'еса Я. Купалы „Паўлінка“, добра

й жвава адыграная драматычнай сэкцыяй пры вучыц. хаўрусе пад кіраўніцтвам Ф. Дамброўскага. Пасьля спэктаклю адбыліся скокі. Вялікая заля была перапоўнена публікай. Сярод публікі былі прадстаўнікі латыскага, літоўскага, расейскага й украінскага грамадзянства.

— 25.III у Каўнасе адбыўся агульны гадавы сход Беларускага Культурна-Асьветнага Т-ва ў Літве.

— 10.III Беларускае Культурна-Асьветнае Т-ва ў Літве наладзіла прадстаўленьне.

— Беларусы ў Аргентыне, зарганізаваныя ў Беларускім Т-ве „Культура", у сталіцы Аргентыны—Буэнос-Айрэс — наладзілі беларускі спэктакль. Пры Т-ве „Культура" існуе хор. Т-ва налічае каля 180 сяброў.

— Беларускія работнікі ў Парыжы 12.II пастанавілі на сваім сходзе ладзіць публічныя лекцыі аб Беларусі й беларускія прадстаўленьні.

---

— Маскоўскія ўлады ў Беларусі робяць розныя экспэрымэнты над беларускім языком у пісьме й друку. Апошнім часам дыскутуецца „патрэба" зьмены беларускага правапісу й морфолёгіі, ясна, у кірунку ўпадабненьня беларускага языка да расейскага. Ёсьць прапановы нейкага Барысенкі й Гурскага скасаваць у правапісе нават самую найгалаўнейшую асабліваcьць беларускага языка — г. зв. „аканьне". Па прыняцьці такой прапановы — пісалі-б і друкавалі-б нпр не „галава", а „голова".

— Пісьменьнікі БССР напісалі вершам новае пісьмо „роднаму бацьку" Сталіну, у якім аж захліпаюцца ад казённай радасьці й удзячнасьці для гэтага дыктатара за якіныя „дабрадзействы" для Беларусі. Для раўнавагі пачуцьця трэба было-б аўтарам пісьма прадставіць мора сьлёз, енкі й пакуты замучаных рэжымам „роднага" Сталіна сотняў тысячаў Беларусаў, у тым ліку і сотняў пісьменьнікаў, мастакоў, артыстаў, навукоўцаў, культурнікаў.

— 10 сакавіка ў Менску ўрачыста адданы ў эксплёатацыю новы будынак Дзяржаўнага Вялікага Тэатру опэры й балету. Абыймо будынку — 163 тысячы куб. мэтраў. Гэты мамэнт адзначаны пастаноўкай беларускай сав. опэры „Міхась Падгорны"—лібрэтта паэта Пятруся Броўкі, музыка кампаз. Цікоцкага. У будынку будзе мясьціцца тэатральнае вучылішча.

— Бел. сав. кампазытар Н. Н. Шчэглоў напісаў другую сымфонію, у якой прадстаўлена гісторыя беларускага народу ў мінуўшчыне й сучаснасьці. — Сымфонія багата беларускімі народнымі мэлёдыямі. 18 сакавіка першы раз выканаў яе Дзяржаўны сымфанічны аркестр фільгармоніі БССР.

— 25 сакавіка скончылася 20 гадоў ад заснаваньня ў Магілеве пачаткавай музычнай школы ім. Рымскага-Корсакова. За ўвесь час свайго існаваньня школу скончыла каля 500 асоб. Школа ў 1938 г. зарганізавала каля 40 канцэртаў. Свой юбілей школа адзначала 7-га красавіка. Сёлета ў школе вучыцца каля 400 дзяцей. Дзеці, па сканчэньні школы, прадаўжаюць музычную асьвету у заложаным у 1937 г. у Магілеве музычным вучылішчы.

— Дом народнай творчасьці БССР праводзіць рад мерапрыемстваў дзеля вывучэньня беларускага народнага танцу.

---

**Супрацоўнікі «Калосься»:** *В. Багдановіч, А. Бужанскі, А. Бярозка, М. Васілёк, Ст. Грынкевіч, А. Дубровіч, Хв. Ільляшэвіч, А. Іверс, С. Каліна, А. Клімовіч, Я. Крыга, М. Машара, М. Пяцюкевіч, С. Сахараў, Кс. А. Станкевіч, Я. Станкевіч, П. Сірата, П. Сергіевіч, М. Танк, С. Хмара, А. Чэмер, Ул. Чэмер, М. Шкялёнак, Р. Шырма.*

Redaktor-Wydawca Jan Szutowicz — Рэдактар-Выдавец Ян Шутовіч.





## Прысланыя кніжкі, часапісы і інш. друкі

**Др. Я. Станкевіч** — Гісторыя беларускага языка, бач. 16. Вільня, 1939.
**Lietuviškas Baras,** № 4, Вільня.
**Versme,** 1939. Вільня.
**Вістник,** кн. 5, Львоў.
**Живо Слово,** 3. Львоў.
**Рідна Мова,** ч. 3, 4, 5. Варшава.
**Wilno,** № 1. Вільня.
**Oriens,** сш. 2. Варшава.
**Problemy Europy Wschodniej,** № 3. Варшава.

## Ад Рэдакцыі і Адміністрацыі:

Друкарскі набор чарговай (3) кніжкі „Калосься" пачнецца 1 чэрвеня. Просім дзеля гэтага Паважаных Супрацоўнікаў парупіцца ў пару прыслаць да друку матарыял.

Усіх-жа Чытачоў, якія не ўрэгулявалі належнасьці за часапіс, просім гэта зрабіць якнайхутчэй. Нумар паштовага пераказу разрахунковага нашага часапісу 58.

# КАЛОСЬСЕ



# III

**ВІЛЬНЯ — 1939**

„KAŁOŚSIE" — KWARTALNIK LITERACKO-NAUKOWY

«КАЛОСЬСЕ»—беларускі літаратурна-навуковы і грамадзкі часапіс. Выходзіць раз у тры месяцы. Складка ў год—2 зл.
— Заграніцу 3 зл. 20 гр.. Асобная кніжка — 50 гр. —
*Адрас рэдакцыі і адміністрацыі: Вільня, Завальная вул. 1—2.*
«KAŁOŚSIE» — białoruski literacko - naukowy i społeczny kwartalnik. — Wilno, Zawalna 1—2.
«KALOŚSIE» — blancruthenienne revue trimensuelle litteraire et scientifique. Wilno, Zawalna 1—2. Pologne.

## Ад Рэдакцыі:

Чарговы, чацьверты нумар „Калосься“ ўжо ў друкарскім наборы. Прысьвячаецца ён юбілею 25-тых угодкаў сьвяшчэнства й нацыянальнай дзейнасьці заслужанага беларускага дзеяча Ксяндза Адама Станкевіча. Усіх В. Паважаных Супрацоўнікаў нумару ветліва просім парупіцца прыслаць матарыял да 15 жніўня.

У нумары будуць зьмешчаны публіцыстычныя артыкулы, літаратурна-мастацкія матарыялы й прывітаньні.

## Зьмест кніжкі 3 (20) „Калосься“



(Працяг зьместу на 3 бач. вокладкі)

Drukarnia Białoruska im. Franciszka Skaryny — Wilno, ul. Zawalna 1



# КАЛОСЬСЕ

БЕЛАРУСКІ ЛІТАРАТУРНА-НАВУКОВЫ І ГРАМАДЗКІ ЧАСАПІС
КНІЖКА 3 (20). ЛІПЕНЬ-ЖНІВЕНЬ-ВЕРАСЕНЬ, 1939. ГОД V.

*МАКСІМ ТАНК*

## ЧАКАЕМ СОНЦА

Чакаем сонца. Сьцеліцца туман,
плыве з палос рунеючых, з вазёраў
на дрот заснуўшы, на густы паркан,
і тонуць цені стражнікаў і зоры.

Павук жалезны пераплёў акно.
А мы Гімн Сонцу пішам на граніце.
І кожны раз, як загрыміць зьвяно,
па камню прабягаюць бліскавіцы.

Пакуль угледзяць — бурай веснавой
напеў наш будзячы зару празвоне,
калі заглушаць, — іншыя, начой
устаўшы, песьню высякуць ў бэтоне.

І хто-б з асеньніх сьцежак ня прыйшоў,
знайдзе шрамы і зьмест іх адчытае,
і не засьне!.. І будзе ноччу зноў
ад зьвеньняў цэгла сыпацца сырая.

Вільня, 11.VI.39.

## У зялёным Лагу

*(З паэмы „Сілаш Істома“*

Адлігі шызы вецер кружыць,
гне вішнякі.
І сыплецца з краплёў у лужы
густы блакіт.
Усюды цёплых капляў поўна, —
плывуць з вакон.
Хтось можа згубленае ўспомніць
пад гэты звон.
Ці моладасьць, ці вуснаў праблыск,
ці васількі;
спагаду шчырую і добры
прывет блізкіх.
Але мяне хвалюе радасьць,
вясна бяроз,
што вецер нівам, палісадам
з сабой прынёс;
што залацісты сонца кужаль
прадуць смыкі...
І сыплецца з краплёў у лужы
густы блакіт.

Плугі чакалі скібаў чорных,
каб змыць іржу, а людзі выглядалі вырай.
У пуні патруху канчалі мышы,—корму
не хапала.
Пусьцела варыўня і сьвіран.
Туман каровы жвалі раніцамі прэсны,
аж пакуль збуджаная кулікоўай песьняй
за шыпаўкай на сініх ад паводкі тонях

заселянела смычка, загарэўся лопух.
Зялёным лугам поўзалі
і шэлясьцелі слухі
пра перадзел зямлі... А посьле —
глуха замёрла ўсё, калі ля Пераброда
з начальствам затрымаліся разводы.
На стол з скуранай торбы падарожнай
пан Крым выкладваў паперы асьцярожна:
нядоімкі,
наказы,
кары, кары...
У хаце ціха. На аполкі нараў
луска цярушыцца з вянкоў цыбулі.
Праз шыбы сонца звоне па кашулях.



Гавора стараста, зьбіваючыся з толку,
і шум раіцца.
З нізкага пяколку
дымяць анучы сохнучыя.
— Лагавяне!
Успомніце мяне і словы пана.
Папраўцеся! Палітыка вам шкодзе.
Газэты шкодзяць. Што вам прыйшлося
з сваіх лемантароў? На лапаць сойдзе
жыцьцё. Хіба не пагусьцела ў саганох зацірка?
Глядзеце! не зьмяніце гузіка на бірку...
Тут солтыс выцер потны твар насаткай,
глынуў вады з надбітай, вышчарбанай шклянкі,
закашляўся.
— Усё гэтак, пане«бортніку».Вось горай,
што ваша праўда вельмі дарагая...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Нясьпелыя чарэшні —
вочы пана Крыма злосьцю дасьпяваюць
ад шуму і ад словаў Пераброда.
Але пачуўшы ў хаце непагоду,
сачыць за ветрам слоў і пачынае
спакойным голасам, прыхільным нават:
— Я сам з сялян і шчыра спачуваю...
(Паправіў гальштук, пачакаў на лаве,
пакуль ня сьцішыліся бабы). Знаю, —
цяжка справіцца вам з платай можа,
ўсё-ж трэба радзіць неяк.
Ну разложым
бяду на раты,
месяцы,
на грошы...
Ды цішыня пярэчыць і трывожыць.
Пан Крым на іншых пачынае нотах
саліраваць.
А думы вашы — радзіў-бы пакінуць!
Дарма вы паліваеце іх потам!
Ім ня цьвісьці і не гарэць рабінай!
Дарма іх крыеце і даеце прытулак
пад латамі сярмяг, у хатах цесных,
і завяшчаеце у спадчыне,—і ў песьнях
іх акрыляеце вятроў трывожных гулам.
Дарма! ня прыслухайцеся зямлі зялёнай!
Ня чулі, як зьвініць сьвірэпка, хвошч з аірам?
Не ўглядайцеся ў даль сінюю загонаў: —
не надляціць жалезная стуль вырай!
Лягчэй бяз гэтых дум і вам і коням
было-б па полі валачыць смыкі — бароны!..

Ля качарэжніку сьмех іскрачыся пырснуў
у цішыню смалістую, сухую,
і раптам хату ахапіў, да зьвісшай
нізка столі.
Сьмяяліся і тыя,
што бачылі, як дзед Сьцяпан старую
нязгасшай люлькай прапаліў сярмягу;
сьмяяліся і ля стала перадавыя
ня бачыўшыя гэта...
Моцнай брагай
сьмех накіпаючы рваў абручы бярвеньня.
І толькі зразумеў пан Крым, што немагчыма
сьмяяцца так людзям і гэтым сьценам,
з прапаленай палы ці з дыму, —
падняўся з лавы, быццам з лодкі бераг
хацеў убачыць.
Але, дзе там!
Шумела хата хвалямі і ветрам.
Нэрвова алавік забегаў па паперы.
— Запісвае нешта...
— Нас, ці мо скаціну?..
На твары солтыса застыла у маршчынах
усьмешка хітрая...
Відучы радзела
у хаце Пераброда.
Расходзячыся маладзіцы
перашоптваліся яшчэ нясьмела
аб тым, што зноў у Кацярыны
стан поўны пераціснуўся спадніцай,
аб снох...
А сухавей у полі сіні
ўжо брэд страсаў і па барознах глею
звон яравы —
звон жаваранка
сеіў.

Пад вечар хмарылася. Красіво маланкі
ударыла ў сівы памежны камень.
З дварышча Пераброда, з ганку,
відаць было, як густа за такамі
і весела закурыўся дождж. Бойка
агатавыя каплі зьбягаюць па саломе
паросшай мохам, па паплёце, звонка
разьбіваючыся.
І хоць цёмна
было чытаць, мо' раз дзесяты
Сілаш перабягаў пісьмо і новым
нечым веяла ад словаў Марты...



— Зноў распагодзіцца... Дождж не надоўга...
— За Ляда хмару цёмную пагнала.
— А што чуваць у горадзе? Ня пішуць?
— Мо' не адзін чытаць з пісьма вучыўся,
пакуль дайшло...
— Так. Шмат дзе пабывала! —
Сілаш складае зьмятую паперу.
Ў канвэрт хавае. — Пішуць, — неспакойна
штрайкуюць фабрыкі... У змроку шэрым
Сілаш рысуе вобразы змаганьня,
за тыя думы, што вясьняна звоняць,
за тую праўду, што сусьветным зьзяньнем
гарыць у сэрцах, на сьцягох працоўных...
— Вось толькі мы яшчэ маўчым, хоць даўна
пабоцні муляюць, горам каласяцца
жыты на нашых матузох пяшчаных.
І нашым сохам недзе разгуляцца.
І песьням крыльлі скручваюць лыкам.
І цесна ўжо на прадзедаў абшарах,
хоць дрэміць ніваў акіян вялікі,
хоць мейсца шмат ёсьць і вятрам і хмарам...

Спаткаўся з поглядам маўклівым Зосі.
— Чаго яна угледзілася дзіўна?
Заслухалася можа, як маросіць
дождж камарынай талакой над прыўнем?
Славом з пісьма? —
Не! у пісьме ад Марты
нат' мала ўспамінаецца пра тое,
аб чым ён гаварыў. Там польнай мятай
славы цьвітуць, а гэтыя зарою...
Усьмешку затуліўшы хусткай
ад баб і ад дажджа, што густа
яшчэ раіўся каля стрэх, праціснулася Зося.
— Сьпяшаешся ты, як да маладога!
— Пастой! — жартуюць.
Моўчкі босай
лужыны перабрыла і толькі ногі
вада сьцюдзёная лізнула за калені.

Зноў паясьнела.
На шнуры вузкія
ідзе сявец і гаспадарскай жменяй
у змроку зоры сее яравыя.
Адны гарыць ужо над цёмным Лядам,
другія — ў Шыпаўцы між трасьнікамі тонуць...
Сілаш заслухаўся, як вяснавая радасьць
нахлынуўшая сэрцам звоніць.

І першы раз у гэтай песьні вычуў
прастор зямлі расцьвіўшай—безгранічны,
напевы думаў, скрытых і свабодных,
і тую сілу, што ламае краты,
і тое сонца, што у сказах родных,
і зьзяньне простых, ціхіх словаў Марты.

Ідзі па барознах усходам,
па грудах расцьвіўшых і росных:
пачуеш, як звоняць і бродзяць
набракшыя песьнямі вёсны.
Як сонца пад ветру павевы
зярнятамі цёплымі сыпіць,
і сей, калі маеш насевак,
які можа коласам выплыць.
Які у нядолю, гароту
сяўцоў і надзеі прыпомніць
цяжкім, залатым умалотам
асыплючыся
на далоні.

---

МІХАСЬ МАШАРА

# Вясна на балотах

## I

Апалі на думы мае нагаворы,
вясьняныя шолахі сініх балот.
Люстранае поле —
прасторы вазёраў,
дзе ціха сумуе ў затоках чарот.

Саджуся пад сосны...
на берагу дзікім,
гуторыць з вятрамі пад шум асакі.
Пытаецца каня сумуючым крыкам:
калі на вазёры прыдуць рыбакі?..

Тут дваццаць пяць тысяч гэктараў балота
і семьдзесят восем бяз назвы вазёр
чакае вякамі людзкога прыходу,
каршун толькі ў небе —
вартуе простор.

Ваўчыха... лісіца... і розныя гады
на сініх балотах, — улада уся.
І краскі,... і песьні,...
і сьмерць ідзе радам,
завець небясьпека —
і радасьць жыцьця



## II

Багун зацьвіцеў,...
як сьнягі на балотах,
і сіняя засень пад сосны лягла.
Вясной ўсё жывое шукае пяшчоты,
і радасьці хочыць,...
і хочыць цяпла.

Па мхах... па дрыгве
і па верасу сінім,
бяз троп і бяз сьцежак
праходзіць вясна,
і дрож заплятае у лісьце асіны
і сонцам таргуе ля кожнага пня.

Вярнуліся гусі з далёкага краю,
крычаць пераклічам на мху журавы.
І сэрца расьце,...
і здаецца згарае
і выславіць хочыцца
шолах жывы, —

паняць усю тайну нямую вазёраў,
тугу векавую,
і сумы балот
і выткаць у песьні красу іх узорам,
узорам,
што тчэ ідучы веснаход.

Ваколіца сініх балот.
Май, 1939 г.

* * *

Сіняе неба, —
як вочы дзяўчыны,
хмаркі за кужаль бялёны бялей,
вочы мае напіліся язьмінам, —
успыхнула радасьць у сэрцы ярчэй.

Плавіцца зелень у соўнечным моры.
Сонца цьвіціць на маіх валасах.
Вершам ня сьніліся тыя узоры,
што у размаху —
выводзіць каса.

З чым параўняеш у песьні Краіну?
Столькі язьміну і маку цьвіціць!
Гэнь, над Дзьвіною
і Нёманам сінім
сяньня нат' гора цяжкое — маўчыць!

С. ХМАРА

# Курапачы вывадак

Дзевяцёх запрэжаных у чатыры бочкавозы людзей бегла напружваючы сілы па чырвонай з бітае цэглы дарозе.

У далечыні, за сінеючай смугай лесу, хавалася вячэрняе сонца, залоцячы апошнімі праменьнямі вярхі стагодніх мадрын.

Па чырвонай дарозе бегла дзевяцёх людзей...

У перадвячэрняй цішы замерлай як-бы ў маліцьве прыроды блюзгала чорным балотам жахлівая, агідная лайка прыгоншчыкаў.

Глуха бубнілі сваю незразумелую песьню бочкавозы...

Беглі людзі...

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Маці-курапатка па неспакойным дні, калі трэба было зашыцца з вывадкам ў найглушшы кут пры агарожы, перад дзіўнымі несамавітымі рыкамі, цэлы дзень б'ючымі, адтуль — там з пад тых аграмадных, сьляпых будынін — пастанавіла вывесьці дзяцей на пажыву.

Клохчучы, трывожна бегла за шэрымі, маленькімі жывымі камочкамі, перасьцерагаючы іх на сваёй курапачай мове перад страшліваю чырвонай дарогай, па каторай — бачыла няраз—з рыкам бегалі, поўзалі нейкія страшлівыя істоты, астаўляючы па сабе яшчэ чырванейшыя стругі, чым сама дарога.

А курапацятам уласьне яна падабалася!

Бо такая іншая, як усё навокал.

Такая дзіўная!

А там—у канцы дарогі, — такая смачная вада, капаючая неаткуль з гары і паўзучая вузенькаю серабрыстаю зьмійкаю між каменьчыкаў...

Клохкала з перапалоху пасьпяшаючая за непаслушнымі малымі курапатка.

Дарогай з далёк дуднілі запрэжаныя ў людзі бочкі.

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

...За 15 мінют, каб былі поўныя!

Або!...

—...Бразнулі пагрозьліва словы, малюючы ў уяве змучаных вазакоў кашмарную візыю кароткага „або"...

Кінуліся да манежа, схапіліся за шлеі...

—Бягом!...

Несьцярпіма забалелі — усе ў сініх шнарох — плечы...

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

На курапачы вывадак, што раскашаваўся пад кранам халоднай вадой, раптоўна з аглушаючым лоскатам, грымотамі выскачылі людзі з бочкамі...



Уцякаць было позна. На сыгнал маткі сыпнула дробязь пад манежныя перадачы.

Старая прытаілася вобак у траве.

— — — — — — — — — — — — — — — — — — — — — —

Рванулі шлеі. Заскрыгатаў дышаль манежа... Захрыпела кола.

І раптам між гэных зыкаў раздаліся цененькія, плаклівыя піскі нечага жывога...

Глянулі маўкліва сабе ў вочы, дрыганулі й сталі...

Распачліва заквохкала, выскачыўшы з травы, старая.

Перапалоханыя малыя курапацята бязпомачна пішчэлі — скаржыліся застрагшы ў манежных перадачах...

Замахнуўшаяся да удару рука затрымалася раптам на паўдарозе пачуўшы слабенькія піскаты...

А ўбачыўшы малое курапацяня што бязпомачна каталася між манежных пераваг, кінуў неспадзявана — ўсупярэч усім уставам—ў бок сваю вінтоўку — і палез на карачках пад манежнае кола...

За мінюту каля першага поўзаў і другі вартаўнік — забыўшыся аб пільнаваньні паняволеных...

За імі палезьлі й паняволеныя. Навакол перапалоханая, быццам звар'яцелая, бегала кудахкаючы старая курапатка...

Пячотліва трымаючы ў далонях вынасілі па аднаму цэлы вывадак па за манежны ток і ўглядаліся, як няздарна апіраючыся на свае бязпёрыя крылцы беглі малышы на голас маткі.

Задумаўшыся аб чымсь стаялі, маўкліва углядаючыся на гінучы ў траве вывадак, вартаўнікі.

Забылі аб уставе... аб службе... Мусіць успомнілася ім далёкая адарваная і ад іх сям'я... дзеці...

Вогкім бліскатам зацягнуліся вочы паняволеных...

Яны таксама ўспомнілі!

Пад апошнімі праменьнямі сонца чырванела крывавай, злавешчай ракой — цагляная дарога...

...Ўструхануўся. Глянуў на тых, якія ня лічыліся тут за людзей... Над якімі любіў гэтак больна пазьдзекавацца са зьвярынай, бязмыснай жорсткасьцю...

Дрыгнула чамусь сэрца.

А гэта-ж і яны недзе там маюць сваіх матак... дзяцей...

І з захрыплага ад вечнай брутальнай лаянкі горла неспадзявана, мякка адазвалася: ну, хлопцы! — трэба неяк нам і вады накруціць...

А вочы глядзелі неяк саромліва... вінавата...

Далёка... далёка ў траве кудахкала курапатка...

На зямлю спускалася летняя, душная ноч.

# У далёкай дарозе...

Зьмяркала.
Сутунак навеяў думкі аб далёкай роднай вёсцы...
Аб шумлівым моры каласуючага жыта...
Аб чыіхсьці кахаючых, маладых вачох...
Аб той радасьці горка-палыннай, мужычай...
І там недзе з пад сэрца, мімахоць навеяная хвілінай,—паліласся паўголасам песьня:

...Салавейка шчабеча...
ды зязюлька кукуе.

Падхапіў другі голас:—

Ды хто знае, ды хто ведае,
дзе мой мілы начуе...

Заўтаравала ціхутка з размрыенымі вачыма стоючая ў вакне група. На фоне вячэрняга крывавячага захаду ўбіліся нажамі ў неба гатыцкія вежы недалёкага касьцёлу.

У далёкай дарозе —
сьцеражы яго Божа.
Калі-ж ў дзеванькі, у сьвятліцы,
пакарай яго Божа...

Халоднае, чужое хмурылася няспрыйліва неба...
За мурам у наступіўшай па песьні цішыні пачуліся нейкія дзіўныя зыкі—ўсхліпы...
Нехта плакаў... А потым, — там, з надворку — пачуўся ўстыдлівы шопат пабеларуску:
— Засьпявайце яшчэ!..
— Засьпявайце!...
Пры муры замёршы ў просячым чаканьні рысавалася хвігура вартаўніка.
— Засьпявайце!...

Ды маімі слаўцамі,
ды маімі сьлязцамі.
На што-ж ён мяне ды пакінуў
сам, з малымі дзяткамі...

Жалілася, плакала песьня.
Напружана выцягнуўшы шыю, лавіў вартаўнік апёршыся на стрэльбу словы.
Даўно ўжо змоўкла песьня, а вартаўнік непарушна, занямела стаяў на мейсцы.
І раптам у напрамку акна паліўся гарачковы няпрытомны, балючы шопат, — паўстогн-паўплач. —
— Так, браткі!...
Так!...
Зрадзіў! Ўсё зрадзіў! Для выгаднага жыцьця! Для грошаў! І жонку... і дзеці... і край...
Нават мову вось тут забываць стаў!...



Эх! Хлопцы, хлопцы!
Душу мне перавярнула родная песьня...—рваліся словы балючай споведзі...
Ці вы мяне чуеце?!...
Ці я заслужу калі прабачаньне?!

А недзе сьляпая ў сваім трыумфе ўрачыста грымела праз вакно мэлёдыя Дамброўскага...
Паролі неба нажамі гатыцкія вежы...
На захадзе разьлівалася кроў.

---

* * *

Ўзьняўся вецер, вядзьмар злы, далінамі,
паабтрос цьвет лісточкі калінавы,
пакруціў, паламаў бел-бярэзіны,
гарцы ў полі рабіў...
злы гарэзіны.
Гэй, ня вецер там ў полі, а вёскаю
звоніць сталь. Ў неба б'е адгалоскамі.
Заламала дзяўча рукі белыя,
матак вочы ў агні ачумелыя.
Гэй, ня хмара у полі дымілася —
пад лапцямі дарога курылася,
у гары чайка білася, плакала,
вецьце лоз за сярмягі іх лапала.
Ногі, быццам калоды, падвешаны...
І шумелі...
шумелі алешыны.

1938.

* * *

Што вы багацтвам пышніцесь сваім?
Золата...
пэрлы...
палацы... —
з золата косамі сонца
ці-ж ім
можна калі параўняцца?

Золата маеце?
Сонца маё!
Зорам ці-ж роўныя пэрлы?!
З цудам вясновым палёў і гаёў —
Вашы палацы.... —
мізэрны!!!

Я-жа над імі і пан і ўладар,
дзе-ж вам са мною раўняцца!
Жменяй — хачу — зораў кідаю жар,
сонечных косаў багацтвам.

Вашым Лінкольнам мяне не здагнаць
з тройкай вятроў буйнашпаркіх.
Вашы кілімы ці-ж можна зраўняць
з ніў хараством цьветапалкім!?

Нівы,
то-ж неба маёвы блакіт
зьвіхрыць кроў лепш за шампана,
зачаруе чарэмшыны белая ўскіп,
салаўя трэль калыша да рана.

Калі голад дакучыць... —
здыму
з неба месяца пшонну аладку
і са смакам ўплятаці вазьмусь,
ды нап'юсь неба
з зорнае кладкі...

Бо я пан із паноў, я — ўладар,
дзе-ж са мною каму там цягацісь.
Маё ўсё:
ніў...
лясоў...
п'яны чар,
сонца...
неба блакіт...
зораў гаць.



А. ІВЭРС

## З песьняй

Можа знаеце, —
песьня
дае сілаў прылію.
Гляньце,—сьмелыя весьляць: —
паплылі,
паплылі...

Дык чаму не пацешыць
маладую пару, —
між лазы і алешын
раскудзеліць зару?

Хай
сягоньня мы гнёмся, —
ды ня ломімся ўсе!
Але вось —
зарунеўся
маладнякі засеў!

І на той на дарозе,
што палын заглушыў,
з песьняй мы пабарозьнім
камяністую шыр.

## Хтось расчэсваў зялёныя сосны

Хтось расчэсваў зялёныя сосны,
што адкінулі кудры назад. —
Аб тых ночах смалістых і росных
я ніяк не магу расказаць.

І хоць сёньня ўсхвалёваны ранак
паліць смагаю мяккую сінь,
але ўсё-ж сумаваць яшчэ рана,
калі можна падняць парусы!

А што далі імгляцца тугою —
гэта толькі сінеецца дым, —
рассьпяваная медзь пад дугою
ня пытае, чаго і куды...

З процьмы думак—ня вытканых кроснаў
застанецца узор — дзераза...
Былі ночы — іх зблыталі сосны,
што адкінулі кудры назад...

*Я. КУРГАН*

# У дзесятыя сумныя ўгодкі...

Сёлета мінае дзесяць год ад запачаткаваньня жорсткага
прасьледу беларускага культурнага будаўніцтва ў Савецкай
Беларусі. Вялікадзяржаўніцкая Масква не магла глядзець спа-
койна на тыя парасткі маладой беларускай культуры й навукі,
якія зарунелі ў Сав. Беларусі ў першым дзесятку гадоў яе
існаваньня. Пад відам барацьбы з беларускім нацыянал-дэма-
кратызмам, з г. зв. беларускай нацдэмаўшчынай, яна ў 1929 г.
пачала рашуча змагацца з усімі праявамі беларускага нацыя-
нага пачуцьця й думкі, з праявамі беларускай нацыянальнай
асобнасьці й самастойнасьці. Галіна духовага, творчага жыцьця
беларускага народу — культура, навука, мастацтва, — увесь
г. зв. ідэолёгічны фронт, першым чынам сталася арэнай гэтай
барацьбы.

Ад 1929 г. барацьба з беларускай нацдэмаўшчынай у Сав.
Беларусі сталася зьявішчам пэрманэнтным, хронічным. Яна
трывае да апошняга часу, да сяньняшняга дня. У выніку гэтай
барацьбы сотні й тысячы беларускіх інтэлектуальных працаў-
нікоў зьліквідаваны, выгнаны з роднага краю, многія высланы
на Салоўкі ці растраляны, а ўвесь прадукт іхняй мазольнай
працы сканфіскаваны.

Вялікадзяржаўніцкая Масква, змагаючыся з беларускім
нацыянал-дэмакратызмам у галіне літаратурна-мастацкага твор-
ства, ставіла закід беларускім савецкім літаратарам, што яны
мастацкім словам выражалі беларускі патрыятызм, прапагавалі
тэорыю бязклясавай беларускай нацыі, ідэалізавалі ідэю бе-
ларускай агульнанацыянальнай самабытнасьці, нацыянальны
романтызм, выражалі эстэтычныя тэндэнцыі, формалізм, на-
цыянальную экзотыку, стылізатарства, псыхолёгізм і т. п. За-
кіды, як бачымо, цалком паважныя, — у варунках савецкіх,
пры сыстэме маскоўскага палітычнага й культурнага цэнтра-
лізму. Але калі зьвернем увагу на тое, што побач успомне-
ных „нацдэмаўскіх" элемэнтаў у беларускай савецкай літара-
туры знаходзім выражэньне элемэнтаў абавязуючай у Саветах
ідэолёгіі дыктатуры пралетарыяту, выражэньне ідэяў і тэн-
дэнцыяў камунізму-ленінізму і савецкага „пралетарскага" бу-
даўніцтва, а таксама калі зьвернем увагу на тое, што ўся
культурная работа Беларусаў у Савецкай Беларусі была узгод-
неная з асновамі ленінска-сталінскай нацыянальнай палітыкі,
то закіды пастаўленыя Масквой беларускай савецкай літара-
туры будуць пазбаўлены ўсякага абаснаваньня. Каб адкінуць
гэтыя неабаснаваныя закіды, ня трэба так-жа забывацца аб тым,
што агулам беларуская адраджэнская творчая думка наскрось
прасякнута прагрэсыўнымі ідэямі, што новая, маладая беларус-



кая культура зьяўляецца наскрось дэмакратычнай, што яна
тварылася й творыцца інтэлектам і мазольнай рукой прыгне-
чанага доўгімі вякамі паншчыны беларускага працоўнага на-
роду, што яна выражае тэндэнцыі беларускага нацыянальнага,
соцыяльнага й культурнага вызваленьня. Барацьба з гэткай
культурай ужо з гледзішча марксізму і ленінізму, тэорэтычна
бяручы, ёсьць зьявішчам недапушчальным і не павінна знахо-
дзіць месца ў Саветах, на дадзеным гістарычным этапе.

Ленін яшчэ ў 1916 г. пісаў:

„У заходніх краінах нацыянальны рух — даўняе мінулае. „Бацькаўшчына" ў Англіі, Францыі, Германіі і г. д. ужо прасьпявала сваю песьню, адыграла сваю гістарычную ролю, г. зн. прагрэсыўнага, узьнімаючага да новага эканамічнага й палітычнага жыцьця новыя масы людзей тут нацыянальны рух даць ня можа. Тут на гістарычнай чарзе дня стаіць не пераход ад феадалізму, або ад патрыярхальнай дзікасьці да нацыянальнага прагрэса, да культурнай і палітычнай вольнай бацькаўшчыны, а пераход ад зжыўшай сябе капіталістычна перасьпелай „бацькаўшчыны" да соцыялізму.

На Ўсходзе Эўропы справа стаіць інакш. Для Украінцаў і Беларусаў, напрыклад... абуджэньне мас да аваладаньня роднай мовай і яе літаратурай ...тут яшчэ адбываецца. „Бацькаўшчына"—тут яшчэ не прасьпявала ўсей гістарычнай песьні. „Абарона бацькаўшчыны" яшчэ можа быць тут абаронай дэмакрацыі, роднай мовы, палітычнай свабоды супроць прыгнятаючых нацый"... (Ленін, том XIX твораў; цытую за Лім, № 55, ад 27.X.1937 г.)

А вось што пісаў Сталін у кнізе „Марксызм і нацыянальна-каляніяльнае пытаньне":

„Нацыя можа устроіцца паводле сваей волі. Яна мае права наладзіць сабе жыцьцё на прынцыпах аўтаноміі. Яна мае права ўступіць у фэдэратыўныя сувязі з другімі нацыямі. Яна мае права нават зусім аддзяліцца. Нацыя сувэрэнная і ўсе нацыі роўнапраўны". (Цытую за часапісам „Просвещение национальностей", № 4, 1935).

А што азначае адзін з першых канстытуцыйных актаў— „Дэклярацыя праў народаў Расеі", падпісаная Лінінам і Сталінам у сьнежпі месяцы 1917 г., у якой аснаўнымі прынцыпамі зьяўляюцца роўнасьць і сувэрэннасьць народаў у Расеі, — права на свабоднае самаазначэньне, улучна да аддзяленьня й стварэньня самастойнага гаспадарства, скасаваньне ўсякіх нацыянальных і нацыянальна-рэлігійных прывілеяў і абмежаваньняў, свабоднае разьвіцьцё нацыянальных меншасьцяў і этнографічных групаў? А пазьнейшыя канстытуцыйныя й іншыя праўнапалітычныя акты, — ці не гарантуюць свабоды разьвіцьцю народам б. царскай Расеі?!

Так, усе яны гарантуюць, але на паперы, усе яны зьяўляюцца толькі пустой дэмагогічнай пісанінай.

Барацьба з нацыянальнымі рухамі ў Саветах, у тым ліку й з беларускім нацыянальным рухам, сьведча аб банкроцтве нацыянальнай палітыкі ў Саветах. Гэтая нацыянальная бальшавіцкая палітыка сталася ня чым іншым, як аружжам русыфікацыі ўсіх нацыянальнасьцяў СССР, сталася прыладзьдзем расейскага вялікадзяржайніцкага шовінізму й імпэрыялізму.

І сапраўды, трэба згадзіцца з думкамі нейкага прафэсара Устралава, які, паводле Авербаха (гл. артыкул Авербаха ў „Маладняку" з 1931 г.), гаворачы аб місіі бальшавізму, цьвердзіць што бальшавізм мае ў Расеі выканаць функцыі зьбіраньня й захаваньня адзінай і недзялімай Расеі.

Але ці выканае гэтыя функцыі? Нам здаецца, што не. У народаў СССР хопіць адпорнай духовай сілы, каб адкінуць і перамагчы імпэрыялістычныя апэтыты Масквы, каб захаваць сваю індывідуальнасьць.

Барацьба з беларускім нацыянальным рухам у Савецкай Беларусі, зразумелая рэч, выклікала рэакцыю з боку Беларусаў. Выражэньне гэтай рэакцыі знаходзім мы і ў беларускай савецкай літаратуры.

У гэтым нумары „Калосься" перадрукоўваецца паэма «І пурпуровых ветразей узьвівы» — пяра ўталентаванага беларускага паэта Уладзімера Дубоўкі, зьліквідаванага Масквой у 1929 г. Паэма зьяўляецца сатырай на палітычныя адносіны ў Савецкай Беларусі перад дзесяцьцю гадамі, зьяўляецца дакумэнтам абароны самастойнага разьвіцьця беларускага літаратурнага творства ад націску Масквы, выражае прынцыпы барацьбы за свабоду ў творстве, за паказ і патрэбу выяўленьня ў мастацкім слове акрасаў Беларусі — скарбаў беларускай народнай творчасьці. Аўтара паэмы, як і ўсіх беларускіх паэтаў, „ачызмушала савецкая казённая крытыка перабудавацца, „ачысьціцца" ад розных ідэолёгічных „ухілаў", уступіць на шлях творства згодны з маскоўскай палітыкай ў Беларусі. У паэме знаходзім адказ — горкія алюзіі на гэта.

---



*УЛАДЗІМЕР ДУБОЎКА*

# І пурпуровых ветразей узьвівы

*(„Узвышша" № 2, 1929 г.)*

## Паэма

Ідзі часінай добраю у людзі
ты — вынік дум і творчага гарэньня.
Адзін усьцешыцца, другі асудзіць,
і той і той з цікавасьцю сустрэне.

Табе ня даў я рыфмы мілагучнай, —
ідзі, мой твор, сунегай апавіты.
Цябе бяз рыфмы думка добра лучыць,
шукаючы для духу акавіты.

Клапоцяцца на сьвеце больш аб шлунку,
яго капрызы — дыктатура проста.
І стравы рознастайнага гатунку
мы на спатканьне маем і на ростань.

А дух трымаем на галоднай норме,
а дух скарынкай эпігоннай сыты.
Яго суседзі, мабыць, не накормяць,
затым патрэбна духу акавіта.

Ня знойдзе містыкі у гэтым крытык,
хоць дзе-які і будзе клапаціцца.
Калі чамусьці выйсьце і закрыта, —
шукае выйсьця творчая крыніца.

Будзі шуканьні новага у стылі,
пакліч на спрэчкі думнае грамадзтва,
каб на здабытках даўніх не застылі,
каб не засьцюжылі у іх мастацтва.

Занадта ціха стала на Парнасе
у сэнсе творчасьці і дасягненьняў.
Сядзяць у эпігоннай апранасе
прадстаўнікі абудвых пакаленьняў.

Пакуль дайшлі — прытупаліся крышку,
няхай у добры час адпачываюць!
Ня трэба нам спыняцца у зацішку,
бо ў далі думка нас вядзе жывая.

Мае сябры, супольнікі у працы,
штурмуйце будучыны аванпосты!
Мы звыклі перашкодаў не баяцца —
яны спрыяюць нашаму узросту.

У час нялёгкі вышлі мы ў дарогу,
когорту нашу ксьцілі навальніцы.
Байкушы розныя ўздымалі скогат, —
імкнуліся прымусіць нас спыніцца.

А мы ішлі з імпэтам віратлівым,
а мы ішлі няспынна і упарта.
І пурпуровых ветразей узьвівы
трымалі курс на сонечнае заўтра.

З нас кожны рэволюцыяй праняты,
кладзём шляхі да новых дасягненьняў,
Узвышшы высім з пролетарыятам
зьдзяйсьняючы квяцістыя імкненьні.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ідзі часінай добраю у людзі
ты, вынік дум і творчага гарэньня.
Магчыма, хто цябе там і асудзіць,
ці вывіх адшукае ў лятуценьнях...

Ад вывіхаў цябе я застрахую
замовай добрай, можа дапаможа...
У інтродукцыі замову надрукую,
каб бесьпячней было у падарожжы. —

*Замова ад сустаўных зьвіхаў і ад нясустаўных вывіхаў (каб памагла напэўна — трэба прачытаць адным духам).*

На моры, на лука-моры,
на моры, на акіяне
ёсьць выспа, на выспе горы,
на горах вялікі камень.

Каралі на бераг прыносілі хвалі,
ў каралі і зьвіхі і гора хавалі,

каб гора ляжала,
пятрэла на скалах,
у сьвет не хадзіла,
ляжала-б высока,
сохла.

На высьпе стаіць сьвятліца,
ў сьвятліцы жыве дзявіца.
Хадзіла яна ў дубровы
ірваці травы шаўковай.

На зьвіх прыкладала, памогі давала,
каб зьвіх адкаснуўся на стромкія скалы,

каб гора ляжала,
пятрэла на скалах,
у сьвет не хадзіла,
людзей не звадзіла,



ляжала-б высока,
сохла.

Скаціўся той зьвіх на камень,
няхай ён адтуль ня ўстане,
няхай ён далёка едзе,
няхай ён загразьне недзе.

Як вёз яго жук па калінавым месьце,
той мост праламіўся, пад мост ягамосьці.

І жук утапіўся,
і зьвіх той заліўся,
у сьвет больш ня пойдзе
ні ў якай прыгодзе,
ляжыць дзесь глыбока,
мокне.

Травіцаю зьвіх каралі
ўвагналі яго ў каралі.
На месца суставы сталі
а зьвіх пакаціўся ў хвалі.

Каралі на бераг прыносілі хвалі,
ў каралі і зьвіхі і гора хавалі,

каб гора ляжала,
пятрэла на скалах,
у сьвет не хадзіла,
людзей не звадзіла,
ляжала-б высока,
сохла.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Цяпер ніякіх вывіхаў да скону.
Замоўкні, аўтар, хай ідуць гэроі.
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Лілёвая ссуваецца заслона,
на сцэне нашых дзён гавораць двое. —

Лірык

У нашы дні і радасьці і гора,
у нашы дні руін і будаўніцтва
часінай хочацца мне адпачынку
для сэрца струджанага і для нэрваў.

На думку прыдзе: кінуць хоць на тыдзень
і гарады і ўвесь штодзённы клопат,
узяць, пайсьці вандроўным бесхацінцам
па тых шляхох і крыжавых дарогах.

Паслухаць гоманы людзкога мора,
разгневанага мора-акіяну...
Пазнаць тугу бяскрайную ў дарозе,
пабачыць шчасьце без парфумы хцівай...

У нашы дні...

Матэматык

Дзівак ты ці романтык,
мой дружа любы, гэта вельмі ясна.
У нашы дні руін і будаўніцтва
ты руйнаваць і будаваць павінен,
а не бадзяцца нейкім дзеньдзівірам.

Лірык

У нашы дні і радасьці і гора
патрэбны дойліды, не дзеньдзівіры.
Аднолькава іх права на паветра
ды і на сонца такжа...

Матэматык

Ты разводзіш
крамолу нейкую і два ухілы!
Змагацца трэба з вамі... Ты ня чуеш?!
Чаго глядзіш так пільна ты на Захад?
Ці сонца вокам думаеш спыніць?
Яно з-за лесу водблескам крывавым
варожыць новы дзень, дзівосны дзень,
такі-ж трывожны для цябе, як сёньня.

Лірык

Угледзься, браце мой, у сьлед яго,
навокал глянь... Што дзеецца навокал!
Здаецца мне — над лесам праплываюць
у край нязнаны ціха караблі.
І пурпуровых ветразей узьвівы
то дух тужлівы ўкрыжаваны мой,
тужлівы дух і жальба...

Матэматык

Годзе, годзе!
Жані тугу на шчырыя бары,
а калі ў ветразі ўвайшла — дык добра:
ня вернуцца ніколі караблі.
Ды гэта лірыка мне не да смаку:
у нашы дні руін і будаўніцтва,
і дыктатуры пролетарыяту
патрэбны нам поэты змагары, —
не ліквідатары, не смутнагляды.

Лірык

...Я запалю агнём свае імкненьні,
я запалю жаданьні і надзеі,



і пурпуровых ветразей узьвівы
мяне над краем любым пранясуць.
Натхняючы прыдушаных пакутай,
бальзам на вусны смаглыя паклаўшы,
ад твараў струджаных тугу і смутак
я аджану і на палёх рассыплю,
пра радасьць новыя навею песьні,
а сам...

Матэматык

А сам?

Лірык

...з тугою і загіну,
бо мне прыемна з ёй, хоць дзіка-страшна...
І караблі праходзяць па-над лесам,
каб зноў вярнуцца заўтра раніцою,
каб зноў пабачыў я цяжар дзівосны
і пурпуровых ветразей узьвівы...

Матэматык

Дзівосна так... І ты дзівак, мой браце!
Якое ліха дзеецца з табою?
У сэрцы у тваім і непакою
і панікёрства нейкага занадта...
Ты адыходзіш ад жыцьця, змаганьня,
ты хутка станеш ворагам працоўных
і дыктатуры пролетарыяту.
Ты — шкодны тып! Наколькі я кахаю —
цябе натолькі скора зьненавіджу!

Лірык

У кожным сэрцы рознае бывае,
бывае дрэннае у ім таксама.
Заўжды шукаем хібы мы ў суседзяў.
А як паглянем на свае учынкі,
а як прагледзім зробленае намі,
дык і ня вельмі радасьці багата...
Затым мяне і ня трывожаць дужа
твае упікі і твае асуды.
Народ наш ведае даўно пра гэта
і свайго сына ён не занядбае.
Вось ты паслухай толькі, што гавораць
дзяды сівыя пра вянец прыроды.

*Народнае апавяданьне пра тое, як Бог тварыў людзіну і як чорт сапсаваў усю гэтую работу*

Бог, калі тварыў Палесьсе,
з гліны выляпіў людзіну
і на сонейку павесіў,
каб ямчэй падсохла гліна.

Не пасьпеў ён адысьціся,
адпачыць, ці што якое,
як аднекуль чорт-нячысьцік
тут зьявіўся ў непакоі.

Абышоў навокал твору
і памацаў і панюхаў:
не сьмяецца, не гаворыць,
не шманае цаца вухам.

Форма голая пятрэе,
як мастацтва для мастацтва.
—Бог, ня йначай, тут дурэе—
трэба з крытыкай узяцца.

— Сапраўды, ядрона шышкі,
а дзе зьмест у форме гэтай?
Хіба мала мае жыжкі
наша любая плянэта?!

— Мне ня трэба—хай нікому
гэта цаца ня прыдасца! —
Наплявау і так старому
апаскудзіў тую працу.

Ён пасьля пашоў у пекла,
гонорар зьдзіраць за ўчынак.
Бог тым часам меўшы пекны
і прыемны адпачынак

з лесу сунецца памалу,
напявае „Баядэрку".
Каму што, а Богу хвала,
на яе-ж ня зробяць мерку...

Бачыць — чорт хвастом накрыўся
і падаўся у балота.
— От, сварыся, не сварыся —
не адвучыш шкодзіць чорта.

— Пэўна нешта зблоціў недзе,
вось праклятая байкуша!
Лепш глядзеў-бы, як смоўж едзе,
ці на вербе рваў ігрушы.

Падыходзіць да людзіны. —
— А, каб ты затонаў лепей!
Памясіў-бы, ўража, гліны,
паляпіў-бы, як вось лепяць!

Але дзе ты зловіш чорта:
недзе ў Фрыца жлукціць піва...



Так ня кінуў Бог работы:
пачынае зноў цярпліва.

Хоць вазьмі ляпі нанова:
дрэнь з усіх бакоў абліпла.
Шкода — зроблена аснова
і на сонцы сохне сьціпла.

Ня спыняцца ў полі Богу.
А было перад нядзеляй.
Каб ня думаць вельмі доўга,
каб суседзі ня гудзелі, —

ён узяў свой тонкі выраб
і, перавярнуўшы наніц,
захаваў у людзкай глыбі
тую чортаву ўсю памяць.

Выгляд звонку стаў ня дрэнны,
што-ж ля сэрца—ліха знае...
У жыцьці мы больш дарэмна
сэрца чыстага шукаем...

Матэматык

Ня ведаю, ці больш цябе шкадую,
ці больш сярдзіты на цябе, мой дружа.
Ты ня шукаеш вобразаў рэальных,
дастулных і карысных у змаганьні.
Замест таго забраўся ў чартоўшчыну
і выцягаеш барахло старое.
У нашы дні руін і будаўніцтва
поэт на фронце антырэлігійным
павінен быць, а не бадзяцца недзе
па балотах Палескіх і выгарах.

Лірык

Цудоўны скарб у творчасьці народнай
для нас сабраны мудрымі дзядамі.
Яго адкінуць — значыць без пашаны
паставіцца да продкаў працавітых.

Матэматык

Пара адмовіцца табе ад баек,
ад гэтай дробна-буржуазнай твані.
Павінны мы тварыць на грунце новым
сучаснае мастацтва для працоўных.

Лірык

Тварыць зусім нанова, ці узяўшы
што кольвек і ад даўніх дасягненьняў?

Матэматык

Няма памылкі у маім сьцьвярджэньні!
Пра спадчыну культуры буржуазнай
даволі сказана і зразумела.
Але якое маюць дачыненьне
да гэтай спадчыны твае ўсе казкі —
ня ведаю і, больш таго, не разумею...

Лірык

Усё, што створана вяльможным панствам,
што створана культурай буржуазнай
ты дазваляеш карыстаць паэту?
А тое, што тварыў народ пакутны,
тварыў у полі пры цяжкой рабоце,
калі на гэтых творцаў буржуазных
ён ліў свой пот і сваю кроў, народ наш,—
ты адкідаеш словам рызыкоўным?!
Які страшэнны нонсэнс і абраза!

Матэматык

Дарэмна ты пакрыўдзіўся на праўду.
Табе даволі поркацца ў старызьне!
У нашы дні руін і будаўніцтва,
і электрычнасьці, і фізкультуры, —
ты мусіш ведаць гэтыя законы,
няўхільныя, як заўтра і сягоньня.

Лірык

Ты можаш лаяцца усім, чым хочаш,
але майго ня зьменіш пракананьня.
Ня веру я, што панская выгадка
перад сярмяжнай мае перавагу.
Пакуль ня маем мы уласных скарбаў,
павінны выбраць вартае увагі.
Мая увага выбірае тое,
што створана працоўнаю сям'ёю.

Матэматык

З тваёй упартасьці сьмяяцца трэба.
У гэтым бачу вынік шовінізму
і бачу тормаз разьвіцьця культуры.

Лірык

Ты уважаеш, што культура ходзіць
у портках ката слаўнае Комуны



Парыскае, у портках Галіфэ?
Або у марынарцы ходзіць Фрэнча,
другога ката, ката нашых дзён?
Ня веру я у гэткія акрасы:
я ненавіджу іх, змагацца буду!
І у імя змаганьня з рознай тваньню
вось гэтае шляхэтнае культуры
я лепш вазьму акрасы Беларусі...

Матэматык

Пакінем лепш! А то далёка вельмі
закоцімся мы з гутаркаю гэтай!
Ня згодзен я з табой, а ты са мной,
заўсёды супроць буду я...

Лірык

А шкода!
Каб ты ня пырскаў так на нашу творчасьць,
сказаў-бы шмат прыгожага табе.
На стромкую гару цябе узьвёў-бы,
адтуль ты ўбачыў-бы зіхценьне пэрлаў,
праменьне самацьветаў нязьлічоных
і глыбіню народнае душы.
Ты паглядзеў-бы на зіхценьне гэна,
ты, як Тамаш няверны, дакрануўся-б
да гэных скарбаў — так яны рэальны.
Але дарэмна гавару з табою...
Пазнаў ты «двойчы два» і тым здаволен.
Вітаю вас!

Матэматык

Чаго ты расхадзіўся?
Хіба пазбаўлен я правоў звычайных
і выказаць ня волен думкі сьмелай?
Як птушка вольная я узьлятаю
у будучыну крозаю сваёю!
Сядзі з сваім брасьнелым барахлом,
з сваімі скарбамі тых самацьветаў:
ад іх ня горача, ня зімна мне.
Ты разумееш? — Я бяз іх шчасьлівы!
Карысьці з іх ня бачу. Вось як!

Лірык

Вось як?
Хацеў-бы расказаць табе я казку,
але і сам ня ведаю, як лепей...
Бо вельмі добрую згадаў я казку,
яна як раз да гэтага выпадку.

### Матэматык

Усё ў цябе будуецца з выпадкаў.
Выпадкі — проста нейкая хвароба.
Імкніся лепш конкрэтнае суладзіць,
бо на выпадках будучына вяне...

### Лірык

Ды ты паслухай лепш, пасьля сварыся!
Магчыма так, але усё-жваструся
я расказаць пра дзіўнае здарэньне.
Калі зусім не да спадобы будзе —
прашу спыніць тады сваёй развагай. —

*Народнае апавяданьне пра тое, як адзін Крыкса скардзіўся на крыўду.*

Залатая апаяска,
ў апаясцы пэрлы, лалы...
У страёх прыгожых казка
ходзіць, грае у цымбалы.

Хто вясёлы — смуткам дорыць,
хто ў тузе — надорыць ласкай.
І сьмяецца, і гаворыць
у страёх прыгожых казка.

Самацьветы ў ночы сьвецяць,
сьцежка выткана праменьнем.
Нехта сочыць праўду ў сьвеце,
каб увіць у лятуценьні...

Ён прайшоў краін ня мала,
ён, Цікавы, к сонцу крочыць.
Казка грае у цымбалы,
разганяе цемру ночы.

Вось ідзе праз лес Цікавы,
чуе зьнекуль немы лямант.
Ці то зьлева, ці то справа
хата высіцца за брамай.

Падыходзіць. — Тая хата
як стадола ці казарма.
Нехта ў ёй крычыць заўзята,
па усім відаць, што дарма. —

— Ой, ратуйце, людцы, цесна,
Ой, ратуйце, гвалт, загіну!
Узышоў Цікавы з весьніц,
глянуў скоса на хаціну.

Што за ліха! гэткі скогат
адзін Крыкса толькі справіў.
Мабыць вые з-за нічога.
Дай-жа раду ў гэткай справе!



### Цікавы

Слухай, Крыкса! Хто парушыў
твой спакой і тваё права?
Ці якія, скажам, душы,
ці які прывід крывавы?

### Крыкса

Ой, ратуйце, цесна вельмі!
Дайце ўзьлёту і прасторы!

### Цікавы

Як язык твой толькі меліць, —
бедны Крыкса! Вось дык гора!

Ты братоў усіх распудзіў
гартаваным скавытаньнем.
На цябе сьмяюцца людзі,
што рабіцьмеш, вось пытаньне!

Зарасьце травой дварышча
і дарога баравая.
Хочаш — плачаш, хочаш — сьвішчаш,
табе й хату даравалі.
— — — — — — — — — —

Няспынаная зявайла
усё скардзіцца, што цесна.
Плюнуў і пайшоў памалу
наш Цікавы з гэных весьніц.

Ліха ведае, — гаворыць, —
сьвет такі шырокі здэцца,
а вось на — няма прасторы
і няма дзе Крыксам дзецца...

Зноў праз лес ідзе Цікавы,
шчэ' лунае немы лямант.
Ці то зьлева, ці то справа
замест гэнай хаты — пляма.

Наш Цікавы к сонцу крочыць,
яшчэ трэ' ісьці ня мала...
Разганяе цемру ночы
казка, граючы ў цымбалы.

Самацьветы ў ночы сьвецяць,
сьцежка выткана праменьнем,
Ён шукае праўды ў сьвеце,
каб увіць у лятуценьні...

Хто шукае — той знаходзіць,
хто пытае — той ня блудзіць, —
так суладжана ў народзе,
навучаюцца так людзі.

І пра гэта ўсё гаворыць
у страёх прыгожых казка.
Хто вясёлы — смуткам дорыць,
хто ў тузе — надорыць ласкай.

У страёх прыгожых казка
ходзіць, грае у цымбалы.
Залатая апаяска
ў апаясцы пэрлы, лалы...

Матэматык

Каго і што ты маеш на увазе
у гэтай казцы? Можа мне адкажаш?
Занадта рызыкоўна ты узяўся
каля мяне са скарбамі сваімі!
Ці не стварыў ты часам сам яе,
пасьля каб спэкульнуць «народнай» назвай?

Лірык

Вазьмі, на ласку, зборнік нашых казак,
сабраны слаўным дзедам Сержпутоўскім,
і ў гэтым зборніку адразу знойдзеш
ты гэту казку, ясную, як зоры.
Каго народ у казцы тэй выводзіць, —
ня ведаю, бадай усіх патроху.
Калі удасца быць мне на Палесьсі, —
я запытаюся і напішу.

Матэматык

Якую цноту ты тут прадстаўляеш!
Знайшоў сабе і абарону нават:
«у Сержпутоўскага чытай!» І Шэйна
за хвост прыцягнеш... Кінь такія жарты!
Яны, напэйна, шкодзіць неяк могуць.

Лірык

І сам ня ўцяміў добра, а гаворыш.
«Яны нам шкодзіць могуць»! Чым-жа шкодзіць?
Якая шкода можа з іх адбыцца?
Узяў ты моду гаварыць насупраць,
як той казаў — «дуду ты як надзьмеш,
яна іграе гэтак»...

Матэматык

На табе!
Ужо дуда якаясь выплывае!
А зараз ракам пойдуць дударцы...
Няма чаго казаць — удаўся лірык!

Лірык

Табе бяда вялікая! Хай ходзяць!
А зрэшты, чым-жа дрэнна, што ў народзе



ёсьць прыказкі на розныя здарэньні?
Вазьмі, дай запытаньне мне на спробу,
і я знайду ў адказ апавяданьне.

Матэматык

Ты хочаш ухіліцца ад адказу,
схаваўшыся за прыказкі і байкі?
Замест таго, каб высьветліць пытаньне,
ты нейкую заводзіш «Віктарыну?!»
Ну што-ж... Падобна гэта на задачу —
плюс-мінус, ігрэк-ікс і ўсё такое...
Магу табе прапанаваць пытаньне:
няхай сабе жыве і «Віктарына»...

Лірык

Калі не «Віктарына», дык «Віктося».
У кожным разе клічнік з запытаньнем.

Матэматык

Скажы ты мне... Пра што-б тут запытацца?
Пра сьмешнае ня варта мабыць сёньня.
Ізноў ты пусьціш нешта з падкавыркай.
Скажы ты лепш пра сьлёзы. Плакаць можна
і сьмяючыся нават...

Лірык

Сьлёзы, сьлёзы...
Ліецца многа вас на сьвеце нашым...
і днём, і ўночы, і у шэрым змроку.
Ліецца з воч і чорных і блакітных...
Вы глыбінёй мінулі акіяны,
вы палкасьцю мінулі сонца-косы,
цяжэй саміх сябе вы незраўнана...
Каб вас зьяднаць калі, сусьвету сьлёзы,
дык на зямлі патоп другі пачаўся-б.
У глыбіні і горкай і празрыстай
вы утапілі-б, сьлёзы, назаўсёды
усіх прахвостаў, зьдзірцаў, ашуканцаў,
накрыўшы іх і горам і нядоляй...
Сваёю палкасьцю, сваёй нялюдзкай
вы растапілі-б лёд на канцавосьсях,
лядоўню гэту нашага сусьвету...
Каменныя вы сэрцы растапілі-б
у катаў прошлых, ёсьцьных і наступных
сваёю палкасьцю, сваёй нялюдзкай...
Каб вас зьяднаць калі... О, сьлёзы, сьлёзы...

Ліецца многа вас на сьвеце нашым
і днём, і ўночы, і у шэрым змроку.
Сабраць у акіяны вас ня ўдасца,
ня ўдасца змыць усю брыду ад сэрцаў,
якая ў сэрцы пала на Палесьсі...
Дык ты прасіў сказаць табе пра сьлёзы?
Табе пра сьлёзы зараз раскажу я! —

*Народнае апавяданьне пра сьлёзы.*

У аднэй на сьвеце маці
узяла дачка памёрла.
Сьлёз у маці — ня стрымаці,
сьлёзы буйныя, як пэрлы.

Гора матчына цяжкое,
ня ўтамуецца спагадай.
Не знаходзіць супакою,
пахаваўшы сваю радасьць

Прабавалі ўсьцішыць людзі:
хіба плачам вернеш страту?
Жаль вялікі сьцісьне грудзі,
сьцісьне сэрца ён, праклятьі...

Нясьціханна плача маці
па сваёй дачцы памерлай.
Сьлёз у маці — ня стрымаці,
сьлёзы буйныя, як пэрлы.

Так было, пакуль аднойчы
сон ня сьніла маці тая.
І у змроку, і у ночы
сны ў павекі прылятаюць.

Нешта думаў, нешта сьніцца, —
застаецца праўды зерне.
Зашуміць крылом Дзяньніца,
да сапраўднасьці нас верне...

Сьніцца сон старой, што быццам
у царкве на „ўсе сьвятыя"
давялося ей маліцца
перад вобразам Марыі.

І маліла і прасіла
маляваныя фігуры,
каб жывым давалі сілы,
а хаўтуршчыкам хаўтуры.

Покуль так складала хвалы,
ноч прасьцерлася над сьветам.
У царкве заначавала
гарацешная кабета.

А паўночы давялося
бачыць розныя дзівосы.
Стала-б кратацца валосьсе,
каб ня скручаныя косы. —



Здань ідзе, за ёй другая,
ня зьлічыць і не агледзіць...
Тут прыблудная, чужая,
тут і блізкія суседзі. —

Вось ідзе адкрыты чэрап,
ён мазгі нясе ў портфэлі.
Свае іклы злосна шчэрыць,
каб яму „асанну" пелі...

Пятушок бачком кульгае
на высокіх на абцасах.
Вельмі подленька сьпявае;
кішкі з-заду, быццам пасак...

У гарсэце з парцаляны,
праз якую каву гонім,
проста з долу адкапаны
з „вуткай" пхнецца штатс-псэўдонім...

Каранастая гарыла
у манішцы прасаванай
на хаду галіла рыла
і фокстроцік танцавала...

Ліха матары! і тота
увіхаецца ля жмуры,
быццам п'яны капя плоту
вычварае шуры-муры.

Едзе на байкушы ляпа,
штосьць раве у голас немы.
Вецер сьвішча цераз храпы, —
вывучай, лінгвіст, фонэмы!..

Далей п'яная капэля
едзе, смаліць нешта ў гусьлі.
На сабе вязе, аж млее,
іх таркан, надзьмуўшы вусы.

Колькі ўсіх яшчэ было там,
дык дакладна і ня ўспомніш:
зварушылася балота,
выплюнула твань сягоньня.

Гарацешная старая
на'т забылася пра гора:
на пачвар тых пазірае,
каб ня ўрок яе каторы.

Але вось пайшлі і душы
больш знаёмыя, суседзі...
Ня відаць усё дачушкі,
затрымалі, мабыць, недзе...

А тым часам бязупынна
праз царкву шнуруюць душы.
Ўрэшце — вось яна, дзяўчына,
белы кужэль апрануўшы.

Маці стала нярухома.
Вусны сьцяты. Што-ж ня клічуць?

Вочы кволяць стан знаёмы
і знаёмае аблічча.

А дачка, маўляў, нямая
і прыжмураны павекі.
На сьпіне яна трымае
вялічэзны цэбар нейкі.

**Маці**

За чые грахі цяжкія
ты пакутуеш па сьмерці?
Ці знайшлі іх людзі злыя
ў тваім шчырым, чыстым сэрцы?

А ці-ж я сьлязьмі ня мыла
на зямлі твае сьлядочкі?
Ці-ж я Бога не маліла,
цябе выправіўшы ў прочкі?

Хто, ня маючы сумленьня,
даў табе цяжар вялікі,
аж дрыжаць твае калені..
Як яго, злачынца, клікаць?

**Дачка**

Гэта, маці мая, маці, —
сьлёзы ўсе твае сабраны.
Іх вартую, як багацьце.
Плач яшчэ... Бывай... Дабранач...
. . . . . . . . . . . .

Сон як пяруном спаліла,
толькі крыльле завілося.
Па сваёй дачушцы мілай
маці болей не галосіць.

**Матэматык**

Дык вось табе і сьлёзы! Дружа любы!
Каб ты узяў другую форму толькі —
пацалаваў-бы я цябе за тэму...
Якая думка, ах, якая думка!
І як-жа сапсавана чартоўшчынай!
Вазьмі, прыдумай ты для гэтай думкі
сучасную і блізкую нам форму...

**Лірык**

Прыдумаю, як буду мець магчымасьць.
Цяпер мне сумна стала, вельмі сумна,
як быццам сам навекі нешта страціў...

**Матэматык**

Адкінь ты сум, якую маеш страту!
Глядзі, каб некаму, як сьлёзы ў сьне,



твой сум ня стаў прызначанай пакутай.
Падумай толькі добра... Ты ня чуеш?
Чаго глядзіш так пільна ты на Захад?
Ці сонца вокам думаеш спыніць?
Яно з-за лесу водблескам крывавым
варожыць новы дзень, дзівосны дзень,
такі-ж трывожны для цябе, як сёньня.

**Лірык**

Угледзься, браце мой, у сьлед яго,
навокал глянь... Што дзеецца навокал!..
Здаецца мне — над лесам праплываюць
у край нязнаны ціха караблі.
І пурпуровых ветразей узьвівы —
то дух тужлівы ўкрыжаваны мой,
тужлівы дух і жальба...

**Матэматык**

Годзе, годзе!
Жані тугу на шчырыя бары,
а калі ў ветразі ўвайшла — дык добра:
ня вернуцца ніколі караблі.
Бяры ты прыклад з аўтара, з Дубоўкі,
паслухай, што казаў ён перад намі:
які запал, які настрой бадзёры.
Адкуль ты толькі смутак свой зьбіраеш?

**Лірык**

Я слухаў аўтараву ўсю прадмову:
з табою разам вышлі мы на сцэну.
Прадмовай гэтай аўтар даў настрой мне.
Чаго-ж яшчэ ты хочаш?

**Матэматык**

Ты жартуеш?!
Узяў ты, кажаш, свой настрой з прадмовы?
Ну, гэта сьвінства, так хлусіць нахальна!

**Лірык**

Давай да аўтара мы пойдзем лепш
і спрэчку нашу вырашым супольна.

**Матэматык**

А пурпуровых ветразей узьвівы
ці прынясуць нас да яго ізноў?
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Дубоўка

Пашлі шукаць мяне мае гэроі...
Хіба пра іх я дрэнна клапаціўся? —
Злажыў для іх ад вывіхаў замову,
за ўзор народную замову ўзяўшы...
Яны адзін другога вінавацяць,
прычыны нейкія зьявіліся адразу...
І кожны з іх сябе праўдзівым лічыць
у гэтай спрэчцы, можа і цікавай!
Чакаць? Мірыць? Ня буду лепш займацца,
а то мае уласныя гэроі
мяне самога ў нечым зьвінавацяць.
Няхай ідуць да чытачоў гавораць,
супольна з імі вырашаюць крыўды...
Няхай нясе іх творчае гарэньне
і пурпуровых ветразей узьвівы...

31.I.1929 г.
Масква.

---



АНТ. НАВІНА

# Да крыніцаў творчасьці М. Багдановіча

Як згодна сцьвярджаюць усе біографы Максіма Багдановіча (— дый пацьвярджаў гэта неаднакротна сам наш паэт), галоўнай крыніцай тэматыкі ягонае паэзіі было тое знаёмства з беларускай народнай паэзіяй, якое ён атрымаў дзякуючы свайму бацьку, Адаму Багдановічу, даволі ведамаму працаўніку на ніве этнаграфіі — пачаткова беларускае, а пад канец жыцьця — расейскае. Знаёміўся Максім з беларускай этнаграфіяй у першую чаргу шляхам вусных пераказаў бацькі; але ня можа быць ніякага сумлеву, што — ў меру вырастаньня й выкарыстываньня кніжных матар'ялаў у бацькавай бібліотэцы — мусіў Максім часта заглядаць і да першае друкаванае працы Адама Багдановіча з галіны этнаграфіі, паймення — кніжачкі пад загалоўкам »Пережитки древняго міросозерцанія у бѣлоруссовъ. Этнографическій очеркъ А. Е. Богдановича. — Гродна, 1895.»

Каб пераканацца, што-ж пачарпнуў Максім Багдановіч з бацькавае працы, трэба было беспасярэдна з ёю пазнаёміцца. Але кніжачка гэтая — цяпер ужо вельмі рэдкая, і аўтару гэтых радкоў толькі зусім нядаўна ўдалося яе дастаць і прачытаць*). І вось, пры чытаньні яе і пры параўнаньні з ёй Максімавых вершаў, выявіўся запраўды-ж вялікі ўплыў яе на тэматыку вершаў песьняра.

Трэба тут зрабіць адну засьцярогу: Максім Багдановіч, пэўне-ж, не абмежываўся аднэй гэтай кніжыцай, знаёмячыся з беларускай народнай паэзіяй і этнаграфіяй. Яму былі ведамы ўсе зборнікі этнаграфічных матар'ялаў (Раманава, Шэйна і інш.). Але бацькава праца была першай кніжкай з гэтае галіны, і ў ёй аўтар стараўся даць некаторую сынтэзу на падставе таго, што ў іншых працах падаецца, як сыры матар'ял. Дый, як першая, бацькава кніжка мусіла зрабіць на Максіма Багдановіча найглыбейшае ўражаньне.

Гэта з яе Максім Багдановіч знаёміўся з беларускай народнай міфалёгіяй, і ягоны Лясун, Вадзянік, Падвей, ягоныя русалкі, ягоны Зьмяіны Цар — усе яны надзелены рысамі, якія бацька паэта знайшоў у народных вераваньнях, казках, апавяданьнях.

Возьмем хоць-бы *Лясуна,* якому Максім Багдановіч пасьвяціў ажно тры вершыкі.

Над лясамі — кажа Адам Багдановіч у сваёй кніжцы — гаспадаруе Лясун. Ён узростам роўны дрэвам таго лесу, у якім жыве. Ён страшэнна дужы, — вырывае сосны з кара-

*) Кніжачку набыў Беларускі Музэй ім. Ів. Луцкевіча ў Вільні.

нямі. Ён «іржыць» — рагоча, калі весел; вые, як воўк, калі сумуе; рычыць, як мядзьведзь, калі злы. Можа вельмі напужаць чалавека дый ваўкамі зацкаваць.

І Максімаў Лясун — такі-ж вялічэзны: ён можа іграць на соснах, быццам на струнах:

...Пад рукамі яго, разважаючы сум,
Быццам тысячы крэпка нацягнутых струн,
Тонкаствольныя сосны зьвіняць...

І Максімаў Лясун любіць ліхія жарты над людзьмі, каторыя пападаюць у нетру лясную. Пачуўшы звон падкоў у лесе, Максімаў Лясун кажа:

Ці ня гукнуць, каб рэха па лесе пайшло,
Каб з касьцямі ў кавалкі разьбітымі
Нехта біўся ў крыві, каб мне можна было
Усю ноч рагатаць пад ракітамі?!

А вось і *Вадзянік*. Вадзянік — апісывае бацька — жыве ў »жывой« вадзе, у крыніцах бяздонных, у глыбіні рэк і вазёр, — наагул у такіх месцах, дзе вада ўзімку не замярзае: гэта, кажа народ, лёд таець ад дыханьня вадзяніка.

Сын піша аб Вадзяніку:

Сівавусы, згорблены, я залёг між цінай
І гадамі грэюся-сплю на дне ракі.
Твар травой аблутаны, быццам павучынай,
Засыпаюць грудзі мне жоўтыя пяскі...

І характэрна, што бацькавае апісаньне мала паўнейшае, чым Максімавае...

Аб *русалках* Адам Багдановіч кажа, што яны здаюцца Беларусу харошымі дзяўчынамі з распушчанымі даўгіміваласамі. Гэтым абмежываецца ўсё апісаньне іх выгляду. Вось-жа і Максім Багдановіч гэту характэрную рысу асабліва вобразна выдзяляе. Даючы абраз возера ўначы, з якога месяц „цягне срэбныя сеці,“ наш паэт дадае:

У іх русалкі заблуталі косы...

Але найбольш красамоўна пацьвярджае справядлівасьць нашае тэзы аб уплыве на тэматыку й апісаньні Максімавы кніжачкі ягонага бацькі прыраўнаньне апісаньня *„зьмяінага выраю“* этнографам і паэтам. Адам Багдановіч піша:

»Над усімі гадамі ёсьць цар. Пад ягоным асабістым павадырствам ідуць зьмеі на зімовы сон. Цар-зьмей ідзе наперадзе, а за ім — безьліч ягоных поўзаючых падданых. Ён увелькі большы за ўсіх, ягоная луска адлівае серабром і золатам, на галаве ў яго карона з маленькіх залатых ражкоў. Трудна спаткаць зьмеяў падчас гэткае іхняе вандроўкі, бо яны выбіраюць недаступныя чалавеку месцы. А калі ўдасца спаткаць зьмяіны »вырай«, разасланы перад царом настольнік, палажыць хлеб-соль ды пакланіцца яму да зямлі, дык ён, перапаўзаючы праз настольнік, у аддзяку скіне з галавы адзін залаты ражок...“



А вось як гэтае апісаньне — чуць-што не даслоўна—адбілася ў намаляваным паэтам мастацкім абразе (верш «Зьмяіны цар»):

...Мы ўжо выйшлі з цесных, душных
Падзямельных норак,
На зімовы, цёплы вырай
Цягнемся-паўзём.

Ў полі, ў лесе нам усюды
Праляглі дарожкі!
Ўстужкай рушымся між пушчы,
Насамперад — я.
Зіхацяць маей кароны
Залатыя рожкі,
Цёмным блескам адлівае
Ўся луска мая.

Нам ня трэба ні ад чога
Ноччу абароны, —
А спаткаем чалавека,
Порт рассьцеле ён:
Залаты ражок яму
Я ўраню з кароны,
І праз белу палатніну
Дальш мы папаўзём.

Ня будзем тут падаваць далейшых прыкладаў уплыву працы Адама Багдановіча на паэзію ягонага сына (прыкладам: варажбіцтва млынароў, заклінаньні і г. д.). Абраз і так даволі ясны. Зьвернем толькі ўвагу на адзін верш Максіма Багдановіча, на якім адбіўся ўжо не бацькавы этнаграфізм, але — пагляд на беларускі народ і ягоны культурны ровень.

З лёгкае рукі савецкіх літаратурных крытыкаў прынята азначаць паэзію нашаніўскае пары, як нейкае агульнае стагнаньне, ныцьцё, »пусканьне сьлязы« і г. д. Пагляд гэты — з грунту фальшывы: калі й бачым у гэным часе *паадзінокія* вершы ў таго або іншага аўтара, каторыя ліюць сьлёзы над нядоляй народнай ды памагаюць народу стагнаць, дык *агульны* тон гэтае паэзіі быў прасякнены імкненьнем да вызваленьня, клічамі да волі й барацьбы за яе. Вось чаму, калі ў 1913 годзе выйшаў у сьвет „Вянок“ Максіма Багдановіча, адзін з вершаў зборнічку—„Краю мой родны, як выкляты Богам“... — на агульным фоне нашаніўскае паэзіі, поўнае веры ў свае сілы і ў сьветлую будучыню народу, прадстаўляўся беларускаму грамадзянству нейкай аномаліяй, выклікаў глыбокае недаўменьне. Шмат хто напісаньне верша тлумачыў тым, што паэт, жывучы далёка ад роднага краю (— у Яраслаўлі), ня бачыў уласнымі вачыма народнага жыцьця, не адчуваў, як б‘юцца сэрцы мужыцкія, захопленыя вялікай ідэяй адраджэньня

й волі. І ў гэтым была вялікая доля праўды. Але — ня ўся праўда. Усю праўду пазнаем, калі прачытаем уступнае слова Адама Багдановіча да памянёнае ўжо кніжачкі яго.

Адам Багдановіч, як блізу й усе сучасныя яму беларускія інтэлігенты, што павыходзілі з народнае гушчы, быў увесь пад уплывам фальшывага ў сваей істоце перакананьня аб „камплексе ніжэйшасьці" Беларусаў. Пераходзячы з вёскі да места, знаёмячыся — перад усім праз школу — з расейскай літаратурай і культурай наагул, Адам Багдановіч, як і шмат хто іншы, раўнаваў культуру беларускага *сялянства* з культурай расейскае *інтэлігенцыі*. Гэта было раўнаваньне рэчаў зусім нясумерных. Калі-б раўнаваць культуру тагачаснае беларускае вёскі з культурай вёскі-ж расейскае, дык для пэсымізму, для пачуцьця «ніжэйшасьці» Беларусаў месца ня было-б: наадварот, такое прыраўнаньне выявіла-б мо' нават вышэйшасьць Беларусаў над народнымі гушчамі »пануючае нацыі«. Але, стануўшы на няправільным становішчы, Адам Багдановіч няўхільна мусіў зрабіць тыя вывады аб Беларусах і іх „някультурнасьці", якія апублікаваў у ўступе да вышэй памянёнай сваей кніжачкі.

»Беларускія сяляне, тлумачучы пасвойму выражэньне „западный край", — выражэньне чужое для беларускага языка, — перакладаюць яго словамі «западлы край», г. зн. закінены, заняпалы. Хаця з філёлёгічнага гледзішча шмат можна сказаць супроць гэткага вольнага перакладу, аднак запраўднасьць апраўдывае яго. І жыцьцё Беларуса, і ягоная творчая дзеяльнасьць рэзка адзначаны кляймом неразьвітасьці, адсталасьці, забітасьці. Так яно й ёсьць: »западлы« край, „западлы" народ..."

Гэтак пачынае свой уступ Адам Багдановіч і далей стараецца даказаць справядлівасьць свайго пагляду, кажучы аб беднасьці беларускае народнае паэзіі, народнае песьні, аб »дзікасьці« абычаяў беларускіх, аб »грубым фэтышызьме« сьветапагляду Беларуса — »з гледзішча цывілізаванага чалавека«. Адам Багдановіч, хоць з філёлёгіяй ніколі ня меў шмат супольнага, бярэцца судзіць і язык Беларусаў з „філёлёгічнага" гледзішча. Язык гэты, быццам, »бедны на словы«. »Некаторая частка іх запазычана з польскага языка, а за апошнія часы, сярод маладога пакаленьня, даволі шырака пачынаюць ужывацца словы расейскія». »Беларускі язык бяднейшы азначэньнямі адарваных паняцьцяў, чым вялікарускі народны язык, і ў гэтым адстае нават ад маларускага. Ён такжа ня мае гібкасьці, сілы й выразьлівасьці першага ды мяккасьці, мілагучнасьці другога.«

Адам Багдановіч паўтарыў тут усе тыя недарэчнасьці, якімі маскоўскія „культуртрэгеры" набівалі галовы беларускіх вясковых дзяцей у расейскіх школах—ніжэйшых і сярэдніх,— зусім так сама, як гэта цяпер робіцца многімі Палякамі... Але, паўтараючы іх бяскрытычна, ён стараецца знайсьці прычыну ўсіх гэтых зьявішчаў. На ягоны пагляд, прычына гэтая — страшэнна цяжкія абставіны беларускага вясковага жыцьця, бяда, голад, цяразмерная праца. Вёска йшчэ перажывае жудасную спадчыну прыгонных часоў. »Толькі сваей працавітасьцяй Беларус не адстае ані ад Вялікаруса, ані ад Маларуса, а вынасьлівасьць ягоная большая, чым у таго й другога. Але гэтага, ведама, мала, і справядлівасьць вымагае паставіць Беларуса — паводле тыпу духовага разьвіцьця — ніжэй за ягоных братоў з вялікае рускае сям'і... —«Паўтараем: толькі бязкрытычнасьць у адносінах да прапаганды «камплексу ніжэйшасьці» Беларуса ў расейскіх школах, толькі вельмі слабое знаёмства і з беларускай народнай паэзіяй, і з беларускім языком, і з культурным роўнем сялянства »пануючае нацыі« у гэтага сьвежага адэпта расейскае культуры маглі падыктаваць Адаму Багдановічу падобныя словы. І сягоньня — праз 44 гады пасьля напісаньня гэтых слоў, калі магутны адраджэнскі рух зразу падняў „западлы" беларускі народ на вышыню культурных народаў сьвету, — словы гэтыя пакажуцца нам сьмешным анахранізмам. Але ў вачох Максіма Багдановіча, каторы кожнае слова свайго бацькі прыймаў на веру, дадзены апошнім фантастычны абраз адсталасьці Беларусаў мусіў прадстаўляцца зусім рэальным, згодным з праўдай. Культурны заняпад і адвечны цяжкі труд у голадзе й паняверцы — вось тое, што Максім Багдановіч прыняў на веру з бацькавае кніжкі, як асноўныя рысы жыцьця беларускага народу. І гэтыя рысы паэт адбіў у сваім вершы *„Краю мой родны"*. І гэтыя рысы выклікалі ў яго пачуцьцё роспачы, сумлеву ў перамозе беларускае адраджэнскае ідэі:

Брацьця! Ці зможам грамадзкае гора?
Брацьця! Ці хваце нам сілы?

Сілы хапіла. І на вачох Максіма Багдановіча, каторы сам хутка здолеў вызваліцца ад накіненага яму бацькам «камплексу ніжэйшасьці» ды самастойна выкрыў вялікую красу й багацьце беларускае народнае творчасьці, — беларускі народ, культурны стан каторага Адам Багдановіч раўнаваў з станам з часоў летапісца Несьцера, — сваей творчай працай даказаў сваю жыцьцёвую здольнасьць і права на месца пад сонцам!

Вільня, травень 1939.

*М. Ларчанка і Л. Фіглоўская*

# Новыя матарыялы аб беларускай літаратуры XIX стагодзьдзя*)

Інстытут літаратуры і мовы Акадэміі навук БССР, працуючы над стварэньнем падручніка па беларускай літаратуры, паслаў аўтараў гэтых радкоў у навуковую камандыроўку ў Ленінград з мэтаю адшуканьня новых матарыялаў па беларускай літаратуры XIX стагодзьдзя.

У ленінградзкіх архівах і бібліятэках мы змаглі выявіць некаторыя невядомыя арыгінальныя матарыялы па беларускай літаратуры, якія маюць для нас навуковае й палітычнае значэньне. Разам з тым знойдзен цэлы рад поўвядомых старынных твораў, аб якіх у Беларусі мала хто ведаў, хоць яны й былі надрукаваны.

Сярод знойдзеных матарыялаў асаблівую цікавасьць прадстаўляюць арыгінальныя, яшчэ нідзе не надрукаваныя рукапісы мастацкіх твораў на беларускай мове: 1) «Панская ласка»—ананімная паэма аб прыгоньніцкім ладзе, у якой даецца рэзкая крытыка паноў-прыгоньнікаў; 2) Воскресение Христово и сошествие его в ад» — ананімны пародыйны твор, які нагадвае сабою беларускую паэму «Тарас на Парнасе»; 3. «Сьцяпан і Тацяна» — бытавая паэма аб жыцьці беларускага сялянства, напісаная селянінам Марозам. Гэта паэма надрукакавана была ў газэце «Минский листок» за подпісам Шункевіча... Як цяпер відаць з рукапісу, гэту паэму напісаў ня Шункевіч, а селянін Менскай губэрні. Наступны рукапісны твор — п'еса «Адвячорак», напісаная Сазановічам, паказвае быт прыгоннага сялянства.

Апрача гэтых арыгінальных рукапісных твораў, яшчэ нідзе недрукаваных, намі знойдзен рад ананімных «гутарак» рэволюцыйна-дэмакратычнага характару: «Дзядзька Антон або гутарка аб усім чыста, што баліць, а чаму баліць не ведам»; «Гутарка Данілы са Сьцяпанам»; «Гутарка Паўлюка»; «Хто праўдзівы прыяцель беднага народа»; «Гутарка аб тым, куды мужыцкія грошы ідуць»; «Як зрабіць, каб людзям стала добра на сьвеце»; «Гутарка Кузьмы з Апанасам» і інш. Некаторыя з «гутарак» друкаваліся толькі ў Лёндане й Парыжы.

Усе гэтыя «гутаркі» ўяўляюць сваеасаблівы літаратурны жанр *мастацкай публіцыстыкі.* У іх арганічна спалучаны элемэнты мастацкасьці з публіцыстычнай прапагандай палітычных, рэвалюцыйных ідэй, накіраваных супроць самаўладзтва, як асноўнага соцыяльнага зла. Мова гэтых «гутарак» зьяўляецца народнай беларускай мовай; яна калярытная й сакавітая. Сам жанр «гутарак» у гісторыі беларускай літаратуры XIX стагодзьдзя займае досыць вялікае месца і патрабуе свайго дасьледаваньня і вывучэньня.

З друкаваных матарыялаў на беларускай мове знойдзены такія рэдкія творы, як зборнік «Расказы на беларускім нарэччы», сярод якіх асаблівую цікавасьць прадстаўляюць: «Казка ня казка, быль ня быль, але так бывае», «Вялікая памылка нашых беларусоў». Таксама знойдзены гістарычныя і міфалагічныя песьні: «Быў на Русі чорны бог», «З-за Слуцка, з-за Клецка», «А калі-б калі маскалі прышлі», якія надрукаваны ў зборніку 1839 г...

У Ленінградзкім архіве Унутранай палітыкі, культуры і быту СССР знойдзены: справа Дуніна-Марцінкевіча аб выданьні п'есы «Пінская шляхта», забароненай цэнзурным камітэтам міністэрства ўнутраных спраў, таму, што там высьмейваліся чыноўнікі; справа Багушэвіча, у якой цэнзурны камітэт спасылаецца на невядомы нам зборнік Багушэвіча „Беларускія расказы М. Бурачка", — гэты зборнік, як відаць з адносіны цэнзурнага камітэту, забаронены таму, што ў ім былі творы, накіраваныя супроць царскага ўраду. Тут-жа знойдзена справа цэнзурнага камітэту аб забароне друкаваць рукапіс на беларускай мове «Беларуская ластаўка», напісаная студэнтам Паленкоўскім. Характэрнымі зьяўляюцца таксама справы цэнзурнага камітэту адносна твораў Блуса і Аляксандра Ельскага. Творы гэтых пісьменьнікаў цэнзурным камітэтам былі дазволены да друку.

Значную цікавасьць прадстаўляюць знойдзеныя новыя вершы Багушэвіча і Янкі Лучыны. У надрукаваным на папяроснай паперы зборніку «Песьні», у якім зьмешчаны вядомыя творы Багушэвіча, ёсьць тры вершы, якія да гэтага часу ня былі нам вядомы... Да гэтага часу ня былі вядомыя такія творы Янкі Лучыны, як „Па поваду стогадовай гадавіны з дня нараджэньня лёрда Байрана", „Не ради славы иль расчета", „Вясна", „У памяць бенефіса" і „Роднай старонцы", якія не ўвайшлі ў яго зборнік „Вязанка".

Апрача гэтых літаратурных матарыялаў, намі знойдзены некаторыя матарыялы фольклёрнага характару. Сярод іх першае месца займаюць рукапісы нідзе недрукаваных беларускіх казак, легенд поўбыліннага характару і песень. Некаторыя з іх мы перапісалі. Значную цікавасьць прадстаўляе легенда „Пра мужыка Ерафея, яго жонку і сына Фаму", якая нагадвае аповесьць старой рускай літаратуры „О горе-злосчастье". Легенда „Пчолы", поўбыліны „Асілкі" і „Чортаў мост" зьяўляюцца надзвычай цікавымі і характэрнымі творамі беларус-

*) Пад гэткім загалоўкам кандыдаты філёлёгічных навук М. Ларчанка і Л. Фіглоўская ў часапісе „Літаратура і Мастацтва", № 13 (427), Менск, 9.III.39 — надрукавалі цікавы інфармацыйны артыкул. Перадрукоўваем амаль увесь гэты артыкул выкідаючы з яго радкі агітацыйна-палітычныя. — Рэд.

кага эпасу. Таксама знойдзены дзьве песьні, якія нідзе яшчэ ня былі надрукаваны, але маюць пэўнае дачыненьне да творчасьці Ф. Багушэвіча і Я. Купалы.

Сярод друкаваных, але мала вядомых матарыялаў намі выяўлена значная колькасьць помнікаў беларускага гераічнага эпасу. Частку гэтых твораў мы перапісалі для выданьня асобнага зборніка альбо хрэстаматыі па фольклёру. Вельмі цікавымі зьяўляюцца такія творы беларускага геpaiчнага багатырскага эпасу, як „Кара ў сто лет", „Кацігарошак", „Сем сыноў і сястра", „Нязнайка", „Адзенюк", „Хлопец і дзяўчынка", „Развалігара, Развалімуры, Зламіжалеза", „Смок", „Аб цыгану, які зьмея ашукаў", „Аб жалезным ваўку", „Аб чалавеку з жалезным носам", „Аб цыгану, як ён забіў зьмея", „Аб зьмеях страшэнных", „Праз Ілюшку", „Аб Когцю" і інш. Усе гэтыя творы належаць да багатырскага эпасу, які шырока разьвіваўся ў вуснай творчасьці беларускага народу даўнейшых часоў.

Звычайна ў пералічаных творах беларускага эпасу даюцца вобразы зьмея альбо злога чалавека, увасабляючых сабою ворагаў народу, і вобраз багатыра, увасабляючага сабою сілу, мужнасьць, дабрату, геpaізм, выносьлівасьць і іншыя высокія якасьці народу. Гэты вобраз багатыра ў названых творах зьяўляецца вельмі цікавым і высокамастацкім. Тут народ увасобіў сваю барацьбу з ворагамі, якія доўгі час прыгняталі працоўных. У гэтых творах багатыр заўсёды вядзе барацьбу з рознымі несправядлівасьцямі і парокамі соцыяльнага жыцьця. Ён вытрымлівае вялікія цяжкасьці ў барацьбе і заўсёды перамагае зьмея, перамагае ворага й зло... Беларускі народ, які на працягу некалькі вякоў вёў барацьбу супроць ворага, стварыў і адпаведныя творы багатырскага эпасу, у якіх паказаў сваю сілу, свае здольнасьці, сваю непераможнасьць, сваю веру ў сьветлае, шчасьлівае жыцьцё...

І, нарэшце, трэба сказаць некалькі слоў аб творы „Плач белорусской земли". Гэты твор быў надрукаваны ў 1894 годзе. Асобнай адбіткай ён уваходзіў у зборнік „Смесь". Аб гэтым творы ведалі далёка ня ўсе нават спэцыялісты. Аб ім ніколі не гаварылі і ня пісалі, ня гледзячы на тое, што ён надрукаваны асобнай адбіткай.

„Плач белорусской земли" напісаны на рускай мове... зьяўляецца ананімным. Ён патрабуе свайго дасьледаваньня, належных навуковых камэнтарыяў...

Усё зробленае намі за час навуковай камандыроўкі ў Ленінградзе па адшуканьню новых матарыялаў па беларускай літаратуры — толькі пачатак вялікай работы. Нам толькі ў Ленінградзе стала вядома, што ў маскоўскіх архівах таксама ёсьць матарыялы па беларускай літаратуры. У асабістым архіве Срэзнеўскага, які перададзен з Ленінграда ў Маскву, ёсьць беларускія, яшчэ нідзе неапублікаваныя казкі, легенды й быліны...



Геpaічны эпас беларускага народу, існаваньне якога да гэтага часу адмаўлялася, мае сваё пэўнае месца ў беларускім фальклёры. За вывучэньне й выданьне ўзораў беларускага багатырскага эпасу патрэбна ўзяцца з усёй сур'ёзнасьцю. Таксама трэба ўзяцца за адшуканьне ў архівах матарыялаў па старажытнай беларускай літаратуры. Над гэтым яшчэ ніхто як сьлед не працаваў.

---

*Я. СТАНКЕВІЧ*

# Мова крывіцкага (беларускага) рукапісу XVI стаг. „Аль кітаб"

## Фонэтычны й морфолёгічны разбор

(Працяг, гл. № 2 (19) „Калосься" з 1939 г.).

### Е р ы п р о с ь л е j

1) *На пачатку слова.* Тут маем гэткія прыклады:

a) meŭ 22a2, 22a6, majūc 21b8 22a15 і шмат іншых; гэтае слова заўсёды лучаецца бяз *i-;* прыведзеная хорма паўстала зь *jьm-. kenacime 34a17, ne mecimeš 41b10, činicime 41b11, pecimūc 116b6 — зь *jьmešь, *jьmetь і пад.; pamenonije 47b3, vižmenavanich 77b10 (зь *jьmen-). hranu 63a7. Так сама бяз *i-* ё прыймя-прыстаўка *jьz: ne pejce s kur'anu 3b3, kali z hetich rečej što učinic 43a16, Pic buduc sukravicu, z cel ludzk'ich cekūčuju 64a12, ne z matk'i cnota dzicaci prichodzic, 'ale z ūčinkaŭ dubrich (=do—) 66b4-5, spoŭniŭši 74 a6, 'Ani z koha ne naradziŭśe i z jeho nichto ne naradziŭśe 75b3-4, kažnij z' jich 81a5, kroŭ pojdze z nosa 84a17, chto z vas lepšij 98b2, Ibrahīmu... 'uradziŭśe Is'ma'īł z Hagari 99a14, z 'ačej śloz'i išlī 105a15-16, Z'menili 108b7, z čirvonaho 'ekiku (камяня) 109a3, pleči z krištału 110b4, Z dimū stvariŭ... nebo 117b1, ź' bełaho perła pakoji 123b7, S pad taho dzerava 'adna vada vichodzic 124a8, Z 'adnej małako s tich rek, 'a z drūhoj mod 124a9, ūs'o z darahoha kamena 132a5 і мноства іншых. Таксама ў іншых старакрывіцкіх памятках і ў цяперашняй мове.

b) j ёсьць заўсёды просьле пярэчаньня й прыстаўкаў, што канчаюцца на самагук: ne jdzeš 53b1, ne jdzice 20a4, prijdze 3b16, 4a7, 4b2, prijduc 30a12, perejdze 25b16, vijdzeš 44b17, vijdze 43b5, 52a3, pojdzece 61b8, 'ūvojdzę 35b14, zajdze 119a5 і інш.;

prijme 3b11, 28a6, prijmu 48a2, 76b7, 106b7, prijmi 125a9, 125b1, prijmūju 16b4, prijmūje 50a6, prijmūjuc 61a17, prijmūjuči 50a13, vijme 43b4;

perejnačic 138b13.

Так сама ёсьць j па прыстаўках, што канчаліся спачатна на *ъ*, а цяпер перад j на *-у-* (кір. *-ы-*), значыцца па sъ, otъ, што перайшлі ў *з, ад*, і іншых: zijduc 30a9, 126a6, zijdze 55b8, 97a4, zijdu 105b4, ‘adijduc 52a5, ‘adijdzu (зам. ‘adijdu) 96b11, padijmucca 49b16, padijme 84a2, ne zdijmūjce (з устаўным *д*) 107a10. Подле аналёгіі менаваных такжа прыстаўкі v‘ъz - a roz - канчаюцца на *-у-* (кір. *-ы-)*, дзеля таго й просьле іх ё j: ‘uzijdze 87a7, 87a9, 87a10, 87a11, 87b3, 87b17, razijdziceśe 28b6.

Адноўчы лучыла просьле пярэчаньня *i-* ne ‘idzice 69b11.

Па прыстаўках, што канчаюцца на сугук, ё *-i-:* bezimennim (палцам) 73b11.

c) На пачатку слова маюць *i-* гэткія словы: inačej 72a11, inšich 15a3, inšije 20a17, 16b17, imem 19b11, ime 43a5, idzice 28a15, ihraŭ 28b14, ihri 28b11, ihrac 43a14, 43b2, ihrane 63b2 (але такжа hranu 63a7), iskrak 43a5, 43a15, iščuc 136b14.

Некаторым із гэтых словаў адказуюць у цяперашняй мове хормы бяз *i-:* накшы Арляняты Ашм. п., начай ib., грацъ Карскі, II-1,274, грышча ib. У словаў, утвароных ад *jьmę і нямаючых націску на *jь-, гэты склад адпаў: мянюшкі Карскі, ib. мяніньнік Слоўн. Насовічаў, 283, ты-ж майго меньніка не ўпадабала Дзіс. п. Рам. VIII,199.

2) У нутры слова на месцу -*jь- з *ь* моцным знаходзім -je-: dušejemca Az’raił 125a6 dušajemcam 138b12, tajemnicu 95b2,tajemnuju 105b3. Таксама ў іншых старакрывіцкіх памятках і ў цяперашняй мове.

Крывіцкае *іншы* мае націск на і-, але ў *іначай* (звычайна *начай*) націск на *нà-*. *Імя* мае націск на *i-* побач із націскам на канцы некаторых мясцовасьцеў. У *іскра* так-жа націск на *i-*. У праславянскім языццэ ўсі менаваныя словы мелі націск на *jь-, прыр. рас. ѝнуда, и́наче, славен. înam, рас. и́мя и́скра, ды адпаведныя сэрбахарвацкія.

З гэтага бачым, што на пачатку слова націсьненае *jь- давала *i-* а ў *jь- ненацісьненым *ь* чэз, аставалася j, што далей чэзла. *i-* ў *ігра* магло быць перанесена па аналёгіі з ac. sg. і множнага ліку, дзе *jь было пад націскам, прыр. схр. ac. sg. рас. plur. *и́гры*. У *jьd-, хоць ня было націску на *jь- (рас. иду схр. ды аднак маем *i* (*іду*).І. Развадоўскі выясьніў, што *i* *jьdą- паўстала аналёгічна подле неазначанага ладу iti з *i*-спачатным (R. S. VII.12).

Дык развой групы *jь- будзе гэткі:

Еры просьле j, як кажныя іншыя паўсамагукі, рашчапіліся на моцныя й слабыя. Моцныя вокалізаваліся, а слабыя чэзьлі, аставалася, значыцца, адно j, каторае просьле пярэчаньня й прыймёнаў-прыстаўкаў далей аставалася, а бязь іх чэзла.



Але пад націскам слабы *ь* у *jь-узмацняецца і асыміляцай ізь j паўстае *i*-*)

Калі ў вадных склонах было *jь- ненацісьненае (значыцца давала j), а ў іншых націсьненае (дык — *i*), магло з часам наставаць выраўнаньне і ўвагульнялася адна або другая хорма. Rozwadowski, RS. VII, 9, Lehr-Spławiński, R.S.VIII, 152.

У языкох — расейскім, баўгарскім, сэрбахарвацкім і славенскім *i* з прсл. *jь- націсьненага выціснула j з прсл. *jь- у палажэньню бяз націску; у крывіцкім (беларускім), чэскім і асталых языкох славянскіх астаўся стан спачатны, значыцца *i-* зь *jь- націсьненага і j або яго шчэзьненьне зь *jь- ненацісьненага. Відавочна гэты падзел настаў дыялектычна яшчэ ў языццэ праславянскім.

Унутры слова ё падобны разьдзел: расейскі й баўгарскі языкі маюць *-i-:* рас. *достоин, взаимный, яичница, яиц, троицкий* і пад.; асталыя славянскія языкі разам із крывіцкім маюць правільнага заменьніка моцнага *ь* (белар. прыемны, узаемны, яечня, траецкі і пад., схр. dostojan і інш.).

## Еры перад j

Тут маем гэткія прыпадкі:

1. Канчатак-*ъjь, -*ьjь nom. sg. masc. o-, io- асноваў складзеных прыметаў, такіх-жа займёнаў, парадкавых лічбаў і дзеяслоўных прыметаў дае -уj, -ij; у (кір. *ы*) па грытаных перайшло ў *i*. Прыклады: hetij 18a6, śvetij 18a7, drūhij 25a1, tak’ij 25b1, złij 34a17, darahij 58b15, śomij 25a11, ‘ośmij 25a12, vjedomij 16a16, dužij 75b16, kažnahodnij 124b2 і h. d. Аднолькава прыметы ьjo-асноваў: božij 4a3, 29a12, trecij 1a8; а такжа ў займёнаў: čij 126a4, čija 125b4, čijho 37b17, 38a2, 38a3, 38a4, čijej 38a6.

Але заўсёды ё toj 5a13, 105b13, śoj 195b10, s’oj 105a10 замест спадзяванага tyj, śij. Гэта, пашыраныя дыялектычна, аналёгічныя хормы подле *мой* і пад., прыр. схр. taj.

2. a. На месцу *ьjь у канчатку nom. sg. назоўных імёнаў (substantiva) у цяперашняй мове ё -ej. Ёсьць тут колькі словаў агульных: *верабей, салавей, зьмей* і ладне хрышчоных імёнаў чужога паходжаньня (прыкл. Сяргей). У рукапісе гэтыя словы ня стрэліся, але ё хормы на -ej, -ij як арабізмы, або наватворы ад арабскае асновы. Ад араб. Алі ў беларускім тэксьце ё ‘Elej 18a7. Гэтае слова сьведчыла-б, што ў канчатках назоўных імёнаў -ьjь перайшло ў беларускім языццэ ў-ej,

*) Што пад націскам паўставала **i-**, а ня **ji-**, як выкладае Лер-Сплавінскі, даводзіць наш рукапіс. Як відаць із прыведзеных прыкладаў, перад **i** зь *jь няма j, тым часам, як ува ўсіх іншых прыпадках (значыцца, дзе і- не на месцу прсл. *jь- перад **i**, як і перад асталымі самагукамі, маем заўсёды j, дзе яно было ў языццэ праславянскім. Дык цяперашняе крывіцкае j перад **i** зь *jь-(**jіскра, jімя**) ды такое-ж у языццэ чэскім (jinak) ня толькі протэтычнага паходжаньня, але й зьявілася пазьней. Што да языка крывіцкага, дык аўтар„Аль кітабу“ яшчэ ня чуў у гэтых словах j перад **i**.

а подле сваіх словаў араб. *Алі* зьмянілася ў *Алей*. Ад араб. aźan (гуканьне на малітву) утварона на беларускім грунце назоўн. імя aźančij (сьвяшчэньнік, пяючы»азан«). У вараб. языцэ гэтага слова няма, там *муэзін*. Менаванае слова сустракаецца ў рукапісе звычайна з-ij, прыкл.: Aźančijove 88b12, 91b7, 90b15, але нярэдка такжа з—ej: aźančejoŭ 90b10 і інш. Значыцца, бачым тут хістаньне ў тым самым слове між хормаю на -ij і-ej.

b) Такжа ёсьць -ej на месцу -ьj у instr. sg. і- асноваў жан. р.: švetłaśceju 114b8, iz jeho miłoścejū 69a13 і інш.

c) -ej на месцу -ьj маюць далей у gen. pl. substantiva (наз. імёны) і- асноваў, а подле іх і некаторыя імёны іншых асноваў: rečej 26a5, pavinnaśćej 53a10, ačej 127a6, hrošej 47a14 dzecej 48a14, kanej 110b4, t'is'ečej 29b11 і інш.

У старакрывіцкіх памятках у старшую пару ё канчатак *-ии*, а пазьней зьяўляецца *-ей*. Гл. Карскі, II-1, 259—261. З гэтага відаць, што спачатна ў беларускім языцэ канчатак *-ьj* nom. sg. masc. назоўных імёнаў перайшоў у -ij, каторае пазьней было зьменена на -ej. Подле хормаў на -ij было ўтварона такжа aźančij, а пазьней, як і ўсе іншыя імёны з гэтым канчаткам, мяняла -ij на -ej. Бяссумлеву замена канчатку -ij на -ej настала пад уплывам іншых хормаў, а пайменна subst. masc. nom. sg. аналёгіяй таковых словаў, як *купец, стралец, малец;* прыр. схр. zmâj (=зьмей) побач із *-i* ў nom. sg прыметаў.

*e* замест *i* ў instr. sg. жаноцкіх і- асноваў (*міласьцяю* і пад.) паўстала пад уплывам прыметаў (*сіняю* і пад.).

На паўстаньне *e* ў gen. pl. і- асноваў, як добра думае Карскі (Русская диалектология), магло ўплываць *e* ў-ech з-ьchъ loc. sg. і-асноваў (ludzech).

У цяперашняй мове і- асновы маюць у gen. pl. блізу вылучна канчатак -ей (кір. -еў). Значыцца, gen. pl. падпадаў пад шмат якія ўплывы, а substantiva мяккіх асноваў двойчы мянялі ў ім свае канчаткі.

3. у, і на месцу *ъ, ь* перад j маем такжа ў хормах асновы цяперашняга часу некаторых дзеясловаў: 'abmij 11a9, nakrij 48b10, 'umij 48b15, mijūči 49a5, 'ebmiješ 49a11, pamij 49a12, 71a14,71b15, vimij 71a7, mijce 72a17, 72b1, 107a10, nakrijecca 137a4, bijce 53b15, 'uz'lij 71b12, pijce 16a2, šijuči 49a16 і інш.

Тое самае ў назоўных імёнаў тых-жа каранёў: šiji 41b9, šiju 59b7, na šiji 65b14, 72b7, 129b9, šija 110b3 і інш.

Прыраўнальная ступень (comporativa) на -ej: bližej 1a2, lepej 22b5, 26b16, 28a17, bolej 23a14, višej 39a1, horej 51b4, dalej 53b13 і пад. сюды не адносіцца, бо гэта складзеныя хормы прыраўнальнае ступені ніякага роду з адпалым канцавым *-e*. Прыр. у яз. пол. więcej, dalej і пад. Rozwadowski, Gramatyka jęz. pol., Кракаў 1923, 149).



Побач із вышменаваным у іншай групе прыпадкаў *ь* перад j чэзьне. Гэта ёсьцека:

a) у цяперашнім часе некаторых дзеясловаў: bje 59b9, ubjuc 53b13, vipjū 114a8 і інш. ды ў ймёнаў: pjanstva 63a16, pjanstve 62b13.

b) у ймён на -ьje, -ьja, галоўна зборных і дзеяслоўных (collectiva et deverbativa): chełapja 2b6, 56a1, davana 18a7, 'adpūščene 23a11, 'Abrekane 23b3, chreścanin 112a9, chreścanmi 4b8.

Там, дзе беларускі (крывіцкі) язык на месцу *ъ, ь* перад j мае у, і (кір. *ы, i*), маюць гэтыя гукі так-жа ўсі асталыя языкі славянскія, з выняткам расейскага. У літаратурным языцэ расейскім, *o, e* ё заўсёды ў хормах асновы цяперашняга часу дзеясловаў kryti, ryti, myti, vyti, nyti, briti, liti, šiti, piti, viti*), але ў nom. sg. складзеных прыметаў ё *o* адно пад націскам (*молодой*), а калі на канчатку няма націску, дык маем -yj (*старый*). У паўночна-расейскім нарэччу ё толькі *-oj, -ej*, бяз розьніцы ё ці няма націску на канчатку (*молодой, старой, синей*). Паўдзённа-расейскае нарэчча (абруселая мова беларускіх Вяцічаў) спачатна мела ў гэтых прыпадках толькі *y-, i* (кір. *ы*, i), як у складох націсьнёных, так і ненацісьненых; цяперака паўдзённа-расейскае нарэчча пад уплывам паўночна-расейскага мае ў бальшыні *-oj***). З гэтага бачым, што літаратурны язык расейскі разьвіў компромісны спосаб ужываньня прыведзеных хормаў між паўночна- і паўдзенна-расейскімі нарэччамі.

## *ПАВАЖАНЫ ПАНЕ РЭДАКТАР!*

*У № 3 „Калосься" за 1938 г., бач. 176, д-р Я. Станкевіч піша, што я падаў формы займеньніка* **кажны, кажан.**

*Дзеля ўстанаўленьня праўды падаю да ведама, што каля Мазыру гаворацъ:* **кажны, кажын,** *але ніколі й нідзе я ня чуў формы* **кажан.**

*Зварочваў я таксама ўвагу д-ра Станкевіча й на тое, што не гаворыцца:* **Мозыр,** *але* **Мазыр,** *каля* **Мазыру,** *у* **Мазыры.** *Відаць, ён гэтае забыў. Для такога лінгвіста, якім зьяўляецца д-р Станкевіч, справа гэтая не павінна быць благой. Маё вуха дзярэ, калі я чую „Мозыр".*

*Падчас вялікодных сьвят я слухаў радыё-перадачу з Мазыру. Менскі* **speaker**, *як заўсёды, заявіў: „Лучымся з Мозырам". Мяне цікавіла, што скажа Мазыр. Пачуўся голас нейкага жыда: „Увага! гаворыць Мазыр". Я ўздыхнуў лягчэй — хоць жыд, але мазырскі.*

*У сувязі з гэтым паўстае пытаньне аб выданьні беларускага географічнага слоўніка.* **М. Анцукевіч**

Ломжа, 30.V. 1939 г.

*) У вапошніх 4-х дзеясловах **e** ё толькі ў хормах загаднага ладу (imp.), а ў цяперашнім часе **ь** шчэз.

**) Шахматаў: „Въ настоящее время южновеликорусское нарѣчіе представляетъ рядъ чертъ общихъ съ нарѣчіемъ сѣверновеликорусскимъ, но все это —черты позднѣйшія (напр. окончаніе **-ой**, вм. **-ый** въ им. ед. ч. **худой** или **о** вм. **ы** въ **мою**).» Введеніе въ курсъ ист. р. яз., 54.

# З літуанізмаў у беларускай мове

## Л.

**Лешка** — града, градка, загон (зямлі); магчыма ад: літ. **lise** — значэньне, як вышэй, або ад **liesas** — худы, сухі, сухарлявы; лешка —малы, «худы» кавалачак зямлі, **liesti (liesta, lieso)** — худзець. Адгэтуль — ляшыць, напр. ляшыць жыта, гэта знача: на полі, дзе пасеена жыта, праводзіць барозны, рабіць загоны й такім чынам рабіць яго сушэйшым, лягчэйшым, «худзейшым».

**Лупа** — губа; у чалавека — губа, у зьвярат, асабліва ў вялікіх, як конь, карова — лупа; **lupa** — губа (агулам); **lupos** (множны лік) — вусны.

**Латак** — дошчачка з раўчуком па сярэдзіне, або прадзюраўленая палачка, якая ўбіваецца вясной у дрэва, каб па ей сьцякаў у падвешаную пасуду сок; літ. **latakas** — жолаб, роў, канава, праток, ручэй. Адгэтуль і **Łotoczek** — вузкая й спадзістая вуліца ў Вільні.

**Лагожы** — няправільны чварабок, зьбіты з чатырох жэрдачкаў ці брусочкаў, што накладаецца на сані, каб яны былі больш пакоўныя; літ. **lagaminas** — валіза, клунак.

**Луста** — ськіва, ськівка (хлеба); літ. **lustas** — роўны пласт (сьнегу), кусок (цеста), роўны ком (сена).

**Лігі** — засьценак у Гальшанскай вол.; літ. **lygė** — роўнае месца, роўная сенажатка сярод лесу.

**Лындаць** — бадзяцца, хадзіць і нічога не рабіць, расейскае—**праздно шататься**; літ. **listi (lenda, lindo)**—лезьці, узлазіць, совацца. Чаго ты лындаеш, узяўбы ды рабіў-бы што!

**Лабуніць**, — прыбліжаць, запрашаць, падсядаць, намаўляць,; літ. **labinti** — кланяцца, вітаць.

**Ланкаваты** — выхілясты, угнуты; яго конь добры, але ланкаваты; гэта знача — угнутая сьпіна; літ. **lankas** — дуга, абруч, обад, аколушка; **palankus** — прыхільны.

## М.

**Мянтушка** — лапатка вастрыць (мянціць) касу, літ. **mentė** — лапатка (анатамічнае й агулам).

**Маркеняты** — вёска Крэўскай вол.; літ. **markyti** — мачыць, размачваць.

**Мірклішкі** — вёска (там-жа); літ. **mirklioti** — міргаць, **mirkla** — міргун.

**Мілта** — ком з намочанай аўсянай мукі (патрава); літ **miltai** — мука.



**Маргель, марга** — назовы рабых: вала і каровы; літ. **margas** — стракаты, пярэсты, рабы.

**Мілэйкава, Мялэйкава** — вёска ў Крэўскай вол.; літ. **mylėti (myli, mylėjo)** — любіць (каго), прымаць (гасьціць).

## Н.

**Наўда** — карысьць, багацьце; літ. **nauda** — тое-ж.

**Нарвілішкі** — сяло ў Віленска-Троцкім пав.; літ. **narvas, narvelis** — клетка, матачнік (у сотах вульля).

**Нерат, нерэт** — рыбалоўскі прылад, сплецены з пруткоў. Патрасі нерат! Папаў у нерат — ні ў зад ні ў перад; літ. **nerti (neria, nėrė)** — плесьці, нізаць (нітку), накідаць (пятлю на шыю), надзяваць (пацеркі), даваць нурца.

**Няўрымсьціць** — быць неспакойным, не ўспакойвацца; конь аж ня ўрымсьце, што рабіць; літ. **nerimti (rimsta—rimo)** — тое-ж самае.

## П.

**Пойсаць** — ачышчаць. Пойсаць ячмень. Пасьля малацьбы ячмень яшчэ нячысты, яго зярнё трэба яшчэ ачышчаць, пойсаючы яго, б'ючы цапом; літ. **nupaisyti** — правеіць, вымалаціць, ачысьціць (ячмень).

**Петавацца** — цяжка, у поце працаваць. Ён бедны петуецца, петуецца, а карысьці ня мае; літ. **pietus** — паўдзень, палудзень, **pietinis** — паўдзённы, цёплы, гарачы.

**Парсюк** — вепр, вяпрук, літ. **paršas, paršiukas** — тое-ж самае.

**Платацца** — бегаць (па полі), бываць (у шырокім сьвеце), ехаць быстра; эх, і платаецца-ж ён! літ. **platėti (plateja, platejo)** — шырэць, расшырацца, пашырацца.

**Пярыць** — хусьце ці палатно на рэчцы паліваць вадой і біць **пранікам**; літ. **perti, (peria, pėrė)** — біць (каго, што), хвастаць (венікам), парыць (каго ў лазьні), **(iš)perti** — даць каму «лазьню».

**Прамануць** — прыдумаць, надумацца; праманаў хадзіць у гарох! Сьвіньні праманулі лазіць у бульбу; літ. **pramanyti (pramano, pramanė)** выдумаць.

**Паляпіць** — панадзіцца, звабіцца, збалавацца. Паляпіў хадзіць у госьці і рады мала! літ. **(pa)lepinti (lepina, lepino)**— балаваць, песьціць, прывучаць.

**Посайка, пасойта** — перавязь вядра; літ. **pasaita** — прывязь, перавязь, перавесла, прывязь цапа, вяровачка, што счапляе пугу (біч) з пугаўём (з бічыскам).

**Пошар** — сухі корм для скаціны; літ. **pašaras** — тое-ж самае; **(pa)šerti (šeria, šėrė)** — пакарміць, накарміць (рагатую скаціну, авец, каней).

**Прагаліна** — пустое месца ў лесе, на лузе і таму пад.; літ. **praga** — пустое месца, тое-ж, што і спрага (націск на канцы).

**Праварына** — перагародка ў хлеве, загарадка, адгародка; літ. **pravarinė** — тое-ж самае, **pravaryti** — перагнаць (міма, праз, наскрозь).

**Пераждаргаць**, ажаргаць — пераступіць (праз каго, што), асядлаць; літ. **peržergti (peržergia, peržergė)** — тое-ж самае.

**Пратаць, упратаць, прыпратаць** — прывучыць, накланіць, накіраваць; я хацела свайго сына ўпратаць у духоўную сэмінарыю; літ. **pratinti** — прывучаць, навучаць.

**Пуня** — гумно, стадола; літ. **punė** — будка, канура, хлеў, канюшня.

**Путра** — палеўка, пахлёбка; літ. **putrá** — просты крупнік, пойла (для цялят).

**Патурацъ** — патакаваць, згаджацца з чыей воляй, жаданьнямі; зашмат ты свайму сыну патураеш; літ. **paturėti (paturi, paturėjo)** — паддзяржаць, падтрымаць, падзяржаць, магчы дзяржаць.

**Пасютаць** (спасютаць) — згубіць што праз недагляд, праз дуронства; ужо нейдзе шапку сваю спасютаў! літ. **pasiusti (pasiunta, pasiuto)** — здурнець, ашалець, сыйсьці з розуму.

---

*А. ІВЭРС*

## Звоняць дні...

Вершам мо' няўдалым,
але проста —
з сэрца
прывітаю далі
ў рунiстых каберцах!

Жменяй сыпну
поўнай
буйных думак —
росы,
дзе туману воўна
затуліла просінь. —

Сонца азалоціць
росы на загонах...
Звоняць дні на дроце,
звоняць,
звоняць,
звоняць...

Пацягну я смыкам
па сталёвых жылах —
ды каб
хмелем дзікім
песьня закружыла!

Каб
на пераналах,
палыном заросшых,
стаць гарою, скалай —
долю сваю рошым!

---



*СЯРГЕЙ САХАРАЎ*

# Полацкі князь Усяслаў—нацыянальны беларускі асілак

Усе жыхары прыгожай беларускай старонкі павінны любіць сваю родную старасьвеччыну й ею цікавіцца. Традыцыі глыбокай полацкай старасьвеччыны ў памяці ўсіх Беларусаў, у жылах каторых цячэ старaславянская кроў Крывічоў, павінны быць жаралом вечнага натхненьня.

Мінуўшчына важная йшчэ й дзеля таго, што толькі ў ейным асьвятленьні можна правільна зразумець і належна сабе ўявіць задачы сучаснага гістарычнага мамэнту й ісьці па правільнай дарозе да сьветлай будучыні свайго народу. Тымбольш важным ёсьць кінуць хоць адзін-другі прамень сьвятла на тую далёкую эпоху ў гісторыі беларускага краю, калі над ім залунала заранiца сваей гаспадарственнасьці, калі на берагох Дзьвіны былі паложаны першыя каменьні асноваў беларускай культуры, калі беларуская палітычная думка стала пертаварацца ў форму выразнай палітычнай цэласьці.

А гэта пачалося даўно—больш васьмісот гадоў таму назад...

У гэту далёкую пару сэрцам Беларусі быў стары сусед Віцебска — слаўны Полацак, гаспадарственная ўлада каторага была ў жалезных руках магутнага Полацкага князя-багатыра Усяслава, а імя Палачан, «грозных Палачан», як кажа аўтар «Слова аб палку Ігаравым», з славаю разнасілася рэхам народнай весьці ня толькі па многаводнаму басэйну Дзьвіны, але й далёка паза ягонымі граніцамі.

Гісторыяграфія знае ня мала важных дасьледчыкаў, што займаліся дасьледаваньнем мінуўшчыны й сучаснасьці беларускага народу. Сярод іх заслужанаю павагаю карыстаюцца імёны прафэсараў: Пецярбурскага — М. О. Кояловіча, Маскоўскага — І. Д. Беляева, Кіеўскага — М. Доўнар-Запольскага, Варшаўскага — Е. Ф. Карскага; глыбокіх знаўцоў беларускай старасьвеччыны — А. М. Семёнткоўскага, А. П. Сапунова, Д. І. Даўгялы й інш. Аднак самае толькі існаваньне гэтулькіх аўторытэтаў не дае йшчэ права цьвердзіць, што ўсе пытаньні ў справе княжага пэрыяду гісторыі старасьвецкага Полацку ўжо вырашаны безпаваротна й аканчальна. Не! Там ёсьць яшчэ шмат чаго навукова недасьледаванага, загадчнага й цікавага... Гэта зусім натуральна, калі прыняць пад увагу тое асаблівае, бадай выключнае палажэньне, якое Полаччына займала сярод іншых суседніх земляў, а так-жа, калі прыняць пад увагу самы характар гэтай старонкі, ведамай з летапісных жаролаў.

Полацкая зямля X—XI в. для земляў Прыдняпранскіх была далёкай акраінай, гістарычнымі падзеямі высунутай у су-

седзтва з літоўскімі й чудзкімі плямёнамі. Ужо ў самым заранньні легендарна-паэтыцкай дымкі, прыцярушыўшай найдаўнейшую гісторыю гэтай зямлі, адбіваецца апрычонасьць паўдзённае, украінскае Прыдняпраншчыны ад Палачан, закінутых у глухую даль, паміж дрымучых лясоў і топкіх балот Беларусі. Гэты факт апрычонасьці зямлі Крывічоў ад рэшты Русі зазначаюць усе аўторытэтныя жаролы. «Крывічы — кажа Н. Костомараў — былі раз'яднаны з Паўдзённай Русьсю й жылі асобным сьветам[1])».

Насьледкам такой раз'яднанасьці было выдзяленьне Полацкіх князёў з агульнай сям'і патомства Кіеўскага князя Уладзімера.

«Перш за ўсіх ізгоеў[2]) — піша праф. Ключэўскі — у палажэньні выдзеленых князёў апынуліся, ня дзеля раньняга сіроцтва, але з прычыны асаблівых варункаў, князі Полацкія, патомкі старшага Уладзіміравага сына ад Рагнеды».[3])

Праф. Багалей прадстаўляе выдзяленьне полацкіх князёў і адасабленьне Полацкага Княства, як адно цэлае. «Адасабленьне Полацкага Княства пачалося вельмі рана — яшчэ пры Уладзімеры Сьвятым, узяўшым сабе за жонку дачку Полацкага князя Рогвалада й аддаўшым Полацкі пасад Рагнедзінаму сыну — Ізяславу.[4])

Полаччына, як кажа праф. А. Трачэўскі, была «адрэзаным акрайцам у рускай гісторыі ўдзельнае пары, падобна, як і Галіччына».[5]) Вось-жа гэта «адрэзанасьць», гэта адлучанасьць Полацка ад агульнарускага караня й былі прычынаю таго, што гісторыя княжага пэрыяду Полаччыны прадстаўлена ў летапісных аглядах толькі ў форме кароткіх, фрагмэнтарычных, часам непавязаных з сабою вестак. Па загубленьні-ж сваіх мясцовых полацкіх летапісаў, гістарычная навука асталася без магучай успамогі дзеля правільнага разуменьня й магчымасьці ўсебаковага асьвятленьня гэнай важнай культурна-палітычнай эвалюцыі, якую пережылі Крывічы ў басэйне Дзьвіны ў X—XII в. А эвалюцыя гэта была вельмі характэрная: у той час, калі Ноўгарадзкія Славяне на берагох Волхава імкнуцца апрацаваць у сябе палітычную форму дэмакратычнага рэспубліканства, Полацкія Крывічы на берагох Дзьвіны, праз сваіх свабодалюбівых князёў, стараюцца сконцэнтравацца ў незалежнае Крывіцкае княства, сарганізаваць незалежную дзяржаву (гаспадарства). Гэтым і тлумачыцца жор-

1) Н. Костомаров: Истор. монографіи і изслѣдованія, том I, Пецярбург 1872, бач. 12.

2) Ізгоямі наз. князі, выключаныя з радовага старшынства й адлучаныя ад учасьця ў агульным валаданьні зямлёй.

3) В. Ключевскій: Курс Русской Исторіи, ч. I, выд. 2, Масква, 1906 г., бач. 222.

4) Д. И. Багалѣй: Русская Исторія. Харкаў 1909 г. бач. 173.

5) А. Трачевскій: Русская Исторія, ч. I, Пецярбург 1895, бач. 70—71.



сткая барацьба Кіева з Полацкам, закончаная нябывала трагічным эпілёгам — ссылкай полацкіх князёў у Царгорад.

Недастатак мясцовых летапісных вестак аб Полацкіх здарэньнях тым больш даецца горка адчуць, што аўтары Кіеўскіх і інш. летапісаў, з каторых і даведваемся аб гэтых здарэньнях, не маглі быць да Полацка безстароннымі. Наадварот, у Кіеве імя Полацка ў старыя часы, паводле ўсяго, выгаварвалася з адценкам глыбокай упярэджанасьці, задорным тонам забабону...

Дакумэнтам гэтага зьяўляецца цікавая легенда «о предивном чюде у Полотську», згодна з Іпацкім, а йшчэ лепш Цьвярскім летапісам «об устрашеніях и мечтах бѣсовских в Полотску при князѣ Всеславѣ». Летапісец у наіўна-дзіцячым тоне расказвае аб штуках бясоў над Палачанамі на гарадзкіх вуліцах і пляцох падчас пануючай у Полаччыне ў 1092 г. нейкай пошасьці, захапіўшай з сабой многа людзкіх ахвяраў. Сам факт вялікага пашырэньня гэткай легенды, якая сталася нават сюжэтам народнай дасьціпнасьці й запісана з многімі варыянтамі ў шматлікіх летапісных аглядах, зьяўляецца выразным доказам, як адносіліся суседнія землі да далёкай Полаччыны. Падобна таму, як Літоўская зямля доўгі час лічылася жаралом усялякіх дзіваў і чараў, гэтак краіна Полацкіх Крывічоў у XI—XII в. слыла, як старонка чараў і загадачных зьяваў, лічылася нейкім зачараваным кутком.

Незважаючы на гэткую легендарнасьць вестак аб старым Полацку, адна магутная асабістасьць з сям'і Полацкіх князёў пакінула па сабе вельмі яркі й выразны знак на фоне ўдзельна-вечавой гісторыі. І быў час, калі імя гэтай асобы шырака разнасілася ў народнай погаласцы ў самыя далёкія куткі ўдзельна-вечавой Русі; калі імя гэта было аднолькава слаўным і грозным ува ўсіх слаёх тагочаснага грамадзянства, пачынаючы ад ягоных вярхоў, у асобах прадстаўнікоў многалічнай княжай сям'і Рурыкавічаў, і канчаючы глыбокімі нізамі народу пад відам ці то неспакойных грамадаў свабодалюбівага веча на Кіеўскім рынку, ці то цёмных масаў чужаземнага насельніцтва, у родзе фінскага племя — Воді.

Гэта імя было імем *Полацкага князя Усяслава.* Гэты слаўны князь пракняжыў у Полацку цэлых 57 гадоў (1044—1101 г.г.). Лічба нязвычайная нават для багатай вялікімі людзьмі ўсесьветнай гісторыі.

Асоба князя Усяслава Брачыславіча цікавая так-жа й з іншага боку: падобна як і многія з вялікіх людзей, князь гэты пакінуў па сабе ў гісторыі падвойны сьвет, дваякую памяць: „Слова аб палку Ігаравым" творыць Усяславу сьветлы арэол адважнага ваякі, добрага панаўніка, справядлівага судзьдзі й народнага героя, а з другога боку—Усяслаў быў героем паэтычнай казкі й народнай фантастыкі: летапіс рысуе нам яго, як „рожденного от волхвования" і „няміласэр-

нага на праліцьцё людзкой крыві", урэшце паэтыка народных пяўцоў з гістарычнага Усяслава вытварыла тып казачнага перакіншчыка, каторы „днём людзей судзіць і ўпраўляе князёўскімі гарадамі, а ўночы воўкам носіцца".

Але прыступім да характарыстыкі нашага беларускага нацыянальнага героя — князя Усяслава Брачыславіча.

Як адпраўны пункт дзеля характарыстыкі Полацкага князя возьмем водклік аб ім летапісных жаролаў з 1044 году:

„В лето 6552, — чытаем у Лаўрэнцеўскім летапісе,—умре Брячислав, сын Изяславль, внук Володимера, отець Всеслав, и Всеслав, сын его, седе на столе его, его-же роди мати от волхвования; матери-бо родивши его, бысть ему язвено на главе его: „се язвено навяжи нань, да носит е до живота своего", „еже носить Всеслав и до сего дне на себе; сего ради немилостив есть на кровопролитие".

Гэткі, так сказаць, палітычны пашпарт выдадзены летапісцам Усяславу Брачыславічу ў важны для яго год пасаджэньня яго на Полацкі пасад, у важны мамэнт выступленьня яго на сцэну гісторыі.

Так ці йнакш, але ўспомненая цытата з Лаўрэнцеўскага летапісу адносіцца, бяз сумліву, у лік загадачных бачынаў летапіснага тэксту. З аднаго боку чуваць тут водгалас усім ведамай казкі аб чарадзею Волху й старасьвецкай быліны аб багатыру Волху Усяславічу, з другога боку — казачна-былінная фантастыка умела тут пераплеценая рэальнасьцю прастадушнай легенды аб загадачным „язвено на главе его" ад самага нараджэньня й аб насімым ім чарадзейскім талізмане. І ў гэткую вось рамку, дзіўна размалёваную паэтыкай і забабонам народных погаласак, устаўлены аканчальны пагляд аб маральным вобліку князя, як чалавека суровага й неміласэрнага на кровапраліцьце. Падобная характарыстыка асабліва падатную глебу дзеля свайго распашырэньня магла знайсьці іменна ў Кіеве, пад уладу каторага не хацеў скланіць сваей гордай галавы магучы Полацкі князь.

Але на паказаньне аб чарадзейскім нараджэньні Полацкага князя ня можна глядзець толькі, як на звычайны прадукт забабоннасьці й народнай цемры.

Нараджэньне людзей «от волхвования" і наагул наднатуральнае іхняе паходжаньне былі звычайнымі, так сказаць, валацужнымі сюжэтамі старадаўніх вераваньняў у арыйскіх народаў. На здольных арганізатараў свайго цывільнага й ваеннага жыцьця арыйцы наагул глядзелі, як на асабліва ўздольненыя істоты, як на вялікіх герояў і магутных паўбагоў, якія паходзяць ня так, як усе людзі, але зьявіліся на зямлі спосабам наднатуральным (грэцкая мітолёгія — Геракл), чараўніцкім і найчасьцей прыймалі форму баснаслоўных апісаньняў аб нараджэньні іх з зямных матак, а ад бацькоў паходжаньня нечалавечага, галоўным чынам ад зьмеяў, якія ўважаліся ўцелаішчэньнем нязвычайнай мудрасьці й дэмонічнай хітрасьці.



Дзеля гэтага, ня трудна прадставіць, пры якіх варунках сярэднявечная й агульнаарыйская традыцыя маглі злучыцца з героічнаю асобаю Полацкага князя. Чалавек, які задзівіў народныя масы свае пары львінаю адвагай, жалезным характарам, нясчэрпанай энэргіяй і рашучай быстрынёй нанасімых udaraў; князь, які патрапляў нязвычайна ўдачна вырывацца з самых цяжкіх абцугоў, блізу безнадзейных палажэньняў, у паняцьці народу ня мог зьявіцца парадкам натуральным. Не, ён павінен быў радзіцца па чарадзейску—„от волхвования".

Пры выясьненьні прычын, дзеля якіх асоба Усяслава Брачыславіча асталася ў агульна народнай памяці з тыпічным арэолам чарадзейнага нараджэньня, трэба так-жа канечна прыпадняць занавесу над яшчэ больш цікавым кутком у псыхолёгіі самай крывіцкай паэтыкі.

У дагістарычную эпоху, калі йшчэ ня было раздрабленьня Крывічоў на паўночных і паўдзённых, на пскоўскіх і полацка-смаленскіх, вуснае паэтыцкае творства гэтага племяні, натуральна, цяклоа дным супольным руслом. Але, у меру адасабленьня аднаго ад другога паасобных галін племяні, выражэньне паэтыцкага творства іх у казках і былінах стала разрозьнівацца. Аднак, першая супольнасьць паэтыцкіх традыцыяў, мотываў, сюжэтаў, нават мясцовага колёрыту, у творчасьці счэзнуць не магла. Гэта выразілася ў цікавым працэсе вытварэньня з гістарычнага Усяслава легендарнага перакіншчыка й чарадзея. Мы хочам гэтым сказаць, што на гістарычную асобу Полацкага князя крывіцкая творчая думка пакінула паэтыцкую вопратку быліннага багатыра Вольха Усяславіча, а гэты апошні ў сваю чаргу апранены быў ею ў фантастычную вопратку чарадзея Волха, героя з казачнага эпасу.

Гэта ўнутраная пасваячанасьць двух тыпаў—казачна-песеннага й легендарна-гістарычнага—станецца йшчэ больш канкрэтнай пры падрабязным супастаўленьні рысаў Усяслава Брачыславіча, як ён нарысаваны ў летапіснай казцы й у прыпеўцы вешчага Баяна, з рысамі Вольха Усяславіча — паводле дзьвюх захаваных аб ім былінаў.

Летапіс кажа: „сего Всеслава мати роди от волхвования". Гэты сухі й ляконічны фрагмэнт сачыстымі фарбамі быліны, запісанай у зборніку А. Данілава, размалёваны ў наступны жанравы абраз:

„По саду, саду зелёному, ходила, гуляла
Молода княжна Марфа Всеславьевна,
Она к камени скочила на лютого, на змея.
Обвивается лютой змей около чебота зелен-сафьян
Около чулочика шелкова, хоботом бьёт по белу стегну
А в то поры княгиня понос понесла,
А понос понесла и дитя родила".
(быліна VI, бач. 38)

Як істота надпрыродная, ад самага ўжо свайго нараджэньня, як сын зьмея-перакіншчыка, багатыр Волх Усяславіч мае прароцкую прыроду. Згэтуль становіцца зразумелым, чаму падарожныя калекі ў павучальнай прамове Ільі Мурамцу адзначаюць у Волха іменна „хітрасьць-мудрасьць".

„Не ходи на Вольгу Сеславьевича
Он не силою возьмет,
Так хитростью-мудростью".

У прыпеўцы вешчага Баяна, запісанай у „Слове аб Палку Ігараве", Полацкі чарадзей таксама названы „хитрым, горазды и человеком вещей души".

Як ведама, перакіншчыцтва было спадкаемнай рысай Волха й былінная фантастыка справядліва прадстаўляе гэта перакіншчыцтва, як нутраную канечнасьць, як арганічны поклік багатыра з самага ягонага дзяцінства.

„Стал Вольга растеть-матереть
Похителя Вольге много мудрости
Щукой-рыбой ходить ему в глубоких морях,
Птицей-соколом летать под оболока
Серым волком рыскать во чистых полях,

На князя Усяслава народная фантастыка глядзіць таксама, як на перакіншчыка-ваўкалака. У мірным часе:

„Всеслав князь людем судяше, князем грады радяше, а сам в ноч волком рыскаше".

У ваенным-жа часе Усяслаў адзначаецца хуткасьцю імкненьня сваіх рухаў у прасторы:

„Скочи лютым зьверем в полночи из Белграда, скочи волком до Немиги с Дудуток"; „из Киева дорыскаше до Тьмутороканя" і інш.*)

Гэтак сама быстры багатырскі скок у Волха Ўсяславіча:

„Побежал Волх к царству Индейскому,
Он первый скок за целу версту скочил,
А другой скок не могли найти".

Рысы вядзьмарства й чарадзейства праяўляюцца ў Усяслава надпрыродным чуцьцём гукаў з далёкай адлежнасьці:

„Тому в Полотьске позвониша заутреню рано у святыя Софии в колоколы, а он в Киеве звон слыша".

Волх Усяславіч таксама абдараны падобнаю казачнаю здольнасьцю:

„Ясным соколом он мчится к царству Индейскому, садится на косящатом окошке палат белокаменных и слышит таинственный разговор царя Салтыка з царицей Азвяковной".

Паводле летапіснай казкі, князь Усяслаў «немилостив был на кровопролитие». А ў Волха лютасьць была быццам спадкаемнай рысаю, ад чаго й атрымаліся гэтак суровыя наказаньні:

„Гой еси вы, дружина хоробрая,
Ходите по царству индейскому

*) „Слова аб Палку Ігаравым".



Рубите старого, малого,
Не оставьте в царстве на семена".

Такім чынам, для нас яснай становіцца гэна лябораторыя, у каторай паэтыцкая творчасьць Крывічоў з паганскай веры ў чары, з рэлігійнай фантастыкі твора чарадзейную казку аб багатыру-чарадзею Волху, а праз яго ў мастацкай пераапрацоўцы прафэсыянальных пераказчыкаў прыгатаўляецца прыгожы сюжэт для разбудоўкі чароўнай апотэозы свайму нацыянальнаму герою — князю Усяславу, каб паказаць ягоную адчайную схватку з Кіевам і Яраславічамі, каб прадставіць ягоныя сьмелыя паходы супроць Ноўгарада й Пскова.

Цяпер зьяўляецца пытаньне, кім-жа ўласьціва быў магутны Крывіцкі князь, як гістарычны тып, грамадзкі дзеяч і як маральны характар; ці справядлівы быў пагляд летапісца на суровасьць князя («сего ради немилостив был на кровопролитие»)?

Каб устанавіць правільны й об'ектыўны пагляд на асобу Полацкага князя Усяслава, канечна трэба сабраць у адзін цэлы абраз увесь матарыял з гісторыі ўзаемаадносінаў Усяслава, як Полацкага князя, да сучасных яму князёў і суседніх краёў, а так-жа выясьніць барацьбу Усяслава з сваімі ворагамі за самастойнасьць і незалежнасьць Полаччыны з пункту гледжаньня тых культурных варункаў, якія існавалі ў другой палавіне XI стагодзьдзя ў удзельнай Русі. Тады з туманнай далячыні сівой старасьвеччыны прад намі пакажыцца не фантастычная, але рэальная фігура; зьявіцца не пахмурны герой паэтыцкай, летапіснай легенды, але сапраўдны гістарычны дзеяч свае пары.

У летапісных жаролах ёсьць шмат матарыялаў дзеля характарыстыкі ваенных парываў Усяслава Брачыславіча. Летапісныя агляды пры гэтым ня рэдка стараюцца прыпісаць ініцыятыву сварак іменна Полацкаму князю. Звычайна ў такіх выпадках аўтары летапісных аглядаў ужываюць сумысных тэхнічных выражэньняў, напр. «поча Всеслав рать держати», «князь Всеслав присед ратию», «Всеслав седе рать почал» і г. п.

1. Першым у хроналёгічным парадку здабыўніцкім паходам Полацкага князя быў ягоны набег на м. Пскоў у 1065 г. Другі Пскоўскі летапіс прадстаўляе гэта здарэньне так:

„В лето 6573 князь Полоцкий Всеслав събрав силы своя многия, приде ко Пскову, и много труждався отъиде, ничтоже успев".

2. Больш шчасьлівым і удачным быў раптоўны напад Усяслава на Ноўгарад Вялікі ў 1066 г.

„В лето 6574 приде Всеслав и възя Новгород с жёнами и детми и колоколы съима у святыя Софии.1) О, велика баше бѣда в час тый и понекодила съима" (1-шы Ноўгарадзкі летапіс).

1) Гэтыя званы (колоколы) Усяслаў перадаў Полацкай Царкве сьв. Софіі.

3. Трэцім па парадку здарэньнем, у якім відавочна знайшла для сябе апраўданьне летапісная характарыстыка бязлітаснага характару Полацкага чарадзея, быў ведамы з свае крывавасьці бой яго з трыма Яраслвічамі ў сакавіку м-цы 1067 г. на берагох ракі Нямігі. Гэта бітва адбылася зараз-жа пасьля таго, як саюзнае войска князёў паўдзённай Русі, разграміўшы верны Усяславу Брачыславічу Менск, выбіўшы ў ім мужчынаў і забраўшы ў палон жанчын і дзяцей, урвалася ў паўдзённа-усходнюю часьць уласьцівай Полаччыны. Усяслаў сьмела загарадзіў тут дарогу сваім лютым ворагам і пагеройску ўступіў з імі ў бітву.

Крывавая схватка Палачан з паўдзённа-русамі на берагох Нямігі[1]) паслужыла паэтыцкім сюжэтам для вусна-народнага песеннага эпасу. Адгалоскам яго якраз і быў абраз бітвы, прадстаўлены аўтарам «Слова аб палку Ігаравым» ў земляробскіх нарысах малацьбы й веяньня:

> „На Немизе снопы стелють головами, молотять чепи харалужными; на плоце живот кладуть, веють душю от тела. Немизе кровави брезе не болохом бягуть посеяни, посеяни костьми русских сынов".

Акрамя адзначаных выступленьняў Усяслава Брачыславіча, трэба адзначыць ягоную абарону Полацкага пасаду ў 1070 г. ад сілком накіненага Палачанам князя Сьвятаполка Ізяславіча, ягоны трэці напад на Ноўгарад у 1077 г. і заваладаньне Смаленскам у 1078 г. Але за апошняе ён сьцягнуў на сябе гнеў Уладзімера Манамаха, каторы разам з князем Сьвятаполкам і гордамі дзікіх полаўцаў асадзіў Полацак і ў выніку прадмесьці яго былі спалены, але самая крэпасьць устаяла... Словам, ніякія жорсткасьці саюзьнікаў, ні іхнія грабяжы Полацкай зямлі, нават азьвярэласьць і барбарства полаўцаў, ня змусілі аднак Полацкага князя адказацца ад абароны незалежнасьці свае бацькаўшчыны й ад сапраўдных задачаў ягонай эканамічнай палітыкі, заветная мэта якой была: валадаць гандлёвымі шляхамі ў басэйнах Дзьвіны й Дняпра.

Дзеля правільнай ацэнкі маральнага аблічча Усяслава, ня можна забывацца й аб тым, што ў барацьбе з Кіевам князь гэты прадстаўляецца ня гэтулькі ў фарбах урачыстых перамогаў над бязлікімі сваімі ворагамі, колькі ў церпячай ролі рашучага праціўніка, бойка баронячага жыцьцё, маемасьць і зямлю сваіх людзей (грамадзян) ад барбарскага вынішчэньня іх паўдзённа-русамі і полаўцамі. Ён пераносіць беды й цярпеньні ад другіх людзей значна больш, чым сам іх прычыняе.

Вось чаму й «Слова аб палку Ігаравым» ў асобе Усяслава бача недасяжны прыклад і высокі ідэал для ўсіх ягоных патомкаў, тым больш, што апошнія паказаліся недастойнымі свайго вялікага дзеда, «выскочили из его славы», маладушна скланіўшы прад ворагамі свае сьцягі і зламжыўшы ў похвы свае вышчэрбленыя мечы.

Такім чынам, калі водклік аўтара «Слова» аб Усяславе параўнаць з усей характарыстыкай гэтага-ж князя, дык абраз яго, як князя бязлітаснага, павінен зьнікнуць.

Яшчэ больш няправільнай пакажыцца летапісная характарыстыка Усяслава, калі прыняць пад увагу дакладныя цыфровыя дадзеныя з хронолёгіі ягонага княжэньня. Вышэй паказаны крывавы рад гадоў (1065—1070, 1077—1078 г.г.) барацьбы Усяслава з Яраславічамі не прадстаўляе нават пятай часьці ўсяго ягонага княжэньня, якое абыймае больш, як поўвекавы пэрыяд часу (1044—1101). На працягу 10—цёх гадоў княжэньня Яраслава Мудрага (1044—1054) і ў першае дзесяцігодзьдзе панаваньня ягонага сына Ізяслава (1055—1065) Полацкі князь жыў у поўнай згодзе з Кіевам. Пад 1060 годам успомнены ў летапісе нават супольны паход трох Яраславічаў з Усяславам процiў Тюркаў (народ тюрка - татарскага паходжаньня), які давёў гэтых качаўнікоў блізу да поўнай гібелі. Гэткае ўчасьце Усяслава ў агульна-народнай абароне рускай зямлі й яшчэ маладой ейнай культуры ад націску дзікіх сьцяповых грабежнікаў у той час, калі сама Полаччына ўжо пачынала цярпець ад нападаў Літвы, загадвае сумлівацца, як мог Усяслаў парваць доўгалетні (1044—1064) саюз з Кіевам без паважных да гэтага прычын, а толькі пад уплывам кравжаднага інстынкту заваяваньня або з прычыны нездаволенага пачуцьця гонару.

Летапісная хронолёгія паказвае, што цэлыя сорак гадоў княжэньня Усяслава прайшлі спакойна, бяз крывавых сутычак з паўдзённа-рускімі князямі,—знача княжэньне было пасьвячана культурнай рабоце. Магутным адгалоскам народнай памяці аб гэтай нутранай канструктыўнай дзеяльнасьці Усяслава зьяўляецца сказ у «Слове»:

> „Всеслав князь людям судяше, князем грады рядяше".

Гэтым сказам, па першае, падчырківаецца дзейнае ўчасьце Усяслава ці то асабістае, ці праз намесьнікаў, і цівуноў, пры разборы ўсялякага роду справаў і жалабаў, узьнікаўшых сярод народу, сярод гарадзкіх і сельскіх жыхароў Полацкага княства, а, па другое,—словамі «князем грады рядяше»,—падчырківаецца кіруючая гаспадарственная дзейнасьць Усяслава, якая праяўлялася ў разьмяшчэньні па ўдзелах Полацкага княства многалічных з ягонай сям'і сыноў, унукаў і праўнукаў на падставе «рядов»[1]) ці дагавораў, на што патрэбна было глыбокае знаёмства індывідуальных свомасьцяў князёў, дакладнае знаёмства мясцовых патрэбаў, жыцьцёвы досьлед, гас-

---

1) Няміга — адны гісторыкі кажуць, што гэта р. Нёман, а другія лічаць Нямігай тую рэчку, ад каторай каля Менску астаўся ручаёк Нямігга, які ўліваецца ў раку Сьвіслач.

1) Слова „рядить" у стараславянскіх памятніках абазначае — кіраваць, упраўляць, распараджацца.

падарственная тактоўнасьць, што й азначаецца, як характэрная рыса Усяслава.

Тая самая летапісная крыніца дае цьвёрдыя падставы лічыць князя Усяслава, як першага будаўнічага аднаго з найстарэйшых і найцаньнейшых царкоўных памяткаў Беларусі, паймення — саборнага храма сьв. Софіі ў Полацку.

„Тому в Полотськe, — кажа „Слово", — позвониша заутреню рана у Сьв. Софіі в колоколы, а он в Кыеве звон слыша".

Каб ясна зразумець гэта месца «Слова», трэба мець на воку, што Усяслаў ад м-ца ліпня 1067 г. аж да красавіка 1069 г. знаходзіўся ў Кіеве, спачатку, як ваенна-палонны, у цёмным падвале, а пасьля,—як вялікі князь (у 1068 г. Кіеўляне паўсталі проціў вял. князя Ізяслава й прагналі яго, а на вялікакняскі пасад узьвялі Усяслава Полацкага, прад тым пасаджанага старшымі князямі ў вязьніцу).

І тут якраз Усяслава, як гарачага патрыёта, відавочна мучыла туга за бацькаўшчынай, за Полацкай Софіяй, якая асабліва дарагая была ягонаму сэрцу, як ейнаму будаўнічаму, што нават гук Софійскіх званоў быў добра знаёмы княжаму слуху, бо-ж Усяслаў быў і фундатарам гэтых-жа званоў.

«Слова аб Палку Ігаравым» паэтычна паказала гэту «тугу за бацькаўшчынай« Полацкага князя ў пекным мастацкім сымболю чараўніцкага чуцьця князем здалёку знаёмага перазвону Софійскіх званоў. Гэта напамінаньне аб Полацкай Софіі адносна часу аказваецца самым старадаўным дакумэнтам, з якога адкрываецца, наколькі Софійскі храм блізкі быў сэрцу Усяслава Брачыславіча.

Адпадае так-жа ўсякая тэндэнцыя прадставіць князя Усяслава «немилостивым на кровопролитие», жорсткім, бо паводле дакладнага хроналёгічнага аблічэньня, як вышэй ужо было ўспомнена, нават пятая часьць ягонага княжэньня ня была праведзена на войнах.

Калі мы бліжэй і глыбей удумаемся ў глыбейшыя матывы сутычкі Усяслава з Яраславічамі, дык пабачым, што ў крыві Усяслава, як аднаго з Рогвaладавічаў, жыла пастаянная, прыродная, стыхійная ненавісьць да Яраславічаў. Ягоная душа жадала крывавай радовай помсты за зьняважаную чэсьць Рагнеды, насільна аддадзенай замуж за Кіеўскага князя Уладзімера, і за забойства ваяводам Дабрынёю ейнага бацькі, маткі і двух братоў. Усяслаў вельмі добра разумеў, што пагалоўнае вынішчэньне мужчынскага пакаленьня Рогвалада ня было выпадковым рэзультатам жорсткай мсьцівасьці Дабрыні ці звычайнай праявай фізычнай сілы заваяваньня з боку Кіева: даводзячы да ваенна-тэрыторыяльнага захапленьня Рогвaладавых земляў, яно ў сапраўднасьці азначала палітычную сьмерць Полацкага княства, як самастойнага гаспадарства. Вот чаму ў часе княжэньня Усяслава трагічная барацьба Кіева з Полацкім княствам дасягае крайняга напружаньня.



І пакуль на чале Полацка стаяў Усяслаў, датуль, натуральна, ягоная нясчэрпаная энэргія, нязломная воля й львіная адвага, апёртыя пры гэтым на магутнае падтрыманьне Полацкай краёвай сілы, служылі надзейнай запорай, састаўлялі моцнае апірышча проціў захопніцкіх плянаў Кіева.

Па сьмерці Усяслава ў гісторыі ўзаемаадносінаў Палачанаў і Паўдзённа-Русаў азначаецца пералом. Ужо ў другой палавіне княжэньня Усяслава, калі на паўдзённым кругазоры Русі праціўнікам Полацкага князя Усяслава зьяўляецца Уладзімер Манамах, ваенныя сутычкі Полацка з Кіевам замест дагэтуляшняга зачэпніцкага набываюць характар абаронны. Бязспрэчная перавага паўдзённай коаліцыі над Усяславам у другой палавіне княжэньня, асабліва ад 1077 г., калі ваенныя й матарыяльныя сілы Полацкага княства ў напружанай барацьбе былі даволі вычэрпаны, паказалася ў жорсткім спусташэньні Полаччыны войскамі коаліцыі й у разгроме цэлага раду гарадоў — Менска, Друцка, Полацка і інш.

Паходы сына Уладзімера Манамаха — Мсьціслава — на Крывічоў у 1127 і 1129 г.г. былі сумнай разьвязкай трагічнай векавой барацьбы Рогвалодавічаў з Яраславічамі.

Калі ў 1129 г., на наказ Кіева прыняць учасьце ў паходзе на полаўцаў, Усяславічы адказалі адмоўна, засланяючыся мноствам сваіх хатніх неадкладных спраў у Полацкім княстве, тады вялікі князь паддаў іх бязпрыкладнай жорсткай кары. Блізу ўвесь род Усяславічаў у асобах галоўных ягоных прадстаўнікоў, разам з іхнімі жонкамі і дзяцьмі, быў на прыказ разгневанага князя схоплены й высланы з Краю аж у Царгорад, а Полаччына, як звычайны удзел Манамахавічаў, была аддадзена пад уладу вялікакняскіх намесьнікаў, на чале з Ізяславам, сынам вялікага князя. Гэта зганьне і было эпілёгам крывавай барацьбы Рогвалодавых унукаў з унукамі Яраслававымі у XI—XII в.в.

Пачаўшы ад пагалоўнага вынішчэньня Дабрынёю мужчынскага караня Рогваладавага патомства, г. зн. ад фізычнай, так сказаць, сьмерці Полацкай княскай дынастыі, гэта барацьба заканчываецца так-жа пагалоўнай высылкай з роднага краю узноўленага, ужо па жаноцкай лініі, таго самага патомства, г. зн. цывільнаю сьмерцю дынастыі. Гісторыя аднак даказала, што, незважаючы на нязвычайнасьць гэтак выняткавых мерапрыемстваў, Мсьціслаў, падобна як і Дабрыня, зусім не патрапіў дасягнуць намечанай мэты... Вынішчанае Дабрынёю мужчынскае пакаленьне князя Рогвалада, як ведама, узноў аджыло па жаноцкай лініі, узноў ускрэсла ў асобах многалічных прадстаўнікоў Рагнедзічаў, каторыя й аселі ў удзелах Полаччыны, абноўленай самым-жа Уладзімерам. Таксама й сасланы ў Грэцыю род Рогваладовічаў хутка па сьмерці Мсьціслава (15.IV.1132 г.) узноў зьявіўся ў родным горадзе й вярнуў сабе правы на Полацкі пасад пры маўклівай згодзе

вялікага князя. Як у 1070 г. князь Усяслаў, у той час бедны бяздомнік і палітычны згнаньнік, прагнаў з Полацкага пасаду накіненага Крывічом Сьвятаполка Ізяславіча, так у 1133 г. выгнаны быў з Полацка другі Сьвятаполк, сын Мсьціслава, заменены ўнукам Ўсяслава — Васільком.

Такім чынам, прасьледзіўшы коратка аснаўны ход барацьбы ўнукаў Рогвалада з унукамі Яраслава, мы можам зрабіць безпамылковы вывад, што гэты векавы працэс трэба разглядаць не як прадукт асабістых узаемаадносінаў двух княскіх родаў, не як рэзультат самай толькі ініцыятывы й жалезнага характару Усяслава, але як цьвёрдая і няўклонная абарона Крывічамі сваей самабытнасьці, сваей свабоды, свайго палітычнага й социяльнага ладу. У гэтай барацьбе асабліва выразна паказалася лучнасьць князя з народам.

Ацэньваючы роль самага Усяслава ў гэтых падзеях, можна сказаць, што ў ягонай асобе на гістарычную арэну выступіла фігура выразнай сілы й характва, асоба моцная сваім розумам, энэргіяй і творствам... З рэдкай уніклівасьцю князь гэты згадываў схаваныя замыслы Яраславічаў аб Полаччыне і разам з тым выразна прадстаўляў сабе ейныя вялізарныя беды, жыва адчуваў ейныя рэальныя патрэбы, зорка прыглядаўся ў неадкладныя задачы будучага ейнага існаваньня й разьвіцьця.

Падобна ўсім наагул гістарычным тыпам, Усяслаў Брачыславіч ня толькі патрапіў павязаць, аформіць і надаць кірунак асобным здарэньням роднай гісторыі, але пасьпеў прысьпяшыць самы іхні ход. Быстра апанаваўшы думку й настрої народных масаў, ён зварухнуў сучасныя сабе грамадзкія сілы й знайшоў натуральны выхад для іхняй багатай і ўтоенай энэргіі. Увесь глыбокі свой розум, усю вытрываласьць волі, кіпучую гарачасьць тэмпэрамэнту Усяслаў аддаў на служэньне дабрабыту Полацкага княства, цалком пасьвяціўшы сябе абароне свабоды Полацка, геройскай абароне яе ад прэтэнсыяў Кіева.

Дзеля гэтага безстаронны дасьледчык ніколі ня можа, насупроць летапіснаму паведамленьню, назваць Усяслава ініцыятарам і вінавайцам крывавых спрэчак паміж Полацкам і Кіевам; гэта барацьба з Кіевам асталася Усяславу ў спадчыне з часаў ранейшых і прычыны ейныя закарэнены выключна ў імкненьні Кіеўскіх князёў падпарадкаваць сваім уплывам аграмадныя прасторы Полацкага княства з ягонымі удзеламі.

Ня можна, бяз сумніву, не згадзіцца, што выдатная роль Усяслава ў гісторыі Беларусі ў значнай меры стварылася шчасьлівым і трафным спалучэньнем ягонага аблічча духовага, ягоных палітычных і эканамічных ідэалаў з аднаго боку, і племянных і гаспадарскіх імкненьняў Палачан — з другога. Гэтым рэдка трафным спалучэньнем і аб'ясьняецца чынная падтрымка й самаахвярная вернасьць Палачан для роду Рагнедзічаў, іхны патрыятычны настрой, гарачая любоў да родных ніваў, вернасьць сямейным асяродкам і геройская рашучасьць перамагчы або памерці, баронячы сваю грамадзкую й палітычную незалежнасьць. Гэтыя самыя абставіны ператвараюць Усяслава ў магутнага арганізатара мясцовых краёвых сілаў, зрабілі з яго носьбіта й выразіцеля народнай волі й вытварылі яму разам з тым славу народнага любімца, непераможнага павадыра, магутнага чарадзея.

Гэту праяву прыгожай гармоніі між кіруючымі кругамі й грамадзянствам усей Полаччыны характарызуе дальшы ход Полацкай гісторыі (XI—XIII в.в.). Ужо даўна заўважылі гэта расейскія вучоныя дасьледчыкі, напр. В.Е. Данілевіч і Пассек. Аднак моцная й дружная падтрымка Полацкімі краёвымі сіламі Рогвалодавічаў у іхняй барацьбе з Яраславічамі зусім не абязцэньвае вялікага ўкладу ў гэту справу князя Усяслава Брачыславіча.

Князь Усяслаў быў ня толькі сынам свайго народу, але сынам вельмі здольным, аказаўшым свайму народу вялізарную й неацанімую ўслугу; ён ня толькі быў носьбітам грамадзкай думкі і выразіцелям народных патрэбаў, але й дамінуючым, незалежным характарам, які мог пацягнуць грамаду сілай сваей творчай ініцыявывы, цьвёрдай воляй і жалезнай энэргіяй. Усяслаў Брачыславіч астаўся да канца верным гэнай палітычнай ідэі — ідэі незалежнасьці й самабытнасьці свайго княства, пад знакам каторай прайшло больш чым поўвяковае ягонае служэньне Полаччыне.

Дзеля гэтага няма дзіва, што князь Усяслаў нарысаваны ў дасьціпнай сазе[1]) і апяяны народнай песьняй іменна, як адважны змагар за крывіцкае племя і як гарачы абаронца »бацькаўшчыны Рагнеды” ад прэтэнсіяў і крыўдаў князёў кіеўскіх.

Усяслаў высака падыймаецца на гістарычнай сцэне і сходзіць згэтуль стройнай і самапэўнай фігурай, дакладна вытрыманым і верны свайму характару.

У глыбокай старасьці, акружаны многалічнай сям'ёй сваіх сыноў і ўнукаў, Усяслаў быццам адходзіць ад кіпучага палітычнага жыцьця удзельна-вечавой пары (пэрыяду), але затое ўсёцэла аддаецца дамовым справам свайго княства. Ня трывожаны ворагамі ў часы княжэньня баязьлівага кіеўскага Сьвятаполка II (ад 1093 г.), накідаючы ім страх і пашану, Полацкі Чарадзей мірна дажывае рэшту сваіх дзён, як няўтомны стораж і верны абаронца бацькаўшчыны Рагнеды.

Так, Полаччына, не зважаючы на адвагу й храбрасьць, як Усяслава Брачыславіча, так і другіх сваіх князёў, не ўстаяла проціў націску паўдзённа-рускай коаліцыі. Але гэта ня была віна Усяслава Брачыславіча! Полаччына, пасьля таго, як обласьці Ноўгародзкая і Пскоўская падпалі пад уплыў кіеўскіх

1) Сага — казка гістарычная.

Яраславічаў, апынулася ў небясьпечным палажэньні: яна стала географічнай церазпалосіцай паміж паўночнымі й паўдзённымі землямі кіеўскага князя. А ведама, што церазпалосіца заўсёды служа яблыкам нязгоды, робіцца арэнай крывавых спатычак плямёнаў і іхніх павадыроў, прычым жыхары такой церазпалосіцы нярэдка ня толькі трацяць вонкавую палітычную свабоду, але нарушаецца і ейны ўнутраны самабытны ўклад грамадзкага жыцьця. Гэткім ёсьць закон гістарычнай канечнасьці, каторы няўклонна прасьледуе беларускі народ і па сягоньняшні час.

Незалежнае Полацкае княства было сапраўды географічнай запорай для зьбірацельскіх палітычных задач Яраславічаў, якія ўпарта імкнуліся да аб‘еднаньня ў адно цэлае гаспадарства (дзяржаву) цэлага раду вагромных абшараў уздоўж рэк і вазёраў «вялікага воднага шляху.“

Упартае процідзеяньне зьбірацельскай сіле Кіева — гэта палітычная істота старадаўнага княжага Полацка з часоў X—XII в.в. Тут дзеля таго трэба шукаць глыбокіх каранёў трагічных сутычак і ваенных парываў Усяслава Брачыславіча, для вытлумачэньня якіх перапужаныя Ноўгарадчане пасьпелі злажыць сваю слаўную казку аб прыроднай, выйшаўшай з чарадзейскага нараджэньня, няміласэрнасьці князя Усяслава на праліцьцё крыві.

Трэба адзначыць, што пагляд на векавую, бязпрыкладна жорсткую спрэчку паміж унукамі Рогвалада і Яраслава імена, як на барацьбу полацкіх князёў і Крывічоў за сваю незалежнасьць ад Кіева, — мае ў расейскай гістарычнай навуцы вельмі моцную і даўную традыцыю. Цікава, што гісторыкі самых розных кірункаў сходзяцца ў такім азначэньні аднае з істотных свомасьцяў дасьледжванага намі гістарычнага зьявішча. Гэтак, гісторык Н. М. Карамзін кажа:

»Полацкія князі здаўна аддзяліліся, так сказаць, ад Расеі, хочачы быць ўладарамі незалежнымі»[1]).

Н. Устрялов разьвівае такую думку:

«Усяславічы, раней чым другія патомкі Уладзімера Сьвятога, хацелі быць незалежнымі і, не прызнаючы пяршынства вялікага князя кіеўскага, бязупынна працівіліся дому Яраслава Мудрага»[2]). Гэты самы пункт гледжаньня падзяляе і праф. В. Б. Антановіч, кажучы:

«Раней іншых рускіх земляў выдзялілася ў родзе Ізяслава Ўладзіміравіча вобласьць Полацкая.[3])

Тыя самыя думкі выказваюць: О. Турчинович,[4]) И. Зеленскій, Д. Я. Самоквасов і інш.

---

1) „Исторія Государства Россійского,“ бач. 173.
2) „Русская Исторія, ч. I, выд. 1855, бач. 95.
3) „Монографіи по исторіи Западной и Юго-Западной Россіи,“ т. I, Кіеў 1885 г. бач. 18.
4) „Обозрѣніе исторіи Бѣлоруссіи с древнѣйшых времён, 1857 г. бач. 38.



Урэшце наагул трэба сказаць, што на княжэньне Усяслава Брачыславіча (1044—14.IV.1101) трэба глядзець, як на пэрыяд прабуджэньня ў Полаччыне дрэмлючых сілаў палітычнай цэнтралізацыі. Сьмелы, храбры й рашучы Усяслаў быў дастойным выразіцелям цэнтра-гонных грамадзкіх і палітычных плыняў у Полацку. Гэтак сама характарызуюць Усяслава і вучоныя-гісторыкі. Так, праф. И. Д. Беляеў кажа:

„Усяслаў быў самым ваяўнічым, няўтомным і знаходчывым з усіх сучасных яму князёў рускіх; ягоныя ваенныя перамогі, ягоная ўмеласьць выходзіць з небясьпекі і пасьля няўдачы ня траціць надзеі, а рабіцца йшчэ сільнейшым, аславілі яго, як чараўніка, каторага жалеза не бярэ і каторы абяртаецца ў шэрага ваўка, носіцца па палёх і лясох нябачаным там, дзе яго не чакалі і чакаць не маглі[1]).Праф. Доўнар-Запольскі гэтак адзываецца аб князю Ўсяславе:

«Сваім розумам, сваім няўтомным, прадпрыемчывым характарам гэты князь астаўся на доўга ў памяці народу; аб ім пачалі ўжо хадзіць легенды, як аб чарадзею; апавяданьні гэтыя, перадаваныя ў народзе, папалі ў памятнікі пісьменства—летапісы і «Слова аб палку Ігаравым[2]). У такім-жа родзе дае характарыстыку Усяслава Полацкага В. Е. Данілевіч:

„Наагул Усяслаў зьяўляецца аднэй з найбольш сьветлых асабістасьцяў свайго часу, і няма дзіва, што ўваччу сучасьнікаў ён зьяўляецца нейкай істотай надпрыроднай, чарадзеем і перакіншчыкам»[3]).

Наступнікі князя Усяслава не змаглі, як ужо вышэй было зазначана, і з прычын ад іх незалежных, даць адпор жорсткаму націску паўдзённа-рускага цэнтралізму. Аднак, згуба абласной самастойнасьці аказалася кароткачасовым зьявішчам у Полацкай гісторыі. У хуткім часе яна ўзноў атрымоўвае законамерны ход. Асвабадзіўшыся ад Кіеўскай апекі, Полаччына распадаецца на удзелы, а ў пачатку XIII ст. разам з ваяўнічымі літоўскімі плямёнамі творыць магутнае Літоўска-Беларускае Гаспадарства.

---

1) „Очерк исторіи Сѣверо-Западнаго Края Россіи,“ Вільня 1867, бач. 20—21).
2) „Очерк исторіи Кривичской и Дреговичской Земель до конца XII ст.“, Кіеў, 1891, бач. 77.
3) „Очерк исторіи Полоцкой Земли до конца XIV ст.,“ Кіеў, 1896, бач. 63—64.

# Кнігапіс

*Віра Свенціцка* **„Різьблені ручні хрести XVII—XX в. в."** Ч. I-II, Львоў, 1939. (**„Збірки Національного Музею у Львові"**). Выданьне Саюзу Прыхільнікаў Нацыянальнага Музэю ў Львове.

У ч. I сваёй працы аўторка разглядае ручныя галіцкія крыжы (XVII—XX в. в.), якія знаходзяцца ў ліку са 230 у Нацыянальным Музэі ў Львове. Ч. II зьмяшчае ілюстрацыі.

З працы даведываемся, што галіцкія крыжы адзначаюцца наагул прасьцінёй выкананьня й композыцыі і ўступаюць значна з мастацкага боку крыжом наддняпроўска-украінскім. Асяродкамі вырабу крыжоў, як трэба думаць, былі ў першую чаргу манастырскія майстроўні. (Манявські Скіт, Крэхоўскі й Кіеўскі манастыры). Аб гэтым мы можам судзіць перадусім на падставе гістарычных жарол. Напр. у канцы 1657 г. ігумен Крэхоўскага манастыра прывёз цару Аляксею Міхайлавічу мошчы сьв. Барбары й Сьцяпана, „6 ложок и 2 креста рѣзныя". Вядомы йзноў-жа дрэварыт крэхоўскага ігумена Сенкевіча з 1699 г. Відаць, там была цэлая граверная школа! На падставе досьледаў О. Т. Сьцяпанавай („Матеріяли до вивчення української деревляної різьби" — „Мистецтвознавство" т. I, Харкаў, 1928(29) выглядае аднак, што кіеўскія крыжы выраблялі майстры-мяшчане.

З агульнага ліку датаваных ёсьць 72 крыжы. Даты на іх зьяўляюцца вельмі важнымі ор'ентацыйнымі пунктамі пры азначэньні часу іншых недатаваных крыжоў, што ёсьць наагул вельмі трудным. Часта крыжы аднаго тыпу паўтараюцца на працягу больш сотні гадоў і, азначаючы іх час на падставе іканаграфічна-стылістычных рысаў, можна памыліцца. У даным выпадку мы маем факт існаваньня пэўнага асяродку вырабу, які захаваў доўгі час традыцыю.

Далей аўторка дакладна разглядае графічны, композыцыйны, тэматычны бок крыжоў, іх будову, надпісы на іх, часовае паходжаньне і т. п., параўноўваючы часта крыжы галіцкія з іншымі й выкарыстоўваючы адпаведную літаратуру. Можа за мала, на наш пагляд, адзначаны ўзаемныя ўплывы й сувязь народнае разьбы й разьбы разгляданых крыжоў. Гэта аднак вымагала-б значнага пашырэньня досьледаў, што не ўваходзіла наагул у заданьне працы. Пры чытаньні працы гр. Веры Сьвенціцкай мімаволі насоўваецца думка, каб і беларускія дасьледавальнікі заняліся распрацоўкай іконаграфічных скарбаў Беларускага Музэю ў Вільні. У іх працы прыгожая кніжка аб галіцкіх крыжох была-б неабходнай і вельмі карыснай.

*Хв. I—ч*





## Ляля Мэнке

(*пасьмертны ўспамін*)

З маладога пакаленьня мала хто ведаў Яе, але старэйшыя беларускія дзеячы добра памятаюць тую працу, якую нябожчыца ахвярна давала беларускай справе падчас сусьветнае вайны й нямецкае акупацыі.

Быбух сусьветнае вайны пазбавіў Беларусаў шмат чынных работнікаў на нацыянальнай ніве, пакліканых у армію. Эвакуацыя Вільні Расейцамі забрала блізу цалком рэшту нашых актыўных сіл у сталіцы нашага краю. У Вільні асталіся лічаныя адзінкі. А тым часам жыцьцё вымагала вялізарных высілкаў, каб ня толькі ня даць заняпасьці беларускай справе, але каб належна выкарыстаць дзеля яе новыя абставіны: у першую чаргу трэба было арганізоўваць беларускія школы, далей — беларускі тэатр і іншыя культурныя установы й арганізацыі.

У гэтую важную для Беларусаў часіну ўвайшла ў беларускую сям'ю маладая, поўная сіл, жыцьцярадасная Ляля (Эмілія-Люцыя) Мэнке. Сям'я Мэнкаў — гэта сям'я нямецкая, якая ад вякоў асела на зямлі Беларускай і крэпка з гэтай зямлёй і з народам беларускім зраслася. У доме Мэнкаў Беларусы заўсёды сустракалі добрае прыймо і маральнае падтрыманьне. А маладое пакаленьне Мэнкаў дык станула й да чыннае беларускае працы.

Ляля Мэнке ў першую чаргу пачала працаваць у ладжаных у Вільні беларускіх школах, у якіх — згодна з вымогамі акупацыйных уладаў — выкладала, як прадмет, нямецкую мову. Прыймала чыннае ўчасьце і ў розных іншых працах тагачаснага беларускага цэнтру — Беларускага Камітэту помачы ахвярам вайны. Але найбольш ярка выявілася яе дзеяльнасьць на грунце беларускага тэатру, арганізаванага Ф. Аляхновічам пры Беларускім Клюбе. Ляля Мэнке заняла ў ім першае месца. Маючы невялікі, але вельмі мілы голас, яна выступіла перад усім у камэдыі-апэрэтцы Аляхновіча «На Антокалі», іграючы вельмі ўдала ролю Зоські. Далей пайшлі іншыя п'есы, у якіх Ляля Мэнке выступала з вялікім пасьпехам, здабываючы агульную сымпатыю.

Як адзінка высока-культурная, інтэлектуальна разьвітая, да таго-ж з вельмі мілым характарам, Ляля Мэнке гуртавала каля сябе ня толькі моладзь, але й старэйшае грамадзянства. У доме Мэнкаў часта можна было спаткаць і прыезных нямецкіх навукоўцаў, каторым Ляля — разам з старшай сястрой сваей Юльянай, вельмі актыўнай працаўніцай

у беларускіх грамадзкіх арганізацыях, школах і курсах, — давала рэвэляцыйныя для чужынцаў інфармацыі аб беларускім народзе, яго мінуўшчыне, культуры і імкненьнях. Але актыўная праца Лялі Мэнке трывала нядоўга. На 21-ым годзе жыцьця ў яе пачала разьвівацца страшная хвароба — сухоты, асабліва небясьпечная ў маладым веку. Толькі дзякуючы адданасьці й апецы старшае сястры хвароба гэтая на нейкі час прыпынілася. У 1919 годзе Ляля Мэнке гэтак ужо паправілася, што павязла паміраўшага ад тых-жа сухотаў Івана Луцкевіча ў Закапанае і апекавалася ім — супольна з Юльянай — аж да апошняе гадзіны ягонага жыцьця.

Вярнуўшыся пасьля сьмерці Ів. Луцкевіча ў Вільню, Ляля Мэнке ўжо ня мела сілаў дзеля ўзнаўленьня грамадзкае працы. Праз некалькі гадоў выйшла замуж за інж. Кулешу і жыла да сьмерці ў вузейшым сямейным коле. Але грамадзкімі справамі, а ў першую чаргу беларускімі, цікавілася да апошняга дня свайго нядоўгага жыцьця. Канаючы ў поўнай сьвядомасьці й разьвітываючыся з сваей раднёй, яна не забылася й аб прыяцелях Беларусах, з каторымі некалі супрацоўнічала, і прасіла пераказаць ім свае апошняе разьвітаньне.

Памерла 21 чэрвеня — на 43-ім годзе жыцьця. 23-га чэрвеня адбыліся яе пахароны на эвангеліцкім магільніку. Вялікая рознаязычная грамада людзей праводзіла яе да магілы, а сярод іх — цэлы рад старых беларускіх дзеячоў побач з прадстаўнікамі беларускае моладзі. Літаратурна-мастацкая сэкцыя Бел. Навук. Т-ва ўзлажыла на магілу Лялі Мэнке вянок з жывых красак.

Ляля Мэнке пакінула добрую памяць аб сабе сярод Беларусаў і добра заслужылася беларускай справе. Сьмерць яе выклікала глыбокі жаль сярод усіх, з кім яна некалі супрацоўнічала.

Няхай лёгкай будзе ёй наша зямелька, каторая была для яе запраўды роднай!

*А. Луцкевіч*

---

**Супрацоўнікі «Калосься»:** *В. Багдановіч, А. Бужанскі, А. Бярозка, М. Васілёк, Ст. Грынкевіч, А. Дубровіч, Хв. Ільляшэвіч, А. Івэрс, С. Каліна, А. Клімовіч, Я. Крыга, М. Машара, М. Пяцюкевіч, С. Сахараў, Кс. А. Станкевіч, Я. Станкевіч, П. Сірата, П. Сергіевіч, М. Танк, С. Хмара, А. Чэмер, Ул. Чэмер, М. Шкялёнак, Р. Шырма.*

Redaktor-Wydawca Jan Szutowicz — Рэдактар-Выдавец Ян Шутовіч







## Прысланыя кніжкі й часапісы

Сяргей Хмара— **Жураўлiным шляхам.** Вершы. Вільня, 1939.
Börje Colliander — **Randfolken.** Гэльсінгфорс, 1938.
**Богословія,** кн. 1. Львоў.
**Вістник,** кн. 6, 7—8. Львоў.
**Ми,** кн. 3(10). Варшава.
**Живе Слово,** 3, 4. Львоў.
**Рідна Мова,** ч. 6, 7, 8. Варшава.
**Lietuviškas Baras,** № 4, 5. Вільня.
**Dailés Parodos Katalogas.** Коўна.
**Orientalia Christiana periodica,** vol. V. Рым.
**Oriens,** сш. 3, 4. Варшава.
**Ruch Słowiański,** № 3—4, Львоў.
**Droga pracy,** № 2, 3, 4, 5. Крамянец.
**Kamena,** 8—10. Хэлм Люблінскі.
**Nasza Przyszłość,** № LXX—LXXII. Варшава.
**Sygnały,** № № 67—73. Львоў.
**Mosty,** № 3, Варшава.
**Polityka,** № № 7—22. Варшава.
**Ziemia Lidzka,** № № 4—5, 6, Ліда.
**Fontana,** № 4, 5, Катовіцы.
**Wilno,** № 1, 2, Вільня.
**Slavische Rundschau,** № 1—2, Прага.
**Katolik,** ч. 6—13, Прага.
**Летопис Матице** Српска, сш. 4, 5—6, Новы Сад.
**Hrvatska Revija,** № № 5, 6, 7. Загрэб.

